# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА СЁМАЯ*



МІНСК—1939

*М. Паслядовіч*

# ПАЎСТАННЕ [1]

## XV

У першы-ж дзень звароту з Мінску Віктар быў апанаваны вялікім клопатам. Трывожныя і напружаныя дні небяспекі мінуліся, засталіся недзе далёка ззаду. Цяпер яму хацелася як найхутчэй пабачыцца з Клаўдзяй. Перакінуцца з ёю адным-другім словам, альбо зірнуць хоць вокам. Але ісці ў хату Булынкаў ён не адважваўся. Калісьці ў дзяцінстве Віктар паказаў маці Клаўдзі язык і з таго часу яна не магла дараваць яму такой знявагі.

— Басяк!—гаварыла яна пра Віктара.—Расце, на лес гледзячы.

Кожны раз, праходзячы каля Віктара, яна сачыла за ім недаверлівым, пільным позіркам. Віктар, у сваю чаргу, стараўся аддзякаваць ёй не меншай пагардай, а то і крыўленнем. Яна-ж першая данесла аднойчы Жаркевічу, што яго сын ідзе не ў школу, а цэлы дзень коўзаецца на лёдзе ў праточыне. Было гэта задоўга да вайны. Бацька ў першы і астатні раз узяўся за рамень і добра адпачасаваў хлапца. А не хадзіць у школу ў Віктара былі свае прычыны. За добрае чытанне яго адразу прынялі ў другі клас. Віктар стаў ганарлівым. Ён у той-жа дзень кінуў сябраваць з таварышамі-аднагодкамі, якія вымушаны былі сядзець у першым класе, і завёў дружбу з хлопцамі, якія былі гады на два, на тры старэй за яго. За тыдзень ён пераняў незалежнасць вучняў старэйшых класаў, навучыўся цыркаць праз зубы слінаю. Але хутка настаўнік выявіў, што гэты незвычайны верасніцкі талент не ведае, колькі атрымаецца, калі скласці дванаццаць і восем. Таму адбылося некаторае паніжэнне ў яго вучоным рангу. Віктар быў пакрыўджаны без меры, але сказаць пра гэта бацькам сароміўся. Штодня ён акуратна выбіраўся ў школу, толькі ніколі да яе не даходзіў. Дахаты ён таксама варочаўся разам з вучнямі і пасля яды разгортваў кніжку, нібы збіраючыся вучыць зададзеныя ўрокі. Так цягнулася два тыдні. А потым прышла маці Клаўдзі, расказала, што бачыла, як Віктар у часе заняткаў коўзаўся ў праточыне, і што гэта не першы раз. Жаркевіч у тую-ж хвіліну пабег да настаўніка і выведаў ад яго ўсю праўду.

Так павялася злосць паміж Віктарам і маці Клаўдзі.

Булынкі жылі ў другім канцы Верасніцы. Віктар, стоячы каля

---

[1]) Працяг—пачатак гл. у № 5—6.

варот, бачыў разгатую хвойку з кучай буславага гнязда на зламанай вершаліне. Хвойка стаяла на дварэ Булынкаў, перад хатаю, якой Віктар адсюль не бачыў. А яму хацелася ведаць, дзе цяпер знаходзіцца Клаўдзя. Сядзіць яна ў хаце? Робіць што-небудзь на дварэ, ці, можа, лёгкай і прывабнай паходкай збягае па сцежцы да град?

Раптам за спіною занятага такімі думкамі Віктара пачуўся бравы дзіцячы голас:

Чатыры салдаты на вайну ідуць,
Чатыры салдаты пленных прывядуць.

Віктар азірнуўся. Сярэдзінаю вуліцы ішоў хлопчык Стась, альбо «пан Малецкі», як яго жартам празваў Віктар. «Пану Малецкаму» было ад роду роўна дванаццаць год, але ён ужо шмат чаго пабачыў і пражыў на гэтым свеце. Быў ён аднекуль з-за Вільні. Апынуўся ён тут у часе сусветнай вайны, выехаўшы разам з бацькамі ў бежанцы. Бацькі памерлі дарогаю ад тыфу, а дзеці, якіх было разам са Стасем пяцёра, распаўзліся па краіне. Стасік нічога больш пра іх не чуў. Сірату, босага і абшарпанага, прыняў да сябе Корбут. Ён адразу-ж знайшоў яму работу—пасвіць авечак. Але пасля таго, калі аднойчы авечкі спудзіліся ваўка і разбегліся на цэлы дзень, Корбут да крыві адсцёбаў яго вяроўчынай і прагнаў. Сірату прытулілі бабылі Лапецькі, панурыя і маўклівыя старыя. Ён стаў ім за сына. У Лапецькаў Стасік адчуў сябе, як рыба ў вадзе. Ніхто тут на яго не крычаў, не папракаў дарэмна з'едзеным кавалкам хлеба, альбо надзвычайнай ласкай, якую заўсёды падкрэсліваюць людзі, падобныя да Корбута. Хлапец дзе хацеў, там і хадзіў, што хацеў, тое і рабіў.

У гэты час ён завёў шырокую дружбу з верасніцкімі малышамі. Асновай гэтай дружбы былі розных калібраў і марак патроны, якія Стасік даставаў невядома дзе і якіх у яго было заўсёды ўволю. Аднойчы ў яго з'явіўся нават кулямётны ствол. У кампаніі іншых хлапцоў ён прыстроіў яго на двух калёсцах і атрымалася нешта падобнае да гарматы. З гэтай «гарматы» хлопцы стралялі па «немцах»—самых злых ворагах, якія прагналі Стасіка з роднага дому. Ролю працаўніка выконвалі то стада кароў, то сабачая гайня, а ролю стрэлаў—дзесяткі языкоў сваіх равеснікаў, якіх Стасік натрэніраваў адначасова крычаць: «б-ба-бух!» Праўда, каровы надзвычай індыферэнтна ставіліся да такой каманды і зусім не мелі ахвоты ўцякаць. За тое сабакі горача падтрымлівалі ініцыятыву хлапцоў. Некаторыя з кананіраў «пана Малецкага» варочаліся дадому з парванымі сарочкамі і штанамі. Таму іх чакала дома яшчэ адна баталія, дзе галоўную ролю выконваў дубец, альбо рамень бацькі.

Але хутка артылерыйскія практыкаванні хлапцоў былі перапынены ўмяшаннем Поташа. Ён разламаў грозную гармату на часткі, а кулямётны ствол занёс Токараву.

Шмат было апынулася ў Верасніцы зброі. Варочаючыся з франтоў, блізкіх і далёкіх, многія салдаты цягнулі вінтоўкі, рэвальверы, нібы ўсе гэтыя рэчы былі вельмі патрэбны ў гаспадарцы. Буйневіч

нават прывёз у сваім паходным мяшку чатыры гранаты Мілса. Дзве з іх ён на другі дзень пасля звароту кінуў у раку. Глуха і коратка бухнула тады недзе на самым дне віра і на паверхню вады, разам з быстралётнымі пухірамі і жоўтым пяском, пачалі выкочвацца аглушаныя акуні, галаўні, плоткі. Усё каля абрыву забялелася ад срэбнай лускі рыб...

У ціхія цёплыя ночы ўспыхвалі то ў адным, то ў другім баку ад Верасніцы вострыя зеленаватыя аганькі, грымелі вінтовачныя стрэлы. Але вёска спала спакойна, нікога не турбавала гэтая траскатня. Усе ведалі, што страляюць начлежнікі. Нават дзеці, у якіх яшчэ не абсохла пад носам, ужо разбіраліся, як адкрываецца і закрываецца затвор, якія і да якой вінтоўкі падыходзяць патроны. Ідучы на вечарынку, хлопцы клапатліва запіхалі ў кішэню «наган» ці «браўнінг». Для чаго яны гэта рабілі, ці вельмі патрэбна была там зброя—яны і самі не ведалі. Часта яна нават выклікала вялікія непрыемнасці для гаспадара, калі ён, думаючы прыгразіць суперніку, садзіў руку ў кішэню і даставаў небяспечную цацку. На яго зараз-жа наляталі з усіх бакоў, абяззбройвалі, і збіўшы добра, праганялі з вечарынкі.

Цяпер зброя знікла. Шмат яе забралі, робячы павальныя вобыскі, немцы. Многія, асцерагаючыся расправы за хаванне агнястрэльных прылад, пакідалі, што ў іх мелася, у раку, альбо пахавалі так, што і самі пазабываліся дзе.

Многа чаго ўзяў і перадаў для Чырвонай Арміі Антон Токараў.

Усе гэтыя мерапрыемствы асабліва балюча перажываў «пан Малецкі», бо ён быў галоўным пастаўшчыком патронаў. Як толькі знікла з Верасніцы зброя, Стась не ведаў каму збываць патроны, якія ён невядома дзе даставаў і невядома дзе хаваў. За кожны вінтовачны патрон гэты босы дырэктар верасніцкага арсенала браў па дзесяць капеек, за рэвальверны—у два, а то і ў тры разы даражэй. Што рабіў хлапец з грашыма—было таксама таямніцай.

Калі Стась, напяваючы ім самім выдуманую песню пра чатырох салдат, параўняўся з жаркевічавым дваром, Віктар махнуў яму рукою. Хлапчук спыніўся і чакальна зірнуў на Віктара чорнымі шустрымі вачамі.

— Хадзі сюды,—гукнуў Віктар.—Ты не бачыў Булынкі?

— Не бачыў,—адказаў хлапец, пазваньваючы ў кішэні штаноў нейкімі жалязкамі.

— А што каб ты даведаўся дзе ён?

— А што мне за гэта будзе?—адразу прыступіў да справы спакушаны ў гандлярскай справе «пан Малецкі».

Віктар азірнуўся, каб упэўніцца, што нікога каля іх няма, і шапнуў Стасю:

— Патроны ў цябе ёсць?

«Пан Малецкі», які не адчуваў ні перад кім ніякай адказнасці за свае ўчынкі, шмаргануў носам і прамовіў на ўвесь голас:

— Ёсць. Табе якіх?

— Ты цішэй... Усе, якія ў цябе ёсць.

«Пан Малецкі» аж падскочыў ад здзіўлення і Віктар здагадаўся, што запасы ў хлапца сабраліся не малыя.

— Возьмеш дзесяць штук?—прамовіў нарэшце хлапчук.

— Хоць сто.

— Сто?! а дзвесце?

— І дзвесце.

— І... і трыста? Трыста возьмеш?—баючыся, каб Віктар ужо не адмовіўся, шэптам запытаўся Стасік. Зайздросныя агеньчыкі забегалі ў яго чорных вачах, рукі ледзь не дрыжэлі.—Па пяць капеек аддам!..

— Хопіць з цябе і па дзве,—цвёрда абрэзаў Віктар.—Ніхто ў цябе гэтых патронаў не купіць.

— Купяць! У мяне сёння шмат хлапцоў пыталася,—не маргнуўшы вокам, схлусіў «пан Малецкі».—Даюць па дзесяць капеек.

— Ого, здарава! Ты адразу станеш багатым чалавекам!—засмяяўся Віктар.—Тады з табою і гаварыць нельга будзе. Ну, аддасі па дзве?

— Не аддам. Мне трэба грошы. Шмат грошай!

— Што-ж ты будзеш з іх рабіць? Купляць зямлю, завод будаваць?

— Я хачу знайсці сваіх брацікаў і сясцёр,—з тугою прамовіў Стасік.—Як толькі збяру грошы, так і пайду іх шукаць. Буду хадзіць па свеце, пакуль не знайду...

Гарачы камяк невымоўнага жалю падкаціўся к горлу Віктара. Стасік стаяў босы ў каляіне, з якой яшчэ не выпарылася дажджавая вада. Ногі хлапца былі чорныя, як зямля. Калашыны доўгіх, пашытых на вырост штаноў, заляпаліся ў гразь. Не мала было бруду і каля маленькіх, нібы прылепленых да галавы, вушэй. І пад усім гэтым брудам, пад свежа разлупленай недзе аб цвік верхняй сарочкай, білася і трапятала вялікае сэрца. Чорная, кучаравая галоўка была запоўнена лятуценнямі, магчыма, нават і незбытнымі. Але яны штурхалі хлапца да дзеі, да ўсялякіх мудрагельстваў, мэтай якіх было—зарабіць што больш грошай і пайсці ў свет шукаць раскіданую вайною сям'ю.

Віктар даравў хлапчуку нават яго няўступчывасць, калі яны зноў загаварылі аб цане на патроны. Не, не! Менш, як па пяць капеек ён не аддасць. За французскія патроны трэба браць нават даражэй, бо куля іх зроблена бадай з аднае чырвонай медзі. Лоўкая куля! Гэта не простая бляшка з волавам у сярэдзіне! Вочы хлапца зноў загарэліся прагнымі агеньчыкамі. Ён нават адставіў адну нагу ў бок, як гэта часта робяць дарослыя ад доўгага стаяння пры сустрэчы адзін з адным. Ён нават памкнуўся ісці, не скончыўшы размовы, нібы для яго ўсёроўна—купіць у яго Віктар тавар, ці не. Яго не цікавіла ўжо і тое, навошта Віктару раптам спатрэбілася гэтулькі патронаў.

— Добра,—згадзіўся нарэшце Віктар.—Я табе буду плаціць па пяць капеек. Толькі ты, брат, глядзі: нікому пра гэта ні мур-мур. Зразумеў?

«Пан Малецкі» яшчэ далей адставіў ад сябе левую нагу і цыркнуў праз зубы слінною:

— Што я малы, ці што?

— Малы не малы,—усміхаючыся ўнутры ад гэтай празмернай сур'ёзнасці хлапца, прашаптаў Віктар.—Але, часамі, можаш брахануць. Тады ведаеш, што табе я зраблю? Я тады зацягну цябе ў пушчу, у самы гушчар, дзе ходзяць адны мядзведзі, і павешу дагары нагамі на дрэве. Зразумеў?

— Зразумеў,—бязбоязна адказаў Стась і калупнуў нагою ў каляіне.

— Калі зразумеў, то добра. Цяпер, калі ў цябе завядуцца яшчэ патроны,—нікому другому іх не давай.

— А калі даражэй заплацяць?..—пачаў быў Стась, але Віктар яго перапыніў:

— Ніхто табе больш за мяне не дасць. Праўда, могуць даць і больш... Могуць табе даць па дваццаць пяць... бізуноў за кожны патрон. Няхай толькі паны даведаюцца, чым ты гандлюеш... Яны запячатаюць цябе ў такое месца, адкуль ты не выберашся да самай сваёй смерці. І ніхто з блізкіх не даведаюцца, дзе ты падзеўся. І не хадзіць табе з песнямі па Вераснiцы. Зразумеў?

— Зразумеў,—паўтарыў следам за Віктарам Стась, не знайшоўшы для адказу іншага слова. Ён ужо падлічваў у галаве, колькі гэта атрымаецца, калі памножыць пяць на трыста. Трыста патронаў, схаваных у розных, але аднаму яму вядомых, таемных месцах Верасніцы. За некаторыя ён сам плаціў грошы, але заўсёды не больш капейкі за штуку. Большасць ён даставаў задарма, альбо проста адкрадаў у сваіх сяброў, нават у тых, каму іх прадаваў. Адкрадаў увечары тое, што раніцою прадаваў, так што адны і тыя-ж патроны некаторыя куплялі ў яго па два разы. Ідэя знайсці братоў і сясцёр штурхала яго на злачынства супроць свайго-ж сумлення. Але ён мала пра гэта думаў.

— Патроны ты прынясеш да мяне, калі сцямнеецца,—прамовіў Віктар.—А цяпер зайдзі да Булынкаў. Паглядзі, ці дома Дарафей...

Стась быў рынуўся выконваць такое пусцяковае даручэнне, асабліва пасля ўдала праведзенага торгу, але Віктар у час схапіў яго за руку.

— Чакай. Яшчэ не ўсё. Ты ўмееш трымаць язык за зубамі? Скажам, як разведчык, якога пасылае камандзір палка? А гэты разведчык трапіў у палон і ў яго выпытваюць розныя сакрэты.

Замест адказу «пан Малецкі» пагардліва цыркнуў праз зубы слінoю. Гэта ў перакладзе на звычайную мову азначала: «ці ёсць тут пра што гаварыць!»

— Ты нічога Булынкам не кажы: хто і па што цябе прыслаў. Нібы ты зайшоў да іх напіцца вады. А тым часам разведай, дзе павapачваецца стары, старая...

— У момант!—ужо нецярпліва прамовіў «пан Малецкі».—Рыхтуй грошы за патроны! Бо на павер я не дам... Пятнаццаць рублёў!—ледзь не крыкнуў ён на ўсю вуліцу, відаць, рады, што нарэшце памножыў пяць на трыста.

Віктар усё яшчэ не выпускаў яго рукі з сваёй. Відаць, яшчэ не ўсе інструкцыі былі прачытаны. А іх ён павінен быў прачытаць так, каб Стась ні пра што не мог здагадацца.

— Разведай так, каб я запытаўся ў цябе, дзе ў гэтую хвіліну

знаходзіцца кожны з васьмі Булынкаў, чуеш, кожны,—нават самы малы—і каб ты дакладна адказаў. Зразумеў? За акуратнае выкананне задачы атрымаеш дзесяць капеек. Ну, кацці.

«Пан Малецкі» паляцеў па вуліцы, як кінуты з прашчы камень. Віктар некаторы момант пазіраў, як пырскае ў бакі гразь ад хлапчуковага бегу, потым павярнуўся да хаты і сеў на прызбе.

«Ці не залішняе доўга ён таргаваўся? Патроны не позна будзе сабраць заўтра, паслязаўтра. Антон Токараў не вызначаў, пакуль што, дакладных тэрмінаў. Ён проста папярэдзіў, што цяпер гэта зрабіць лягчэй, чым скажам, праз месяц. Вось і ўсё заданне, якое атрымаў ад яго Віктар. Яму, Віктару, трэба было адразу накіраваць «пана Малецкага» на разведку. Можна было нават адразу напісаць Клаўдзі запіску, каб яна неадкладна прышла на дамоўленае месца. Тое, што сказала маці, як нажом разанула Віктара. Але запіску маглі перахапіць ці Дарафей, ці стары Булынка. Яны маглі-б прачытаць запіску маці Клаўдзі. А тая, вядома, пастараецца ўжо, каб разладзіць усякія намеры «басяка». Тыдзень не быў Віктар дома. А за гэты час Сідар Тоцька, дызертыр з Чырвонай Арміі, які перад адступленнем занёс у хату Жаркевіча скрынку гранат, паспеў прысласць да Клаўдзі сватоў.

## XVI

Поташ ехаў полем, якое яшчэ так нядаўна належала яму, усім сялянам, а цяпер, згодна маніфеста палкоўніка Свянціцкага адышло ў карыстанне таго, хто ім уладаў да рэволюцыі. За Поташам, на другім возе, скурчыўшыся на шматку саломы, драмаў дзядок у рудой свіце—Пятро Ашман. Стары вельмі знебыткаваўся за доўгую дарогу. У першыя дні вельмі порсткі і праз меру старанны, абрыдзеўшы усім сваім балбатаннем аб тым, каб найхутчэй адбыць панскія шараваркі і пра тое, што там дома робяць яго дзеці, ці не гуляюць яны часамі без яго гаспадарскага нагляду,—ён нарэшце аціх.

Пад шэраю бясконцаю навалокай хмар ціха канаў дзень. Гарызонт зацягваўся змрокам. Але яшчэ выразна відаць была цёмная града пушчы, Верасніца, стада кароў, якое павольна ўваходзіла ў вёску і знікала за будынкамі.

Конь Поташа часамі спыняўся, каб скубануць прыдарожнай травы, налітай бледным восеньскім сокам. Ён вельмі змарнеў за цэлы тыдзень бясконцай работы. Поташ, заспакоены блізкасцю дому, не падганяў яго. Звесіўшы ногі з драбінак, ён пазіраў на поле, яшчэ застаўленае там-сям крыжыкамі аўса, занятае дзялянкамі няскошанай грэчкі. Як толькі прышлі белапалякі і абвясцілі свой маніфест, усё на памешчыцкім полі нібы вымерла. Усе пабаяліся заканчваць уборку ураджая.

Агромністая стая шпакоў, напалоханая фурманкамі, шуганула з аўсянішча. Крокаў за сто ад дарогі насцярожана падпялі чорныя галовы з нейчай няскошанай грэчкі цецерукі. Яны павытаптвалі сцежкі па неўбраным ураджаі ўдоўж і ўпоперак.

Значыць, ніхто з Свянціцкіх яшчэ не вярнуўся ў маёнтак,—

падумаў Поташ, паглядаючы на чорныя, нібы анямелыя галовы цецярукоў. Але як толькі ён махнуў пугай, цецярукі з трэскам ускруціліся ў паветра і хутка зніклі за бярэзнікам.

Раптам Поташ адчуў такое, што прымусіла яго нацягнуць лейцы і спыніць каня. Гэта вышла мімамолі, ад нейкага нутранога штуршка: на крыжыках аўса, які ён сеяў і жаў, але які не паспеў звезці да прыходу паноў, размясцілася неўгамаваная зграя шпакоў. Сотні, а можа і тысячы маленькіх чорных кропак усеялі і ўсё іржышча перад крыжыкамі.

— Ах, каб вы папруцянелі,—вылаяўся Поташ голасна і саскочыў з воза. Прабегшы крокаў пяць да аўса, ён схапіў камень і кінуў яго ў зграю. Следам за гэтым паветра зашумела ад тысячы пругкіх крыл.

Стары Ашман порстка падняў задураную неспакойным дрыманнем галаву.

— А? Што такое?—запытаўся ён у Поташа.—Прыехалі ў Верасніцу?

— Прыехалі,—буркнуў Поташ, ідучы да крыжыкаў.

Змрок гусцеў, але Поташ яшчэ выразна ўсё бачыў. Аўса на полі засталося не больш воза. Кінуты без дагляду, ён быў цяпер ласай спажывай для птушак. Некаторыя снапы былі скінуты з крыжыкаў ветрам. На тых, што ляжалі на зямлі, зёрны набухлі ад дажджу, шалупінне пацямнела. Пругкія белыя храсткі прарваліся ўжо наверх. Сэрца ў Поташа сціснулася. Нечага азірнуўшыся, ён нагнуўся і ўсадзіў карабатую руку ў крыжык. Адтуль яму дыхнула сухім халаднаватым пылам, прывычна знаёмым пахам збожжа. Старанна складзеныя крыжыкі былі ў сярэдзіне сухія. Тады яшчэ раз азірнуўшыся, Поташ з нейкім пасвятлеўшым тварам, павольна рушыў да воза.

Ашман ужо не ляжаў. Саскочыўшы з воза, ён папраўляў вераўчаны пояс на рудой свіце.

— Што-а?—запытаўся ён у Поташа, калі той падышоў да каня і пачаў развязваць падпінак, каб лягчэй было каню скубсці траву.— Аўса глядзеў? Не пагніў?

— Не.

— Цяпер то пагніе,—нібы ўзрадавана прабалбатаў Ашман.— Нагоніць дажджу з Балтыйскага мора, дык і па аўсе будзе. Бач, як зацягнула хмарамі. Няйначай заўтра дождж пойдзе, што-а?

Поташ не адказаў. Яму найбольш, як другому каму, абрыдзела ашманава балбатанне. Заняты толькі самім сабою, цікавячыся толькі тым, што тычылася яго гаспадаркі,—Ашман мала звяртаў увагі, мала прыглядаўся да настрою сваіх субяседнікаў.

— Ну, чаму ты не паганяеш?—зноў загаварыў стары, бяручыся за лейцы.—Тут-жа дзве вярсты асталося да дому. Што-а?

— Няхай конь паскубе трохі,—неахвотна абазваўся Поташ і дастаў з кішэні кісет.—Да хаты ніколі не позна.

Ашман супакоіўся на момант. Ён стаў аглядаць свае калёсы, пастукаў нечага пугаўём па колах. Усё было цэлае і спраўнае. Пасля цэлага тыдня дарогі, калі даводзілася ехаць і па сыпучым пяску, і па доўгіх грэблях, на якіх вытрасае ўсе духі, і па нероўным

каменным бруку мястэчак,—калёсы яго не падалі знаку, што знасіліся.

Поташ з нейкім патаемным аганьком у вачах агледзеў свае няважныя калёсы. Як на зло, і яны вытрымалі ўсе нягоды дарогі. А ён нецярпліва чакаў, што яны рассыплюцца ў першы-ж дзень, каб можна было хутчэй вярнуцца да хаты. Цяпер, каб не ездзіць у абозе па цэлых тыднях, ён вырашыў, прыехаўшы да хаты, сёе-тое ў іх «падправіць».

— Ну, можа паедзем?—ужо нецярпліва гукнуў Ашман Поташу.—Паспеюць наесціся коні і дома. Паганяй, а то поцемкам можна з мосту зляцець. Парэнчаў там, мусіць, і да гэтага часу не прыстроілі?

Поташ зайскрыў дакуранай папяросай. Яна зляцела на зямлю і згасла, як вераснёвая позняя зорка.

— Праязджайце сабе,—адказаў ён Ашману.—Я тут з гадзінку пабуду. У мяне няма каму на начлег весці. Няхай конь папасвіцца.

— Тады няхай і мой паходзіць...—перадумаў стары і выпусціў лейцы з рук.

Поташ сеў на драбінкі.

— Як хочаце. Толькі я параіў-бы вам ехаць, пакуль зусім не сцямнелася. Я, можа, тут да поўначы пабуду.

— Што-а? Да паўночы? Ну, то я паеду. Бывай здароў.

Поташ пачакаў, пакуль ашаманаў воз не знік у змроку. Тады ён азірнуўся, шпарка саскочыў з калёс і зноў падвязаў падпінак. Схапіўшы каня за аброць, ён пацягнуў яго да крыжыкаў аўса.

Цёмна і ціха было на полі, але Поташу здавалася, што ўсё вакол яго аж грыміць: недзе нехта загаварыў, недзе блізка бліснула папяроса, пачуўся цокат падкоў... Тады, нямеючы на месцы, Поташ напружана прыслухоўваўся. Але і галасы, і цокат падкоў былі падманам. Ён, паслухаўшы і паспакайнеўшы, зноў пачаў масціць на воз цяжкія, завільгачоныя снапы. Яго нават апанавала злосць, калі пад рукі трапл́ялі праросл́ыя, з зямлёю, снапы. Праклятыя паны: «і сам не гам і другому не дам!» Так што далей, то ён усё больш распаляўся нянавісцю да маёнтку і пад канец, калі ўжо амаль усе снапы былі на возе, ён нават так асмялеў, што адважыўся голасна прыкрыкнуць на каня.

У гэты якраз момант ён вельмі выразна пачуў голас:

— Хто тут што робіць?

Поташ на момант разгубіўся. Абазваўся толькі праз хвіліну, калі да яго свядомасці дайшло, што голас гэты ён часта чуў раней і што ён належыць Корбуту.

— Я. А што такое?

— Мікола?.. Нічога такога няма... Я так сабе пытаюся.

Поташ згледзеў у змроку чорную постаць Корбута. Нешта падобнае на стрэльбу тырчэла з-за пляча войта.

— Ты што: са зброяй ходзіш?—запытаўся ён у Корбута, усё яшчэ трымаючы ў руках адзін і той-жа сноп аўса.

— Даводзіцца... Ваўкі пачалі бадзяцца. Учора двух верасніцкіх авечак зарэзалі. Хіба ты не ведаеш?

— А ты сам хіва не ведаеш?—пытаннем на пытанне адказаў Поташ.

— Што?

— А тое, што я толькі цяпер варочаюся з панскіх шараваркаў. Цэлы тыдзень на мне ездзілі. Ганялі, як таго сабаку з краю ў край. Няўжо ты гэтага не ведаў? Ты мяне, брат, усватаў так, што лепш не трэба. Дзякую табе, брат.

— Нічога я цябе не ўсватаў. Палякі самі бралі фурманкі.— Корбут з хвіліну памаўчаў.—А наконт гэтага, што ты робіш цяпер, дык я табе, Мікола, скажу: нядобра. Быць не можа, каб ты не чуў, што казаў палкоўнік Свянціцкі?

Слова «палкоўнік» Корбут вымавіў падкрэслена, напэўна для таго, каб настрашыць Поташа, каб ён рабіў, але не забываўся, што будзе мець справу не проста з памешчыкам, а з памешчыкам-вайскоўцам. Але замест страху, Поташ адчуў, як неўтрапёнай злосцю забушавала ўсё ў яго галаве.

— А ты што: заступацца за яго прышоў?—крыкнуў ён люта.— Пільнуеш для яго наша дабро? У панскія гайдукі ўпісаўся?

— Чакай, чакай, — лагодным голасам загаварыў Корбут.— Я проста думаю, каб табе не наляцела за гэта пасля такога панскага папярэджання. Па мне што: хоць усё сабе забяры. Я і слова не скажу... Але ты падумай пра сваю сям'ю, пра сваіх дзяцей...

— Дык я пра сваіх дзяцей і думаю. Сабе я гэта павязу, а не другому. Ты лепш дапамажы мне ўвязаць снапы. Перакінь мне лейчыну на гэты бок.

— Не, брат, памагаць я табе не буду. Я не хачу зацягваць пятлю на тваёй шыі. Я табе кажу: адумайся, пакуль не позна. Скінь гэтыя снапы і няхай яны тут хоць пагніюць...

— Дзякую, браток, за параду. Але я сеяў тут не для гною...

Не гаворачы больш ні слова, ён ускінуў на воз астатнія снапы і пачаў увязваць іх лейцамі. Корбут стаяў да таго часу, покуль Поташ не крануў каня.

Назаўтра верасняне зглядзелі, што нехта паварушыў запаветнае панскае дабро, паварушыў на Поташавым участку. Поташ зрабіў здзіўлены выгляд, калі яму данеслі пра гэта.

— Што вы кажаце? Забралі? Мой авёс забралі? Ах, халера! А я толькі сам збіраўся гэта зрабіць. Вот табе і маеш! Прапаў воз аўса ні за нюх табакі!

Варта толькі каму-небудзь зрабіць пачын. Так было і тут. Яшчэ праз дзень крыжыкі аўса, кучкі скошанай грэчкі зменшыліся больш як на палавіну. Праз два дні ўжо ўсё поле было ачышчана ад крыжыкаў. І ніхто не бачыў, хто і калі гэта рабіў і ўсе, нават і тыя, што звозілі ўначы ўраджай, дзівіліся з вялікага спрыту невядомых і таямнічых гаспадароў. З поля знікла нават няскошаная грэчка.

— Вот майстры, дык майстры!—дзівіўся Мікола Поташ.—Ці не ўначы яе касілі? І што за людзі завяліся: ну проста на хаду падмёткі рвуць!

## XVII

Тоўсты афіцэр з камендатуры чыгуначнай станцыі яшчэ раз прыехаў у Верасніцу, але ўжо ўдзень. Жаўнераў з ім было разы ў два больш, чым тады, калі ён лавіў фурманкі для абозу. Нідзе не спыняючыся, атрад накіраваўся да двара Змітрака Буйневіча. Частка конных спешылася і абкружыла сядзібу.

Віктар, які прышоў разам з Булынкам да Буйневічаў пачуць штонебудзь пра Змітрака, першым заўважыў гэтую пагрозную аблаву. Сэрца ў яго грудзях забілася трывожна і глуха.

Проста на кані паручык уз'ехаў на двор і спыніўся каля гародчыка, дзе лапушыўся шыракалісты турэцкі табак. Малады ардынарац, з ліхаманкавай чырванню на шчоках, падскочыў да паручыка і схапіў яго каня за аброць. Але паручык коратка махнуў рукою ў бок і жаўнер адскочыў: пан афіцэр не меў намеру злазіць з каня. Дастаўшы срэбраны партсігар, ён закурыў папяросу і моўчкі наглядаў за тым, як выконваюць яго падначаленыя дадзеныя ім указанні.

А яны дзейнічалі бязшумна і шпарка, нібы загадзя заведзеныя аўтаматы. Адны з іх накіраваліся да хлява, другія, трымаючы на спагатове стрэльбы, падбегам рушылі ў гумно. Чацвёра ўзышло на ганак і Віктар, які хацеў выскачыць з сянец і рынуцца далей ад гэтага асаджанага двара, адчуў на грудзях пякучае астрыё шырокага цесака.

— Назад!

Віктар зноў рвануў у хату.

Булынка ўжо не сядзеў каля акна, як раней, а стаяў, прыпершыся правым плячом да чыста пабеленай грубкі. Уся Буйневічава сям'я, не скончыўшы палудню, вылезла з-за стала. Стары дрыглівымі пальцамі напіхаў у люльку груба нарэзаны табак-самасад. У вачах маці і сястры невядома дзе загінуўшага Змітрака былі страх і роспач.

— Што-ж гэта такое?—шапталі збялелыя вусны старой.— А божачка ты мой... Што-ж гэта такое!..

Віктар непарушна застыў пасярод хаты. У галаве яго маланкамі ляталі думкі. Ці не прышлі гэтыя паны па яго? Ці не данёс хто пра яго падарожжа ў Мінск? Пра знаёмства і сяброўства з самым небяспечным ворагам паноў—Токаравым? А можа яны ўжо захапілі Токарава, Рафаіла і таго здаравеннага... Цяпер прыехалі схапіць яго, Віктара...

Не! Ён нічога ім не скажа! Няхай яго парэжуць хоць на кавалкі, але язык яго не павернецца на здраду! Ён нічога не бачыў, нічога не рабіў!..

Жаўнеры ўскочылі ў хату, амаль следам за Віктарам. Яны загадалі Віктару сесці на лаўку, яны загадалі сесці на лаўку Булынку, старому Буйневічу, яго жонцы, дачцы. Адзін жаўнер стаў іх вартаваць, у той час, калі тры астатнія пачалі пераварачваць усё ў хаце. Яны не азіраліся на гаспадароў, ні пра што ў іх не пыталіся... Стаяў на стале няскончаны абед: міска малочнага супу, некалькі кавалкаў мяса ў глінянай талерцы, надкусаныя лусты хлеба, валяліся дзеравяныя лыжкі. Усё гэта выглядала ў такую хвіліну нейкім

чужым, далёкім і непатрэбным... Старыя Буйневічы баяліся шавяльнуцца пад пільным позіркам жаўнера. Толькі Булынка непакойліва круціўся на сваім месцы. Адзін раз ён паспрабаваў нават устаць і зірнуць праз акно на двор. Але жаўнер кляцнуў затворам і загадаў яму не варушыцца.

— Я тут старонні чалавек,—ціха, але са злосцю адказаў Булынка.—Што вы да мяне маеце?

— Маўчаць!

Нарэшце вобыск скончыўся. Жаўнеры пагналі ўсіх з хаты на двор. Тоўсты паручык нарэшце злез з каня і ўзышоў на ганак. Ён нешта крыкнуў аднаму з жаўнераў і той кінуўся ў хату, каб праз хвіліну з'явіцца з табурэтам... Афіцэр яшчэ раз крыкнуў ужо другому жаўнеру і той адвязаў ад сядла і паклаў на ганку пук гібкіх лазовых дубцоў. Паручык пхнуў іх мысікам запыленага бота і сеў на табурэт. Абвёў пільным позіркам кожнага затрыманага верасянца. Віктару здалося, што афіцэр найбольш прыглядаецца да яго.

— Ну, што вы скажаце?—звярнуўся паручык пасля некаторай паўзы да выведзеных з хаты.—Пра што мы з вамі будзем гаварыць?

Буйневічы не зразумелі, пра што пытаецца афіцэр: па-польску яны не ведалі ніводнага слова.

— Што вы мне добрае скажаце?—паўтарыў афіцэр, пазіраючы Булынку проста ў вочы.

Той спакойна вытрымаў яго позірк.

— Я, пане афіцэр, хацеў-бы ведаць на якой падставе, вы нас затрымалі?—запытаўся ў сваю чаргу Булынка.—У прыватнасці, на якой падставе вы затрымалі мяне?

Твар паручыка нервова таргануўся ад гэтых смелых і дзёрзкіх слоў. Відаць, ён не прызвычаіўся яшчэ чуць такое ад хлопаў.

— Маўчаць!—гаркнуў ён Булынку.—Зараз ты ўведаеш, навошта мы цябе затрымалі. Эй, Бартэк! Узяць гэтага дэмакрата! Даць яму на першы раз дваццаць пяць!..

Але далей адбылося нешта незвычайнае. Віктар нават забыўся на страх і шырока адкрыў рот, без меры ашаломлены рашучай вынаходлівасцю Дарафея.

— Паспрабуйце ўдарыць толькі хоць раз, пане паручык,—папярэдзіў Булынка афіцэра.—І вы тады будзеце мець справу з французскім консулам у Варшаве. У прыватнасці, як ваша прозвішча і якой вы часці?

Усе Буйневічы шпарка павярнуліся ў бок Булынкі: ці не звар'яцеў часамі гэты чалавек? Навошта ён настыраецца з ганарыстым панам? Але ніводная рыса твару не ўздрыганулася ў Дарафея. Ён нават крыху падаўся наперад, чакаючы адказу на сваё запытанне. Афіцэр ускочыў з табурэта.

— Што-а? Як ты... як вы сказалі?

Булынка заўважыў яго разгубленасць і таму рушыў напралом:

— Я французскі падданы. Маё прозвішча Буланжэ. Я сказаў, што калі вы кранеце мяне хоць пальцам, дык будзеце мець справу з французскім консулам у Варшаве.

Для таго, каб гэтыя довады былі больш пераканаўчымі,

Булынка сыпануў некалькі іншакраінных слоў, якіх не зразумелі ні Буйневічы, ні сам пан паручык. Віктар толькі цяпер схапіўся, што сваім разгубленым выглядам ён можа навесці афіцэра на падазрэнні адносна прыналежнасці Булынкі да французскай нацыі, і таму пастараўся трымацца лепш.

— Вашы дакументы?—ужо больш ціхамірна звярнуўся паручык да Булынкі, але скоса і недаверліва пагладаючы на сялянскае адзенне новаяўленага французскага падданага.

— Яны ў другой хаце, дзе я часова спыніўся на кватэры. Загадайце жаўнерам прайсці са мною і вы ўпэўніцеся, што я кажу праўду.

— А чаго вы тут апынуліся?

Булынка нецярпліва варухнуў плячыма і нічога не адказаў. Паручнік зноў гукнуў нязменнага і вернага свайго Бартэка і загадаў яму прайсціся да кватэры «мос'е Буланжэ».

Надышла чарга да Віктара, які стаяў бліжэй да паручніка. Цяпер паручнік павёў допыт больш шпарка.

— Прозвішча?

— Жаркевіч.

— Чаго тут апынуўся?

Каб Віктар не чуў раней такога запытання да Булынкі, ён-бы магчыма разгубіўся, але смелы і дзёрзкі выверт клаўдзінага брата паслужыў яму добрым прыкладам. Не задумваючыся ні на секунду, хлапец адказаў:

— Прышоў пазычыць у гаспадара табаку, пане афіцэр.

— Табаку? А дзе ты жывеш?

— У дзевятай цераз вуліцу хаце, пане афіцэр.

— Зброя ёсць?

— Няма.

— А калі знойдзем?

— Няма, пане афіцэр. У нас ніколі яе не было.

— Ах, не было! Добра...—Паручык падаў знак жаўнерам. Буйневічаў, штырхаючы прыкладамі ў спіну, павялі ў хату і зачынілі дзверы. Віктар адзін застаўся перад паручнікам. Цяпер, здавалася хлопцу, было зразумела, чаго прыскочылі сюды белапалякі. Можа хто данёс, што ў хаце яго бацькі ляжыць пад падлогаю скрынка гранат. Яе так і не адвезлі ў пушчу! І вот цяпер пачнецца расправа!.. Віктар разгублена азірнуўся, але нікога са сваіх не заўважыў. На вуліцы не было відаць ніводнага верасняпа. Адны жаўнеры гарцавалі каля хат, пагражаючы кожнаму, хто адважыцца выткнуцца са свайго двара.

Паручнік, пільна паглядаючы Віктару ў вочы, пачаў расшпільваць кабур браўнінга. Два жаўнеры, якія стаялі за спіною хлапца, адышліся ў бок, нібы асцерагаючыся, каб іх не закранула шалёная куля. Усё унутры Віктара абвяла. У каленях ён адчуў дробныя, халодныя дрыжыкі.

— Ты кажаш, што ў цябе няма зброі?—устаючы з табурэта, прамовіў афіцэр.—Дык ты зараз пазнаеш, што можа быць за хлусню. Раней я цябе зрэжу усяго гэтымі прутамі, а пасля адпраўлю туды, адкуль ніхто не варочаецца на белы свет. Ну, адказвай

шпарка, дзе падзеўся хлоп з гэтай хаты—Змітрок Буйневіч? Ну? Шпарка!

— Н-не ведаю...—ледзь выдыхнуў Віктар.

— Сёння ён тут быў? Шпарка адказвай!

— Не было, пане...

— Што-а? Не было?

Паручнік размахнуўся і ўсё ў Віктаравых вачах пацямнела ад моцнага ўдара ў грудзі.

— Шпарка адказвай! Ну? Учора ён тут быў? Калі ты не бачыў, то хто другі яго бачыў? Ну?

— Не ведаю... Нічога не ведаю...

— А што ты пра яго ведаеш? Ну?

Афіцэр коратка цокнуў засцерагальнікам рэвальвера. Але ў гэтую хвіліну паказаўся Булынка з Бартэкам. У руках жаўнера была нейкая тонкая кніжачка. Булынка, пераапрануўшыся для большай саліднасці ў бастонавы касцюм, з капялюшам на галаве, трымаўся незалежна. Бартэк працягнуў свайму начальніку кніжачку. Паручнік перагарнуў некалькі старонак. Потым нецярпліва звярнуўся да Булынкі, падаючы яму замежны пашпарт.

— Ідзіце адсюль і не перашкаджайце. Мне няма цяпер часу займацца з вамі. Пасля я праверу, ці так гэта ўсё, як вы гаворыце.

Булынка зноў нешта залапатаў на невядомай мове.

— Ідзіце, ідзіце,—перапыніў яго паручнік.—І пастарайцеся не выходзіць на вуліцу. Я не магу адказваць за далейшыя непаразуменні...

Булынка непрыкметна для афіцэра міргануў Віктару і павольна рушыў з двара. Але ён не пайшоў у бок сваёй хаты, а чамусьці звярнуў на Поташаў гарод і неўзабаве знік за маладым вішняком.

— Дык ты гаворыш, што не бачыў сына гэтых хлопаў?—зноў прыступіўся паручнік да Віктара.—А што ты скажаш, калі я прачытаю яго ліст?

Ён узяў змаслычаную паперку, якую жаўнеры знайшлі ў часе вобыску і пачаў шукаць вачыма некага ў групе сваіх падначаленых.

— Казуба ёсць?

— Ёсць, пане паручнік,—крыкнуў адзін з жаўнераў, падскочыўшы да ганку і ўзяўшы пад казырок.

— Прачытай гэты ліст. Шпарка!

Жаўнер схапіў пададзены яму ліст і адным духам выпаліў:

— Дзень добры, дарагія бацькі, сястра. Прашу, скаціну—без усяго ўсякага пускайце на памешчыцкую зямлю і засявайце зямлю, не пытайцеся іх, сабак тоўстапузых, досыць ім піць нашу кроў. Глядзіце-ж, бярыце ўсё ў свае рукі цяпер, і мы тут не кінем аружжа, пакуль усё не наладзім і да хаты прыдзем з вінтоўкамі...»

— Маўчаць!—раптам гаркнуў паручнік і злосна выхапіў ліст з рук атарапелага жаўнера.—Смірна! Звязаць усім рукі. Мне цяпер зразумела, што гэта за сямейка! Я вас дапытаю ў больш зручным месцы.

Дачку і старых Буйневічаў зноў выштырхнулі з хаты.

Два жаўнеры закруцілі Віктару рукі за спіну і моцна сціснулі вяроўкамі. Тое-ж самае зрабілі з бацькамі і сястрою Змітрака.

— Я вас пушчу толькі тады, калі да нас з'явіцца ваш сын,— прамовіў паручык, нязграбна ўзлазячы на каня.—Ад гэтага часу вы будзеце заложнікамі. Калі Змітрок Буйневіч не з'явіцца праз тры дні ў камендатуру, я расстраляю вас, як сабак. Зразумела? Эй, Бартэк!

Бартэк вырас перад паручыкам, як з-пад зямлі.

— Фурманкі?

— Чакаюць на вуліцы, пане паручнік.

— Вядзіце,—кіўнуў афіцэр галавою ў бок арыштаваных.— Шпарка!

Ногі не слухаліся Віктара. Ён ішоў і не верыў: уяўнае гэта адбываецца, ці ён бачыць страшны, стамляючы да смерці сон. На вуліцы ён заўважыў дзве фурманкі. На адной сядзеў стары Верабей, а другою кіраваў яго бацька... З варот выглядалі жанчыны, дзеці. І раптам прарэзлівы крык, як нажом паласнуў Віктару ў сэрца. Па вуліцы, выкручваючыся ад коннікаў, якія яе хацелі пераняць і не дапусціць да воза, бегла маці Віктара. З непакрытымі, распушчанымі валасамі, з пакарэжаным ад роспачы і крыўды тварам...

## XVIII

Далей усё рабілася ў вачах Віктара, як у тумане: і тое, як адцягвалі ад воза прыбітую горам маці, і як бацька спрачаўся з паручыкам пра дзікае самаўпраўства. Якое дачыненне мае яго сын да Змітрака Буйневіча? Калі Змітрок Буйневіч што панам і зрабіў, дык няхай ён і адказвае, а не другія, не вінныя ні ў чым людзі. Апрача сілы павінен быць яшчэ і нейкі закон, сумленне. Салдат павінен ваяваць з салдатам, а не з дзецьмі, не са старымі людзьмі. Хіба можа хоць-бы і стары Буйневіч адказваць за тое, што нарабіў яго сын? Альбо ці можа адказваць сын, што робіць яго бацька. Свет пасля вайны настаў такі, што кожны хоча жыць сваім розумам. Тут нічога ўжо не зробіш. Але сама горш за ўсё, што некаторыя людзі страцілі ўсялякае сумленне...

— Ты лепш памаўчы,—прыкрыкнуў паручык на Жаркевіча.— Будзеш разважаць—забяром і цябе. Вы ўсе добрыя бунтаўшчыкі, усе не мінеце кулі.

— Што-ж, двум смерцям не бываць,—згадзіўся Жаркевіч.— А што кажаце пра кулі, дык мы іх чулі не менш за пана афіцэра.

— Маўчаць!—ускіпеў начальнік атрада і ўдарыў каня бізуном. Конь ускінуў галаву і вынес паручыка з групы жаўнераў, якія канваіравалі заложнікаў.

Фурманкі спусціліся з гары і загрукацелі па масту, цераз Свіслач. Моцна закручаныя вяроўкі ўядаліся ў рукі Віктара. Толькі цяпер прыходзіла хлапцу ў галаву некаторая яснасць становішча, у якім ён апынуўся. Тое, што было наперадзе, не абяцала нічога добрага. Іх расстраляюць, калі Змітрок не з'явіцца сам. З прачытаных кніг Віктар ведаў, што такое заложнікі і як з імі робяць. Напэўна пра гэта добра ведаў і Дарафей Булынка, бо, здавалася Віктару,

іначай ён-бы не праявіў раптам такую ініцыятыву і вынаходлівасць, каб хутчэй і такімі нечуванымі ў Верасніцы сродкамі выцерабіцца з рук белапалякаў. Ї вот цяпер за аднаго Змітрака паны схапілі чатырох чалавек... Усіх, хто трапіўся ім у хаце!

Было невядома яшчэ Віктару, чаму паны раптам праявілі вялікую цікавасць да верасьнянскага гарманіста. Што ён ім такое страшнае зрабіў? Няўжо яны помсцяцца за яго маскарадны выезд у падводы? Бо з таго часу кожны селянін не толькі Верасніцы, але і суседніх вёсак пастараўся схаваць лепшыя калёсы і збрую. Выязджалі ў абоз толькі на такіх драбінках, якія альбо рассыпаліся яшчэ ў дарозе да станцыі, альбо, калі і даходзілі туды, дык на іх можна было пакласці столькі груза, колькі варона збірае на сваё гняздо.

— А, божачка ты мой!—стагнала Буйневічыха, якую пасадзілі на возе разам з Віктарам.—А што-ж гэта яны з намі робяць! А куды-ж гэта яны нас вязуць!

— Вязуць, цётка Агапа, у Вільню,—паспрабаваў пажартаваць Майсей, каб толькі хоць як развеяць гора жанчыны.—Пакажуць цягнікі, горад. Нябось, вы яшчэ ні разу чыгункі ў вочы не бачылі? Думайце пра лепшае, дык і ўсё добра выйдзе, цётка Агапа!

Буйневічыха сапраўды ніколі яшчэ не бачыла чыгункі, ні разу не была ў горадзе. Уяўленне яе пра шматпавярховыя каменныя дамы, пра шматлікія вуліцы было самае прымітыўнае. Яшчэ некалі перад вайною паехаў быў Змітрок на заработкі ў Вільню. Чатыры месяцы не было пра яго ні слуху, ні духу. Ї вот на заработкі ў Вільню выбраўся Майсей Жаркевіч. Буйневічыха, як толькі пачула пра гэта, у той-жа дзень прыбегла да Жаркевіча з клункам:

— Перадай гэта там, Майсейка, майму Змітраку! Ї паклон ад нас яму перадай. Усе мы тут жывы і здаровы.

— Добра. А дзе ён жыве?—запытаўся Жаркевіч.

— Як дзе?—не зразумела жанчына.—У Вільні.

Жаркевіч усміхнуўся:

— Ну па такім адрасе не вельмі яго знойдзеш! Гэта-ж горад!

— Нічога. Нічога. Толькі-б у Вільню, а там Змітрака ведаюць.—адказала наіўная жанчына, якая вымерала ўсё на верасьнянскую мерку.—Там табе пакажуць, дзе жыве Змітрок...

Яны мінулі грэблю і ўз'ехалі на дарогу, якая ішла праз маёнтак Свянціцкага. З-за цёмных крон хвойніку паказалася панская сядзіба: тонкая жалезная труба пільні і млына, шыракаезныя хлявы і стайні. З парку выглядваў чырвоны вугал двухпавярховага цаглянага дома...

Але гэта было цяпер для Віктара нейкім не рэальным. Яму цяпер нават не верылася, што ён яшчэ нядаўна хадзіў па гэтай дарозе разам з хлопцамі і дзяўчатамі, што ён нядаўна ставіў шнуры на мянькоў і галаўнёў. Цяпер невымоўная горыч была ў яго грудзях, вялікая крыўда на самога сябе, на Буйневіча, які нешта натварыў, а пад кулю падвёў сваіх бацькоў, і яго, Віктара... Так, іх выпусцяць толькі тады, калі ў камендатуру з'явіцца сам Змітрок!.. Але хто гэта будзе добраахвотна садзіць галаву ў пятлю?..

Яны праехалі паўз маёнтак, спусціліся ў лагчыну. Тут безы-

мянная ціхая рачулка, прабіваючыся праз альховы лес, несла сваю ваду ў Свіслач. Звонку вада здавалася спакойнай і нерухавай і толькі па тым, як кідаліся на дне з боку ў бок доўгія водаросты, можна было здагадацца пра яе бурную імклівасць.

Па меры таго, як фурманкі аддаляліся ад Верасніцы, расла трывога і неспакой Віктара. Буйневічыха некалькі разоў пачынала галасіць і гэта яшчэ больш растраўляла хлапцу сэрца. Да станцыі засталося вёрст дзесяць. Зніклі з віду Верасніцы, маёнтак. Пачынаўся густы яловы лес.

Віктар доўгі час не адчуваў сваіх рук, бязлітасна сціснутых вяроўкамі. Але, як толькі калёсы задрогалі па тоўстых карэннях дрэў, іх пачало рэзаць як нажамі. Ён сцяў зубы, стараючыся стрымацца ад крыку. За тое Буйневічыха бясконца стагнала ад болю. Тады Жаркевіч спыніў каня.

— Пане,—звярнуўся ён да жаўнера, які ўвесь час ехаў у іх збоку.—Паглядзіце, як пачарнелі рукі. Трэба развязаць вяроўкі...

Жаўнер зірнуў на рукі і, пацініуўшы здзіўлена плячыма, пагнаў свайго каня наперад, да паручыка. Але той, пачуўшы, што фурманкі спыніліся, ужо сам вярнуўся да арыштаваных.

— Што такое? Чаму не едзеце?—запытаўся ён, грозна паглядаючы то на Жаркевіча, то на жаўнераў.

— Трэба развязаць рукі, пане афіцэр!—прамовіў Жаркевіч.— Вы толькі паглядзіце, як яны пачарнелі...

— Нічога! Мы яшчэ іх сціснем так, каб яны ў вас зусім паадвальваліся! Ах, холера!..

Ён ударыў бізуном Жаркевічавага каня і калі фурманка рынулася паўз яго, сцебануў па плячах і Жаркевіча. Потым бізун свіснуў у трэці раз. Цвёрды яго канец разануў па апухлых руках жанчыны. Лес аж уздрыгануўся ад дзікага нечалавечага крыку.

І вот у гэтую хвіліну грымнуў з глыбіні лесу вінтовачны залп. Жаўнеры нібы скамянелі на момант. Паручык хацеў нешта ім крыкнуць, махнуўшы бізуном у паветры, толькі новыя стрэлы, ужо адзінокія, але частыя, прымусілі яго прышпорыць каня. Прама перад яго носам упала на галаву каня зрэзаная куляй сасновая галінка.

— З воза! На зямлю!—нібы ў нейкай ліхаманцы крыкнуў Жаркевіч.—Хутчэй!

Цяпер стрэлы з глыбіні лесу зліліся ў адзін грымотны гул. Віктар скаціўся з калёс і ледзь не трапіў пад капыты польскага каня. А кулі злосна сіпелі над галавою, з трэскам шчапалі тоўстую кару дрэў... Потым на некаторы момант настала цішыня, у якой пачуўся нейкі знаёмы голас: «Абкружайце, хлопцы, гэту сволач! Забягайце наперад!»—І зноў грукат стрэлаў, тупат конскіх капытоў, напалоханыя воклічы жаўнераў... І зноў цішыня, напружаная і гулкая, нібы пасля пяруновага ўдару. Доўгая і пакутлівая... І зноў неспакойна жорсткі голас:

— Эй, арыштанты! Дзе вы тут пахаваліся? Вылазьце!

Віктар першым выскачыў з-за тоўстага дубовага пня.

— Змітрачок! Родненькі!—абазвалася аднекуль з-за кустоў Буйневічыха. Яна так і не паспела саскочыць на зямлю. Кінуты

Жаркевічам конь рвануў у гушчар ад ружэйнага грукату і ўшчаміўся ў арэхавым кусце так, што яго ледзьве вызвалілі.

Белапалякаў ужо не было. Толькі недзе чуўся прыглушаны конскі тупат. Але неўзабаве і ён заціх.

Буйневіч, паклаўшы на возе вінтоўку, дапамагаў Жаркевічу развязваць арыштаваных. Віктар напружана ўглядаўся ў гушчар, чакаючы, хто апрача Змітрака, з'явіцца сюды яшчэ? На момант ён убачыў, як мільганулі за дрэвамі яшчэ дзве постаці. Адна нізкая і шчуплая, а другая—агромністая. Але больш ніхто не вышаў на дарогу.

— Ён тут?—запытаўся паціху Жаркевіч у Змітрака.

— Тут...—глуха прамовіў Буйневіч, убачыўшы, як распухлі рукі ў маці і сястры.— Ну, цяпер гэтыя паны не хутка сюды вернуцца, а калі вернуцца...

З лесу пачуўся кароткі рэзкі свіст. Змітрок устрапянуўся. Схапіў з воза вінтоўку.

— Паварачвайце да дому,—крыкнуў, бягучы на свіст.—Каля маёнтку я вас даганю.

Жаркевіч аглядзеў вупраж, падцягнуў падпінак. Потым перадаў Віктару лейцы і подбегам рушыў за Змітраком у лес.

Як толькі яны зніклі з пагляду, стары Верабей баязліва азірнуўся. Ён, мусіць, яшчэ баяўся, што палякі могуць вярнуцца. Потым крыкнуў дрыглівым голасам Віктару:

— Ну, паганяй!

Змітрок не дагнаў фурманак каля маёнтку.

Ён сустрэў іх у Верасніцы, стоячы ў групе ўзрушаных падзеямі людзей каля свайго двара. З лесу Змітрок прышоў не па дарозе, а накіраваўся нацянькі.

— Мы маглі перастраляць іх, але баяліся, каб кулі не трапілі ў сваіх. Дык мы стралялі поверх...—пачуў Віктар словы Змітрака.

Нейкі неспакойны агонь паблісквaў час ад часу ў яго вачах. Ён мала слухаў, хто што гаварыў, ці пытаўся, відаць, апанаваны нейкай неадчэпнай думкай. Потым ён запрог «Андрыяна» у калёсы, на якія накідаў усялякага смецця, саломы. Усё гэта Змітрок завёз на мост.

Праз паўгадзіны вясёлы аганёк затрапятаўся над Свіслаччу. Полымя расло з кожнай хвілінай. Дзьмуў лёгкі ветрык. Вялізныя галавешкі звальваліся з маста ў ваду, у паветры ўскручваліся агромністыя клубы пары і дыму. Праз гадзіну ад маста засталіся толькі палі. Яны яшчэ гарэлі над вадою, як агромністыя казачныя свечкі.

Калі мост згарэў нашчэнт, з боку Беразіны паказаўся конны атрад белапалякаў. Ён расцягнуўся па дарозе больш як на поўвярсты. Убачыўшы агонь і дым каля ракі, палякі спыніліся. Некалькі коннікаў паімчалася да маста.

Потым галава калоны павярнулася ў бок маёнтку. Сонца ўжо заходзіла. Злавесна паблісквалі ў яго чырвоных промнях дулы вінтовак, белаорлыя цэшкі на салдацкіх шапках.

## XIX

Верасняпцы нічога не ведалі пра карны атрад да таго часу, пакуль не прыбег у вёску Мацвей Радзюк, парабак пана Свянціцкага. Блытаючыся і заікаючыся, паведаміў ён Жаркевічу страшную навіну. Атрад абсталёўваўся ў маёнтку відаць надоўга. Панскія сувязісты пачалі ў спешным парадку наводзіць тэлефонную лінію, каб злучыць маёнтак з чыгуначнай станцыяй. Свянціцкі,—гаварыў Радзюк,—агледзеў стайні, гумны, і не знайшоўшы там ні кароў, ні каліва збожжа, вышаў адтуль у неўтрапенай злосці. Ён загадаў паслаць па Корбута, і калі той з'явіўся, накінуўся на яго з лаянкай і пагрозамі.

І Верасніца, якая да гэтага моманту была ў захапленні ад геройскага ўчынку Змітрака Буйневіча, раптам пасмутнела і сціхла. Людзі на вуліцы стараліся гаварыць шэптам, часта аглядаліся ў канец вёскі: ці не едуць часамі паны для расправы? У маёнтак яны прыцягнулі з сабою шмат зброі: кулямётаў, гранат, некаторыя верасняпцы нават гаварылі пра гарматы, нібыта накіраваныя ў бок вёскі.

Людзям, як і ў першы дзень прыходу белапалякаў, не сядзелася ў хатах. Страшна неяк было аставацца на адзіноце ў такую напружаную хвіліну! Моладзь нават забылася на вечарынку, на пяшчотныя і гарачыя ласкі ў цяню векавых ліп і таполяў. Раптам зрабіліся недарэчнымі і смех, і жарты, нават звычайная галосная гамонка.

І вось у гэты вечар адбылася адна важная падзея, якая ў далейшым будзе мець вельмі жахлівыя вынікі для лёсу Жаркевічавай сям'і. Пачалося ўсё ад таго, што на верасніцкай вуліцы з'явілася група хлапцоў на чале з Сідарам Тоцькам.

Яны ўвайшлі ў Верасніцу з музыкай, убраныя ва ўсё святочнае, з папяроскамі ў зубах. Задзірыста пазіраючы на вераснянскіх хлапцоў, надараючы лагоднымі ўсмешкамі верасніцкіх дзяўчат, яны прайшлі да хаты Булынкі і там спыніліся ў засені ліпы.

— Вот каму нішто не ў галаве,—сумна паківаў галавою Мікола Верабей.—Няхай хоць каменне з неба грукоча, а ім вечарынку падавай.

— А што ім!—падхапіў дзед Ашман.—Іх яшчэ свая вош не ўкусіла: усё бацькоўскім хлебам жывуць. Дык і вытылінгуюць на злом галавы. І што гэта за свет пайшоў, не дай ты божа. Што-а?

Віктар, які ў першую хвіліну быў разгубіўся ад гэтага з'яўлення чужых хлапцоў у Верасніцы, пачаў шукаць вачыма сваіх таварышоў. Калматыя яго бровы раптам жорстка зашавяліліся.

Гэта было недаравальнае нахабства! Паміж верасніцкімі хлапцамі і хлапцамі Каралёвага стану, адкуль з'явіўся Сідар Тоцька, заўсёды вялася вайна. Вайна за дзяўчат, за гонар быць першымі хлапцамі. Верасніцкія дзяўчаты чамусьці прыхільна сустракалі жаніхоў з суседняй вёскі. Магчыма, асновай для гэтага былі некаторыя эканамічныя прычыны. Людзі ў Каралёвым стане жылі на многа багацей за вераснянцаў. Там была добрая ўраджайная зямля, багатая сенажаць. Некаторыя каралёвастанцы мелі нават рэсорныя

брычкі, завялі пародзістых коней. І вот часта здаралася: кахаўсямілаваўся верасняпец з сваёю дзяўчынай, марыў з ёй аб сямейным жыцці, а тут падскочыў які каралёвастанскі зух у храмовых халявах, у гарадскім пінжаку, на рэсорнай брычцы—сваёй ці пазычанай—і паляцела птушачка, здрадзіла альбо яе прымусілі здрадзіць бацькі! Прамяняла лазовыя ці лыкавыя лапці на храмовыя боты, а чалавечую блізкасць і шчырасць на кавалак сала!

Надоўга, на ўсё жыццё застаюцца такія раны ў сэрцы чалавека! Жорстка помсціліся верасняпскія хлопцы за тыя раны. Яны падпільноўвалі каралёвастанцаў на дарогах, на полі, на начлезе. Распраўляліся з неўтрапёнай лютасцю. Часта ў бойку, каб не даць пакрыўдзіць сваіх, увязваліся і сталыя людзі, тыя, у каго ўжо былі свае дзеці, свае цяжкія клопаты.

Пасля рэволюцыі варожасць паміж вераснянцамі і каралёвастанцамі крыху прыглухла. Можа гэта было ад таго, што каралёвастанцам ужо не было чым ганарыцца: іх поўныя засекі крыху былі ачышчаны ў часе рэквізіцыі хлеба для горада, а частка коней забрана для Чырвонай Арміі. Вераснянцы-ж атрымалі памешчыцкую зямлю, многія бедныя сем'і—кароў, а то і коней. Боты, хоць і простыя, верхняя вопратка, хоць і салдацкая—на шмат паднялі ў вачах дзяўчат хлапецкі аўтарытэт...

Гарманіст, які прышоў з каралёвастанцамі, іграў «Мой касцёр». Сідар Тоцька стаяў пасярод групы, часта паглядаючы на вокны Булынкавай хаты. Ён напэўна чакаў, калі выйдзе Клаўдзя. Віктар ужо даведаўся, што Клаўдзя адмовіла Тоцьку, хоць маці і дамагалася, каб яна выходзіла замуж. Але калі Клаўдзя Віктару і не здрадзіла, ён яшчэ не хацеў спатыкацца з ёю. У яго было такое пачуццё, нібы нехта дакрануўся да яе, чыстай і непадкупнай, сваімі бруднымі рукамі, пакінуў на ёй нядобры след.

Разам з Віктарам падыйшло да хаты Булынкі яшчэ чалавек шэсць верасняпскіх хлапцоў. Каралёвастанцы павярнуліся да іх і агледзелі ад галавы да ног. Потым адзін з чужых звярнуўся да Віктара з запытаннем:

— Ну, дзе мы будзем танцаваць? Кажуць, заціх ваш гармонік, дык мы свайго музыканта захапілі.

Віктар маўчаў. Маўчалі і астатнія хлопцы. Гэта, відаць, не спадабалася Тоцьку. Цыркануўшы праз зубы слінай, ён пагардліва ўсміхнуўся:

— У каго ты пытаеш? У дзяцей няшчасных! Іх саміх на вечарынку не пускаюць!

— А хто... хто вас сюды прасіў?—выскачыў наперад самы порсткі з верасняпскіх хлапцоў—Мішка Страмок.—Зараз атрымаеце па нюхаўцы і канец!

— Ого-го! Га-га-га!—зарагаталі нібы па камандзе каралёвастанцы. Гарманіст кінуў іграць і ўстаў.

— Гы-гы-гы!—скрывіўшы зняважліва твар, передражніў каралёвастанцаў Страмок.

Віктар, усё яшчэ моўчкі, бліжэй ступіў да Сідара Тоцькі, але той не спалохаўся: імкліва падаўшыся наперад, ён ледзь не стук-

нуўся лоб аб лоб з Віктарам. Злыя аганькі гарэлі ў вачах каралёвастанца, з роту патыхала душным перагарам самагонкі.

— Ты што? Ты што? Можа біцца думаеш?—з пагрозай запытаўся ён у Віктара.—Ты, відаць, яшчэ не ведаеш мяне! Ты, відаць, не пабываў яшчэ ў маіх руках!

Мішка Страмок падскочыў да Віктара ледзь не плачучы:

— Віцька!.. Чаго-ж ты маўчыш? Смальні яму па мордзе і канец! Віцька!

— Ого-го! Га-га-га!—зноў зарагаталі каралёвастанцы, паглядаючы на тое, як хвалюецца Мішка Страмок.—Нас тут дванаццаць чалавек, а вас сем... шчанюкоў. Сорам нават з імі пэцкацца...

— Віцька,—тармашыў Страмок хлапца за рукаў.—Яны насміхаюцца, а ты маўчыш! Ты маўчыш?

Віктар нарэшце загаварыў. Плюнуўшы ў твар Сідару Тоцьку, ён крыкнуў, задыхаючыся:

— Дызертыр! Сабака!

Сідар Тоцька размахнуўся, каб ударыць Віктара па вуху, але Мішка пхнуў яго ў калена і каралёвастанец паляцеў потырч. Гэтага толькі і чакалі абодвы бакі. Скамячыўшы кулакі, сыплючы направа і налева ўдары, сышліся хлопцы ў лютай бойцы. Віктар нічога і нікога апрача Сідара Тоцькі не бачыў перад сабою. Перад ім быў вораг, які хацеў адкрасці яго шчасце, яго хлапецкую мару. Калі Сідар Тоцька ўсхапіўся з зямлі ад страмковага ўдара, Віктар наляцеў на яго і зноў збіў з ног. Але Тоцька паспеў схапіць за каўнер Віктаравай жакеткі і яны абодвы паляцелі ў гразь вуліцы. У вачах Віктара мільгалі ўперамешку то халодны месяц над цёмнаю градою пушчы, то пякучыя агністыя зоркі. Ён то ускручваўся наверх Сідара Тоцькі, то раптам ляцеў падніз. Яго кулакі білі то ў Сідара Тоцьку, то ў пустое паветра, аднойчы ўдарылі ў нейчы падкаваны абцас. Нешта цёплае і саланаватае пырснула з пальцаў яму на губы. Потым, калі ён адолеў суперніка і ўскочыў на ногі, нехта зноў паваліў яго на зямлю. Страшэнны цяжар то прыгінаў яго твар да зямлі, то раптам спадаў, каб наваліцца з яшчэ большай сілай.

— Гэй, нашых б'юць! Каралёўцы арудуюць!—толькі і чулася ў змроку.—Сцяпан, сюды! Мікола, бяры дручок!

З каламі, з чапёламі ляцелі да месца бою новыя сілы. Каралёвастанцы, якія яшчэ трымаліся на нагах, кінуліся ламаць частакол. У нейчай хаце зазвінелі выбітыя шыбы. Потым над галовамі бліснуў востры зеленаваты сноп агню і грымнуў рэвальверны стрэл.

Усе на момант аслупянелі, каб потым зноў рынуцца адзін на аднаго. Часта, апанаваныя запалам, нічога не разбіраючы ў змроку, верасняцы білі верасняцаў, а каралёвастанцы сваіх. Каля платоў, у гразі і гнаі вуліцы стагналі і лаяліся выбыўшыя са строю. А бою, здавалася, не будзе канца. Старэйшыя, якія прыбеглі, каб супакоіць маладую разбушаваўшую кроў, баяліся лезці ў гэты чортаў калаўрот.

І вот тады каля групы старых і жанчын з'явіліся чатыры постаці. Яны выскачылі з-за гумна, нечакана і раптоўна. Адна была амаль на галаву вышэй за ўсе астатнія. Шырокія круглыя плечы яе маглі ўвабраць у сябе двух чалавек.

— Што тут за бой?—пачулі верасьнянцы знаёмы голас.—Няўжо з каралёўцамі завязалася справа?

— З імі! З імі!—першыя адгукнуліся жанчыны.—Ніяк іх не развесці. Можа, насы адзін аднаму паадкусвалі...

Прышоўшыя больш не распытвалі. Адзін з іх крыкнуў, кідаючыся ў самы цэнтр пабоішча:

— А ну, Дзямід, памажы мне іх памірыць!

К гэтаму часу Сідар Тоцька, які першым адпоўз у канаву, трохі ачуняў і залемантаваў не сваім голасам:

— Каракулька! Бі ў іх з «нагана»! Каракулька!.. Сябра дарагі!..

— Я зараз пакажу і табе, і твайму Каракульку, смаркач,—спакойна прамовіў той, якога звалі Дзямідам.—Кіньце, а то ўсіх зараз павяжу ды ў калодзеж. Ах вы, хуліганнё чортава! Заместа таго, каб ляхаў біць, дык яны за саміх сябе ўзяліся...

Агромністы і здаравенны, ён хутка параскідаў у бакі тых, што спляліся ў бойцы. Праз хвіліну ўсё сціхла на вуліцы. Тыя, што ляжалі на зямлі, стогнучы і войкаючы сталі падымацца на ногі.

— Хто пачаў бойку?—дапытваўся адзін з прышоўшых, у якім Віктар па голасу пазнаў Токарава.—Хто зачыншчык гэтай агіднасці?

— Верасьнянцы!—адказаў нехта з каралёвастанцаў.

— Брэша, сукін сын! Яны першыя пачалі задзірацца. Арганізавалі шайку і прышлі сюды,—крыкнуў Мішка Страмок з крыўдай у голасе.

— Ну і што, калі прышлі?—павярнуўся Токараў да Мішкі.—Колькі я вам разоў гаварыў, каб кінулі гэты дзікі звычай. Мала таго, што з нас здзекуюцца паны, дык мы самі яшчэ здзек строім з саміх-жа сябе. Ёсць што казаць: добрую выбралі хвіліну! Сорамна вам, хлопцы! У маёнтак прыбыў карны атрад, а вы замест таго, каб дамовіцца пра барацьбу з панамі, пацеху ім арганізавалі. А хто тут з «нагана» паліў?

— Каракулька нейкі,—буркнуў Дзямід.

— Каракулька?—перапытаў Токараў.—А дзе гэты Каракулька? Ну, хто тут з «наганам», абзывайся!

Каракулька маўчаў.

— Хто Каракулька?—рэзка ўжо, уладным голасам крыкнуў Токараў.—Загадваю табе здаць зброю! Ну?

Толькі пасля гэтага выступіла з ценю ліпы на месячнае святло высокая тонкая постаць хлапца. Усадзіўшы руку ў правую кішэню шырокіх галіфэ, ён выцягнуў адтуль рэвальвер. Падаючы яго чамусьці Дзяміду, ён крыкнуў у бок Токарава дрыглівым голасам:

— Ну, ты... Не вельмі разарайся... За гэты «наган» я пяць пудоў жыта заплаціў... Так што я магу яго і не аддаць... Не вельмі я цяпер баюся цябе...

Сівыя вусы Токарава жорстка тарганuліся.

— Ты, хлопец, паменш бы брахаў,—адказаў ён спакойна.—Замест таго, каб схаваць хлеб ад паноў, звесці ў лес жывёлу—вы тут бойкі наладжваеце. Бацькоў адных кідаеце ў горы і няшчасці...

Растрасаеце сваю сілу на ўсякае глупства. Чуў, што пан Свянціцкі прывёў карны атрад?..

Віктар, згараючы ад сораму, слухаў гэтыя словы, накіраваныя, здавалася, не толькі да Каракулькі, але і да яго. «Бацькі», якіх успамянуў Токараў, прачула ўздрыгануліся і абступілі Токарава шчыльнай сцяной. Усім спадабалася тая цвёрдасць, якую праявіў Токараў, патрабуючы, каб Каракулька здаў «наган». Так гаварыць мог толькі чалавек, які быў упэўнены ў сваёй праваце і сіле. Такі чалавек быў вельмі патрэбен верасняцам у напружаную для іх хвіліну жыцця.

Толькі адзін чалавек не чуў далей, што гаварыў Токараў. Гэта быў Сідар Тоцька. Баючыся, каб старшыня рэўкома не папракнуў яго за дызертырства, Тоцька пералез цераз плот і знік у змроку ночы.

## XX

Цэлы дзень прайшоў для Свянціцкага ў падрыхтоўчых мерапрыемствах. Па-першае, патрэбна было размясціць у маёнтку увесь свой атрад. Для гэтага выкарысталі рабочыя казармы. Замест часовай тэлефоннай лініі, якая злучыла-б маёнтак з чыгуначнай станцыяй, Свянціцкі загадаў правесці сталую. Цэлы дзень амаль усе жаўнеры былі заняты падвозкай слупоў з лесу, наводкай дроту. Але, не чакаючы скончэння гэтай работы, Свянціцкі паслаў на станцыю свайго ардынарца з загадам пану каменданту неадкладна з'явіцца ў маёнтак. Асцерагаючыся, што пан камендант можа пасладь к д'яблу невядомага афіцэра і яго загад, Свянціцкі спаслаўся на свае асобыя паўнамоцтвы. Невыкананне загадаў пана Свянціцкага, гаварылася ў гэтых паўнамоцтвах, будзе разглядацца, як дзяржаўная здрада і вінаватыя будуць несці самае суровае пакаранне.

Капітан Марушэчак, прабыўшы ў маёнтку не больш гадзіны, знік у суправаджэнні канвоя з дваццаці жаўнераў яшчэ ўвечары. Ён яшчэ ў часе падарожжа ад Беразіны выпрацаваў свой план дзеяння. Свянціцкі ахвотна даў згоду на ўсе прапановы свайго афіцэра. Лепшага, здавалася яму ў той час, і нельга было прыдумаць. Метады Марушэчка павінны былі на працягу двух тыдняў забяспечыць спакой сярод насельніцтва.

Па меры таго, як праходзіў і заканчваўся першы дзень прабывання Свянціцкага ў сваім маёнтку, палкоўніка апаноўвала шалёная злосць і разам з тым нейкае нядобрае прадчуванне. Пасланы раніцою ардынарац не вярнуўся яшчэ і да гэтага часу. Свянціцкі адзін бадзяўся з пакоя ў пакой па вялізнаму дому.

Утульнасці, якое спадзяваўся і прагнуў, Свянціцкі тут не знайшоў. У доме пахадзілі і пагаспадарылі людзі, якім раней забаранялася патыкацца далей кухні. Усюды былі відаць іх сляды. У бібліятэцы стаяла перагародка—бар'ер, якая аддзяляла паліцы і шафы з кнігамі ад чытальных сталоў і смольных сасновых лавак.

У сталовай ён убачыў дзесяткі два доўгіх лавак. Сцяна, якая аддзяляла сталовую ад гасцінай, была праломлена. У гасцінай

узвышаліся падмосткі—сцэна. І сцэна, і заслона, і лаўкі былі зроблены з новага матэрыялу, зроблены давротна, на доўгі час...

Значная частка мэблі знікла. Букавыя шафы і сталы, зробленыя найлепшымі майстрамі Вены, падзеліся невядома дзе. Цяжкі вішнёвага дрэва буфет, аздоблены інкрустацыямі, валяўся ў падвале. Зялёная плесень зацягнула яго гладка адпаліраваныя бакі. У більярднай Свяніцкі не знайшоў ніводнага шара. Кіі былі пашчапаны, блакітнае сукно—здзёрта і па аголеных мрамарных плітах таропка прабягалі сараканожкі. Рэволюцыя не магла яшчэ знайсці ўжытак гэтай культурнай забаве. У спальні замест шырокіх букавых ложкаў стаялі два жалезных: такія, якія звычайна ўжываюцца ў больніцах, лазарэтах. Замест спружынных матрацаў,—былі напханыя саломай зрэбныя сяннікі. Каля невялікага круглага століка—тры табурэты. Тут кватараваў, як сказалі Свяніцкаму, старшыня рэўкома Токараў...

Усё ў доме, апрача бібліятэкі, было пастаўлена дагары нагамі, перароблена на свой лад. Знік, груба затаптаны сотнямі ботаў і лапцей, міготны бляск паркетнай падлогі. Урачыстая ўтульнасць пакояў адышла, здавалася Свяніцкаму, у нябыт, была выветрана скразняком бязлітасных падзей тысяча дзевяцьсот семнаццатага года.

Свяніцкі, як тыгр, кідаўся з пакою ў пакой, не пазнаючы ўсяго таго, што з маленства было такім прывычным і дарагім. Гулкае і дзікае рэха нейкай шчымлівай пустаты шугала па дому.

Свяніцкі таропкімі крокамі рушыў у кабінет, дзе тэлефаністы заканчвалі ўстаноўку апаратаў. Адсюль, з вакна, відаць была частка поля, халоднага і непрыветнага. Далей, у змроку вечара, вырысоўваліся настарожаныя хаты Верасніцы—спрадвечнага ворага маёнтку...

Рэзкі тэлефонны званок балюча кальнуў Свяніцкага ў вушы. Ён уздрыгануўся і хваравіта зморшчыў лоб.

— Звоняць з камендатуры станцыі, пане палкоўнік,—звярнуўся да Свяніцкага тэлефаніст, прыкрываючы трубку далоняй.—Пана палкоўніка просяць да тэлефона.

— Запытайцеся, хто просіць,—загадаў Свяніцкі.

Тэлефаніст шпарка крыкнуў у трубку:

— Хто просіць пана палкоўніка? Хто?.. Паручнік Бялы? Хвілінку, пане паручнік...

Свяніцкі, раз'ятраны, скочыў да тэлефона. Схапіўшы трубку ён махнуў тэлефаністам рукою на дзверы. Кінуўшы на стале і крэслах увесь свой інструмент, жаўнеры выскачылі ў калідор.

— Палкоўнік Свяніцкі ля тэлефона,—прамовіў ён у трубку.— З кім маю гонар гаварыць?

— Паручык Бялы, начальнік аховы чыгуначнай станцыі,— прахрыпела трубка ў адказ.—Прашу прабачэння пана палкоўніка, але ў мяне такое становішча...

Твар Свяніцкага ўкрыўся ліхаманкавымі белымі плямамі. Тонкія губы задрыжэлі.

— Кладзеце трубку, пане паручнік! Я хачу слухаць вас толькі ў сваім кабінеце. Я чакаў вас восем гадзін. Цяпер, калі вы праз гадзіну не будзеце ў мяне, дык наракайце на самога сябе!

— Пане палкоўнік!.. Хутка ноч... Ехаць па лесе...

— Кладзеце трубку!

Праз гадзіну тоўсты паручнік, які ўчора браў у палон Буйневічаву сям'ю, увайшоў у кабінет пана Свянціцкага. Свянціцкі, не адказаўшы на яго прывітанне, доўгі час і з пагардай аглядаў начальніка аховы. Правая забінтаваная рука паручніка вісела на перавязі.

— Я хацеў-бы ведаць, пане паручнік,—пачаў Свянціцкі,—з якога гэта часу афіцэры Жэчы Паспалітай пачалі баяцца ездзіць праз лес?

Паручнік нерашуча пераступіў з нагі на нагу. Яму відаць, вельмі хацелася сесці.

— Пан палкоўнік, прашу прабачэння, не ведае некаторых умоў,—прамовіў ён стомлена.—Нас тут сцерагуць на кожным кроку. Пра тое, што невядома дзе загінуў наш жаўнер, пан палкоўнік напэўне ведае. Учора, калі мы везлі заложнікаў за яго, нас абстраляў партызанскі атрад...

— Тады пан паручнік палічыў за лепшае ўцячы,—перарваў Свянціцкі гаворку паручніка.—Даў магчымасць бандытам ратаваць сваіх блізкіх! Выпусціць з рук заклад за святую кроў польскага жаўнера! Вы, пане паручнік, зрабілі справу, годную толькі для самых подлых баязліўцаў! Вы, пане паручнік, зняважылі гонар афіцэра Жэчы Паспалітай! Але мне здаецца, што да вашай свядомасці яшчэ не дайшла гнуснасць вашага ўчынку...

Твар паручніка ўсё больш і больш наліваўся цяжкой чырванню. Ён сапраўды належаў да той пароды людзей, да свядомасці якіх толькі праз некалькі хвілін даходзіць радасная альбо зняважлівая дэталь моманту. Няздольныя на экспромты, яны затое ў самай бурнай форме праяўляюць пасля свае пачуцці. Свянціцкі гэтага не ўлічыў і таму вельмі позна раскаяўся за свае неабдуманыя словы: паручнік, нягледзячы на тое, што рабіў гэта левай рукою, з ліхаманкавай хуткасцю схапіў рэвальвер. З над чорнага кароткага дула на палкоўніка пазіралі апанаваныя шалёным гневам вочы.

— Халера ценжка!—задыхаючыся, прамовіў паручнік.—Калі вы зараз-жа не вернеце сваіх слоў назад... Не папросіце прабачэння,— я застрэлю вас, як сабаку!.. І дарэмна вы будзеце клікаць сваіх людзей на дапамогу!.

— Паслухайце... Пане паручнік... Пане Бялы...—пачаў быў атарапелы Свянціцкі.—Вы пагражаеце афіцэру, які старэйшы за вас па чыну... Вы карыстаецеся момантам, калі тут нікога няма...

— Так, пане палкоўнік. Раней вы скарысталі свой момант, цяпер мая чарга! І я зраблю гэта так, як не ўмелі зрабіць вы. Калі вы дваранін, дык павінны разумець, што дараванне за знявагу гэта тое самае, што і сама знявага. Ну?

Свянціцкі прыкусіў губы.

— Так, я пагарачыўся, пане паручнік;—працадзіў ён праз зубы.—Я прашу прабачэння ў пана паручніка. У іншы час я ніколі-б не зрабіў такога. Абстаноўка даводзіць да таго, што можаш зняважыць нават роднага бацьку.

— Гэта ваша справа,—суха, але ўжо ціхамірна адказаў паручнік, хаваючы браўнінг у кабуру.—Вы хоць-бы мелі пашану да маёй

раны... Я вельмі стаміўся. Калі пан палкоўнік нічога не мае супроць, я сяду.

— Проша, проша,—Свяніцкі павольна ўстаў і падаў паручніку крэсла.

Пасля бурных успышак гневу, пасля зняважлівай лаянкі, яны стараліся цяпер гаварыць больш далікатна, але ўсё яшчэ ўнікаючы позіркаў адзін аднаго. Пан паручнік сказаў, што ён не мог заснуць у апошнюю ноч ад раны і ад таго, што не ўдалося яму пералавіць і перавешаць бандытаў, якія адважыліся абстраляць яго групу. Пан палкоўнік спачувальна паківаў галавою і запытаўся, ці няма пану паручніку небяспекі ад раны? Ён зараз-жа выкліча свайго доктара... Але пан паручнік з удзячнасцю адхіліў яго прапанову і сказаў, што рана крыху супакоілася.

— Я прашу прабачэння ў пана паручніка, што патурбаваў,— прамовіў Свяніцкі.—Але, паўтараю, да гэтага мяне прымусілі выключныя абставіны. Марудзіць цяпер нельга. Камандаванне фронтам надае выключнае значэнне ўмацаванню тыла.

Паручнік Бялы сядзеў нерухома, павярнуўшыся да Свяніцкага напоўабарота. Але Свяніцкі адчуваў яго позірк, крыху касы і ад гэтага, здавалася, недаверлівы.

— Можа пан паручнік будзе ласкавы расказаць, пры якіх акалічнасцях знік жаўнер?

Але ў дзверы кабінета пастукалі. Калі пан палкоўнік крыкнуў, каб увайшлі, на парозе з'явіўся жаўнер.

— Там войт, пане палкоўнік. Ён просіць прыняць яго неадкладна.

— Прывядзіце яго сюды,—загадаў Свяніцкі жаўнеру.

Корбут увайшоў у пакой з таямнічым выглядам, як загаворшчык вельмі важнай справы. Перш чым пачаць гаворку, ён уважліва агледзеў паручніка. Ад лямпы сеялася слабае святло і Корбут толькі па часе пазнаў начальніка станцыйнай аховы. Ён далікатна пакланіўся і Свяніцкаму і паручніку.

— Ну, што скажаш, Корбут?—звярнуўся Свяніцкі да войта.— Ёсць што-небудзь новае?

— Ёсць, яснавяльможны пане. Божа мой, што гэта толькі пачало рабіцца на белым свеце... Каб толькі паны ведалі, каго бачыў я сваімі вачамі... У мяне ў грудзях усё здрантвела ад страху...

Свяніцкі злосна зірнуў на войта: яму без меры абрыдзелі бясконца доўгія прадмовы хутаранца. Гэты хамут можа нават не ўяўляе, якое значэнне мае для вайскоўца кожная хвіліна, нават секунда. Таму, ускочыўшы з-за стала, Свяніцкі крыкнуў нервова:

— Што такое? Хутчэй?

— Буйневіча, пане палкоўнік, бачыў. Таго, што забіў нашага жаўнера. З вінтоўкаю ён цяпер разгульвае... І такі мяне жах працяў.

— К чорту твой страх, Корбут! Я раз назаўсёды хачу табе сказаць, што мне абрыдзела слухаць пра твой страх. Зразумеў? Ты павінен адказваць толькі на запытанні, а разважаць я і сам умею... Дык дзе ты бачыў гэтага, як яго...

— Буйневіча, яснавяльможны пане? З гадзіну таму назад... Ён прышоў у вёску. Ён пасадзіў на воз усю сваю сям'ю і паехаў...

— Куды ён паехаў?

— Пад Бучаціна. Яны, відаць, уцякаюць ад панскага гневу. Няйначай, гэты хлопец страляў і ў пана камендантa,—звярнуўся Корбут ужо да паручніка.—Гэта-ж толькі падумаць трэба!

Свянціцкі падышоў да дзвярэй. Ён крыкнуў жаўнеру, каб ён зараз-жа запрасіў паручніка Свіду ў кабінет.

— Ты, Корбут, дрэнна служыш,—пачаў Свянціцкі, зноў падыходзячы да стала.—Калі я першы раз прыехаў у маёнтак, на маім полі былі авёс, была грэчка. Так я гавару, Корбут?

— Было, было, паночку. Правільна гаворыце...

— Правільна?! А дзе яно ўсё падзелася, Корбут? Я агледзеў свае амбары, я агледзеў гумны. І нідзе я не знайшоў ніводнага снапа, ніводнага зерня. Дзе яно падзелася, Корбут?

— Паадкрадалі, паночку...

— Паадкрадалі? Хто паадкрадаў?

— Тыя, што сеялі. Няйначай. Уначы ўсё рабілі, каб ніхто не бачыў...

— А што я табе гаварыў? Што я сказаў гэтым хлопам каля царквы? Памятаеш, Корбут? Ты чаго глядзеў? А можа ты, Корбут, у змове з імі? Можа дапамагаеш і нам і ім?

— Божа мой! Панок! І як у вас паварачваецца язык гаварыць такое? Ваш татка ніколі-б, ведаючы мяне, такога не сказаў! Гэта-ж вы па мне, як обухам, як доўбняю... Божа мой...

Корбут раптам заміргаў вачамі. Яго чорная круглая бародка задрыжэла. Выціраючы рукавом новай суконнай жакеткі слязу, ён гаварыў далей:

— Ці то парубку зробяць у пушчы, ці то хто коней на панскую сенажаць пусціць—пра ўсё ваш татка дачуваўся... Пра ўсё даходзіў... Сэрца маё не трывала, каб не расказаць вашаму тату, як яны ваша дабро бэсцяць... Уначы прыходзіў. Не глядзеў ні на завею, ні на дождж... А вы ў злосці на мяне, як на нядаўярка... Ды яны, каб даведаліся пра ўсё—адразу-б мне кулю ў лоб. І не то што за цяперашняе, але і за даўняе... І невялікую вы мне, пане, ласку зрабілі, што прызначылі ў гміну... Я можа праз гэта ў пятлю трапіў... Божа мой... Пан Вацлаў апошнія годы мала наязджаў у маёнтак. Пан Вацлаў не ведае, што зрабілі бальшэвікі з гэтымі людзьмі. У іх ужо няма нічога святога. Цяпер яны паважаюць толькі саміх сябе, паважаюць тое, што ідзе ім на карысць...

У кабінет увайшоў паручнік Свіда. Корбут адразу спыніў сваё скуголенне. Адышоўшы ў бок, ён сеў на край крэсла і ўтаропіў свой позірк у цёмны кут пакою.

— Вы іх павінны затрымаць, пане паручнік,—разгортваючы карту, гаварыў Свянціцкі.—Двое старых, дзяўчына і хлоп з вінтоўкай. На якім яны кані, Корбут?

Корбут, паварачваючыся да Свянціцкага, ледзь не зляцеў з крэсла.

— На белым, паночку! Колы на жалезных восях. Драбінка афарбаваная ў чырвоны колер.

— О, холера!—умяшаўся ў гаворку начальнік чыгуначнай аховы.—А ў абоз ён выязджаў на кучы гнілля!.. Калі пан палкоўнік нічога не мае супроць, я праеду з панам Свіда. Цяпер ён ад мяне не выкруціцца!.. Я добра памятаю яго разбойніцкі твар!

— Я вельмі прасіў-бы пана. Але-ж у пана паручніка рука...

— Глупства! Пан палкоўнік можа не турбавацца з картай. Я ведаю дарогу.

Ён накіраваўся да звярэй, але пан палкоўнік спыніў яго.

— Хвілінку, пане паручнік. Я прасіў-бы вас вярнуцца ў маёнтак. Наша размова яшчэ не скончана. Мы не дамовіліся адносна плана на заўтрашні дзень.

— Я вярнуся, пане палкоўнік.

Калі афіцэры вышлі, Свянціцкі пачаў хадзіць па кабінету. Твар яго быў задуманы. Нарэшце ён загаварыў. Корбут устрапянуўся. Ён вадзіў позіркам за кожным рухам палкоўніка.

— Сёння ты складзеш спісы тых, хто мае коней. Заўтра-ж павінны быць адпраўлены ў абоз усе фурманкі. Той, хто паспрабуе ўхіліцца—будзе расстраляны... А потым, Корбут, ты павінен скласці спісы ўсіх грабежнікаў; хто што ўзяў у маім маёнтку. Ці то бервяно, ці то крэсла. Я думаю, знойдуцца спісы, хто колькі засяваў на маёй зямлі...

— Няма, пане Вацлаў. Іх звёз старшыня рэўкома Токараў. Я ўсё пераявярнуў у гміне.

— Куды ён іх звёз?

— Напэўна за Бярозу. Хоць кажуць, што гэты галаварэз нібы астаўся тут.

— Тут?

— Гавораць...

— Гавораць! Мы павінны ведаць напэўна. Ты дарэмна дрыжыш, Корбут. Цяпер ты можаш быць спакойны. За нашаю спіною стаіць уся Еўропа, вялікія заходне-еўрапеўскія дзяржавы. Азія не вытрымае нашага націску. Мы адновім старое любою цаною. Пра гэта нават не варта і казаць. Я цяпер думаю толькі пра адно: як найлепш абсталяваць дом. Ён пакуль што падобен да сырабойні. У цябе бацькі не схавалі нічога, калі ад'язджалі разам з немцамі?

— Божа мой! Ёсць. Усё ў цэласці!.. А колькі я перакалаціўся, калі большэвікі рабілі вобыскі... Рэквізіцыі... Мэблю пан знойдзе ў Тоцькі... І дыван адзін у яго схаваны...

— Ты сам яму скажаш, каб прывёз. Дні праз чатыры сюды прыедзе панна Гэлена. За гэтыя дні трэба добра абсталяваць дом. Ты чуеш, Корбут? Чаго ты так глядзіш? Нібы баішся нечага?

Корбут непарушна глядзеў у цемру, якая панавала за вакном. Твар яго быў напружаны. Пакладзеныя на калені рукі дробна ўздрыгвалі.

## XXI

Токараў прабыў у Верасніцы гадзіны дзве. Увесь гэты час ад яго не адыходзілі сяляне, чапляючыся за яго, як за жывую нітку, якая звязвала іх з учарашнім днём, з тым часам, калі ў краіне не

было памешчыкаў, калі ўся зямля належала сялянам. Яго смеласць надала смеласці ім, яго ўпэўненасць перадалася ім. Потым, забраўшы ў Віктара патроны, ён рушыў з вёскі. З ім пайшлі Дзяміл, які выклікаў незвычайнае захапленне ў верасняндаў і сваёй аграмаднай постаццю і страшнаю сілай. Маленькі Рафаіл быў супроць яго, што дзіця.

Чацверты з прыбыўшых—Змітрок Буйневіч—астаўся ў Верасніцы на столькі часу, колькі было патрэбна, каб узяць з хаты такія-сякія рэчы і пагрузіць іх на фурманку. Нельга было Буйневічавай сям'і аставацца далей у сваёй хаце. Буйневічаў праводзіла ўся вёска. Старая сядзела на падушках, усхліпваючы па дому, з якога іх гнала злая нядоля. Але выбраўшыся за сяло, Буйневічы паехалі не прамой дарогай на Бучаціна, а звярнулі на невялічкі, глухі засценак. Змітрок асцерагаўся сустрэчы на шляху з белапалякамі.

І як толькі партызаны зніклі, усе верасняны кінуліся да хлявоў, да свірнаў. Маладзейшыя пабралі коняй і паімчаліся з імі ў пушчу, старэйшыя насыпалі ў мяшкі збожжа, цягнулі на гумно і там хавалі яго ў сене, у акалоце, закідалі ў еўні. Па частцы хавання дабра ад паноў верасняны набылі сякую-такую практыку ў часе нямецкай акупацыі.

Адзін толькі Мікола Верабей вырашыў не хаваць збожжа ў сваім гумне, а завезці ў Бучаціна да свайго свата. Ён ускінуў на воз тры мяшкі ячменю, мяшок пшаніцы і, часта азіраючыся і прыслухоўваючыся да начных шолахаў, пагнаў каня па дарозе на Бучаціна.

Наліты срэбрам круглы месяц сеяў на зямлю халаднаватае святло. Усё вакол Вераб'я здавалася няпэўным і падманным. Чорная ралля па адзін бок дарогі выглядала шырокай страшнай прорвай. Па другі бок воза быў шорсткі іржэўнік, па якім беглі ў белы змрок высокія, аброслыя быльнікам межы. Густа апавіты павуцiннем «бабінага лета» іржэўнік мігцеў і пабліскваў вёсламі месячнага святла. Адно паветра было нерухомым і спакойна-сцюдзёным. Дзесьці ў вышыні, імкнучыся па зорнаму шляху на далёкі поўдзень, гагаталі нябачныя гусі. Часта пралятаді над галавою дзікія качкі. пакідаючы ў паветры доўгі звінючы след крылляў.

— Усхадзіліся, як перад пагібеллю!—цёпла прамармытаў у бараду Мікола Верабей і злез на зямлю. Дарога ішла на ўзгорак. Буйны, напоены дажджамі жвір глуха зашоргаў аб жалезныя шыны.

Увапёршыся рукамі ў драбінкі, стары памагаў каню ўсцягнуць воз на гару. Заняты сваім клопатам, ён і не заўважыў як ужо бадай на самым версе гары нагнаў яго чалавек і таксама пачаў падпіхаць воз. Агледзеўся толькі тады, калі па нагах яго хвасянула доўгае крысо чужой адзежыны. Стары выпрастаўся і ледзьве не аслупянеў.

Перад ім быў польскі салдат. Адзін з тых, ад каго ён цяпер звозіў з дому сваё збожжа.

— Куды, пан, каціш?—запытаўся ён у анямелага на месцы старога.

— Гм... кхе... кхе...—раптам закашляў дзед, стараючыся шпарка прыдумаць праўдападобную падставу для свайго начнога падарожжа. І толькі цяпер згледзеў ён, што жаўнер без аружжа і голас у яго

нейкі дружацкі, нібы спачувальны.—У Рудню еду... У млын,—адказаў нарэшце.

— Ну, дык спяшайцеся, пакуль карнікі вас не дагналі,—прамовіў жаўнер і, азірнуўшыся, шпарка рушыў наперад.

«Эйш ты яго, якім анёлам прыкідваецца!»—не паверыў ніводнаму слову паляка Верабей.—«Зараз ящчэ ускочыць на воз і бывайце здаровы, ліха тваёй матары!»

Сціскаючы моцна ў руках вішнёвае пугаўё і шкадуючы, што яно не вельмі цяжкое, стары пабег за канём, які ўжо быў па другі бок гары. Нягледзячы на свае восемдзесят год, ён лёгка абагнаў салдата і, ускочыўшы на воз, пачаў сцёбаць каня пугай, падазрона азіраючыся назад і кожную хвіліну чакаючы гвалту ад жаўнера. Калёсы то грымелі па каменнях, то чвякалі ў гразі каляін, конь хроп і рваўся наперад—далей ад пякучай пугі. Але жаўнер не адставаў. Ён быў непадзельны з возам, як чорны злы цень.

«Зараз дастане лявольверт і смальне!»—халадзеючы ўсім нутром, падумаў стары. Чакаючы гэтага страшнага моманту, ён вырашыў не здавацца без бою. Старому прыпомнілася даўняе, далёкі тысяча восемсот шэсцьдзесят трэці год, калі ён быў маладым і дужым... Такая-ж месячная ноч, высокія настарожаныя бярозы на віленскім тракце... А прыпомніўшы, узяўся рукою за пугаўё з другога канца—каля сырыцы—каб цяжэйшым і пэўным быў удар.

«Лях пракляты! Толькі паспрабуй крануць, дык паадвальваюцца твае рукі!»—ледзь не крыкнуў уголас, размахваючы ў паветры гібкім вішнёвым прутом.

Але жаўнер і не думаў нападаць. Наадварот, у яго быў такі выгляд, што ён сам нечага асцерагаўся. Стаміўшыся нашчэнт ад бегу, баязліва азіраючыся назад, ён глытаў паветра прагна, як выкінутая на бераг рыба. Нарэшце звярнуўся да Вераб'я з дзіўнымі словамі...

— Дзядуля, пачакайце... Дазвольце мне прысесці на возе... Я сам уцякаю ад карнікаў...

— Кашалі, хлопец, пляцеш!—усё больш набіраючыся храбрасці, гукнуў дзед.—Паверу я табе, як...

— Што вы? што вы?—голас у жаўнера быў упрашальны.—Мне пагражае смерць, калі мяне зловяць... У мяне вашы адабралі вінтоўку... Мне цяпер страшна варочацца да сваіх... мяне будуць судзіць...

— А-а, могуць,—усё яшчэ не верачы ніводнаму слову жаўнера, абазваўся стары і дадаў павучальна:—Вінтоўка—рэч казённая, берагчы яе трэба, як сваё вока...

Апошняе ён прамовіў для страхоўкі, на выпадак якой-небудзь правакацыі з боку жаўнера. Можа гэты пан дабіраецца, прыкідваючыся шчырым, да чаго-небудзь важнага, што дорага верасняпцам, як зямля, як свабода. Навучаны жыццём трымацца дыпламатычна, стары вырашыў нават асудзіць некаторыя ўчынкі моладзі: яе несвядомасць, калі яна вельмі высока, нібыта той памешчык, ставіць свой гонар, нават не хоча прызнаваць багоў...

— Цяпер з маёю вінтоўкаю ходзіць ваш хлапец,—прадаўжаў жаўнер.—Ён адабраў яе ў мяне каля ракі, на грэблі...

Толькі цяпер здагадаўся Верабей, што за яго возам ідзе жаўнер, якога адолеў Змітрок Буйневіч.

— Дык ён цябе не забіў?—недарэчна запытаўся стары і пасунуўся на воз.—Тады сядай, калі ты стаміўся. Падвязу покуль конь не прыстане.

Жаўнер ускочыў на воз. Патроху яны разгаварыліся. Мяшаючы польскія словы з беларускімі, жаўнер расказаў, што ішоў ён у Верасніцу да краўца, каб перарабіць на фрэнч шынель. Толькі спаткаўшы таго хлапца з сваёю вінтоўкаю, ён павярнуў назад: Буйневіч яго папярэдзіў, што ў маёнтак паехалі белапалякі.

— Дык што табе да таго?—здзівіўся стары.—Гэта-ж твая кумпанія. Вот што Буйневіч уцякае, гэта іншая справа.

— Я вам сказаў, што мяне могуць судзіць за страчаную зброю,—паўтарыў жаўнер.—Каб я вярнуўся да сваіх у першы-ж дзень, альбо на другі—маглі даравадь. Цяпер мяне палічаць за дызертыра і могуць расстраляць.

— Дзівак чалавек! А ты скажы, што цябе большэвікі звязалі і трымалі пад вартай. І вот ты цяпер уцёк і варочаешся ў сваю кумпанію. Які з цябе лях, калі ты брахаць не ўмееш...

Але жаўнер нібы абсек:

— Не. Я не вярнуся. Можа я вырашыў зусім не ваяваць?.. Абрыдзела.

— Дурная гэта справа—вайна,—пачаў філасофстваваць Верабей,—ужо не адчуваючы ніякай баязні перад палякам.—Маці нараджае дзяцей для шчасця, для ўцехі пад старасць, а тут іх адбіраюць ад яе, каб нарабіць мяса крумкачам і сабакам. Гэта-ж супроць самага крыважэрнага звяр'я не выдумана такой буйнай і страшнай зброі, як супроць чалавека! Альбо, скажам, збудаваў чалавек сабе хату, недасынаючы, недаядаючы. Жыў у хлявушку, у гнаі—разам з цялятамі і свіннямі, аброс увесь гразёю, як ка̄ростаю дзеці ўсе паабрасталі. А як толькі ён, напакутаваўшы так, перабраўся ў новы дом, да яго прыходзіць які-небудзь асэсар і руйнуе ўсё на пыл... Вось як вы, паны, з намі робіце. Як ты глядзіш тады на гэткую справу?

— Нядобра, — абазваўся жаўнер. — Вы, дзядусь, паганяйце хутчэй.

— Паганяйце... Як не паганяй, дык нікуды ад гэтай свалаты не ўцячэш!—усё больш распаляючыся, гукнуў стары.—Я такіх-бы людзей, што пачынаюць вайну, вешаў дагары нагамі! Каб другім быў страх і навука! Альбо яшчэ лепей—жывога ў пельку галавою кідаў-бы!

— Праўду, дзедусь, кажа,—прачула прамовіў жаўнер.—Я вот сам вырашыў ужо не варочацца ў армію. Перашыю толькі шынель, шапку другую адзену—і канец вайне. Думаю, дзедусь, у прымакі пайсці.

— У прымакі?.. Што?.. Напытаў ужо сабе бабу?

— Ёсць адна.

— Дзе-ж гэта?—зацікавіўся стары.

Далей выявілася, што жаўнер часу дарэмна не траціў. Бадзяючыся ад вёскі да вёскі пасля паражэння на грэблі, хаваючыся і ад

сваіх і ад партызанаў, ён зацягнуўся ў Бучаціна. Там ён якраз наскочыў на Токарава, які з'явіўся ў вёску разам з Буйневічам і Дзямідам. Гэта было ў нядзелю, калі на вуліцы гуляла шмат народа. Буйневіч адразу пазнаў белапаляка і паказаў яго Токараву...

— А ты, мусіць, не чакаў спаткацца з імі?—перапыніў жаўнера Верабей.—Нябось, затрасліся лыткі?

— Было,—прызнаўся жаўнер проста.—І вот мы пагаварылі з гадзіну і я паспакайнеў. Потым павялі ў адну хату, накармілі, пусцілі начаваць. Абыйшліся па чалавечаму... Я не спадзяваўся...

— У нас народ просты, гатоў усё табе аддаць, калі ты прыходзіш з чыстаю душою. Але, калі абманіш, альбо зла наробіш—усе твае кішкі павытрасаюць!—усхвалявана прамовіў Верабей.—Ну, а што далей было?

— Далей нічога. Пабыў я ў Бучаціне дзень, другі, прабыў тыдзень. А пасля мне і кажуць—аставайся назаўсёды. Ты, кажуць, чалавек наш, толькі паны табе галаву задурылі. Мы табе, кажуць, добрую бабу высватаем.

— І гэтак у нас могуць,—нібы з нейкім гонарам усміхнуўся стары.—Ну, з кім-жа цябе звялі? Я там, бадай, усіх ведаю.

— Пра Марысю Раткевіч чулі?..—у сваю чаргу запытаўся жаўнер.

— Пытаецца! Адна дачка ў бацькоў...

Калёсы гулка цокалі па каменнях. Яны пад'язджалі ўжо да Бучаціна, занятыя мірнай гаворкай пра зямлю, пра восень, пра бытавыя дэталі. Раптам конь Вераб'я падняў галаву і павёў вушамі, нібы да нечага прыслухоўваючыся. Жаўнер першы заўважыў непакой жывёлы і занепакоіўся сам. А калі азірнуўся, было позна што-небудзь рабіць: проста на іх, пабліскваючы зброяй ад месячнага святла, ляцела чалавек дваццаць коннікаў.

— Стой, халера! Рукі ў гару!—крыкнуў адзін яшчэ здалёку і выстраліў у паветра.

Голае і роўнае навакол было поле: ні кусціка, ні каменя, ні канаўкі. І да лесу, у засені якога прытаілася Бучаціна, засталося яшчэ з вярсту. Жаўнер падняў дрыглівыя рукі. Гэта-ж зрабіў і Верабей.

— Хто едзе? Прозвішча?—гаркнуў тоўсты паляк, падскакваючы да воза.—Зміток Буйневіч? А-а?

Адна яго рука вісела на перавязі. У другой ён трымаў рэвальвер і чорныя тонкія шнуры повада. Жаўнер пазнаў у таўсцяку паручыка Бялага і яго рукі задрыжэлі яшчэ больш. Тое, чаго ён асцерагаўся і ад чаго ўцякаў, здарылася. Некалькі дул было накіравана на яго, на старога, некалькі шабель заблiскала пад месяцам. Коні, налятаючы адзін на аднаго, храплі, пазваньвалі цуглямі.

Баючыся, каб у яго не выстралілі за адно маўчанне, стары загаварыў першым:

— Гэта я ў млын вязу, пане...

— Прозвішча, пся твая скура! Прозвішча!..—захрыпеў таўсцяк.

— Верабей, пане... А гэта... гэта ваш салдат... Ад партызанаў уцякае... Папрасіўся падвезці... Дык я і вязу...

Толькі цяпер у жаўнера знайшоўся язык.

— Пане паручнік. Гэта я, Кжачкоўскі... Пане паручнік... Матка боска, што з вашай рукою?

— Кжачкоўскі?.. Мой жаўнер? Ты жывы?

— Жывы, пане паручнік... Мяне былі звязалі, завялі ў лес... Толькі я сёння вырваўся ад іх... Якія яны людзі, якія яны людзі, пане паручнік... У мяне і цяпер усё дрыжыць... У мяне сарвалі цэшку з шапкі...

Верабей, слухаючы гэту бязбожную хлусню, усміхнуўся.

— А Буйневіча ты не сустрэў тут?

— Не, пане паручнік,—заспакоены лагодным голасам афіцэра хлусіў далей Кжачкоўскі.—Гавораць, што ён паехаў у другі бок, пад станцыю.

— Гэта праўда?

— Гавораць. З ім яшчэ нібы чалавек сорак партызан. Ах, пане паручнік... Як мне было цяжка... Яны тады наляцелі на мяне, як тыгры. Чалавек дзесяць. Я нічога не мог зрабіць. І яны адабралі ад мяне зброю... Я-ж застаўся адзін з тою праклятай фурманкай.

— Гэта нічога. Атрымаеш новую. Дык ты кажаш, што іх з Буйневічам чалавек сорак?—аглядаючы свае сілы, прамовіў паручнік.—Шмат у іх зброі?

— Кажуць, у кожнага карабін. І адзін кулямёт Гочкіса. Вы можаце іх дагнаць, пане паручнік... Ад вас яны нікуды не ўцякуць...

— Мне здаецца, ты залішне балбочаш!—строга перапыніў яго паручнік.—Мяне здзіўляе, чаму ты ўцякаючы ад іх, зноў едзеш у іх бок? Хіба ты не ведаеш, дзе размешчаны нашы жаўнеры?

— Пане паручнік! Што вы кажаце? Я ішоў на станцыю, але пачуў, што партызаны ў гэтым прырэчным сяле, і зноў павярнуў у поле. Каму гэта ахвота сустракацца з гэтымі галаварэзамі? Што я мог зрабіць адзін супроць сарака?

Паручнік задумаўся на момант. Потым падаў каманду жаўнерам варочацца.

Настрашаныя сваім-жа салдатам, яны цяпер паехалі асцярожна,— выставіўшы далёка наперад двух дазорных.

— Паслужыць ён цяпер вам!—усміхнуўся Верабей, паглядаючы ўслед Кжачкоўскаму, які аддаляўся разам з коннікамі.—Хто пацалаваўся з Токаравым—ад таго карысці панам не будзе.

Потым, схапіўшы лейцы і ўскочыўшы на воз, ён люта пачаў сцябаць каня пугай.

(*Канец будзе*)

---

*Г. Няхай*

# ПАРТЫЗАНСКІЯ ПЕСНІ

## 1

У вышыні гараць спакойна зоры.
Яны прачулі гоман навальніц,
Рыданне ветраў на зямлі убогай,
Кастлявы шум прамёрзлых лазнякоў.
Зямля! Зямля! Ты смерцю так багата,
Твае сыны свой голас узнялі
За сонца, за зямлю, за волю.
І шмат крыві, і роспачы так многа—
Сіроцкі плач, галодны стогн дзяцей.
А мой народ на плечах перамогу
Адвечную, адвечную нясе.

Мы ўспамінаем час 'шчэ недалёкі,
Трымаючы напагатове зброю,
І гнеў людскі, і сілу маладую,
Спакойна каб гарэлі зоры
У вышыні
над краем дарагім.

## 2

Што за гоман на сяле?
Насцеж хата, сенцы, склеп.
— Паглядзіце, родныя.

Мо' гараць хлявы і хаты,
Мо' віхор ідзе крылаты?
— Паглядзіце, мілыя.

Што-ж вы гэтак пасмутнелі,
Вочы вашы пацямнелі.
— Што такое, добрыя?
— Маці, маці, па дарозе
Едуць нейчыя абозы.
Ззяюць шаблі, кулямёты,
І ідуць чужыя роты.
І Іван цалуе маці,
І Івану цесна ў хаце.

3

Цёмны лес.
Пахне папараць вільгаццю свежа.
Голлі чорныя сплецены
Тоўстых дубоў,
Што паўсталі, як цёмныя вежы.
Зор высокіх туман,
А кругом цемната.
Нахілілася лісце да траў.
Партызанская песня ўзнялася,
Як сцяг,
Над чырвонай зарою кастра:

«Шырыня, шырыня
Рэчак, ніў і палёў,
Сярод белага дня
Рабаўнік к нам прышоў.

Смерць прынёс і агонь
У кастлявых руках.
Будзем нішчыць яго
Па лясах і лугах.

Бо у сэрцах людзей
Вечна воля жыла.
Прыдзе радасны дзень
Да радзімы, сяла.

Закрасуюць жыты
На прасторных палях.
Сабірайся, браты!
Падымайся, зямля!»

Цёмны лес зашумеў.
Пахне папараць вільгаццю свежа.
Бор узняў галасы. Закружыўся віхор.
Будзе воля квітнець
Ад зямлі да брыльянтавых зор.

4

На паляне пясок чорны крумкачамі ўслан.
Каня поіць ля крыніцы чыстай атаман.
Не каня там поіць смелы атаман—
То к бою рыхтуецца партызан Іван.
Ля куста ракіты на траве густой
Конскія капыты... Цішыня... Спакой...
А з усходу, з поля светлы дзень ідзе.
Быццам белы лебедзь, туман на вадзе.
«Коню, вараны мой»,—праказаў Іван
І паціху думу-песню заспяваў:

— Я каня напаіў
Ды крынічнай вадой...
Што-ж ты, конь мой, панік
Вараной галавой?

Ці па росчай траве,
Па прывольных лугах?
Можа сілы твае
Аслабелі ў нагах?

І стаіш і маўчыш
І панік галавой.
Што-ж ты мала так піў
Ды вады ключавой?

Мо'чакаеш бяды?
Прыдзе час—будзе бой.
Мы, як віхры, тады
Паімчымся з табой.

Белы пан—капітан
Ад мяне не ўцячэ.
Вострай шабляй махну—
Кроў цурком пацячэ.

Калі я упаду
На сырую зямлю,
Сваёй цёплай крывёй
След чужы абалью,

Тады, конь мой, бяжы
Па травіцы густой
Па травіцы густой
Да каханай маёй.

І каханай скажы,
Што твой друг малады
Сярод поля ляжыць
Ля крынічнай вады.

5

Чорны воран над лесам кружыць.
Тужыць маці па сынку тужыць.
«Сын мой, сын, ты мая уцеха,
Не прышоў да мяне, не прыехаў.
Ці у маткі табе няміла.
На руках ад калыскі ўзрасціла.

А казалі, ваюеш смела—
На душы ў мяне весялела.
І чакала штодня, чакала
Да світання, сынок, не спала.
Загаралася ў небе зарніца,
Па ваду я ішла да крыніцы.

Мыла ў хаце сталы і вокны—
Ўсё чакала цябе здалёку.

Усё чакала: чырвоны воін
Праімчыць на кані стралою...
Не прышоў да мяне, не прыехаў,
Маё гора, мая ты уцеха...»

Кружыць воран над лесам кружыць.
Тужыць маці па сыну тужыць.

6.

Над намі грымелі гады баявыя,
Ішлі за радзіму сыны маладыя.
На іхніх магілах вясна расцвіла.
І песня іх славіць з сяла да сяла.

Ад кожнай утраты, ад кожнай нягоды
Журыліся хаты, крынічныя воды,
Што чыстыя вочы слязамі расілі,
Што сілай паілі народныя сілы...

Не дарма гарэлі сады і заводы,
Ў агні нарадзілася наша свабода.
На векі вякоў мы яе зберажом,
Яна нам, як сонца,—і ноччу і днём.

1939 г.

*Ю. Віцьбіч*

# ПАЖАР „ВІКТОРЫІ"

Цмянага святла патухаючай лямпачкі не хапала, каб асвятліць гэты маленькі пакой. Можна было разгледзіць толькі драўляны ложак каля печкі, старую шафу ў куту, люстэрка на сцяне, а пасярэдзіне—стол, за якім моўчкі сядзелі зусім яшчэ маладыя Гольдэрманы. На ложку спалі іх дзеці, недзе каля шафы стукалі ходзікі, пад печкай спяваў цвыркун, пахнула цымусам. І магчыма таму, што за сценамі пакоя ўсё грымела, ён сёння здаваўся Гольдэрману асабліва ўтульным.

Лямпачка патухала, але ў пакоі рабілася ўсё святлей і святлей. Цяпер можна было заўважыць ходзікі, а пад імі адрыўны календар з лістком—28 мая. Нечакана на люстэрцы з'явіліся і задрыжэлі водбліскі. Зірнуўшы на акно, Гольдэрман ускочыў і пачаў хутка апранацца.

— Залман, ты пэўна звар'яцеў?—захвалявалася, таксама ўскочыўшы жанчына.—Там увесь вечар страляюць. Гэта-ж каля самай Бярэзіны і проста на вачох у тых забойцаў. У цябе ёсць дзеці, жонка. І нарэшце—што вы адны зробіце?

Мужчына надзеў медную каску і тады, пацалаваўшы дзяцей і жонку, сказаў:

— Рыва. Калі-б гэта гарэў, хай ён згарыць, палац Пілсудскага, дык я-б ахвяраваў на гэтую справу апошнюю сваю бутэльку газы, а калі гэта загарэлася падпаленая снарадамі Пілсудскага наша савецкая фабрыка, дык мы павінны яе тушыць.

Парывіста выскачыўшы з хаты, пажарнік пабег па сярэдзіне пустэльнай вуліцы. Яшчэ зусім нядаўна гэта вуліца што-вечар жыла сваім звычайным цікавым жыццём. Адпачываючы пасля працоўнага дня, на лаўках каля хат сядзелі і гутарылі паміж сабой дарослыя, гулялі па тратуарах хлапцы і дзяўчаты, бавіліся дзеці. Цяпер вуліца напаміналі могілкі. Подлы вораг абстрэльваў з гармат мірны працавіты горад.

Пажарнік ужо нямала прабег, як пачуў, што недзе ззаду за ім выбухнуў снарад. Устрывожаны за жонку і дзяцей, ён на момант спыніўся, а потым пабег далей. Зарава зацягнула ўсё неба, але чамусьці маўчаў набатны звон.

— Няўжо ўсе пажарнікі разбегліся?—падумаў Гольдэрман і адразу-ж адагнаў ад сябе гэту думку.—Калі хто і ўцёк, дык толькі не Галецкі з Кувалдай. Яны застануцца.

Гольдэрман не памыліўся. Прыбегшы на пажарны двор, ён

убачыў, што Галецкі і Кувалда хутка запрагаюць «Земляка» і «Гарманіста». Гэта былі пажарныя коні, прывычныя да гукаў набата і да звычайнага пажарам спалоху. Часам яшчэ не гуў звон, а яны, пачуўшы здалёк пах дыма, вырываліся са стайні і беглі да бочак і помпы. Іх ніколі не палохала ні зарыва, ні полымя, ні іскры, але цяпер, калі зямля дрыжэла ад снарадных выбухаў, «Зямляк» і «Гарманіст» хваляваліся. І толькі людзі здаваліся зусім спакойнымі.

— Добра, што ты прыбег,—заўважыў стары Галецкі.—Удвох неяк нязручна.

— А ехаць трэба,—дадаў яшчэ бязвусы Кувалда, падвязваючы да дышлаў званкі.—Колькі людзей яна, «Вікторыя», корміць? І ці не былы гаспадар яе напаследак падпаліў? Кажуць, што бачылі яго разам з палякамі. А можа гэта наш учарашні брандмайстар, недабіты жандар, трасца яму ў бок, падпальвае горад?

— Га?! Да двух дурняў і трэці далучыўся? А каб вас халера ўзяла ад маёй галавы!—раптам закрычала, выскачыўшы з пажарнай на двор, нізенькая жанчына з дзяркачом у руках. Аблаяўшы ўсіх трох, яна потым звярнулася асобна да Галецкага:—Куды цябе чорт, п'яніцу, нясе? Хто табе цяпер плоціць? Пяць месяцаў пенсіі не атрымоўваем. Гаварыла я—паедзем, ідал, на вёску, дык не. А зараз самохаць на ражон лезе. Каб цябе пяруны! Статуй! Сівы дурань!

— Цыц, Домна!—спакойна адказаў Галецкі.—Я цябе не вучу, як з лебяды бацвінне варыць, а ты мяне, старога ствольшчыка, а ў сёнешні гарачы момант—першага савецкага брандмайстра не вучы ў часе пажару на печцы спаць. Вось прыеду, тады будзем лаяцца.

І жанчына адразу перастала крычаць. Заплакаўшы, яна падала ствольшчыку нейкую анучку, якую той беражна схаваў за пазуху. Такую-ж анучку яна працягнула і Кувалдзе:

— На, бязродны, табе ад цёткі Домны. Разам з кменам яе ў трох водах варыла. Шкада мне вас, дурняў! Ой, як шкада!

Па ранейшаму хваляваліся «Зямляк» і «Гарманіст», але пажарнікі здаваліся зусім спакойнымі. Выехаўшы з двара, Галецкі нават пачаў успамінаць:

— Сур'ёзная ў мяне жонка, з карахтэрам. Адным словам—вар, а не кабета. Толькі трэба разумець, чаму яна такая. Зазнала яна вялікага гора за мяне, пажарніка, замуж вышаўшы. Калі я прывёў яе, ціхую вясковую маладзіцу, на пажарную, дык падлюга брандмайстар, добра ведаючы, што гэта мая жонка, спытаў з сабаччай ухмылкай:

— Ты дзе, Галецкі, такую шлюндру знайшоў?

І я сціснуўшы зубы змаўчаў, а яна, небарака, заплакала. Дзеці нараджаліся і паміралі. Каб яны не паміралі, я ўзімку па некалькі змен ураз на каланчы ў дзіравым кажушку галеў, толькі ў лазні боты з ног скідваў, але не засталося ў нас з Домнай дзяцей. А сваю-ж работу я, братка, любіў як дзяцей і працаваў добра.

Помню як гарэла «Бярэзіна» махляра Бермана. Я тады сабе рукі абпаліў і ўсё-ж выратавалі мы фабрыку. Прышоў я пасля

пажара да Бермана, бо дачка ў мяне тады ад сухотаў памірала, а ў хаце ні скарынкі. Прышоў, а ён, увесь пачырванеўшы ад злосці, выгнаў мяне і па зубах даў. Пасля мы даведаліся, што «Бярэзіну» падпаліў ён сам знарок, каб атрымаць штрахоўку. І помню яшчэ як загарэлася на Маскоўскай вуліцы халупіна сляпога Нохама. Таго самага Нохама, які аслепнуў, работаючы ў Бермана на парафінавай пліце. Пад'ехалі мы, бачым што полымя яшчэ не відаць, а ў сярэдзіне ўся халупіна дымам зацягнута і ў ёй Нохам крычыць. Выліў я на сябе вядро ледзянай вады і рынуўся ў дым. Адразу-ж сціснула подых і вочы абпаліла, але ўсё іду вобмацкам, вобмацкам, нагамі па падлозе шархаю, шархаю, рукі ўперад працягваю. Знайшоў я Нохама. Ён з перапуду торкаўся замест дзвярэй у міжваконне. Вывеў яго на вуліцу, а потым мы ў ягонай халупіне і пажар патушылі. Дык пасля пажара Нохам доўга поркаўся ў сваіх кішэнях і, відаць, нічога там не знайшоўшы, працягнуў мне гузік:

— На, чалавек, можа спатрэбіцца калі. У мяне-ж больш нічога няма.

Дык гэты гузік я і цяпер захоўваю. Для мяне ён, братка, як тая медаль, як узнагарода за цяжкую працу пажарнага.

На першы погляд здавалася, што сівы ствольшчык расказваў пра мінулае пажарнікаў у утульным клубе на вечары ўспамінаў. Перад дзедам сядзяць маладыя таварышы і зацікаўлена слухаюць яго. У сапраўднасці-ж выбухалі снарады, звінелі званкі на дышлах коней і перад вачамі разгараўся вялікі пажар.

Пакуль працягвалася гэта кароткае апавяданне, пажарнікі праехалі метраў трыста. Уперадзе ехаў Кувалда з бочкай, за ім на помпе Галецкі з Гольдэрманам. Яны ехалі па Мінскай вуліцы, якую добра было відаць з другога высокага берага ракі, дзе да часу панавалі белапалякі. І ворагі, адразу заўважыўшы іх хуткі рух, адкрылі ружэйны агонь.

— Хутчэй «Зямляк»! Хутчэй!—крычаў Кувалда.

— Не адставай, «Гарманіст»!—падганяў каня Галецкі і, звярнуўшыся да Гольдэрмана, сказаў.—Толькі-б праскочыць Мінскую, там на «Вікторыі» нас затуляць ад куляў камяніцы.

— Горача нам утрох прыдзецца,—заўважыў Гольдэрман.—Але не можа быць, каб не падбеглі рабочыя.

Пажарнікі некалькі разоў падскочылі на паваленых снарадамі тэлеграфных слупах, аднойчы зусім недалёка ад іх выбухнуў снарад,—усё-ж яны нарэшце дабраліся да фабрыкі «Вікторыя». З фабрычных варот ім насустрач, пачуўшы званкі, выскачылі рабочыя. Адны з іх паехалі з бочкай на канал, другія пачалі качаць помпу, трэція дапамагалі раскручваць рукаў.

— Го!—сказаў Кувалда, убачыўшы рабочых.—Прыбеглі ратаваць сваю матку «Вікторыю». Цяпер мы нешта зробім.

Шмат пажараў бачылі Галецкі, Кувалда і Гольдэрман, але такога ім яшчэ ніколі не прыходзілася бачыць. Полымя гуло, ахапіўшы галоўны корпус фабрыкі, прарывалася звонку праз вокны і дзверы, скручвала ў трубкі дахавае жалеза, безліч іскраў ляцелі ўверх. Атрутны пах парафіна і серы, нібы кіпцюрамі

раздзіраў глотку і вочы. Часам пажарнікам дапамагае працаваць дождж, але тады была прыгожая майская ноч без ніводнай хмурынкі.

— У такую ноч,—падумаў Гольдэрман,—толькі сядзець разам з Рывай пад бэзам ды слухаць салаўёў.

А скрытны ў сваіх асабовых юнацкіх справах Кувалда, зірнуўшы на неба, уздыхнуў і падумаў пра нейкую аднаму яму вядомую Алесю Астапчук.

Полымя гуло. Не толькі дождж, але нават і лівень не змаглі-б нічога з ім зрабіць. Здавалася тады, што калі і Бярэзіну ўсю выльеш на яго, дык рака парам знікне, а полымя застанецца.

— Яшчэ з гармат зверху абстрэльваюць гады,—заўважыў Галецкі.

Полымя гуло. У параўнанні з ім помпа павятовай пажарнай каманды напаміна́ла садовую лейку для палівання кветак. Але агонь ніколі не дазваляе пажарнікам доўгі час думаць перш чым зрабіць правільны вынік. Яны добра ведалі, што патушыць з сваімі сродкамі пажар галоўнага корпуса—гэта тое-ж самае, калі-б салдаты з craменнымі ружжамі паспрабавалі затрымаць узброены кулямётамі полк. Толькі разам з тым яны добра ведалі прыроду агня, яго прывычкі, каб не губляцца перад цяжкасцямі. І тады першы совецкі брандмайстар Галецкі сказаў:

— Трэба абкружыць полымя, каб яно не пашыралася далей. Бачыце, у сумежным будынку з вакон ідзе дым? Нават языкі выскокваюць? Чыстае пекла, браткі.

І пажарнікі рынуліся ў гэтае пекла.

Гарэла запалкавая саломка. Галецкі, трымаючы ў руках ствол, прыняўся збіваць полымя вадой, Гольдэрман і Кувалда выцягвалі баграмі ахопленыя агнём дошкі і чурбакі. Адразу-ж рабочыя залівалі выцягнутае. Разам з чорным дымам над фабрыкай цяпер падымаўся белы. І, заўважыўшы гэты дым, белапалякі яшчэ больш узмацнілі абстрэл. Адначасова з выбухамі снарадаў даносілася да пажара недалёкая хрыплая каманда афіцэра:

— Агонь!

— У агонь галавой цябе, шляхецкую падлу!—вылаяўся Галецкі, уклеіўшы ў лаянку і бога, і ягоную матку і ўсіх святых.

Усё-ж пажарнікі разам з рабочымі патушылі пажар, але ў гэты момант бандыцкі снарад запаліў усё тое, што было з вялікімі цяжкасцямі патушана. І людзі зноў пачалі змагацца з вогненнай стыхіяй, але другі снарад двухногіх звярэй запаліў над іхнімі галавамі дах. Тады трое пажарнікаў пачалі памалу адступаць перад полымем, стрымліваючы яго рух на кожным кроку. А ззаду за імі рабочыя выцягвалі з будынку на двор усё каштоўнае.

Кувалда часам зусім знікаў у дыме, а праз некалькі мінут вакол яго знікаў дым і пажарнікі зноў бачылі свайго Кувалду. Стары Галецкі не выпускаў з рук ствол. Напор вады не слабеў. Там, на двары, рабочыя бязупынна падвозілі з канала ваду, цягалі яе ў вёдрах, качалі помпу. У першага совецкага брандмайстра спаліла бровы і вусы, але стары моцна трымаў у руках ствол і адначасова ўважліва сачыў за таварышамі. Калі ў Гольдэрмана загарэлася

вопратка і ад болю ён застагнаў, у той-жа момант яго абліў струмень вады.

— Куды ты, Залман, лезеш?—крычаў Галецкі.—Мы прыехалі сюды пажар тушыць, а не саміх сябе.

Неўзабаве Гольдэрману прышлося змяніць Галецкага. Пажарнікі не заўважылі ў куту памяшкання бачонка з серай, затое адразу пачулі, як ён загарэўся. І першым пачуў Галецкі. Ён спярша паспрабаваў перамагчы кашаль і, выцягнуўшы анучку, пачаў дыхаць праз яе, але цяжкі кашаль схіліў яго ў крук. Тады Гольдэрман амаль што вырваў у старога з рук ствол і ледзь выскачыў на двор каб аддыхацца.

У будынку засталіся два пажарнікі. Трэба было знайсці бачонак з серай і адзін пажарнік сказаў другому:

— У цябе ёсць дзеці, а я амаль што адзінокі.

Не паспеў Гольдэрман затрымаць таварыша, як Кувалда, закрыўшы нос шматком мокрага пакулля і прыкрываючы анучкай рот, рынуўся ў сіні атрутны дым. Ён знайшоў бачонак і выкінуў яго праз акно, а потым ледзь выпаўз з дыму. Яго твар пасінеў, з носу і роту бегла кроў. Рабочыя падхапілі Кувалду і выцягнулі на двор.

У будынку цяпер застаўся адзін пажарнік і ён стрымліваў полымя пакуль над яго галавой не затрашчаў дах.

— У мяне сапраўды ёсць дзеці,—думаў пажарнік,—але я змагаюся за тое, каб яны больш не пакутвалі.

Апошнім пакінуў будынак Гольдэрман.

Рухнуў дах. Мірыяды іскр падняліся ўверх. Будынак згарэў, але на двары стаялі вынесеныя з яго машыны, часткі машын, скрынкі з запалкамі, бочкі і мяшкі з сыравінай. На адной з скрынак сядзеў балюча кашляючы Галецкі. Прыціскаючы адну руку да грудзей, дзед другой змазваў нейкім маслам свой твар. Побач з Галецкім ляжаў на зямлі Кувалда, а каля іх Гольдэрман нечакана ўбачыў цётку Домну. Зняўшы з Кувалды клочча абгарэлай курткі, яна аблівала яго халоднай вадой і безупынку гаварыла:

— Шкада мне вас дурняў. Ой, як шкада. Відаць, што жонкі ў цябе няма і дагледзіць за табой некаму. Але, як толькі прагонім паноў, я цябе абавязкова пажаню. Ужо і жонку нагледзіла. Усё жыццё дзякаваць будзеш за такую Кувалдзіху,—схіліўшыся над пажарнікам яна прашаптала,—Марыну Астапчук ведаеш? Га? Дык у яе ёсць сястра Алеся. Кроў з малаком дзяўчына.—Зірнуўшы ў бок, цётка Домна раптам перастала шаптаць і закрычала:—А ты, стары дурань, расцірай! Мацней расцірай! Калі не хочаш, каб я пачала дзяркачом расціраць!

У Кувалды ўжо кроў не ішла. Ён ляжаў нерухома, слухаў цётку Домну і ледзь прыкметна ўсміхаўся.

Калі рабочыя прывялі фельчара, Гольдэрман сказаў:

— Мне ніякай дапамогі не трэба. Вы лепш маім сябрам дапамажыце,—а сам падаўся да коней, якіх ужо аглядала першая савецкая брандмайстарша.

— «Земляка» куля абцарапала,—гаварыла яна Гольдэрману.—Бачыш, увесь бок у крыві? А «Гарманіст» нічога не бачыць, слёзы з вачэй бягуць,—і тады звярнулася да коней, абціраючы іх

анучкай.—Зараз адпачнеце. Зараз. Паставім вас у стайню і адразу-ж цётка Домна па вецінара збегае. У адзін мент. Адна нага ў стайні, другая ў вецінара. Ён вам адразу дапаможа. Папакутвалі вы, гаротныя. Вам-бы разам з вясковымі канямі ў начным траву шчыпаць, але-ж вы—пажарныя коні.

І раптам пажарнікі і рабочыя на двары «Вікторыі» ўздрыгнулі, а потым пачалі ўсміхацца.

З боку чыгункі загулі свае радзімыя гарматы. Белапалякі на момант зусім змоўклі. Харобрыя, каб абстрэльваць мірных бяззбройных жыхароў, яны мітусіліся пад абстрэлам савецкага бронепоезда.

— Бі іх, гадаў! Бі буржуяў!—закрычаў Галецкі, адсоўваючы ў бок шклянку з маслам.—Кішкі ім рві, ды на хвоі развешвай! На насенне ні аднаго шляхцюка не пакідай! Бі іх! Бі!!

І па шуму, які даносіўся з боку недалёкіх белапольскіх пазіцый савецкія людзі радасна пераконваліся, што іх бронепоезд страляе вельмі трапна.

Ледзь жывыя вярталіся пажарнікі дамоў. Жонка ўсміхаючыся выбегла Гольдэрману насустрач і нечакана заплакала, убачыўшы яго бліжэй. Пажарнік моўчкі увайшоў у хату і зняў каску. Ён пaглядзеў пяшчотна на дзяцей, якія па-ранейшаму спалі, адарваў календарны лісток і потым выпадкова зірнуў у люстэрка. Ён убачыў чорнага, са спаленымі брывамі, з абпаленым тварам і рукамі нейкага незнаёмага чалавека ў абгарэлай вопратцы. Гэты чалавек хістаўся ад стомленасці і ў яго вачах адлюстроўваўся боль.

— Рывелэ,—сказаў тады Гольдэрман сваёй жонцы,—мы зрабілі ўсё тое, што могуць зрабіць савецкія пажарнікі.

---

*Е. Садоўскі*

# ПЛОШЧА, АБМЫТАЯ КРЫВЁЙ

*(Апавяданне з цыкла „1905 г.“)*

На рагу вуліц Губернатарскай і Захараўскай нязграбны вагон конкі паволі прыцішаў ход. У гэтым месцы ўзвышалася ледзь прыкметная горка і яе было досыць, каб і без таго павольная хада хударлявых коней пераходзіла ў шаг. Да двохпаркі тут дадавалі яшчэ трэцяга каня. Худы хлапец з доўгім пугаўём на хаду ўскокваў на прыступкі вагона, закідваў кальцо на жалезны крук і, цмокнуўшы губамі, хрыпатым голасам загадваў:

— Н-но, гультай!—і для большага страху шлёгаў у паветры пугай.

Коні, прызвычаеныя да гэтага голасу, да прарэзлівага свіста пугі над самым вухам—аставаліся безуважнымі і той-жа ленай хадой цягнулі далей дзівосны вагон якойсьці сярэдневяковай формы з упрыгожаным разьбой дахам і несусветным брудам у сярэдзіне, з блакітнымі фіранкамі, якія, быццам парус, надзімаліся ад ветру.

Паміж лавак панакіданы недакуркі, лушпайкі, відаць сляды ад балотнай гразі небрукаваных мінскіх вуліц. З грукатам, быццам яго знарок трэслі дзесяткі рук, гойдаючыся з аднаго боку на другі, паволі поўз вагон.

На Захараўскай, не даязджаючы да астаноўкі, што была ля вялікай галантарэйнай крамы з вялізнай шыльдай над уваходам, у вагон ускочыў студэнт у кароткай куртцы і форменнай шапцы. Куртка на ім была аблінялая, шапка таксама мела не вельмі адменны выгляд. Студэнт насіў значок палітэхнічнага інстытута, і ўжо адно гэта сведчыла аб тым, што ён не тутэйшы, бо ў Мінску палітэхнічнага, ды і наогул вышэйшых навучальных устаноў не было. Толькі ў часе канікул звычайна можна было бачыць студэнта на вуліцах Мінска. Ускочыўшы на прыступку конкі, ён адшукаў вольнае месца—бліжэй да выхаду—і сеў.

— Панове пасажыры, хто яшчэ не браў білетаў?—голасна запытала пажылая жанчына ў чорнай суконнай, не зважаючы на гарачыню, хусце.

Студэнт пашукаў у кішэні, знайшоў грыўню і падышоў да кандуктаршы. Тая, на адзін момант затрымаўшы на ім свой позірк, адарвала білет і ледзь прыкметна напісала на ім лічбу—чатыры. Студэнт, узяўшы білет і схаваўшы яго ў кішэню, кіўнуў галавой у знак падзякі і сеў на сваё месца.

— Панове, прашу браць білеты,—папярэджвала кандуктарша.

Конка ўжо выехала на роўнае месца, але на рух конкі гэта ніякага ўплыву не мела. Лёгкі ветрык надзімаў палатняныя фіранкі летняга вагона. Фіранкі затулялі ад сонца.

Студэнт расхінуў газету і пачаў прагна чытаць апошнія тэлеграмы, у якіх сцісла і суха гаварылася аб надзвычайных падзеях апошняга часу.

На чарговай астаноўцы ў вагон конкі ўвайшоў высокі мужчына ў касаваротцы, у чорнай шапцы з бліскучым казырком—па ўсіх адзнаках масцеравы, у руцэ ён трымаў акуратна збітую скрыначку з цeслярскімі прыладамі. Паставіўшы скрыначку ля ног і выцершы спацелы лоб, ён асцярожна дастаў з простага кашалька манету і перадаў яе кандуктаршы. Тая зноў напісала непрыкметную для іншых пасажыраў лічбу—чатыры. Ля Александраўскага вакзала конка апусцела. Масцеравы зайшоў у шынок з апетытна размалёванай шыльдай. Студэнт, згарнуўшы газету, паволі пайшоў у памяшканне вакзала, дзе прыпыніўся ля вакенца з надпісам: «Прыём тэлеграм». Ён прыгнуўся і паглядзеў у вакенца. Ля стала, схіліўшыся над паперамі, сядзела бялявая дзяўчына ў блакітнай сукенцы з бантам і надзвычай высокай прычоскай. Жукава не было. Студэнт паглядзеў на гадзіннік. Стрэлка паказвала дзве гадзіны. Спатканне было прызначана якраз на гэты час. Паяздоў зараз ужо няма. Тырчэць тут на вачах дрэнна,—мільгнулі непрыемныя думкі... Пайсці—тады Жукаў не будзе ведаць, дзе сёння сустрэча. Студэнт успомніў, што білецік, атрыманы ў канцы ад Мартынавай, усё яшчэ ляжыць у яго ў кішэні, ён дастаў яго, яшчэ раз паглядзеў на наўскасяк напісаную лічбу «чатыры» і, папярэдне парваўшы білецік, кінуў яго на зямлю. Пасля ён спыніўся ля плаката з раскладам руху паяздоў. Спачатку ён нават не адчуў, як нехта паціху крануў яго за плячо... Павярнуў галаву:

— Аляксей Змітравіч, даруйце, што я трохі спазніўся.

— А я вось, чорт ведае, гляджу на расклад паяздоў і не ведаю, якім поездам лепей ехаць на Пецербург. Ці не параіце?

Жукаў падышоў бліжэй да плаката і пачаў вадзіць пальцам па тлустых лініях, быццам павуцінне пераплеценых паміж сабой... Ён павярнуў галаву—нікога поблізу не было, толькі ў самым далёкім кутку, прытуліўшыся да сцяны і склаўшы на каленях рукі, драмала якаясьці бабулька.

— Сустрэча на чацвертай кватэры, прыехаў прадстаўнік Пецербургскага камітэта. Час той-жа... Значыць, вы раіце ехаць начным праз Віцебск...—Жукаў, не знімаючы пальца з пераплеценых ліній на карце, адказаў:

— Так, гэта самы лепшы поезд. Дзякую, што зайшлі, абавязкова буду,—і з гэтымі словамі тэлеграфіст пакінуў студэнта.

Тым часам масцеравы кончыў закусваць і, заплаціўшы, вышаў з шынка. На білеце, які ён атрымаў у вагоне конкі, была адзнака—чатыры. Значыць, сустрэча будзе ў яго на кватэры. Трэба пайсці падрыхтавацца і, павярнуўшы ў першы завулак, ён прайшоў пяць дамоў і спыніўся ля маленькага старога доміка з пачарнелымі сценамі, пакрыўленым комінам і збуцвелымі акяніцамі. Ля ўвахода

вісела іржавая шыльда, прачытаўшы якую можна было даведацца, што ў гэтым доме жыве сталяр Ігнат Катляроў, які прымае ў паноў заказчыкаў сталярныя, а роўна і плотніцкія работы па ўмеранай цане.

Катляроў, а гэта быў ён—адчыніў адну акяніцу, якую прычыніў вецер, і ўвайшоў у дом. Адразу-ж за прыхожай была майстэрня— невялічкі пакой, ледзве не палову якога займаў варштат. Вакол варштата грудамі ляжалі пахучыя стружкі. Направа ля сцяны стаяў невялічкі такарны станок, у розных мясцінах вісеў інструмент— пілы, фуганкі. На самым варштаце стаяла няскончаная работа— якаясьці скрынка конуснай формы, збітая з дасканала выгабляваных дошак. Да ўваходных дзвярэй быў прывешан невялічкі званок; калі Катляроў зачыняў іх, гучаў кароткі, але чутны ва ўсіх кутках дома звон. З майстэрні дзверы вялі ў жылыя пакоі. Іх было два. Застаўленыя канапамі, крэсламі, з лубачнымі партрэтамі на сценах, вялізным тульскім самаварам на століку—яны мелі чысты, утульны выгляд. Паставіўшы скрынку з інструментам, Катляроў вынес самавар у невялічкую кухню, наліў яго поўны вадой і накідаў вуглей. У гэты час зазвінеў званок. Кінуўшы ў самавар запаленыя трэскі, майстар хутчэй пайшоў насустрач.

— А, Аляксей Змітравіч,—радасна сказаў ён падаючы студэнту шырокую дужую руку. Гадзіну назад бачыў вас у вагоне конкі, вельмі хацеў загаварыць, ды смеласці не хапіла.

— Нельга, нельга...—сказаў студэнт, ідучы ўслед за гаспадаром.—Здаецца, я першы...

— Зараз збяруцца. Ка мне без прычыны не позняцца. Мне Мартынаўна перадавала, што яна сёння новага чалавека прывядзе. У іх там у дарожным кіраўніцтве працуе. Цвік якісьці. Вы не чулі?

— Не,—сказаў студэнт, прысаджваючыся на канапу і дакурваючы.—Я Мартынаўну папярэджваў, каб яна была асцярожней у выбары людзей. Канспірацыя не здымаецца з парадку дня. А яна, здаецца, занадта даверлівая...

Катляроў пайшоў на кухню. Зноў пачуліся званкі. Студэнт вярнуўся ў майстэрню.

Збіраліся па аднаму. Мартынаўна прывяла новага чалавека. Студэнту здалося, што ён дзесьці сустракаў яго, але дзе іменна— ніяк не мог успомніць.

Мартынаўна адвяла Аляксея Змітравіча ў бок і ціха сказала:

— Мне яго перад ад'ездам у Пецербург рэкамендаваў Шэвялеў— вельмі начытаны, працуе статыстам. Гаворыць, што спачувае бальшэвікам. Як вы думаеце, ці добра зрабіла?—трывожна спытала Мартынаўна, адчуваючы, што студэнт не зусім станоўча ставіцца да яе ўчынка.

— Так, цяпер позна ўжо што-небудзь вам гаварыць, але прадстаўніка камітэта я думаю папярэдзіць, каб сюды не ішоў. І студэнт, спаслаўшыся на жаданне купіць папяросы, надзеў шапку і вышаў. Ля самага доміка дзеці гулялі ў «рускаяпонскую вайну». Яны змайстравалі з скрынак гару і гэта была «сопка». Да студэнта даляцелі адрывістыя словы дзіцячай каманды:

— Салдацікі—брацікі, рыхтуйцеся ў бой...

Студэнт усміхнуўся. Пасля ён падумаў, што гэтая дзіцячая гульня ля доміка Катляровых вельмі дарэчы, бо адцягвае ўвагу. Ён прайшоў квартал. Прадстаўнік камітэта павінен ужо быць на месцы, дзе-ж ён—мільгнула трывожная думка. Сустрэліся выпадкова ля папяроснага кіоска.

— Дазвольце прыкурыць.

— Калі ласка.

І ціха, зусім ціха:

— На чацвертую кватэру не хадзіце, сустрэнемся ўвечары там, дзе і ўчора. Дзякую...—студэнт прыпадняў шапку і развітаўся.

Катляроў прынёс самавар. Самавар кіпеў і гарачая пара белымі воблачкамі падымалася к столі. Студэнт адкрыў пачку дарагіх папярос з відам крымскага ўзбярэжжа на карабку і прапанаваў прысутным пакаштаваць новы сорт табаку, толькі што выпушчаны ў продаж. Першы ўзяў папяросу з карабка Цвік. Ён асцярожна ўзяў яе двума пальцамі, быццам гэта было штосьці войстрае і, панюхаўшы табак, прыцмокнуў губамі:

— М-да, гэта цудоўна, панове...

Студэнт неяк асабліва паглядзеў на Мартынаўну, але нічога не сказаў...

За сталом, калі пілі чай, гутарылі аб усім, аб новых надрукаваных у газетах тэлеграмах, аб поглядах на ўраджай. Мартынаўна хацела прачытаць пісьмо, якое атрымала ад брата з вёскі, дзе чацверты дзень было сялянскае хваляванне, але студэнт утрымаў яе. Цераз гадзіну разышліся. Цвік пайшоў разам з Мартынаўнай.

— Не чакаў, не чакаў, вакол, ведаеце, кіпіць, а тут чаёк і толькі.

Мартынаўна нічога не адказала. Увечары збіраліся ў яе і ёй трэба было падрыхтаваць кватэру.

* * *

Камергер двара яго імператарскай вялікасці—мінскі губернатар Курлоў любіў ва ўсім быць падобным на свайго высокастаўленага гаспадара. Як і Нікалай II, Курлоў у часе прыёму службовых асоб стаяў ля акна свайго багата абсталяванага кабінета і ў залежнасці ад настрою—альбо глядзеў у твар таму, хто дакладваў, альбо, павярнуўшыся да яго спіной, нервова барабаніў па акне. Так прымаў Курлова Нікалай II і такі-ж самы парадак ён завёў у сваёй вотчыне. Іменна паводле гэтых адзнак начальнік губернскай жандармскай управы адчуў, што з некаторага часу папаў у неміласць... Яго прымалі ля акна і тонкі слых начальніка раздражняла гэтая сухая ваконная музыка. Прысадзісты, шырокаплечы, з густой барадой, абвіслымі шчокамі—ён ішоў паволі, развалістай паходкай, быццам баючыся, што пад ім пагнецца падлога.

— Ваша прэвасхадзіцельства, атрады накіраваны і мы ўжо пачынаем атрымліваць прыемныя весткі.—На гэтым слове начальнік змоўк.

Губернатар рэзка павярнуўся да яго і, падышоўшы к сталу, схапіў пачку папер.

— О, весткі прыемныя... Паслухайце,—і выцягнуўшы наўгад данясенне ён пачаў чытаць: «У Слуцкім павеце з 10 па 14 жніўня баставалі рабочыя мясцовых вінакурных прадпрыемстваў. Рэвалюцыйная прапаганда вядзецца адкрыта і няма сілы, каб яе прыпыніць. Уночы 12 жніўня хтосьці павесіў чырвоны сцяг над будынкам паліцэйскага ўчастка і знялі яго толькі пад раніцу ў прысутнасці вялізнай колькасці людзей...»

— Вы разумееце, што гэта значыць?—гаварыў разгневаны губернатар.—Хутка павесяць гэтае палотнішча над маім домам і пачнуць класці пракламацыі мне пад падушку, а пан начальнік жандармерыі губерніі будзе спакойна сцвярджаць, што ўсё добра, усё ў парадку.

Губернатар кінуў спапяляючы позірк на начальніка жандармерыі і, зразумеўшы, што перасаліў, знізіў голас.

— Не, Лаўрэнці Вікенцевіч, так далей не можа быць. Мы збіраем прэдвадзіцелей, пагутарым з імі, выклікаем павятовых начальнікаў. Задуманы сякія-такія агітацыйныя захады. Губернская друкарня атрымала заданне выпусціць лісткі для сялян. Іх піша айцец Феадосій. Але і з вашага боку трэба ўжыць больш суровыя меры. Колькі чалавек сядзіць у Мінскім замку?—нечакана спытаў Курлоў.

Начальнік жандармерыі на міг замяшаўся.

— Дакладна не скажу, але ён перапоўнен да адказу.

— А вы яшчэ 500 чалавек падкіньце туды,—прапанаваў губернатар.—Дарэчы, я атрымаў паведамленне, што ў губерніі паявіліся агітатары з Пецербурга... Як іх там, бальшэвікі...

— Так, мы маем звесткі аб арганізацыі новых бальшэвіцкіх ячэек на мінскай коннай дарозе і на Лібава-Роменскай.

— Прыміце гэта на ўвагу, Лаўрэнці Вікенцевіч, і больш сурова, больш сурова,—сказаў Курлоў і сеў за стол.—У вас усё?

— Не, ваша прэвасхадзіцельства...

— Гаварыце далей...

— Паводле атрыманых вестак, у Мінску ў бліжэйшы час падрыхтоўваецца выступленне рэвалюцыянераў па прыкладу Одэсы, Баку, Лодзі. Месцам збору назначана прывакзальная плошча. Злачынцы будуць патрабаваць вызвалення з турмы ўсіх палітычных. Я рэкамедаваў-бы вашаму прэвасхадзіцельству давесці да ведама камандзіра Окскага палка і патрабаваць узмацнення гарнізона. У прыватнасці, можна з Барысава падкінуць конны эскадрон.

— Не, не... толькі не Барысаў, там маёнтак яго высочаства Нікалая Нікалаевіча і я нават загадаў узмацніць варту.

Губернатар падняўся і, бясшумна ступаючы па мяккаму дывану, пачаў хадзіць па кабінету з канца ў канец, выказваючы гэтым сваё хваляванне. Начальнік жандармерыі адышоў у бок і чакаў.

— Лаўрэнці Вікенцевіч, адкуль ідуць гэтыя звесткі?

— Ваша прэвасхадзіцельства, у меншавіцкім камітэце гаспадаром кватэры наш чалавек.

— А к гэтым самым бальшэвікам вы прасунулі свае «вушы і вочы»?—усміхаючыся спытаў губернатар.—Помніце, мы вам даручалі гэта зрабіць.

— Спроба зроблена, ваша прэвасхадзіцельства...

— Ну і добра. Прыходзьце на абед, Лаўрэнці Вікенцевіч, мне цудоўную дзічыну прыслаў адзін слуцкі памешчык. Хваліцца, што сам настраляў. Дарэчы, мае вялікую ахвоту трапіць у павятовыя прэдвадзіцелі. Вельмі дзелавы... Ездзіў разам з казакамі ў вёску на ўсмірэнне бунтаўшчыкоў. Я аб ім напісаў міністру. Прыходзьце, ды толькі з добрымі весткамі,—і Курлоў, ідучы насустрач, падаў руку жандармскаму палкоўніку, які аж памаладзеў ад некачаных міласцей камергера двара яго імператарскай вялікасці.

* * *

Адзіны ілюзіён, адкрыты на Захараўскай вуліцы, па вечарах заўсёды быў перапоўнены. Праграма ілюзіёна мянялася кожныя два-тры дні і складалася з кароткіх відавых карцін, накшталт: «На Альпах», «Ніагарскі вадапад», «Па ваенна-грузінскай дарозе». Часта дэманстрыраваўся патэ-журнал, а камедыя накшталт «Поспех танцаўшчыцы» альбо «Доктар жэніцца»—была абавязковай у кожным рэпертуары. Ілюзіён быў вялікай навіной і кожная праграма мела вялізныя зборы. Нават у трывожныя жнівеньскія дні, калі з усіх канцоў Расіі—ад Варшавы да Благавешчанска ішлі весткі аб хваляваннях, сходах, барыкадах, пагромах, арганізоўваемых чорнай сотняй—ілюзіён быў перапоўнены. У калідорах тэатра прахаджваўся акалодачны. Ён быў вельмі тоўсты і за гэта хлапчукі далі яму мянушку «Сала». За ахову «парадка» Сала штовечар забіраў сабе 10 месц, на якіх сядзелі не толькі ягоныя сваякі, але і пабочныя асобы, з якіх ён браў грошы, хаця крыху менш, чым каштаваў білет у касе.

У той час, як у ілюзіёне ішлі чарговыя «баявікі»—у другім канцы горада студэнт Якушка, скінуўшы сваю куртку, торапка дачытваў апошнюю карэктуру лістоўкі. Друкарня камітэта, калі толькі можна так назваць цёмны закапцелы ад свечак і лямп пакой, знаходзілася ў сутарэнні вялікага трохпавярховага дома. Дом належаў кіраўніцтву конкі, жыльцы ў ім мяняліся, ніжні паверх займалі склады і гэта якраз было вельмі зручна. У друкарню мелі права ўваходзіць толькі тры-чатыры чалавекі і, апрача аднаго наборшчыка-прафесіянала—худога, хваравітага, прапітанага свінцовым пылам чалавека—набіраць навучыліся і дапамагалі студэнт, ён-жа карэктар і аўтар шматлікіх лістовак, столяр Катляроў, Жукаў, часам-жа і Мартынаўна. Лістоўка была ўжо набрана і Якушка спяшаўся хутчэй выправіць апошнія памылкі, каб разносчыкі паспелі раздаць яе на другім і трэцім сеансах у ілюзіёне.

— Жукаў, вы паставілі коску ў трэцім абзацы?..

— Пасля слоў «і мы заклікаем да стачкі».

— Так, так, там...

— Зараз пастаўлю.

— Ну, цяпер можаце друкаваць,—і студэнт, устаўшы з-за століка, закурыў.

— Вы на колькі гадзін выклікалі разносчыкаў?—зноў звяр-

нуўся ён да тэлеграфіста, які ў сваёй сіняй куртцы з закасанымі рукавамі цяпер цалкам быў падобны на наборшчыка...

— Як звычайна. На восем...

— На тым-жа самым месцы?

— Так, ля помніка Александра...

— Трэба сказаць, каб яны і помнік заляпілі, як толькі звечарэе.

— Добра.

... На экране ішлі апошнія кадры вясёлай кіно-камедыі. Ілюзіён дрыжэў ад рогату. Якісьці - дзівак-доктар у ролі каханка трымаў сябе непераўзойдзена і ягоная горача каханая дзяўчына па віне доктара атрымоўвала заместа цукерак хінін і замест шакаладу—лякарства ад хваробы страўніка...

Рогат не сціхаў. Гэта была самая лепшая мінута для разносчыкаў лістовак—і яны непрыкметна, бясшумна разносілі па зале лістоўкі, накіраваныя супроць курлоўскага самавольства, з заклікам да стачкі.

Як толькі запалілі святло і гледачы пачалі накіроўвацца да выхаду, многія ўбачылі пад нагамі вузкія кавалкі паперы, накшталт тых праграмак, што прадаюцца ля ўвахода ў ілюзіён.

Акалодачны Сала—да болю ў жываце нарагатаўся з таго доктара на экране:

— Ну, і дзівак-жа! Ну, і дзівак!—сказаў ён уголас і палез у кішэню за хустачкай,—пад рукі яму трапілася паперка. Ён хутчэй паднёс яе да вачэй і твар яго спахмурнеў.

— Ого, панове крамольнікі, зноў лістоўкі,—і тлусты жандар паімчаў к выхаду. Але разносчыкаў і след даўно прастыў. Людзі паднімалі лістоўкі і, не чытаючы, хавалі ў кішэні.

Гарадавы на Александраўскім скверы заўважыў белыя лістоўкі на мрамарным помніку. Ён пералез цераз загарожу і аслупянеў ад здзіўлення: увесь помнік быў аблеплены лістоўкамі і нават на твары «цара-асвабадзіцеля» была лістоўка з заклікам да стачкі. Гарадавы пачаў зрываць лістоўкі, але яны былі гэтак моцна прылеплены, што ён нічога не змог зрабіць... Давялося бегчы ў участак па дапамогу, а тым часам па вуліцах разнеслася чутка, што сам цар «агітуе» за стачку, і ля помніка сабраўся вялізны натоўп.

* *
*

Курлоў абедаў заўсёды позна. У сталовай—чакалі ці не чакалі гасцей—запальваліся кандэлябры. Лакеі ўараднай форме моўчкі завіхаліся ля стала: камергер яго імператарскай вялікасці нават у дробязях пераймаў абставіны абедаў у царскім палацы. Усе—ад швейцара да губернатара—павінны былі трымацца пэўнага этыкету і за сталом заўсёды было пышліва і нудна.

Абед падыходзіў к канцу. Начальнік жандармерыі, ацяжалелы і крыху п'яны, адкінуўся на спінку мяккага крэсла і чакаў трапнага выпадку, каб выбрацца з-за стала. Губернатар устаў і ўсе хутчэй зрабілі тое-ж самае.

— Лаўрэнці Вікенцевіч, вы гаварылі, што ўвечары будзеце мець да мяне нейкую справу. Давайце, да тэатра пагаворым.

— Ваша прэвасхадзіцельства, мы днямі атрымалі вельмі важныя паведамленні. Вы можа згадзіліся-б выслухаць агента?

У губернатара Курлова было самае што ні на ёсць паліцэйскае сэрца, і начальнік жандармерыі ведаў, што няма для яго большай прыемнасці, як гэтая сустрэча адзін на адзін са сваім «чалавекам» з падполля. Губернатар нават павесялеў...

— Цудоўна, Лаўрэнці Вікенцевіч, але дзе-ж мы яго прымем?

— У вас, ваша прэвасхадзіцельства. Мы яго з двара правядзем...

— Добра, добра,—і, папрасіўшы прабачэння у гасцей, Курлоў і начальнік жандармерыі паважна вышлі з сталовай.

* * *

... Мартынаўне не падабаюцца паводзіны Цвіка. Па вечарах ён часта некуды адлучаецца. Пазаўчора ён прычакаў яе ля дэпо, і калі яна, здаўшы касу, пайшла да хаты, ён дагнаў яе і пайшоў побач.

— Мартынаўна, можна з вамі?

— Можна.

— Ведаеце, я з пэўнага часу заўважаю, што мне нібы не давяраюць, таму я хацеў-бы пагаварыць з вамі.

Мартынаўна азірнулася.

— Што гэта вы раптам завялі такую размову на вуліцы?

— Не магу цярпець такіх адносін,—працягваў Цвік, ледзьве спраўляючыся ісці побач з жанчынай.—Гаварылі, што дасцё лістовак, не давяраеце і ўсё стараецеся без мяне... Я ўсёй душой адданы справе нашай, балюча мне.

Мартынаўна, нібы не дачуўшы ягонай скаргі, перавяла гутарку на другую тэму і ля варот развіталася.

Цвік паволі пайшоў назад. Ён не чакаў гэткай няўдачы. Дзе друкуюцца лістоўкі? Чортава баба, у пяты раз ён робіць спробу хоць што-небудзь даведацца аб гэтым, але ўсё дарэмна. Цвік павярнуў на Крашчэнскую і раптам убачыў, як з дома, што на рагу, вышлі два чалавекі, якіх ён ведаў па сустрэчы на кватэры ў столяра Катлярова.

— «Тут,—раптам мільганула думка і, каб не быць заўважаным, ён нырнуў у бліжэйшы пад'езд.

Нікому не расказваючы аб гэтай выпадковай сустрэчы, ён два дні круціўся вакол таго дома, а ў вечар, калі па горадзе пайшла лістоўка, знайшоў некалькі экземпляраў яе і пабег на «даклад».

Пасля гутаркі з Цвікам Мартынаўна зусім пераканалася ў тым, што студэнт правільна рабіў тады, калі лаяў яе за неасцярожнае запрашэнне неправеранага чалавека. Не, ён больш чым неправераны, ён падазроны чалавек.

Лістоўка была надрукавана. Мартынаўна зайшла ўзяць яе для сваіх хлапцоў з конкі. І ў гэты час яна заўважыла Цвіка, як той уваходзіў у суседні двор. Што яму тут трэба? Няўжо сочыць?..—і, непрыкметна перайшоўшы на другі бок вуліцы, яна рашыла сама пасачыць за ім.

Пяць гадзін, якія яна аддала на гэта, цягнуліся, як годы. Ногі падгіналіся ад стомленасці. Мартынаўна хацела ўжо кінуць сачыць

за ім, бо не хапала ўжо сілы. І раптам ёй пашанцавала: яна прыкмеціла, як Цвік падняўся на Захараўскую, пасля павярнуў на Губернатарскую... Ля варот губернатарскага двара ён прыпыніўся, зірнуў назад і знік. Больш Мартынаўне нічога не трэба было. Задыхаючыся ад хвалявання, яна пабегла, каб папярэдзіць сваіх. А цераз гадзіну ад падпольнай друкарні не засталося і следу. Яе своечасова перанеслі ў новае месца. У тры гадзіны начы ўзмоцнены паліцэйскі нарад на чале з самім начальнікам жандармерыі губерніі абшукаў увесь дом, але, вядома, нічога не знайшлі.

Раніцой паявілася новая лістоўка, у якой пісалася аб здрадніцкіх паводзінах Цвіка. У тую-ж ноч ён некуды знік. А ў поўдзень арыштавалі Мартынаўну.

* * *

Хваляванне не сціхала. У велізарны будынак Расійскай імперыі пранік агонь і царскае самаўладства, не гледзячы на шматлікія рэпрэсіі і тэрар, не магло патушыць яго. Не спыняліся забастоўкі. Да будаўнікоў далучаліся металісты, да металістаў гарбары. Раслі барыкады. Хваляванне з аднаго горада перакатвалася ў другі. Накіроўваліся карныя атрады, на чырвоных штандарах гарэла свежая кроў паўшых герояў і клікала да помсты.

Не сціхала рэволюцыйная бура і ў Мінску.

Большэвікі на шматлікіх сходах, у лістоўках, напісаных вобразнай, народнай мовай, рабілі ўсё, каб накіраваць рэволюцыйную хвалю па правільнаму цячэнню, але меншавікі і бундаўцы здраджвалі справе працоўнага народа. У хваляваннях і частых сутычках прайшло лета. Пажоўкла лісце на дрэвах, пачалі дзмуць халодныя восеньскія ветры. Якушку даўно ужо трэба было быць у Пецербурзе, але ён не ехаў. Зняў, каб не вельмі кідалася ў вочы, студэнцкую форму. Пасля арышта Мартынаўны ён некалькі дзён прыкмячаў, што за ім сочаць. Два тыдні не выходзіў на вуліцу, цераз Катлярова трымаў сувязь з Жукавым і таварышамі...

Позна ўночы 17 кастрычніка, калі Якушка ўжо меркаваў легчы спаць, у акно да яго асцярожна пастукалі...

Накінуўшы на плечы паліто, вышаў у калідор.

— Хто там?

— Адчыніце, Якушка,—гэта Жукаў. Вы ўжо спаць збіраецеся?

— Не, дарма, уваходзьце.

— Паглядзіце, што мы прынялі зараз па тэлеграфу з Пецербурга.—І Жукаў даў студэнту некалькі тэлеграфных лісткоў.

Якушка пачаў іх чытаць.

— Даруйце, Жукаў, але гэтая фількіна грамата не варта клопату,—і ён кінуў тэлеграфныя лісткі на стол.

— Я вас вельмі добра разумею, дарагі Якушка,—Фількіна грамата заўсёды застанецца ёю, але-ж гэтая губернатарская бестыя не дазваляе друкаваць у мінскіх газетах «маніфест», хаваючы яго ад людзей.

— Што вы кажаце!—зацікавіўся студэнт.—Баіцца. От, шэльма.

— А ў мяне такая думка,—гаварыў далей Жукаў, закурваючы,—

трэба патрабаваць вызваления палітычных з турмы і ў першую чаргу вырваць з іхных паскудных лап Мартынаўну.

— Гэта трэба зрабіць,—згадзіўся Якушка.

Да раніцы заставаўся Жукаў на кватэры ў Якушкі. Яны нават і не кладіся спаць і падлога невялічкага студэнтавага пакойчыка была закідана акуркамі. Калі яны вышлі, яшчэ толькі світала, а ўжо на вуліцах было людна. Конка не працавала. Праходзячы каля электрастанцыі яны ўбачылі пікетчыкаў з чырвонымі павязкамі на рукавах. Электрыкі забаставалі.

Якушка раптам адчуў надзвычайны прыліў сілы. Жукаў ледзьве спраўляўся ісці за ім. Па дарозе яны сустрэлі Катлярова. Ён сказаў, што ўсе ідуць у бок прывакзальнай плошчы, што чыгуначнікі абвясцілі забастоўку і склікаюць горад на мітынг.

Раптам па Захараўскай пранесліся конныя жандары. З тратуараў пачуліся пагрозныя крыкі:

— Не праливайце людской крыві, каты!

Хтосьці хацеў кінуць камень услед жандарам, але яго стрымалі. А людзей на вуліцах усё больш і больш. Магазінаў не адчынілі.

Мінуўшы будынак банка, Якушка і Жукаў дагналі бабульку. Бабулька, трымаючы за рукі двох унучак, гаварыла ім:

— Можа, галубочкі мае, і вашага бацьку сёння выпусцяць. Бач іх, народу цёмная хмара і ўсе к турме ідуць. За народную справу бацьку пасадзілі, народ і патрабуе вызвалення сваіх абаронцаў. Ах, Ванечка.

Больш Якушка і Жукаў нічога не пачулі, але яны зірнулі адзін на аднаго: «Ці ўбачаць сёння дзеці свайго бацьку?»—адразу з'явілася ў абодвух думка.

Зусім развіднела. Позняе восеньскае сонца скупа асвяціла гарадскія вуліцы і будынкі. Па бруку прайшла група рабочых. Якушка пазнаў сярод іх слесароў з Якабсонаўскага завода. Яны ішлі моўчкі, плячо к плячу. У першым радзе ішоў Катляроў. Гэта былі людзі з яго гуртка і, негледзячы на такі ранні час, ён ужо сабраў іх.

— Ён правільна робіць,—кіўнуў Жукаў галавой у бок Катлярова.—Кожны павінен быць на сваім месцы. Я пайду к чыгуначнікам.

— Добра,—згадзіўся Якушка і развітаўся з Жукавым.

Плошчу, што прылягала да Віленскага вакзала, нельга было пазнаць. Звычайна на ёй можна было сустрэць толькі некалькіх пасажыраў ды рамізнікаў, у любую пагоду захутаных у свае пашарпаныя кажухі. Цяпер-жа на плошчы было поўна народу. Якушка ледзьве прабіўся бліжэй к вакзалу. У натоўпе багата было жанчын. Яны ажыўлена і голасна гаварылі.

— Мой надоечы з вайны вярнуўся,—працягла гаварыла стараватая жанчына са слядамі воспы на твары.—У Порт-Артуры быў. Левую руку адрэзалі, пакутуе небарака—ні работы, ні дапамогі, хоць ты з торбай у свет ідзі.

Раптам хтосьці крануў Якушку за плячо. Ён азірнуўся. Перад ім была сястра Мартынаўны.

— Аляксей Змітравіч, а Ганюшы няма з намі...

— Вы нічога не атрымалі ад Мартынаўны?—спытаў студэнт, вітаючыся з дзяўчынай.

— Чакайце, была запіска, ды не захапіла я яе з сабой. Скардзіцца Ганюша, што цяжка ў такія дні ў турме ўсядзець.

У гэты час з вакзала вышла група чыгуначнікаў, на чале з Жукавым. Аднаго з іх Якушка ведаў: ён быў з Пецербурга. Жукаў трымаў у руках чырвоны сцяг і, калі ён падняў яго над галавой, натоўп сціх. Жукаў заўсёды лічыўся лепшым аратарам, а цяпер ён гаварыў з асаблівай сілай. Ля Якушкі ў натоўп нырнуў якісьці сухарлявы чалавек у акулярах, дэмісезонным паліто і капялюшы.

— Панове, дзе ваш розум, панове, разыходзьцеся!—піскліва выкрыкваў ён.

У гэтую мінуту ля чалавечка ў паліто вырас высокі дзяцюк, відаць малатабоец, і, схапіўшы сухарлявага за каўнер, грозна спытаў:

— Скажы, меншавіцкая морда, колькі табе заплаціла ахранка за твае паскудныя словы?..

Чалавек у акулярах скурчыўся і знік. Жукаў скончыў гаварыць, на яго месца стала немаладая ўжо жанчына, тая самая, у каторай муж страціў руку на вайне. Ад мітынгуючых аддзялілася вялікая група людзей і рушыла ў бок турмы—вызваляць палітычных. Якушка пайшоў разам з імі. Было дзіўна, што гарадавыя, як і раней стаяўшыя на сваіх пастах, ніяк не рэагавалі на тое, што робіцца на вуліцах.

Якушка адчуваў, што за ўсім гэтым крыецца нешта нядобрае, але ў гэтыя мінуты было гэтак лёгка і чорныя думкі знікалі, як дым.

Хтосьці падаў думку ісці к губернатару. Калі натоўп падышоў к губернатарскаму дому, Курлоў амаль адразу вышаў на балкон. Пахмуры, злосны, ён абвёў прысутных мутным зрокам і хрыпатым голасам крыкнуў:

— Панове, я ўжо аддаў загад вызваліць палітычных... панове, разыходзьцеся па дамах...—і потым, нечакана павярнуўшыся, ён знік за шклянымі дзвярмі.

У гэты-ж час з яго кабінета выходзіў камандзір Окскага палка, які атрымаў катэгарычны загад: страляць, страляць, страляць, не шкадуючы ні патронаў, ні людзей.

З турмы вышла невялічкая групка палітычных. Якушка, хвалюючыся шукаў вачыма Мартынаўну. Яна вышла апошняй, змучаная і вельмі пастарэлая. Студэнт кінуўся к ёй і горача паціснуў рукі:

— Аляксей Змітравіч, друкарню не выкрылі?

— Не, Мартынаўна, не, але як вы змяніліся... Вам трэба адпачыць, чакайце, я знайду фурмана.

— А куды гэта ідзе натоўп?

— К вакзалу, там мітынг.

— Пойдзем разам...

І яны прабіліся ў першыя рады. Якушка дастаў з бакавой кішэні паліто чырвонае палотнішча і асцярожна развінуў яго. На сцягу быў надпіс буйнымі літарамі: «За справу рабочага класа—уперад!» Шмат у каго на грудзях паявіліся чырвоныя банты.

Якушка ўбачыў дзвюх дзяўчынак-аднагодак, што спаткаў на вуліцы. Яны з абодвых бакоў учапіліся ў высокага чалавека, відаць, бацьку і шчаслівыя засыпалі яго пытаннямі.

Ля самай плошчы натоўп, спачатку не суладна, а пасля ўсё страйней і страйней заспяваў рэволюцыйную песню. І, як толькі змоўклі апошнія словы песні, раптам з пераходнага моста грымнулі стрэлы. Спачатку ніхто не зразумеў у чым справа. Здзіўленыя нечаканым грукатам, людзі, забыўшыся на тое, што быў кастрычнік месяц, неўразуменна пазіралі на неба—няўжо гром,—але праз момант сумненні зніклі.

Некалькі залпаў грымнулі адзін за адным.

— Страляюць!—закрычаў нехта ў натоўпе.

Стралялі з розных месц—з моста, з вокнаў вакзала, з дахаў.

Кулі ўразаліся ў натоўп, які з першай-жа мінуты застыў. Забітыя, параненыя, сціснутыя з усіх бакоў, стаялі нерухома і толькі, калі людзі кінуліся ўцякаць, грузна быццам снапы, пападалі на зямлю.

Хваля народнага гнева расла... Пачуліся стогны параненых. Гарадавыя ўрэзваліся ў натоўп з боку Міхайлаўскай вуліцы і, пусціўшы ў ход зброю, пачалі расстрэльваць людзей. Людзі кінуліся ў розныя бакі, шукаючы прытулку ў брамах, у дзверах магазінаў, але подлыя каты—курлоўскія слугі, ведаючы аб падрыхтоўваемай крывавай расправе—яшчэ да пачатку яе пазамыкалі ўсе брамы.

— Здрада, здрада!—крыкнула жанчына, у каторай мужа паранілі на вайне.

Гэта былі яе апошнія словы. Бязлітасная куля зваліла яе ў тую мінуту, як яна, падхапіўшы горка плакаўшага шасцігадовага хлопчыка, кінулася бегчы.

Сухарлявы чалавечак у акулярах ішоў услед за тлустым жандарам і пальцам паказваў яму на палітычных гадзіну назад вызваленых з турмы.

Стогнамі поўнілася плошча. У самым цэнтры плошчы перамяшаліся цяжка параненыя і забітыя, стварыўшы гурбу з цел.

Якаясьці маладая дзяўчына ў хустачцы і лёгкім асеннім паліто, заўважыўшы, як жандар цэліцца ў сцяганосца, падбегла ззаду і ў тую мінуту, як ён хацеў стрэліць, з усяе сілы ўдарыла яго па руцэ. Куля ўрэзалася ў зямлю. Спалоханы жандар павярнуў галаву і дзяўчына заляпіла яму аплявуху.

— Вось вам, каты..

Двое рабочых, што стаялі ў гэты час ля самай сцяны дома і ўсё бачылі, кінуліся на дапамогу адважнай дзяўчыне і, паваліўшы жандара, пачалі таптаць яго нагамі...

Жукава паранілі ў руку. Хустачкай ён перавязаў руку. Кроў сачылася скрозь платок, каплямі капаючы на камні. Але ён не ўцякаў.

— Які жах... які жах...—шаптаў ён перасохлымі губамі.—Мы адпомсцім, перамога будзе нашай,—гаварыў ён сам сабе і гэтыя словы нібы змякчалі трагічнасць становішча людзей.

Стрэлы сціхлі. Дзесяткі людзей засталіся ляжаць на плошчы.

Адны, забітыя, ляжалі з раскінутымі рукамі і застыўшым зрокам, другія—цяжка параненыя стараліся падняцца альбо паўзці, але, страціўшы сілы, зараз-жа бяссільна падалі на зямлю, трэція—з лёгкімі ранамі, прыгнуўшыся ішлі сярод цел, спатыкаючыся і азіраючыся.

Прадстаўнік пецербургскага камітэта (яго ведалі пад прозвішчам «Тодар») адшукаў вачмі Жукава і торапка падышоў да яго. Ён крануў яго за плячо:

— Вы паранены?

— Глупства.

— На станцыі ёсць медпункт?

— Так, ёсць, штосьці падобнае.

— Пайшлі.

Цераз некалькі мінут «Тодар» і дзве медыцынскія сястры, вельмі падобныя адна на адну, паднімалі параненых, перавязвалі ім раны... Нейкі вусаты гарадавы спрабаваў перашкодзіць гэтаму, але «Тодар» груба адшурхнуў яго і злосна крыкнуў:

— Глухі чорт, хіба ты не чуеш стогнаў?

Вестка аб крывавай расправе маланкай абляцела горад. К плошчы пайшлі дзесяткі людзей.

Сівы металіст з Якабсонаўскага завода знайшоў сярод забітых сваю дачку. Дрыжачымі рукамі ён падняў маладую дзяўчыну год 17-18 з бялявымі косамі, падаўшымі на плечы.

— Нюша, Нюшанька...—сказаў ён, стрымліваючы слёзы і, упаўшы на калені, пачаў цалаваць халодныя шчокі. Холад мёртвага цела ацвярозіў яго. Ён устаў і, сціснуўшы кулак, пагразіў у паветра:

— Будзьце пракляты, каты, мы адпомсцім вам, адпомсцім,—і ён зноў упаў на калені, схіліўшы галаву на плечы любімай дачкі.

Якушка азірнуўся.

На бруку раскінуўшы рукі ляжала Мартынаўна. Яна ляжала з напалову закрытымі вачамі і побач з ёю з прабітым чэрапам дзяўчынка, тая, што некалькі мінут назад шчасліва шчабятала ля бацькі...

Якушка схіліўся і дрыжачымі рукамі накрыў Мартынаўну чырвоным палатнішчам. Міма яго прайшоў, кульгаючы, рабочы. Твар яго быў узрушаны, пасівелыя валасы пакудлачаны, па сціснутых зубах відаць было, што ён ледзве стрымлівае велізарны боль.

— У, сволачы...—хрыпатым голасам крычаў ён,—выпусцілі з турмы, каб зрабіць нас жывымі мішэнямі!

Раптам з-за рога вуліцы вышла група дэманстрантаў. Згуртаваўшыся вакол сцяга, які нёс Катляроў, дэманстранты спявалі. Якушка кінуў развітальны позірк на Мартынаўну і, далучыўшыся да дэманстрантаў, разам з імі заспяваў: «Смело, товарищи, в ногу, духом окрепнем в борьбе»...

І словы гэтыя 18 кастрычніка 1905 года доўга звінелі над плошчай, абмытай крывёй, што носіць цяпер імя барацьбітоў, загінуўшых за справу працоўных,—крывёй, што гарыць на нашых штандарах і кліча к барацьбе і перамогам.

Мінск, 1939 г.

*Пімен Панчанка*

# БЯРОЗА

Не раз прыходзіў я з далёкае дарогі
Паслухаць звон тваіх блакітных хваль,
Вады папіць, натруджаныя ногі
Абмыць
І зноўку рушыцца у даль.

Стаю на беразе...
Вось так рака вякамі
То ў дзікай ярасці,
То ў ціхім сне плыве.
Тут кожны куст,
Тут кожны светлы камень
Паданнямі маўклівымі жыве.

Рака мая!
Ты сведка страшных дзён.
Шмат таямніц на дне ты пахавала.
Свой гонар патапіў Напалеон
Пад завірухі гул у тваіх хвалях.

Гляджу у глыб—
Там дзён мінулых жах.
На хвілю я самкнуў павекі,
І з цемры выплыла нядоля на плытах
Пад енк журботны дзедавай жалейкі.

На гэтым беразе хадзіў калісь рыбак—
Далёкі родзіч мой няшчасны,
І песня гнеўная гарэла на губах,
Шукала сонца
І гукала шчасце...

Бяроза, помніш ты,
Як твой пакутны сон
Парушыў Ленін перуновым клічам:
Як армію Будзённы між лясоў,
Вёў на уланаў хмарай навальнічнай.

Мне радасна,
Што тут Серго калісь,
Як я цяпер, стаяў па-над ракою.
Шчаслівы я:
Вакольныя палі
Наш Сталін засяваў упэўненай рукою.

І змоўк жалейкі плач,
І знік балотны сум
Не стогнуць пушчы хмурныя ад жалю.
Як веліч слаўных спраў,
Як вынік мудрых дум,
Шумяць палі багатым ураджаем.

Бяру у прыгаршчы празрыстае вады—
І сонца трапяткое у руках.
Я вечна быць хацеў-бы маладым,
Такім, як ты, шчаслівая рака!

1939 г.

---

## ТУГА

Я ступіў на дарогу вясны—
прывітаўся з зялёнай вярбой,
Лугавыя вятры
мае грудзі напоўнілі сілаю свежай.
За парогам—зіма і нуда,
за парогам—раздум'е і боль,
Неспакойныя сны уначы,
Пра каханне нясмелыя вершы...

Завіруха чарэмшын мяне
Захапіла у белы палон,
А ў садзе ад бліскавіц
Загарэлася полымя бэзу...
Гэта ты, дарагая, мяне
Ўчора клікала за сяло
Слухаць гутарку зорак і траў,
Слухаць байкі дрымотнага лесу?
Не, то, пэўна, не ты...
Ля гумна
зажурылася вішня ў цішы.
І чакае кагосьці,
свой твар
захінуўшы пуховай хусцінкай.
Сумаваць я, сябры, не прывык.
А сягоння на сэрцы ляжыць
І ніяк не праходзіць туга
па маленькай чарнявай дзяўчынцы.

Я чакаў да паўночы цябе,
Рагаталі у пушчы сычы,
Пралятали сугрунь кажаны
Метэорамі нада мною.
Я чакаў да паўночы цябе,
За паводкаю зорак сачыў...
Ты ка мне не прышла... І тады
Я сустрэўся з пякучай тугою.
Як-жа гэта здарыцца магло?
Як магла ты сяброўства парваць?
Не іначай табе пра мяне
У сяле наплялі маладзіцы...
Абыйду і палі, і лясы—
Я павінен цябе адшукаць:
У завеях плялёстак блакітных
Няцяжка цяпер заблудзіцца.

1939 г.

*Леанід Гаўрылаў*

## РАДАСЦЬ

Не шкадую, што аддаў для друга
Шчырасць сэрца, ласкі і цяпла...

Зноў вясна па сцежках і яругах
Цёплымі дажджамі пацякла.
Сонечным аблітая праменнем,
Зноў зямля зялёная цвіце,
Песнямі-вяснянкамі струменіць,
Лістам лапушыцца ўсё гусцей,
Сочная ў нязмераных разорах
Сілай нястрыманаю гудзіць...

Вечарам рассыпаліся зоры,
І адна ў акно мае глядзіць.
Шчыра так глядзіць і не міргае,
Як раптоўнай радасці сляза.
Што ты хочаш, зорка дарагая,
Ды не можаш мне пераказаць?
Я-ж перад табой не захаваю
Палкае жаданне, не ўтаю...

Дзе ты, радасць? Я цябе шукаю!
Ці знайду жаданую, сваю?—
...Я прайдуся маладжавым садам
Па душыстай маладой траве,
На пянёк імшысты я прысяду—
Нада мной засвішча салавей,
Закалышуцца суквеццем вішні,
У вуллі задзвынкае пчала...

Тут нішто не можа стацца лішнім,
Што вясна да руху прывяла.
І так хочацца сказаць жывому
Чалавеку, лепшаму сябру:
У сабе я ўвесь вясновы гоман
У адзнаку дружбы сабяру!
Бор сыры, шумі, шумі лістамі,
У лілеях плавай ты, рака...

Я ніколі пець не перастану,
Адчуваючы ў сваіх руках
Цяплыню рукі сяброўскай. Знаю!
А калі і скончан будзе спеў—
Я скажу: люблю цябе, мой краю,
І за тое, што пражыць паспеў!
А пакуль жывы, то буду рухаць
Па вясне наперадёт, уплаў...

Буду рад, калі аддам для друга
Шчырасць сэрца, ласкі і цяпла!

---

*Павел Слесараў*

# ЁЛКА

Цэлы дзень ўбіралі ёлку,
Доўга-б красавацца ёй.
Ну, не ёлка,
Комсамолка
Год семнаццаці.

Ты пастой, іглістая,
На назе смалістай,
Стройная, пахучая.
Упала з неба чыстага
Зорачка бліскучая.

Убяром цябе, густая,
Мы не ватаю—сняжком.
Толькі чуем—начзаставы
Выклікае нас з дружком.
— Цешыцца вам ёлкай люба,
А ў вярсце граніца.
Апранайце хутчэй шубы,
Нацe рукавіцы.
Вось ляглі мы ў кусты
Як дзве шпалы,
Два пласты.
Друг мне ціха: ног не чую,
Сцюжа злая, воўчая.
— Мерзні,—
У адказ шапчу я,
Мерзні, толькі моўчкі...

Качанеюць пальцы нашы,
Іней да брывей прыліп.
У гэты час мы чуем кашаль,
Нейчы шорах,
Нейчы хрып.

Снег...
Дзівосная пагода.
Падняліся мы ураз.
— Стойце, ворагі народа,
Рукі ўгору. З новым годам
І з правалам вас.

## ВОСЬМАЯ АТАКА

Пяць раз наступала
Японская рота
З лепшых адборных салдат,
А лівень агністы з двух кулямётаў
Адкідваў роту назад.

У шосты раз
Пайшло дзве роты
Упартых японскіх салдат,
А лівень агністы з двух кулямётаў
Адкінуў дзве роты назад.

У сёмы раз
Пайшло тры роты
Бясстрашных японскіх салдат,
А лівень агністы з двух кулямётаў
Адкінуў тры роты назад.

У атаку паслалі
Рэзервы пяхоты,
Быў ярасным крык яе.
Калі-ж да акопа дарваліся роты—
Ля двух
Ужо змоўкшых даўно кулямётаў
Ляжаў адзін толькі баец.

На русыя кудры яго быў надзет
Прастрэлены кулямі сіні берэт.
І самыя п'яныя,
Самыя смелыя
Пазналі дзяўчыну у ім—і счырванелі.

---

## БАЛТЫЕЦ

Яму прапаноўвалі йен, папярос.
— Скажы нам,
Схаваў дзе Лазо ты?
Маўчаў матрос, усміхаўся матрос,
Брацішка з Балтыйскага флота.

Тры дні селядцом кармілі знарок.
— Скажы нам,
Схаваў дзе Лазо ты?
Маўчаў матрос, усміхаўся матрос.
Брацішка з Балтыйскага флота.

Збітага кінулі на мароз.
— Скажы нам,
Схаваў дзе Лазо ты?
Маўчаў матрос, усміхаўся матрос,
Брацішка з Балтыйскага флота.

Кур'ерскі пад гору
З шумам ішоў.
— Скажы—і адпусцім матроса.
Ён варту расштурхаў,
Плячамі павёў
І кінуўся сам пад калёсы.

*Пераклаў з рускай мовы Цім. Крысько*

*Тодар Курбацкі*

## У ГОСЦЯХ

На парозе стрэла маці,
Ўсхваляваная да слёз.
Вось і ў бацькавай я хаце,
Дзе радзіўся і падрос.

Стол накрыты і прыбраны
Ды устаўлены ядой.
Сын мой, госць ты мой каханы,
Сядзь на покуце са мной.

З бліжніх хат прышлі суседзі
К свайму даўняму сябру.
Колькі шчырасці ў бяседзе...
Ўзняўшы чарку гавару:

— За здароўе і за долю...
Я жадаю ўсёй душой,
Каб шумела ваша поле
Самай важкай збажыной.

Каб жылі калгасам гэтак,
Як у згодзе з братам брат.
За харошых вашых дзетак,
Піонераў, акцябрат!..

За сялом, дзе хвалі хлеба
На зямлі былых балот,
Задажджыла вокал неба
Ім на добры умалот.

---

## ПРА ЦЁПЛУЮ ВЯСНУ

Вясёлаю зялёнай галавою
Кусты прыпалі к беламу акну,
Ізноў шуршыць папера пад рукою,
І тчэцца верш пра цёплую вясну.

Жыццё маё, паэзія і думы,
Як добра йсці па радаснай зямлі,
Адчуць, як лашчаць баравыя шумы,
І дышуць сонцам плённыя палі.

Пад яснай сінявой у маім краі
Усюды рэкі чыстыя бы шкло.
...Мой край!.. Ты сілы к творчасці ўздымаеш,
Каб сэрца шчасцем пела і жыло!..

З азёрамі, з бясконцымі лясамі
У поўнай сіле маладосць зямлі.
Вясна праходзіць мяккімі палямі,
Чародкі хмар з-за мора прыплылі.

От задажджаць, схмурнеюць у адценні,
Тады над полем, гаем і ракой
Вясёлка ўстане ў сонечным ірдзенні
Празрыстай сіняватаю дугой.

1939 г.

*Віт. Вольскі*

# ЦУДОЎНАЯ ДУДКА

*П'еса-казка ў 3-х актах (7 карцін)*

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

ЯНКА—пастух.
БАЦЬКА } бедныя сяляне.
МАЦІ }
МАРЫНКА
ПАН
ВОЙТ
КАРОЛЬ ДУРЫМОНТ
КАНЦЛЕР
АСТРАЛОГ
ПОВАР
СТАРЫ СЛУГА
ПРЫДВОРНЫ ПАЭТ
КАРАЛЕВА
СЫНЫ КАРАЛЯ (2)
ДАЧКІ КАРАЛЯ (2)
НАЧАЛЬНІК ВАРТЫ
ГАНЕЦ
ВЕЛІКАН
КАТ З СЯКЕРАЙ

Прыдворныя, вартавыя, слугі, сяляне, гайдукі.

*У аснову песні Марынкі (акт III, карц. 7) пакладзен тэкст П. ТРУСА*

---

## Пралог

Дзед-казачнік

Паслухайце, любыя дзеткі,
Краіны шчаслівай кветкі,
Пра сівое мінулае казку,
А да казкі спачатку завязку.

Вы пабачыце тут самі,
Як жылося за панамі
У стары, далёкі час.
Вось аб тым і будзе сказ.
Беднякоў дык не лічылі
Пры панах і за людзей,

А паны дык добра жылі,—
Самі былі за судзей.
Што хацелі, то рабілі,
Добра елі, смачна пілі.
Дзень і ноч яны гулялі,
У палацах піравалі.
Самі дык не працавалі,—
Нашу працу спажывалі
Ды не ведалі турбот
І няволілі народ.
А сяляне ў горы жылі
І панам прыгон служылі.
Горш за ўсё быў для сялян
Злыдзень люты, польскі пан.
Так даўней было у нас
У стары далёкі час.
Гэта прыказка вядзецца,
Потым казка распачнецца.
Мы раскажам вам пра Янку,
Што разумным быў хлапцом,
Не баяўся войта з панам,
Ды спрачаўся з каралём.
Як хадзіў шукаць ён праўду,
Каб народу волю даць,
Каб з панамі разлічыцца
Ды на іх не працаваць,
З веліканам як змагаўся,
Як сумеў яго прагнаць,
Як прымусіў веліканa
Дудку дзіўную аддаць.
Як яго кароль з панамі
Спрабавалі ашукаць,
Але Янка іх прымусіў
Пад сваю дуду скакаць.
Як у вёску ён з'явіўся,
З панам лютым разлічыўся,
Як скакалі пан і войт,
Як іх з вёскі гнаў народ.
Ёсць у казцы і Марынка,
Вельмі-ж любая дзяўчынка.
Нават Янкі бацьку, маці,
Усіх вы зможаце пабачыць.
Вось і скончыў я завязку,
Паглядзіце-ж, дзеці, казку.
Ціха, дружна вы сядзіце
Ды ўважліва сачыце.
Пачынаецца паказ
Пра стары, далёкі час.

(Выходзіць. Узнімаецца заслона).

## АКТ ПЕРШЫ

### Карціна першая

### У БАЦЬКОЎ.

Бедная сялянская хата на ўзгорку, ля ўскраіны вёскі. Каля хаты дрэва з гняздом бусла. Летні вечар. На прызьбе сядзіць Маці і латае старую кашулю, спяваючы журботную песню. Навокал далёка раскінуўся беларускі краявід.

Маці *(спявае):*

Як малою я ў калысцы ляжала,—
Гора за мною ў галавах стаяла.
Як малою каля лаўкі хадзіла,—
Гора мяне за ручку вадзіла.
Я ад гора за сіняе мора,—
Гора за мной у чаўночку плыве.
Я ад гора ў грыбы пайшла,—
Гора за мною кашолку нясе.
Я ад гора ў пасцельку лягла,—
Гора за мною ў нагах стаіць.
Я ад гора ў магілу пайшла,—
Гора за мною з лапатай ідзе.
Я ад гора закапалася,—
Тады гора адчуралася.
Пайшло гора па беламу свету,
Па тых бедных удовічках,
Па тых дробных сіротачках... *(Уздыхае).*
Ой, гора маё, жыццё наша цяжкае...

*(Уваходзіць Марынка)*

Марынка. Добры вечар, цётачка!
Маці. Добры вечар, дачушка.
Марынка. Ваш Янка йшчэ не прыходзіў?
Маці. Янка? Не, даражэнькая, ні старога майго няма, ні Янкі. А навошта ён табе?
Марынка. Так... Даўно бачыла...
Маці *(усміхнулася).* Даўно?.. Ты-ж кожны дзень у нас гуляеш.
Марынка *(засаромілася).* Цётачка, чаму вы заўсёды такія сумныя песні спяваеце?
Маці. Жыццё наша такое, любая. *(Уздыхае).* Ні табе адпачынку ніколі, ні хлеба даволі. Стары мой працуе ад ранку да ранку, а ўсё пану ідзе... Праўду стары мой кажа: дзе людзі бяднеюць, там паны багацеюць. Так вось і з намі, галубка,—мы бяднеем, а пан сабе новыя палацы будуе. І зямлі ў яго даволі,—як вока схопіць, а зямля добрая, тлустая, ураджайная. Здаецца, пасадзі дзіця, дык і тое вырасце...
Марынка *(смяецца).* Такое пану жыццё, што і паміраць не трэба.
Маці. Але, галубка. Ад дабра ў яго аж будоўля ломіцца, а яму ўсё мала. Дзень і ноч працуем на яго, гаруем, як валы, каб

зарабіць крыху хлеба, а ўсё рады няма, заўсёды галодныя сядзім, ніколі светлай часіны не бачым...

Марынка. Цётачка, сёння войт усё нешта лаяўся, вашаму дзядзьку пагражаў.

Маці (занепакоілася). Авохці мне! Што ты кажаш? Чаго-ж гэта старога, сапраўды, дагэтуль няма?

(На дрэве заклекатаў бусел, Абедзьве зірнулі на яго)

Маці. Людзі кажуць, дзе бусел, там і шчасце. А ў нас шчасця ніколі, мабыць, не будзе.

Марынка. Янка кажа, што людзі самі павінны сабе шчасце здабыць.

Маці. Самі? Дурненькая ты, жыцця не бачыла.

Марынка. Янка—разумны. Ён гаворыць, што ёсць нейкая цудоўная дудка і калі яе знайсці, ды зайграць, дык паны тады ўсю сілу сваю згубяць і пад гэтую дудку заскачуць.

Маці. Мабыць, гэта байкі, дачушка. Паноў не перамагчы...

(Бусел узняўся з дрэва і паляцеў па-над вёскай, шырока раскінуўшы крыллі. Старая і дзяўчынка глядзяць яму ўслед).

Марынка. Во, паляцеў...

Маці. Вольная птушка... Куды хоча, туды і ляціць... Вось паглядзіш так на бусла, дык часам зайздросна робіцца. Такі смутак агорне, што, от, здаецца, кінула-б сваю хату, сваё гаротнае жыццё, ды ўзнялася-б за ім угару, ды паляцела-б над вёскай нашай, над саламянымі стрэхамі, над лесам зялёным, над полем, над узгоркамі ў самае сіняе неба, да яснага сонейка... Нажаль, крылляў чалавек не мае.

Марынка. Добра птушкам у небе, весела...

Маці. Яны—вольныя. А ты, як падумаеш пра тое, што ўсё жыццё сваё на пана працаваць павінен, што ніколі з чорнай работы на яго не вызваляішся, дык гэтак крыўдна робіцца, гэтак маркотна, што і свет здаецца нелюбым і жыць не хочацца.

(За сцэнай чуецца спеў. Ідуць з поля жнейкі).

Жнейкі (спяваюць):

Ах, ты, сонца, сонейка!
Што ты ўсходзіш раненька,
Што заходзіш позненька?
Ды ўсходзь ты позненька,
Ды заходзь ты раненька.
Не бывала ты ў найме,
Дык не спагадаеш мне.
Каб ты ў найме пабывала,
Дык тады-б мне спагадала.

Маці. Ці не бачылі майго старога, жанчынкі? Дзе гэта ён бавіцца?

Першая жнейка. Яго войт на панскі двор паслаў.

Другая жнейка. Ён шарваркі адпрацоўвае.

Трэцяя жнейка. Войт вакол яго бокам ходзіць ды скоса пазірае.

Маці. Авохці мне! Што гэта будзе? Што ён да старога мае?

(Жнейкі пайшлі далей, засяваўшы).

Жнейкі.

Ах ты, дзеўка, дзеванька!
Ты не злуй на сонейка.
Злуй на свайго пана.
Хоць я раненька ўзыйду,
Цябе на полі знайду,
Хоць я позненька зайду,
Цябе на ніўцы пакіну.
Снапочкі ў полі пажаны,
Жменькі не вязаны,
Да хаты йсці не казана.

(Выходзяць).

Марынка. Цётачка, ваш дзядзька ідзе...

(Павольна ўваходзіць стомлены, запрацаваны бацька).

Маці. Вось і стары мой, нарэшце.
Марынка. Добры вечар, дзядзька.
Бацька. Вечар добры, Марынка.
Маці. Позна ты сёння, стары.
Бацька. Ледзь дахаты ногі дацягнуў. Старасць—не радасць.
Маці *(ласкава)*. Напрацаваўся, бедалага?
Бацька *(садзіцца на прызбе)*. Спіну разагнуць не было як. А войт, панскі сабака, яшчэ і лаецца. Кажа, карысці з цябе няма. Кажа, пан цябе з хаты хоча выкінуць. Нікому, кажа, ты непатрэбны, стары гультай...
Маці. Ах, каб ён выхварэў, панскі пёс, нягоднік...
Бацька *(сумна)*. Стаміўся я, маці... Вядома, годы не тыя. Столькі не напрацуеш, як калісьці. *(Уздыхае)*.
Маці. Праляцела маладосць, як птушка. Усё жыццё на паноў адпрацавалі.
Бацька. Што зробіш, старая. Заўсёды так было. Мабыць і сыну такая доля суджана. Не прыходзіў яшчэ?
Маці. Не. Мабыць, хутка статак прыгоняць. Ужо час.

(За ваколіцай чуваць мычанне кароў, бляянне авечак. Вясёлы спеў пастуха Янкі)

Янка *(спявае)*. Каля лесу, каля гаю
Каля той лагчыначкі,
Ці не бачыў ты, мой браце,
Там маёй дзяўчыначкі?

Марынка. Янка з пашы вярнуўся.
Маці. Можна вячэраць.

(Бацька і маці ідуць у хату. Уваходзіць Янка, Марынка пабегла яму насустрач)

Янка *(весела)*. А, вось яна дзе... Добры вечар, Марынка...
Марынка *(радасна)*. Добры вечар, Янка... Якія ў цябе песні прыгожыя. Як паслухаеш, дык на сэрцы гэтак весела робіцца.

Я н к а. На тое і песня, каб весела было. Навошта сумаваць?

М а р ы н к а. Твая маці заўсёды сумнае спявае. Жыццё, кажа, цяжкае...

Я н к а. А я насупроць жыцця спяваю... Які сёння дзянёк быў прыгожы, Марынка. Неба—чыстае, сіняе, шырокае. А ў рацэ рыба так узгулялася, што быццам у гаршку вада кіпіць... Мы з хлопцамі песні пелі. Ды так параспяваліся, што аб усім на свеце забылі...

(З хаты вышла м а ц і, за ёю б а ц ь к а. Слухаюць)

Забыліся нават, што ў жываце бурчыць ад голаду... А песня так і звініць, так і ліецца, так і рассыпаецца над ракою, над дубровай, у самае неба ляціць, узнімаецца. І жыццё прыгожым здаецца. *(Да маці)*. Дальбог, праўда, маці. Вось паслухайце. *(Заспяваў)*.

Сонца ветла нам смяецца
І глядзіць у небасінь,
Рэчка так прыгожа льецца
І бяжыць у далячынь.

Шчасце ўсюды, дзе захочаш,
Але ведай, брат, адно:
Шчасця трэба дамагчыся
І самім узяць яго.

Заспяваем пра раздолле,
Годзе смутку панаваць.
Досыць жыць нам у нядолі,
Пойдзем шчасце здабываць.

Што, добрая песня?

Б а ц ь к а *(усміхнуўся)*. Вядома, маладосць... Маладым заўжды весела. І мы калісьці гэткія былі. Пра шчасце марылі.

М а ц і *(сумна)*. Ах, сыночак мой любы, табе ўсё жартачкі ды песенькі, а нам з бацькам тваім і жыццё надакучыла. Ад пана ды войта жыцця няма. Няйнакш, са свету нас хочуць зжыць, каб на іх ліха. Ратунку ад іх няма.

Б а ц ь к а. Вялікая крыўда, сынок, на свеце. Адны пануюць, другія—гаруюць, адны багаццю лічбы не маюць, а другія з голаду падыхаюць.

М а ц і. Цяжка цяпер жыць. Дзе праўды шукаць?

Б а ц ь к а. От, каб ведаў кароль, што на свеце робіцца, што паны з простага люду вырабляюць, дык, мабыць, усё-б інакш перавярнулася.

М а ц і. Паны ад караля праўду хаваюць.

Б а ц ь к а. Увесь свет запаланілі. От, калі-б дабраўся хто з нашага брата да караля, ды адкрыў-бы яму вочы на тое, што робіцца.

Тады-б, мусіць, не дазволіў-бы ён з народу здзеквацца. Бяда ў тым, што не ведае ён нічога.
Маці. Немагчыма нашаму брату да яго дабрацца.
Марынка. Чаму?
Маці. Паны не дапусцяць.
Янка *(увесь час уважліва прыслухоўваецца да гутаркі)*. А ці спрабаваў хто-небудзь?
Бацька. Чаго, сынок?
Янка. Да караля дабрацца.
Бацька. Дзе ты бачыў! Хіба паны дазволяць? Яны там навакол яго шчыльнай сцяною стаяць. Ніводнай душы да яго не дапусцяць. Свой інтэрас пільнуюць.
Янка. А калі паспрабаваць?
Маці. Ніколі не ўдасца, сынок. І думаць не варта.
Янка. Дык значыць, заўсёды будзем цярпець крыўду?
Бацька. Ад панскай няволі нікуды не дзенешся. Хіба ў магіле схаваешся.
Марынка. Дзядзька, цётачка, да вас пан з войтам ідуць.
Янка *(здзіўлена)*. Бацька, навошта ім сюды ісці? Чаго ім трэба?
Бацька. Ліха іх сюды нясе, сынку... Па мае, відаць, косці.
Маці *(занепакоілася)*. Ой, божачка. Што гэта будзе?
Бацька. Недарма войт усё лаецца.

(Уваходзяць Пан і Войт)

Войт *(падтрымлівае пана пад руку)*. Асцярожней, паночку!
Бацька *(ціха)*. Не панскія палацы. *(Голасна.)* Заходзьце, калі прышлі.
Войт *(бурчыць)*. У цябе пытацца не будзем.
Маці *(замітусілася)*. Проша ў хату, пане, калі ласка.
Пан. Не для таго я прышоў, каб у хлопскай хаце сядзець. Часу няма. *(Да бацькі)*. Слухай ты, стары гультай. За табою лічыцца вялікая нядоімка. Плаціць ты не хочаш. *(Узвышае голас)*. Лянуешся, стары гультай!
Бацька. Калісьці, вядома, панок, не гэтак як цяпер працаваў. Годы не тыя. Усю сілу на панскай рабоце страціў. Усё жыццё на пана працаваў, ды зараз працую, стараюся.
Пан. Даволі! Слухай маё панскае слова, хлоп! Карысці мне ад цябе ніякай. Нядоімкі ты мне, стары гультай, усёроўна, ніколі не выплаціш. Дык пакіньце вы гэтую хату, пакіньце маю зямлю, ды йдзіце сабе з богам, куды вочы глядзяць. Хату я загадаю разбурыць: яна перашкаджае агульнаму выгляду маёй новай пабудовы.
Бацька. Што ты робіш, пане, падумай. Куды-ж мы дзенемся? Усё жыццё на цябе працавалі, ды й цяпер яшчэ таксама працуем нямала. Куды-ж ты нас гоніш?
Маці. Добры гаспадар старога сабаку, што ўвесь век яму служыў, з хаты не выкідае, а ты людзей з роднага кутка гнаць надумаў, паночку. Вернем табе як-небудзь тую нядоімку. Злітуйся пане!
Войт. Цішэй, хлопы! На тое-ж панская воля.

Пан (*войту*). Каб заўтра да раніцы не было гэтай хаты.

Войт. Чулі? Выносьце свае транты... Зараз людзей прышлю, будзем хату разбураць.

Янка (*выходзіць раптам наперад*). А калі, панок, мы гэтую нядоімку выплацім?

Пан (*зняважліва глядзіць на яго*). Гэта-ж хто будзе плаціць? Можа ты?

Янка. А калі я?

(Усе здзіўлены).

Маці. Сыночак...

Пан. Ха-ха-ха... Чым плаціць будзеш? Адкуль грошы возьмеш, валацуга?

Войт. Ён брэша... Не давайце веры, паночку. (*Да бацькі*). Вынось сваю маёмасць!..

Янка. Пачакай... Не смейся, пане. Грошы я здабуду...

Пан. Ха-ха-ха... Калі-ж гэта будзе, багатыр? Я чакаць не жадаю.

Янка. Не руш маіх бацькоў, пане. Дай мне... тыдзень тэрміну і я з табою разлічуся не пазней дажынак.

Пан (*смяецца*). Калі выплаціш мне ўсё разам,—я згодзен, а калі не выплаціш—сцеражыся...

Янка. Убачыш сам, пане! Калі не разлічуся, можаш рабіць са мною, што хочаш...

Пан. Ха-ха-ха... Смелае шчанё. Даю табе тыдзень тэрміну, але памятай: калі праз тыдзень, не пазней дажынак, ты мне не выплаціш усяго, што мне належыць, я загадаю ўсыпаць тваім бацькам па сто бізуноў кожнаму, а з цябе скуру злуплю, з жывога. Чуеш, шчанё? Праз тыдзень я сам прыду з войтам. Сцеражыся! Нахабнасць павінна быць пакарана.

(Пан і войт выходзяць).

Маці (*плача*). Сыночак мой, чаго-ж ты нарабіў? Цяпер яшчэ горш будзе...

Бацька. Дзе-ж ты грошы возьмеш?

Янка (*жвава*). Я пайду ў каралеўскі палац... Я дабяруся да караля. Я знайду там праўду.

Маці. Куды-ж ты, дзіцятка, пойдзеш? Цябе-ж у палац не пусцяць. Кароль не захоча цябе слухаць.

Янка. Не сумуй, маці. Я знайду спосаб. Не можа быць, каб на свеце праўды не было!

Бацька. Э, хай ідзе. Хай паспрабуе. Горш усёроўна не будзе.

(Маці прыносіць з хаты торбу. Янка бярэ торбу і абнімае бацьку і маці).

Маці. Ой, сыночак, што надумаў,
Праўду не знайсці табе...

Янка. Не сумуй... Збірай, матуля,
Ты ў дарожаньку мяне.

Марынка. Да цара ты дабярыся
І аб крыўдзе раскажы...

Бацька і маці *(разам)*. Потым зноў да нас вярніся,
Праўду, можа, знойдзеш ты.

Янка. Быць не можа, каб на свеце
Праўды-шчасця не знайсці.
Я гатоў за лепшай доляй
Ўсю краіну абыйсці.

З панам злым я разлічуся,
Вы не бойцеся яго!
Сонца нам тады засвеціць,
Будзе радасным жыццё.

Дык бывайце, не сумуйце!
Мне цяпер ісці ўжо час.
Бацька, маці! Я вярнуся
Хутка, родныя, да вас.

(Янка выходзіць. Усе глядзяць яму ўслед).

Бацька. Бывай...

Маці. Бывай...

Марынка. Бывай, Янка...

*ЗАСЛОНА*

Карціна другая

## ЗАМОРСКІЯ КУРАЧКІ

Зала каралеўскага палаца. Пасярэдзіне вялізны стол. На крэслах спяць слугі. Уваходзіць стары слуга.

Стары слуга. Дзе-ж гэта яны? Куды-ж гэта яны падзеліся? Нікога няма... *(Разводзіць рукамі. Раптам заўважыў, што слугі спяць)*. Ах вы, гультаі... Кароль зараз павінен з паляваньня прыехаць, а яны спяць. *(Аглядаецца навакол)*. Божа мой, стол не прыбраны... Ай-яй-яй!.. *(Падкраўся да слуг)*. Гэй... Хлопцы... Хлопчыкі... Прачніцеся!

(Сонныя слугі спалохана ўскакваюць, некаторыя ад нечаканасці падаюць з крэслаў на падлогу).

Стары слуга. Хутчэй, хутчэй, хлопцы! Кароль на паляванні. Кожную хвіліну можа ён з'явіцца ў палац, а вы тут спіце. Глядзіце, каб не спазніцца. Будзе нам тады не мала.

Слугі. Мы не спознімся. Стол будзе зараз накрыт.

Стары слуга. Як толькі загучыць рог, усё для вячэры павінна быць гатова. Зразумелі?

Слугі. Зразумелі.

Стары слуга. Добра, хлопцы, добра. Старайцеся! Ды глядзіце, каб усё было ў парадку, каб пасля ўсім нам адказваць не давялося.

Слугі. Усё будзе, як след.

(Хвалюючыся, прыбягае з кухні тоўсты, вясёлы повар).

Повар. Ці добра ўсё падрыхтавана? Ці стол накрыт?

Стары слуга. Усё будзе ў час.

Повар. Але не ўсё яшчэ скончана. *(Паказвае на стол).*

Стары слуга. Стол мы зараз накрыем. Як толькі загучыць рог, пачнецца вячэра. Але чаго ты так хвалюешся? Гэта-ж не ў першы раз.

Повар. Ах, сёння такі вялікі дзень. Як мне не хвалявацца. Такі клопат...

Слугі *(акружаюць яго).* А што такое?

Повар *(таямніча).* Хіба вы не ведаеце, што прынц суседняй дзяржавы прыслаў нашаму каралю Дурымонту пяць дзівосных заморскіх курачак? Толькі я адзін і ведаю, як трэба прыгатаваць такую далікатную страву. *(Урачыста).* Кароль даручыў мне засмажыць іх асабіста. *(Ганарліва аглядае ўсіх).* Гэта-ж вялікі гонар! Такое адказнае даручэнне я не магу даверыць нікому. Я не шкадаваў ніякіх прысмакаў. Я ўпэўнены, што лепшай і смачнейшай стравы не знойдзецца ў цэлым свеце. О, як гэта будзе смачна! Кароль будзе задаволены.

Стары слуга *(ківае галавой).* У нас заўсёды так—каралю смачна, а нам—горка.

Повар (спалохана). Цс-с-с... Асцярожней... Нас могуць пачуць. Канцлер можа дазнацца. Лепей пра гэта не казаць. Ён можа нас пакараць смерцю.

Слугі. Праўда, праўда! *(Палахліва аглядаюцца).*

Повар. Эх, хлопцы, каб мая сіла ды воля, дык я-б, здаецца, увесь свет накарміў. У мяне-б ніхто не хадзіў галодным... *(Танцуе, спяваючы).*

На кухні я заўсёды
Люблю папрацаваць,
Каб смачнымі ласункамі
Людзей пачаставаць.

Я ваш вясёлы повар,
Сапраўдны чарадзей:
Я добрыя прысмакі
гатую для людзей.

(Слугі акружылі повара. Яны танцуюць вакол яго і спяваюць).

Слугі:

Наш повар каралеўскі,
Сапраўдны чарадзей;
Цудоўныя прысмакі
Гатуе для людзей.

Повар. Дзякую, хлопчыкі, за ласку. Пасля каралеўскай вячэры я пачастую вас на кухні не горш, як караля. У нас будзе свая ўласная, урачыстая вячэра.

Кароль як скончыць пір свой,
Тады я ў вольны час
На кухні пачастую
Вячэрай добрай вас.

Слугі. О, як добра! Мы гэтага якраз і чакалі. *(Танцуюць, співаючы)*

Няхай жыве наш повар
Вясёлы і таўсты!
За добры пачастунак
Удзячны будзем мы.

(Повар танцуе разам з імі. Уваходзіць Канцлер, сумны хударлявы чалавек. Слугі і повар спалохана спыняюцца).

Канцлер *(злосна)*. Што гэта за непатрэбная мітусня? Чаго вы тут марудзіце, гультаі? *(Да старога слугі)*. Ці ўсё ў вас гатова?

Стары слуга. Усё, пане канцлер.

Канцлер *(да повара)*. Заморскія курачкі засмажаны?

Повар. Засмажаны, пане канцлер. Засмажаны мною асабіста, згодна загаду караля. Гэта будзе цудоўная страва. Іх пададуць на стол у надзвычай смачным, цудоўным соусе, прыгатаваным па спецыяльнаму рэцэпту, які складзен мною выключна для сёняшняй каралеўскай вячэры. Такі ўрачысты выпадак...

Канцлер *(перапыняе яго)*. Даволі балбатні! Калі што-небудзь будзе не да смаку яго вялікасці, альбо не спадабаецца каму-небудзь з яго сямейства, дык я загадаю, каб вам адсеклі галаву. Майце гэта на ўвазе...

Повар *(спалохана)*. О, што вы, пане канцлер. *(Канцлер выходзіць)*. Вось жыццё наша якое... Служы, працуй... Старайся дагадзіць, а табе за гэта...

Слугі. Галаву далоў.

Повар *(спалохана)*. Цссс... Цішэй. *(Мацае рукамі галаву)*.

Слугі *(смяюцца)*. Яму здаецца, што ён ужо без галавы.

Стары слуга *(аглядаецца)*. Глядзіце, каб бяды не было... Каб, барані божа, канцлер не пачуў...

(У гэты момант затрубіў рог. Загрымела вясёлая музыка).

Стары слуга. Чуеце? Кароль з палявання вярнуўся! Хутчэй! Хутчэй!

Повар. Хутчэй на кухню!

Выбягае. Слугі за ім. Пад гукі музыкі слугі прыносяць з кухні ўсё новыя і новыя стравы, ставяць іх на стол, выбягаюць і зноў вяртаюцца. Стары слуга правярае парадак расстаноўкі блюд на стале, дзе-ні-дзе перастаўляе. Слугі, спяшаючыся, заканчваюць сервіроўку стала. Потым кожны з іх займае сваё месца за спінкамі крэслаў і застывае ў нерухомай позе. З'яўляюцца герольды, трубяць у фанфары і ўрачыста абвяшчаюць)

Герольды. Вялікі кароль Дурымонт з сямействам і ўсім сваім дваром распачынае сваю каралеўскую вячэру! *(Трубяць у фанфары).* Канцлер яго вялікасці, караля Дурымонта! *(Пад гукі музыкі ўваходзіць канцлер).* Прыдворны астралог яго вялікасці! *(Уваходзіць астралог).* Прыдворны паэт яго вялікасці! *(Уваходзіць паэт).* Яго вялікасць кароль Дурымонт з сынамі! *(Уваходзіць кароль з сынамі. Яго вядуць пад рукі).* Яе вялікасць каралева, супруга караля Дурымонта, з дачкамі! *(Уваходзіць каралева з дачкамі, за ёю астатнія прыдворныя).*

Прыдворныя *(хорам):*
Вітаем, вітаем
Мы караля без меры!
Чакаем, чакаем
Мы смачнае вячэры!

(Па знаку караля ўсе садзяцца за стол).

Кароль *(аглядае стол).* Чаму я не бачу тут цудоўных заморскіх курачак, якія прыслаў мне мой друг, прынц суседняе дзяржавы?

Канцлер. Яны ўжо гатовы, ваша вялікасць. Іх зараз прынясуць.

Прыдворны паэт. Ваша вялікасць, дазвольце мне, тым часам прачытаць вам маю апошнюю паэму, прысвечаную сёняшняй урачыстай вячэры.

Кароль. А... Што такое?.. Канцлер, у чым справа?

Канцлер. Ваш прыдворны паэт, ваша вялікасць, просіць вашага дазволу прачытаць вам свае вершы, сваю паэму, прысвечаную сёняшняй урачыстай вячэры.

Кароль. А-а-а... паэму... Дык чаго-ж ён раней не сказаў? Няхай чытае.

Канцлер *(паэту).* Чытайце.

Прыдворныя. Просім! Просім! Калі ласка!

Жаночы голас. Ах, ён такі здольны! У яго вялікі талент!

Мужчынскі голас *(басам).* Яго прыемна паслухаць.

Паэт *(устае).* Ваша вялікасць, для таго, каб уславіць належным чынам такога вялікага ўладара, як вы, ваша вялікасць, патрэбны лепшыя ўзоры эпічнай паэзіі старадаўніх грэкаў. Я пішу свае творы выключна чыстым гекзаметрам. (Гул усхвалявання з боку прыдворных).

Кароль *(абыякава).* Мяне зусім не цікавіць, якімі ўзорамі вы карыстаецеся. Чытайце.

Паэт. Слухаю, ваша вялікасць. *(Нізка згінаецца, потым прымае адпаведную позу і пачынае дэкламаваць урачыста і вялікасна).* — О ты, разумны, о вельмі прыгожы, о слаўны кароль наш шляхетны.

Добрае носіш імя Дурымонта, як розуму сімвал... *(Пераможна аглядае ўсіх)*.

(На твары караля самазадаволеная ўхмылка. Паэт кланяецца)

Пір наш кароль распачаў урачысты, раскошны, багаты.
Курачак смачных заморскіх надумаў пад'есці ён сёння.
Курачак дзіўных, адкормленых добра і тлустых, салодкіх надзіва,
Прынц, яго друг, нам прыслаў як адзнаку вялікае дружбы.

Кароль *(сярдзіта перапыняе паэта)*. Няпраўда! Даволі брахаць! Зусім не *вам* прыслаў гэтых курачак мой друг, прынц суседняй дзяржавы, а *мне* асабіста.

Паэт *(спалохана)*. Выбачайце, ваша вялікасць, я памыліўся. Але гэта можна выправіць.—Курачак гэтых заморскіх прыслаў *яму* друг яго добры.

Кароль *(зноў перапыняе)*. Добры? Калі гэта ён зрабіўся добрым? Я ведаў яго заўсёды як надзвычай злога дурня. Яму ніколі не зраўняцца са мною.

Паэт *(асцярожна)*. Ваша вялікасць, прынц—ваш друг, а вашы сябры не могуць быць дурнямі. Інакш яны не варты вашай дружбы, ваша вялікасць. Я так разумею.

Канцлер. Ён гаворыць правільна, ваша вялікасць.

Кароль. Не варты?.. А... Не варты маёй дружбы... Ну, калі так, няхай застаецца добрым.... Дазваляю...

(Паэт збіраецца дэкламаваць далей, але ў гэты момант повар і некалькі слуг урачыста прыносяць вялізнае блюда. На ім пяць смажаных заморскіх курачак. Ставяць блюда перад каралём. Кароль ажывіўся. Сямейства караля з прагнасцю аглядае страву. Прыдворным зайздросна. На паэта ніхто не звяртае ўвагі).

Канцлер. Курачкі гатовы, ваша вялікасць.

Повар. Ваша вялікасць, дазвольце прапанаваць вам гэту заморскую страву.

Кароль *(з задавальненнем)*. А, вельмі прыемна.

Паэт *(збянтэжана)*. Ваша вялікасць, дазвольце мне дачытаць да канца.

Кароль. Што?.. А, гэта вы... Не... *(Махае рукой)*. Не трэба.

Паэт *(жаласна)*. Ваша вялікасць, засталося ўсяго толькі чатырыста сорак чатыры радкі...

Кароль *(нездаволена)*. Даволі! Даволі! Досыць! Ніводнага радка! Курачкі астынуць... Баюся, каб гэта не сапсавала мой апетыт.

Канцлер *(паэту)*. Потым, калі-небудзь іншым разам.

Прыдворныя *(паэту)*.—Даволі!.. Хопіць!..
— У вас няма пачуцця меры!
— Сядайце!

(Паэта цягнуць за рукавы, прымушаючы сесці).

Жаночы голас. Ах! Ён такі няздольны! У яго няма ні кроплі таленту!

Мужчынскі голас *(басам)*. Яго немагчыма слухаць!

Кароль (*разглядаючы курачак*). Яны, здаецца, пахнуць цудоўна. (*Нюхае*). Я спадзяюся, што яны сапраўды вельмі смачныя.

Каралева. Цікава пакаштаваць.

Кароль (*з апетытам*). А вось зараз і пакаштуем.

Сыны караля (*у адзін голас*). Тата, дайце мне!

Кароль (*нездаволена*). Пачакаеце...

Дочкі (*тонкімі галасамі*). Татачка, дайце нам, калі ласка!

Кароль. Пачакаеце... Перш трэба іх падзяліць. (*Канцлер з паклонам падае каралю вялізны нож і вілку*). Адна заморская курачка належыць па праву каралеве. (*Кладзе ёй на талерку*). Па адной трэба даць кожнаму з маіх адважных і разумных сыноў, (*дае*), і па адной кожнай з маіх прыгожых дачок (*дае*). Усё астатняе належыць мне самому. (*З здзіўленнем глядзіць на пустое блюда*). Што гэта? Чаму няма курачкі? Дзе мая курачка? Як-жа гэта атрымалася? Не, не, я, мусіць пралічыўся. Кладзіце назад! (*Усе кладуць сваіх курачак на блюда. Сыны пасля лёгкай барацьбы*). Трэба дзяліць спачатку. Тут відавочная памылка. (*Кладзе спачатку сабе на талерку. Потым кладзе каралеве. Адна з дачок засталася без курачкі. Абедзве плачуць, абняўшыся. Кароль пачынае дзяліць зноў. Не хапіла аднаму з сыноў. Сыны пачынаюць біцца з-за курачкі. Кароль дае кожнаму з іх лыжкай па ілбе. Дзеліць зноў. На гэты раз без курачкі засталася каралева. Збянтэжаны кароль не ведае, што рабіць. Нарэшце, раззлаваны, кідае ўсё і адштурхоўвае блюда з курачкамі*). Што гэта? Чаму іх нельга ніяк падзяліць? Канцлер, што гэта значыць? Мне гэта не падабаецца! Сцеражыцеся, канцлер!

Канцлер. О, уладар наш вялікі і мудры! Дазвольце сказаць вам слова!

Кароль (*пахмурна*). Кажыце.

Канцлер. Асмелюся паведаміць вашай вялікасці, што тут усяго толькі пяць заморскіх курачак, а ў вашым славутым сямействе налічваецца разам з вамі, дзякаваць богу, шэсць чалавек. Дык на кожнага па цэлай курачцы, вядома, не выходзіць, ваша вялікасць. Трэба дзяліць інакш.

Кароль. Як гэта пяць? Чаму пяць?

Канцлер. Пяць, мой кароль. Калі вы не верыце, прашу падлічыць і пераканацца асабіста.

Кароль (*недаверліва*). Раз, два... (*Тыкае для ўпэўненасці ў кожную курачку пальцам*). Тры... чатыры... пяць. Сапраўды пяць. Зразумела, пяць... А хто сказаў, што шэсць? Хто асмеліўся ўвесці мяне ў зман? (*Аглядае прыдворных. Прыдворныя пачынаюць калаціцца ад страху*). Адкуль такая зняважа? (*Канцлеру*). Дзяліце вы... Ды глядзіце, каб было роўна, бо калі не патрапіце,— галаву з плеч далоў. (*Канцлер пачынае дзяліць, але нічога не выходзіць*). Гэй, панове прыдворныя, дапамажыце канцлеру падзяліць. (*Прыдворныя збянтэжана туляцца і моўчкі штурхаюць адзін аднаго ў бок*). Няўжо не знойдзецца тут ні аднаго разумнага чалавека, які мог-бы вырашыць такую звычайную задачу?

Астралог (*лісліва*). Паводле законаў матэматычнай навукі пяць на шэсць не дзеліцца, ваша вялікасць.

Канцлер (*каралю*). Ваша вялікасць, гэта повар вінават. Ён павінен быў прыгатаваць гэтую страву так, каб яна дзялілася на роўныя часткі. (*Ціха*). Я ўжо даўно заўважаю, ваша вялікасць, што повар—чалавек шкодны, ненадзейны, а можа нават і небяспечны. Ён, мабыць, зрабіў гэта знарок.

Кароль. Што? Здрада? Паклікаць сюды повара!

(Слугі і прыдворныя бягуць па повара, крычаць: „Повар! Повар!" Прыходзіць повар. Усміхаецца задаволена, у добрым настроі).

Повар. Як падабалася майму каралю заморская страва? Я спадзяюся, што цудоўны соус, прыгатаваны паводле спецыяльна складзенага мною рэцэпта, быў смачны і падабаўся вашай вялікасці? (*З здзіўленнем бачыць, што курачкі засталіся на блюдзе*).

Кароль. Маўчаць! (*Ускаквае, раззлаваны*). Здраднік! Як ты асмеліўся зняважыць свайго ўладара? Нягоднік! Ты будзеш пакараны смерцю! Тваіх курачак ніхто не можа есці! Іх немагчыма падзяліць!

(Спалоханы повар, не разумеючы ў чым справа, падае на калені. Цішыня. У гэты момант за акном чуецца шум, мітусня лаянка).

Кароль. Што там такое? (*Зацікаўлены глядзіць у акно*).

(Уваходзіць начальнік варты).

Начальнік варты. Ваша вялікасць! Нейкі хлапчук швендаецца тут каля сцен палацу. Мабыць, хоча ўкрасці штонебудзь. Мы затрымалі яго.

Кароль. Вядзіце сюды.

Начальнік варты. Слухаю, ваша вялікасць.

(Уваходзіць варта, штурхаючы наперад Янку).

Кароль. Ты хто такі?

Янка. Я—пастух, Янка. А ты хто?

Кароль. Як гэта хто? Я—твой кароль.

Янка (*простадушна*). А, дык ты, значыцца, і ёсць кароль... Гэта вельмі добра. Нарэшце, я цябе ўбачыў. Дзень добры, пане кароль! (*Кланяецца*).

Кароль. Што ты робіш каля сцен майго палацу?

Янка. Я шукаю праўду. І вось, ідучы па дарозе, убачыў гэты палац і рашыў падыйсці бліжэй. Думаю, можа знайду я тут праўду і шчасце. Можа кароль мне дапаможа?

Кароль. Праўду? Шчасце? Табе патрэбна шчасце? (*Павярнуўся да прыдворных*). Вы чулі, панове, ён шукае праўду і шчасця.

Астралог (*іранічна*). Ён шукае праўду!

Паэт (*таксама*). Ён шукае шчасце! Вы бачылі гэткага дурня?

Прыдворныя (*хорам*).
Што ён сказаў?
Што ён сказаў?
Хо-хо, хо-хо, хо-хо!
Дурных праяў
І смешных спраў
Не чулі мы даўно!

(Сыны і дачкі караля абкружаюць з усіх бакоў Янку. Яны зняважліва штурхаюць яго і цягнуць за вопратку. Янка здзіўлена глядзіць на кожнага з іх).

Першы сын. Якія транты на плячах?!
Сапраўднае рыззё!

Другі сын. Што за абутак на нагах?!
Глядзіце—хо-хо-хо!..

Першая дачка. Які калматы ён! Фе-фе!
Ну, проста, як мядзведзь!

Другая дачка. А брудны!.. Нават брыдка нам.
На твар яго глядзець!

Першы сын. Ён нібы звер, як дзікі воўк
На нас усіх глядзіць!

Другі сын. Вядома, хлоп! Якім-жа ён
Іначай можа быць?!

Усе разам. Вядома, хлоп! Якім-жа ён
Іначай можа быць?!

Прыдворныя. Вы чулі хлопа?
Вось дык на!
Ой, дурань-жа які!
Ха-ха-ха-ха...
Хе-хе, хе-хе...
Хі-хі, хі-хі, хі-хі...

Кароль (*смяецца. Потым пагляд яго спыняецца на блюдзе з курачкамі*). А вось мы зараз і пагледзім, ці ёсць у цябе шчасце. Слухай, хлопча, можа ты нам скажаш, як трэба падзяліць гэтыя заморскія курачкі роўна паміж майго сямейства? Курачак пяць, а нас, дзякаваць богу, шэсць. Што ты зробіш?

Прыдворныя. Ха-ха, ха-ха...
Хе-хе, хе-хе...
Хі-хі, хі-хі, хі-хі...

Астралог. Ваша вялікасць, калі вы самі разам з вашымі лепшымі дарадцамі не змаглі вырашыць такой складанай задачы, дык што можа зрабіць гэты вясковы хлапец?

Канцлер (*пахмурна*). Гэтага дурня трэба кінуць у турму.

Янка. Падзяліць гэтыя птушкі? Гэта-ж вельмі проста.

Канцлер (*злосна*). Разумнік знайшоўся...

Кароль. Калі падзеліш удала, каб нікому не было крыўдна, дык атрымаеш узнагароду, а калі не, дык галаву далоў... Зразумеў?..

Янка. Зразумеў, пане кароль.

Кароль. Дык пачынай.

Янка. Калі ласка. (*Падыходзіць да стала*). Вось сядзіць перад намі кароль, наш вялікі ўладар, першая галава ў дзяржаве А побач з ім сядзіць вялікая каралева, наша літасцівая матухна. Як сонца і месяц свецяць нам з неба, так і кароль з каралеваю свецяць нам з свайго палацу. Так я кажу, пане кароль?

Кароль (*задаволена*). Так.

Я н к а. Разам з каралеваю ўдвух сядзіце вы на пасадзе, пане кароль?

К а р о л ь. Так, нас з каралеваю двое.

Я н к а *(бярэ курачку)*. Калі вас двое, дык я вам дам курачку. Разам з ёю вас будзе тут трое. *(Дае ім курачку)*.

К а р о л ь. А далей?

Я н к а. Па правую руку тваю, вялікі кароль, сядзяць твае адважныя сыны. Колькі вас тут, слаўныя каралевічы?

С ы н ы к а р а л я. Нас двое.

Я н к а. Дык я вам даю таксама, як і каралю з каралеваю курачку. Разам з ёю вас будзе тут трое *(Дае ім)*.

К а р о л ь *(зацікаўлены)*. А далей?

Я н к а. Па левую руку тваю, матухна каралева, сядзяць прыгожыя каралеўскія дочкі. Колькі вас тут, каралеўны-красуні?

Д о ч к і к а р а л я. Нас двое.

Я н к а. Вас двое, дык я даю вам курачку. Разам з ёю вас будзе трое. *(Дае ім курачку)*. А рэшта належыць мне. Я тут адзін і таму бяру сабе дзве курачкі за тое, што дзяліў. Дык і нас будзе трое. *(Бярэ дзве курачкі з блюда, нюхае)*. Эх, добра пахнуць. Мабыць, сапраўды смачныя. *(Кладзе адну ў торбу, заўважыў повара)*. Двух курачак я адзін не з'ем, дык адну даю повару за тое, што смачна прыгатаваў. *(Дае повару, той баіцца браць, глядзіць на караля)*.

К а р о л ь *(смяецца задаволены)*. Згодзен! Дазваляю! Вось гэта дык дзялёж! Усіх надзяліў і сябе не забыў. *(Кароль, за ім усе пачынаюць есці)*. Клянуся вусамі—смачна. *(Повару)*. Можаш ісці. На гэты раз я табе дарую.

П о в а р *(моўчкі кланяецца і выходзіць)*. *(Па дарозе ціха)*. Ддзякую, хлопча. Выручыў ты мяне з ліхой бяды, даражэнькі!

К а р о л ь *(да Янкі)*. Бачу я, хлопча, што ты шчаслівы.

Я н к а. Каму шанцуе, той і ў лапцях танцуе. Так у нас кажуць, пане кароль.

К а р о л ь. Можаш пакуль што застацца пры двары. Заўтра я падумаю, што з табою рабіць. Як вы думаеце, канцлер?

К а н ц л е р. Няхай ён ідзе на кухню, да повара. Там знойдзецца для яго чорная работа. *(Да Янкі)*. Там і пераначуеш. *(Янка ідзе за поварам)*. Не варта трымаць яго пры двары, ваша вялікасць. Ніхто не ведае, хто ён такі і адкуль прышоў. Ён здаецца мне небяспечным.

А с т р а л о г. Трэба даць яму заўтра невялікую ўзнагароду за тое, што ён пазабавіў вашу вялікасць і прагнаць яго прэч.

К а н ц л е р *(пахмурна)*. Лепш за ўсё кінуць яго проста ў турму. Баюся, каб не было ад яго бяды. Занадта спрытны!

К а р о л ь. Заўтра, панове, заўтра. Цяпер няма часу. Трэба весяліцца.

(Пачынаецца каралеўскі пір, танцы).

*ЗАСЛОНА*

Карціна трэцяя.

## НЕБЫЛІЦЫ.

**Спальная караля. Вялізны ўпрыгожаны ложак пад балдахінам. Кароль спіць. Вакол ложка, ля кожнага вугла стаіць па вартавому. Да ложка асцярожна падыходзіць, схіліўшыся, стары слуга. За ім чарадою канцлер, астралог, прыдворны паэт, начальнік варты.**

Стары слуга. Ціха, ціха, не шуміце.
Наш кароль салодка спіць.
Канцлер. Асцярожней вы ідзіце,
Каб яго не пабудзіць.
Астралог. Дурымонт наш пачывае...
Канцлер і ўсе. Ша-ша-ша!..
Паэт. Ой, глядзіце, пазяхае!..
Канцлер і ўсе. Ша-ша-ша!..

Кароль *(заварушыўся, потым праціpae вочы, пазяхае)*. А-а-а... апчхі!..

Усе *(адскочылі ад ложка, хорам)*. Будзьце здаровы, ваша вялікасць! Добрай раніцы, ваша вялікасць!

Кароль *(пазяхае)*. А... а... а...

**(Пакой паступова напаўняецца прыдворнымі)**

Канцлер *(адштурхнуўшы ўсіх, падыходзіць да каралеўскага ложка першы)*. Добрай раніцы, ваша вялікасць! Як вы сябе адчуваеце?

Кароль. А... а... а... Жывот нешта баліць. *(Пазяхае)*. А... а... а... Учора, відаць, пад'еў залішняе. *(Садзіцца на ложку. Непасрэдна каля ложка стаіць толькі канцлер)*.

Кароль. Канцлер!

Канцлер. Чаго загадаеце, ваша вялікасць?

Кароль. Апранацца!

Канцлер. Яго вялікасць жадае апранацца?

Прыдворныя *(адзін аднаму шэптам)*. Вялікі кароль Дурымонт прачнуўся!—Яго вялікасць жадае апранацца!

Канцлер робіць знак начальніку варты. Начальнік варты ківае вартавым, тыя моўчкі выходзяць. Пад гукі музыкі пачынаецца цэрэмонія каралеўскага ранішняга туалета. Стары слуга бярэ пантофлі і перадае адну з іх астралогу, а другую паэту. Абодва яны ўважліва аглядаюць іх, астралог з выглядам глыбокадумным, паэт у стане лірычнага натхнення. Потым яны перадаюць пантофлі начальніку варты, а той з нізкім паклонам канцлеру. Канцлер, агледзеўшы пантофлі з усіх бакоў, перадае іх зноў старому слузе, які, схіліўшыся перад каралём на калені, апранае іх, нарэшце, на каралеўскія ногі. Тая-ж урачыстая цэрэмонія адбываецца і з халатам, які таксама вандруе па чарзе з рук у рукі, пакуль не трапіць на плечы караля. Усё гэта робіцца рытмічна, пад гукі музыкі, пад урачысты шэпт і захапленне прыдворных).

Кароль *(апрануўшы халат і пантофлі)*. Сумна нешта... Канцлер! *(Устае з ложка пры дапамозе канцлера і старога слугі. Слугі прыносяць крэсла. Кароль садзіцца)*.

Канцлер. Чаго загадаеце, ваша вялікасць?

Кароль. А... а... а... *(Чухае спачатку патыліцу, потым жывот)*. Раскажыце што-небудзь, канцлер, ды толькі цікавае.

Канцлер. Можа ваша вялікасць зробіць ласку заняцца дзяржаўнымі справамі? Я магу зрабіць даклад. *(Вымае з-пад пахі скрутак паперы).*

Кароль *(нездаволена).* Справы пасля... Надакучылі... Ад вас заўсёды толькі і чуеш пра звычайныя рэчы. Сумна! А.. а.. а... Раскажыце мне цікавую небыліцу, каб я сапраўды не паверыў.

Паэт. Можа дачытаць вам маю новую паэму, ваша вялікасць?

Кароль. А... а... а... Не трэба.

Канцлер. Можа пан астралог раскажа вам што-небудзь? Ён чалавек вучоны. Павінен ведаць розныя байкі, ды небыліцы...

Астралог. Гм... гм... Наконт небыліц, пан канцлер, здаецца, сам вялікі майстар. Ён атрымлівае весткі аб розных здарэннях з усяе дзяржавы. Ён вырашае ўсялякія справы.

Канцлер *(злосна, але непрыкметна хапае астралога за руку).* Выдумляйце што-небудзь хутчэй, стары блазан!

Астралог *(голасна).* Ай, што вы шчыпаецеся?

Кароль. Цішэй, панове. Няўжо ў вас няма для мяне нічога цікавага? Сорам! *(Пачынае злавацъ).* Канцлер! Калі зараз ніхто не раскажа мне небыліцу, дык я ўсім вам галовы паадсякаю.

Астралог. Ваша вялікасць... Выбачайце... Гэта так нечакана. Мы не мелі часу падрыхтавацца...

Канцлер. Ваша вялікасць! Прыдумаў! Загадайце паклікаць таго вясковага дурня, што дзяліў учора заморскія курачкі за вашым сталом. Калі ён не здолее расказаць вам трапную небыліцу, адсячыце яму галаву. Гэта будзе і цікава, і карысна.

Кароль *(ажывіўся).* Паклікаць таго хлопа!

Канцлер *(слугам).* Гэй, паклікаць таго хлопа!

Астралог. Паклікаць таго хлопа!

(Слугі прыводзяць Янку. Ён у добрым настроі).

Янка *(ветліва).* Дзень добры, пане кароль! А добра я ўчора пад'еў, ды выспаўся на славу, дзякуючы тваёй ласцы. Навошта клікаў?

Кароль. Слухай, хлопча! Раскажы ты мне небыліцу, але-ж такую, каб я сапраўды не паверыў. Калі здолееш расказаць такую небыліцу, што я не вытрымаю і крыкну: «Брэшаш, няпраўда!»—дык будзе табе ад мяне вялікая ўзнагарода, а калі не здолееш, дык выбачай, прыдзецца табе, мабыць, з галавой развітацца.

Янка. Навошта небыліцы казаць? Я маніць не здатны. Дый сапраўднае жыццё цікавей за небыліцы. У жыцці часам такое бывае, што ты-б ніколі не паверыў. Магу я табе расказаць, пане кароль, толькі тое, што сапраўды ў жыцці здараецца. Калі падабаецца, дык і добра, а калі не, дык не мая ў тым віна. Як было—так і скажу.

Кароль. Кажы, ды каб было складна, бо інакш,—мой меч,—твая галава з плеч!

Янка. Дык слухай, пане кароль. Можа знімеш галаву, а можа не. Раскажу я табе, што ў нашай вёсцы было. А добра-ж у нашай мясцовасці, каб ты ведаў. От, калі-б сам ты паглядзеў, дык

пэўне, спадабалася-б. Пасу я свой статак на ўзгорку, каля рэчкі, звычайна, ды разглядаю божы свет. *(Захапляецца сваім апавяданнем).* А вакол так гожа, так радасна. Яснае сонейка свеціць на небе. Ветрык калыша зялёнае веццё на вярбах. Рэчка зіхаціць праз алешнік, бы тое люстэрка. А ў вадзе плаваюць гусі, а ў небе хмаркі белыя плывуць, бы гусіны пух. А на тым беразе ў далячыні лес густы, вялізны, зялёны... а навокал трава ды кветкі. От, каб і ты паляжаў там; мабыць, спадабалася-б...

Кароль *(пазяхае).* А... а... а...

Янка. Добра ў нас на поплаве, пане кароль, на зялёнай траўцы-мураўцы, пасярод свежых кветак. Толькі вось паны жыццё замінаюць. Асабліва—наш пан злы. У яго злосці—поўныя косці. Ён маіх бацькоў гоніць, хоча нашу хату разбурыць.

Канцлер *(схамянуўся, рэзка).* Гэта каралю не цікава! *(Грозна).* Дзе-ж твая небыліца?

Янка. Ды навошта вам небыліца? Паслухай лепш, пане кароль, горкую праўду жыццёвую. На цябе наша надзея, як на бацьку роднага. Абарані ад злога пана.

Кароль *(пазяхае).* А... а... а... Сумна... Нецікава...

Янка *(абурана глядзіць на караля).* Ты-ж—кароль, ты павінен ведаць, як твае людзі жывуць, якую крыўду ад пана церпяць. Гэта-ж не толькі мы адны, усім цяжка.

Канцлер *(шалёна).* Змоўкні, злыдзень! Кажы хутчэй небыліцы, а калі не можаш—галаву адсяку, дурань вясковы! Ваша вялікасць, дазвольце яго пакараць за дурныя словы.

Кароль *(не звяртае на канцлера ўвагі, лянiва).* Каго-ж ты там пасвіў *(Пазяхае).* А... а... а...

Янка *(спачатку маўчыць, потым рэзка).* Пчолы.

Кароль *(здзіўлена).* Пчолы?! *(Крыху ажывіўся).* Пчолы...

Янка. Але, пчолы. Ты хочаш небыліцу? Дык слухай! У майго бацькі быў вялізны вулей і было ў ім пчол тысячы, мабыць, тры. Вось і пасвіў я гэтыя пчолы. Вельмі-ж любіў іх мой бацька і кожны вечар сам іх пералічваў, калі я прыганю іх з пашы.

Кароль *(спачатку захапляецца апавяданнем і слухае, адкрыўшы рот, але потым схамянуўся).* Праўда, праўда. Усё на свеце бывае, дык і гэта можа быць. Праўда, пане канцлер?

Канцлер *(зразумеў у чым справа).* Праўда, ваша вялікасць, чыстая праўда.

Янка. Пасу я свой пчаліны статак, а птушкі на дрэвах пяюць, а пчолкі мае гудуць так жаласна, быццам плачуць над горкай бядняцкай доляй, быццам хочуць сказаць: «Бедны пастух! Кінь ты гэты край ды ідзі ў свет шукаць сабе шчасця, шчасця і праўды».

Кароль *(яму зноў сумна).* А... а... а...

Канцлер *(насцеражыўся, з пагрозай).* Гэй, без лішніх слоў! Каралю сумна!

Янка. Вось аднойчы пасвіў я гэтыя пчолы цэлы дзень ды стаміўся

надта. Прыгнаў іх увечары дахаты, а там бацька мой пачаў іх падлічваць і заўважыў, што адной пчолкі не хапае.

Кароль *(ізноў ажывіўся, слухае ўважліва)*. Не хапае?!

Янка. Зазлаваў на мяне мой бацька і загадаў мне ісці шукаць гэтую пчолку. «Калі,—кажа,—не знойдзеш,—дык і дахаты не вяртайся!» Ну, што-ж, я пайшоў. Іду гэта я лесам, ды ніяк яе знайсці не магу. Прышоў я, нарэшце, на бераг марскі. Аж тут і ляжыць мая пчолка. Ляцела яна, значыць, да берага, ды зачапілася за мора, упала дый зламала сабе ножку.

Кароль *(не вытрымаў)*. Ха-ха-ха...

Янка. Ляжыць яна, небарака, і мычыць, а на яе, тым часам, ваўкі напалі.

Кароль. Ваўкі?! Гм... Усё на свеце бывае, дык і гэта можа быць. Праўда, пане канцлер?

Канцлер. Праўда, ваша вялікасць, чыстая праўда.

Янка. Схапіў я пчолку за вуха і цягну яе да сябе ды крычу на ваўкоў: «Аюсь, куды, падлы!» А яны ўчапіліся за другое вуха і да сябе цягнуць. Адарвалася ў пчолкі галоўка. Ваўкі спалохаліся і пабеглі, а я і не ведаю, што рабіць. Ды была ў мяне пляшка з алеем. Нашмараваў я тады пчолцы шыю алеем ды прыклеіў галаву. Аж бачу, вырас з пчалінай шыі вялізны сланечнік ды такі высокі, што пад самае неба. Семячак на ім не пералічыць. Палез я на гэты сланечнік, каб семячкамі паласавацца, ды бачу, што ад яго да неба рукой падаць. Узлез я на неба ды іду сабе паціху.

Кароль. На неба?! І гэта не дзіва. Усё на свеце бывае, дык і гэта можа быць. Праўда, пане канцлер?

Канцлер. Праўда, ваша вялікасць, чыстая праўда.

Янка. Іду гэта я сабе па небе, аж бачу—едзе воз. А запрэжаны ў гэты воз не конь, а чалавек нейкі старэнькі. Цягне, небарака, воз, з апошніх сіл выбіваецца, ды такі жаласлівы ў яго выгляд. З носу цячэ, сам у лахманах, у брудзе, аж нехта яго яшчэ пугай падганяе.

Кароль. Усё на свеце бывае, дык і гэта можа быць. Праўда, пане канцлер!

Канцлер. Праўда, ваша вялікасць, чыстая праўда.

Янка. Прыгледзеўся я да яго, твар нібыта знаёмы. Тут я і пазнаў старога: «Авохці мне,—думаю,—дык гэта-ж стары наш кароль-нябошчык». І сапраўды, гэта і быў, пане кароль, твой бацька. Гэта-ж на ім чэрці гной возяць на тым свеце.

Кароль. Брэшаш! Няпраўда! Не можа гэтага быць!

Канцлер. Як ты асмеліўся, падлюга?

Кароль. Нягоднік! Я табе галаву адсяку! Чулі! Цьфу! Такое сказаць пра майго славутай памяці бацьку, караля нябошчыка!

Янка. Дык на тое-ж небыліца. Ты-ж сам, пане кароль, загадаў мне сказаць што-небудзь такое нечуванае, каб ты сапраўды не паверыў, дый крыкнуў: «Няпраўда! Брэшаш!» Мне-ж гэта, відаць, удалося.

Кароль. Дык гэта няпраўда? Ты зманіў?

Янка. Няпраўда, пане кароль. Зразумела, няпраўда.

Кароль *(супакоіўся)*. Ха-ха-ха... Спрытны хлоп! Лоўка зманіў! Цікавая была небыліца! *(Канцлеру)*. Чаго-б ён не сказаў, на ўсё крычыце: «Праўда, ён кажа праўду».

Канцлер *(ціха)*. Слухаю, ваша вялікасць. *(Робіць адпаведны знак прыдворным)*.

Кароль *(да Янкі)*. Кажы другую.

Янка. Можна і другую...

Кароль. Толькі глядзі, каб пра майго бацьку-нябошчыка больш ні слова, бо інакш—мой меч—твая галава з плеч!

Янка. Можна і гэтак. Дык слухай, пане кароль, што аднойчы таксама са мною здарылася. Даведаўся я неяк, што за морам мяняюць чмялёў на быкоў, мух на кароў, а цялят на камароў. Набраў я тры збаны, адзін поўны чмялёў, а другі поўны мух, а трэці поўны камароў і паехаў за морам мяняць на быдла. Прыехаў я за мора і прамяняў тых чмялёў на быкоў, мух на кароў і на цялят камароў. Прамяняў усе тры збаны.

Кароль. Усё на свеце бывае, дык і гэта, мабыць, праўда.

Канцлер. Праўда, ваша вялікасць. Ён кажа чыстую праўду.

Прыдворныя *(па знаку канцлера)*. Вядома-ж, гэта праўда!

Янка. Хацеў я іх на наш бок пераправіць, але за перавоз бяруць вельмі дорага. Што мне рабіць? Пачаў я іх за хвост хапаць ды цераз мора на наш бераг кідаць. Пакінуў сабе толькі маладога бычка. Размахнуў я гэтага бычка, кінуў, ды хвост з рукі не выпусціў і разам з ім цераз мора перакінуўся.

Кароль. Мабыць і гэта праўда. Усё на свеце бывае, дык і гэта можа быць.

Канцлер. Праўда, ваша вялікасць праўда. Ён кажа чыстую праўду.

Прыдворныя. Вядома-ж праўда.

Янка. Перакінуўся я цераз мора, аж бачу, не ў той бок трапіў. Апынуўся я не перад нашай вёскай, а перад тваім каралеўскім садам. Сеў я на свайго бычка, дый паехаў. Аж, бачу я, сядзяць перада мною на лаўцы пад дрэвам двое, ды цалуюцца. Адзін з іх *(глядзіць на канцлера, канцлер пачынае драмаць)* такі высокі ды хударлявы. Прыгледзеўся я да іх, дый кажу сабе: «Эге, дык гэта-ж канцлер нашае дзяржавы з тваёй, пане кароль, жонкай, з каралеваю-матухнай, цалуюцца».

Кароль. Не можа быць! Брэшаш! Няпраўда! *(Грозна глядзіць на канцлера)*. Канцлер, што гэта значыць?

Канцлер *(схамянуўся, механічна)*. Праўда, ваша вялікасць, праўда. Ён кажа чыстую праўду.

Кароль. Як? Дык гэта праўда? Здраднік! Не можа быць!

Канцлер *(спалохана, зразумеў)*. Ваша вялікасць, ён брэша! Гэта няпраўда! Але-ж вы самі загадалі мне казаць: «Праўда, ваша вялікасць! Ён кажа чыстую праўду!»

Кароль *(збянтэжана)*. Праўда... няпраўда... Нічога не разумею. *(Грозна)*. Праўда гэта ці няпраўда тое, што ён кажа?

Канцлер. Дальбог, няпраўда, ваша вялікасць. Ён брэша нахабна,

гэты лайдак. Яго небыліцы нікуды не варты, яны нават злачынны. Дазвольце яму адсячы галаву, ваша вялікасць.

Кароль *(да Янкі)*. Дык гэта мана? Ты збрахаў?

Янка. На тое-ж гэта небыліца. Я павінен быў выдумаць такое, каб ты не паверыў і крыкнуў: «Няпраўда! Брэшаш!» Я гэта зрабіў у другі раз і чакаю абяцанай узнагароды.

Кароль *(супакоіўся)*. Спрытны хлоп! Раскажы мне яшчэ адну небыліцу. Калі ў трэці раз я не паверу і крыкну: «Няпраўда!», дык атрымаеш ты ад мяне вялікую ўзнагароду, а калі не... дык усёроўна галаву ссяку...

Янка. Можна і так...

Кароль. Але глядзі, каб пра нікога з майго сямейства ні слова! Чуеш?

Янка. Чую. Дык слухай, пане кароль. Жыў я да апошняга часу ў свайго бацькі. Але надумаў, нарэшце, пайсці ў свет, шукаць сабе праўды і шчасця. Калі я сказаў гэта свайму бацьку, дык ён згадзіўся мяне адпусціць.

Кароль. Нічога дзіўнага ў гэтым няма. Мабыць, гэта праўда.

Канцлер. Чыстая праўда, ваша вялікасць.

Прыдворныя. Вядома-ж праўда.

Янка. Перад тым, як развітацца, даў мне мой бацька вось гэту торбу, дый кажа: «Вось табе торба, мой сыночак! Ідзі ты з ёю шукаць сабе шчасця. Можа прыдзеш ты часам у каралеўскі палац. Звярніся тады, сыночак, да нашага вялікага караля, пакажы ты яму гэтую торбу і скажы яму, што пазычыў ён у мяне пяць год таму назад поўную торбу золата, дык прашу я цяпер яго, каб звярнуў ён мне гэтую пазыку праз цябе, сынку». Вось гэтая торба, пане кароль, загадай, каб насыпалі яе золатам і звярні майму бацьку пазыку. Я прышоў, каб яе атрымаць.

Кароль. Брэшаш! Хлусня! Няпраўда! Я нічога не вінен твайму бацьку. Я-ж яго нават ніколі не ведаў. Канцлер, вы чулі? Гэта-ж няпраўда?

Канцлер. Праўда, ваша вялікасць. Ён кажа чыстую праўду.

Прыдворныя *(хорам)*. Вядома-ж, праўда.

Кароль. Як гэта праўда? Я-ж яго бацьку ніколі не бачыў? Вы, мабыць, розум згубілі! Вы мае грошы не шкадуеце!

Канцлер. Але-ж вы самі хацелі, ваша вялікасць, каб мы казалі: «Праўда, ваша вялікасць! Ён кажа праўду».

Кароль. Дык праўда гэта, нарэшце, ці няпраўда? Я хачу ведаць дакладна, ці вінен я торбу золата яго бацьку, ці не?

Канцлер. Не, ваша вялікасць. Калі справа ідзе аб гэтым, дык не. Вы-ж яго бацьку нават не ведаеце. Ён брэша, гэты галган. Тое, што ён сказаў—няпраўда, брахня, мана. Яго трэба павесіць.

Кароль *(ізноў супакоіўся)*. Ага! От і я адразу здагадаўся, што няпраўда. Мяне не ашукаць! Брэшаш, хлоп!

Янка. Калі гэта няпраўда, дык я чакаю абяцанай узнагароды, бо ты, пане кароль, у трэці раз крыкнуў: «Брэшаш! Няпраўда!»

Я тваё жаданне задаволіў. Калі-ж гэта праўда, дык загадай насыпаць маю торбу золатам і адпусці мяне дахаты.

Кароль *(глядзіць на яго з здзіўленнем)*. Глядзі, які спрытны! Мабыць прыдзецца цябе ўзнагародзіць: я пакідаю цябе пры палацы і прызначаю цябе сваім галоўным дарадцам.

Янка. Дзякую, пане кароль. Пастараюся быць табе на патрэбу. (Канцлер і астралог глядзяць адзін на аднаго і шэпчуцца).

Астралог. Ваша вялікасць, дазвольце звярнуцца да вашага новага дарадцы з трыма філасофскімі запытаннямі. Калі ён не здолее на іх адказаць, ён не варты быць вашым дарадцам, тады трэба яму адсячы галаву.

Кароль. Што? Тры філасофскія запытанні? *(Глядзіць на канцлера, той ківае галавой)*. А, тры філасофскія запытанні. Цікава.... Згодзен... Калі ты здолееш на іх адказаць, будзеш маім каралеўскім дарадцам, а калі не, выбачай, мой меч— твая галава з плеч.

Янка. Слухаю, пане кароль.

Астралог. Адкажы ты мне, мой любы, на гэткія запытанні: што ў свеце самае салодкае? Што ў свеце самае хуткае? Што ў свеце самае багатае?

Кароль. Як? Як? Самае салодкае? Самае хуткае і самае багатае? *(Задаволена)*. Цікава...

Янка *(думае)*. Гэта-ж вельмі проста. Самае салодкае ў свеце—сон. Хоць якое гора цябе апанавала, хоць якія турботы, а як ляжаш, пане кароль, і заснеш, дык на ўсё і забудзешся.

Кароль *(зацікаўлены)*. Праўда, праўда. А што самае хуткае ў свеце?

Янка. Самае хуткае ў свеце, пане кароль, гэта думкі чалавецкія. Ты яшчэ толькі збіраешся куды-небудзь ехаць, а думкі твае ўжо там. Ты яшчэ толькі збіраешся што-небудзь зрабіць, а ў думках сваіх ужо зрабіў. Сам ты тут, а думкі твае далёка.

Астралог. А што самае багатае ў свеце?

Янка. Самае багатае ў свеце—зямля. Яна сыцей і багацей за ўсё, бо дае чалавеку ўсё, што яму трэба. З зямлі людзі і жывяцца і кормяцца. Ці адгадаў, пане кароль?

Кароль *(пляскае ў далоні)*. Угадаў, угадаў! Правільна! Правільна! Прызначаю цябе маім прыдворным дарадцам.

Янка. Дзякую за ласку, пане кароль.

Кароль. Ха-ха-ха. Лоўка адказаў! Спрытна! Ха-ха-ха... Пане астралог, гэта-ж верна, што... як ён сказаў. Ага, сон—самае салодкае ў свеце... *(Пазяхае)*. А... а... асабліва пасля абеда... *(Жмурыцца)*. Гэта правільна... А... а... а... Нешта ізноў спаць захацелася. Відаць, не даспаў. *(Канцлеру, астралогу)*. Ідзіце! Ідзіце! А... а... а... *(Да Янкі)*. Будзеш маім прыдворным дарадцам... *(Махае рукой, пачынае драмаць. Янка выходзіць)*.

Астралог *(канцлеру)*. А, каб на яго халера, які спрыт! Лепшыя вучоныя краіны не маглі адказаць на гэтыя складанейшыя пытанні філасофіі, а гэты пастух, гэты вясковы дурань, вырашыў іх адразу. Што рабіць?

Канцлер. Нам трэба чакаць вялікай бяды. Ён можа заняць наша месца. *(Злавесным шэптам).* Яго трэба знішчыць!
Астралог *(спалохана).* Знішчыць?
Канцлер. Знішчыць, пакуль не позна! Нам трэба яго пазбыцца.
Астралог. Але як?
Канцлер. Нешта прыдумаем. Падпільнуем зручны выпадак і як-небудзь загубім гэтага хлопа. Трэба дзейнічаць разам і рашуча!
Астралог. Рашуча і разам, пане канцлер!
Канцлер. Вось дык падлюга! Як сумеў
Ён Дурымонта абдурыць?!
Яго рашуча трэба нам
Пазбыцца—знішчыць ці забіць!
Астралог.
Так, пане канцлер, згодзен я.
Заўсёды будзем разам.
Яго мы знішчым і тады
Канец усім абразам!
Абодвы:
Мы хлопа знішчым! Каралю
Пра гэта мы не скажам.
Яго пазбыўшыся, мы ўсім
Свой розум тут пакажам.

(Канцлер і астралог выходзяць, чуецца храп караля).

*ЗАСЛОНА (канец першага акта).*

## АКТ ДРУГІ

### Карціна чацвертая

### ВЕЛІКАН.

Каралеўскі пакой. Трон. За вокнамі палаца шум, крыкі, мітусня. Кароль разгублена бегае па пакоі. Прыдворныя маўкліва туляцца па кутках.

Кароль. Што гэта робіцца навокал? Дзе канцлер? Чаму няма канцлера? Што гэта за шум? Панове, ад мяне нешта хаваюць. *(Прыдворныя маўчаць).* Дзе канцлер?

(Уваходзяць Канцлер і Астралог).

Кароль *(канцлеру).* Дзе вы былі? Чаму там такі шум? Што гэта робіцца?
Канцлер. Ваша вялікасць, гэта шуміць народ.
Кароль *(здзіўлена).* Народ? Што яму трэба?
Астралог. Народ баіцца велікана.
Кароль. Якога велікана? Што гэта за глупства? Канцлер, я патрабую тлумачэнняў.
Канцлер. Ваша вялікасць! Трымайцеся мужна, як належыць славутаму ўладару. Нам пагражае небяспека.
Кароль *(спалохана).* Што? Што такое?

Канцлер. У нашай краіне з'явіўся аднекуль вялізарны велікан.
Кароль. Ах!
Канцлер. Ён разбурае вёскі і гарады. Ён нішчыць жывёлу.
Астралог. На снеданне яму патрэбны цэлы бык.
Кароль. Ах!
Канцлер. Але справа не ў гэтым. Галоўная небяспека ў народных хваляваннях.
Астралог. Насельніцтва паразбеглася і хаваецца па лясах.
Канцлер. Ніхто не працуе.
Астралог. У краіне непарадкі, ваша вялікасць. Пагражае голад.
Канцлер. З маёнткаў паноў і шляхты паўцякалі ўсе слугі. Сяляне кінулі працу.
Астралог. Хаваючыся ад велікана, яны збіраюцца ў вялізныя натоўпы.
Канцлер. Гэта вялікая небяспека, ваша вялікасць.
Астралог. Народ гаворыць, што велікан—пакаранне, пасланае за грахі паноў.
Кароль. Ах! Канцлер, што рабіць?
Канцлер. Учора я выслаў супроць велікана войскі. Я не хацеў вам казаць пра ўсё гэта, каб не турбаваць вас дарэмна, але цяпер, улічваючы адказнасць моманту і непарадкі ў краіне, я павінен вам аб усім паведаміць. Дзяржава ў небяспецы, ваша вялікасць.
Кароль. Ах, што рабіць? Панове, што рабіць?

(За вокнамі ўзнімаецца шум. Кароль прыслухоўваецца).

Кароль. Канцлер, што там такое? Чаму такі шум? У мяне пачынае балець галава.
Канцлер. Народ хвалюецца, ваша вялікасць. Народ патрабуе ад вас рашучых дзеянняў для абароны краіны ад велікана. Натоўп перад палацам патрабуе, каб вы да яго вышлі. Ён хоча вас бачыць.
Кароль. Ах, навошта ўсё гэта? Скажыце ім, каб яны ішлі дахаты.
Канцлер. У іх няма хат. Гэта бежанцы з разбураных веліканам мясцовасцей.
Кароль. Скажыце ім, каб яны супакоіліся. Скажыце, што ўсё зроблена. Скажыце, што супроць велікана высланы войскі, што яны яго, бясспрэчна, заб'юць альбо прагоняць.
Канцлер. Я ім гэта казаў. Але яны не слухаюць.
Кароль. Ах, што рабіць? *(Бездапаможна бегае па пакоі).*
Астралог. Ад войска вестак няма, пане канцлер?
Канцлер. Пакуль што няма.
Кароль. Што рабіць? Чаго вы маўчыце, як бараны?
Канцлер. Ваша вялікасць, не хвалюйцеся. *(Паэту).* Трэба супакоіць караля, даць яго думкам другі напрамак.
Паэт *(выходзіць наперад, спалоханы, разгублены, пачынае няпэўным голасам):*

— Вораг баіцца цябе, уладар наш вялікі, магутны,
Любіць цябе твой народ, абаронца краіны адважны...

Кароль *(не слухаючы яго, бегае).* Змоўкніце! Панове, што рабіць? *(Раптоўна спыніўшыся, да прыдворных).* Вы чуеце? Што там?

Канцлер. Народ хоча праціснуцца ў каралеўскі палац.

Астралог. Яны выціскаюць вартавых, ваша вялікасць.

Канцлер. Вам неабходна выйсці да іх, ваша вялікасць.

Кароль *(спалохана).* Не пайду!

Астралог. На адну толькі хвіліну, ваша вялікасць. Народ убачыць вас і супакоіцца.

(Кароль у замяшанні. Не ведае, што рабіць. Канцлер астралог насоўваюць яму на галаву карону і падштурхоўваюць асцярожна да дзвярэй. Король ідзе неахвотна. Карона з'ехала на бок. Шум за вокнамі ўзмацняецца. Вартавыя ледзь стрымліваюць натоўп, які хоча праціснуцца ў каралеўскі пакой. Народ выціскае вартавых у дзверы і ўрываецца ў пакой. Моўчкі спыняецца. Потым пачынаюць гаварыць усе разам).

Галасы:

— Злітуйся, вялікі кароль!
— На цябе ўся надзея!
— Дапамажы супроць веліканa!
— На тое ты наш кароль.
— Ён топча нашы палеткі, разбурае хаты!
— Ён нішчыць жыбёлу!
— Загадай, каб прагналі веліканa!

Кароль *(спалохана адступае).* Канцлер! Разбярыцеся! Скажыце ім што-небудзь *(Хаваецца за трон).*

Канцлер. Людзі, супакойцеся! Зроблена ўсё, што трэба. Супроць веліканa высланы войскі. Наш вялікі і добры кароль загадаў, каб веліканa забілі, ці прагналі. Не бойцеся. Ідзіце сабе здаровы. Не турбуйце караля, ён заняты важнымі справамі. Ён абароніць вас ад веліканa.

(Канцлер непрыкметна робіць знак начальніку варты. Вартавыя паступова выціскаюць народ з пакою. Дзверы зачыняюцца, кароль выходзіць з-за трона).

Кароль *(тупае нагамі).* Здрада! Чорт ведае што! Хто дазволіў ім урывацца сюды? Дзе мая варта?

(Шум. Кароль зноў спалохана хаваецца за трон. Дзверы адчыняюцца, у пакой урываецца Ганец. За ім уваходзіць начальнік варты).

Кароль. Ну, што там яшчэ?

Начальнік варты. Ваша вялікасць, гэта ганец ад войска. Ён ледзь прабіўся скрозь натоўп.

Ганец. Ваша вялікасць! Бяда! Велікан ідзе сюды!

Каралева. Мы ў небяспецы!

Дочкі караля. Ах! Ах! Ах!

Першы сын. Трэба ратавацца!

Другі сын. Мамка, я баюся...

Кароль. Дзе войска?

Канцлер *(прыдворным).* Цішэй *(Ганцу).* Кажы.

Ганец. Ваша вялікасць! Учора раніцай, як вам вядома, наша войска рушыла супроць веліканa. Каля поўдня мы яго ўбачылі,—ён ішоў па дарозе. Убачыўшы веліканa войска спынілася і пачало рыхтавацца да бойкі.

Кароль. Далей, далей...
Ганец. Заўважыўшы наша войска, велікан лёг на зямлю...
Кароль. Ах!
Прыдворныя. Ах!
Ганец. Ён заткнуў сабе адну ноздру пальцам і пачаў дзьмуць праз другую, ды так моцна, што ўзняўся страшэнны віхор і далёка адкінуў наша войска. Салдаты лёталі ў паветры як пер'е.

Сярод прыдворных пачынаецца палахлівая мітусня.

Канцлер. Панове, цішэй, супакойцеся!
Ганец. Наша войска развеяна. Салдаты паразбегліся. Ніхто не хоча змагацца. Велікан ідзе сюды...
Кароль. Ён ідзе сюды!
Каралева. Мы загінем!
Дочкі *(разам)*. Ах! Ах! Ах!
Першы сын. Трэба ўцякаць!
Другі сын. Ой! Ой! Ой!
Ганец. Ён набліжаецца да каралеўскага палацу, ваша вялікасць.
Кароль *(бегае па пакоі)*. Што рабіць? Панове, што рабіць? Ён можа мяне забіць. Ён разбурыць мой палац.
Канцлер. Ваша вялікасць, супакойцеся. Усё гэта не так страшна, як здаецца.
Астралог. Можа з ім варта ўступіць у перагаворы? Ваша вялікасць, да яго трэба паслаць дэлегацыю. Можа яна здолее ад яго адкупіцца.
Канцлер. Я думаю, што ён згадзіцца за пэўны выкуп пакінуць нашу дзяржаву і накіравацца ў суседнюю краіну.
Кароль *(з надзеяй)*. Так... так... праўда. Да яго трэба накіраваць паслоў. Няхай ідуць яму насустрач. Але каго мы пашлем?
Астралог. Калі я казаў пра дэлегацыю, я меў на ўвазе пана канцлера. Ён чалавек дзяржаўнага розуму. Ён, мусіць, здолее ўгаварыць ці ашукаць велікана. Няхай ідзе яму насустрач.
Канцлер *(нездаволена)*. А я меў на ўвазе якраз пана астралога. Ваша вялікасць, я прапаную прызначыць паслом да велікана пана астралога. Ён чалавек вучоны. Яму вядомы ўсялякія навукі і ў тым ліку магія. Ён зможа ўздзейнічаць на велікана сваімі магічнымі заклінаннямі.
Кароль *(нецярпліва махае рукой)*. Абодвы! Абодвы! Я прызначаю вас абодвух. Вы павінны ісці насустрач велікану і прагнаць яго, усёроўна якімі сродкамі. Калі вы не згодны, я загадаю адсячы вам галовы.

Канцлер і астралог пачынаюць сварыцца і спрачацца. Потым спыніўшыся раптам глядзяць адзін аднаму ў вочы).

Канцлер *(хлопае сябе па ілбу)*. Ваша вялікасць, я ведаю што рабіць. Трэба паслаць да велікана вашага новага дарадцу.

Астралог *(хлопае сябе па ілбу)*. Цудоўная ідэя! *(Убок)*. Як гэта я сам не здагадаўся? *(Каралю)*. Але, але... Няхай пакажа свой найвышэйшы розум і сваю адвагу. Загадайце яму забіць велікана, альбо ўзяць яго ў палон.

Канцлер. Калі яму не пашанцуе і велікан яго заб'е, шкоды вялікай не будзе. Усёроўна, ён чалавек не нашага стану, чужы. Ён—просты мужык, яго ніхто не ведае і, калі ён загіне, мы нічога не страцім. Мы паспрабуем тады ўступіць з веліканам у сур'ёзныя перагаворы. Мы скажам яму, што гэты хлоп, які асмеліўся на яго напасці, быў з суседняе дзяржавы. Мы гэта пацвердзім дакументамі. Мы паспрабуем нацкаваць велікана на гэтую дзяржаву. У крайнім выпадку мы адкупімся ад яго, даўшы яму ў падарунак сотню-другую сялян і багаты скарб.

Кароль. Гм... скарб... Можа даволі адных сялян?

Канцлер. Ваша вялікасць, потым, калі велікан пакіне краіну, мы зможам усе гэтыя страты спагнаць з народа пры дапамозе новых узмоцненых падаткаў.

Кароль. Згодзен! Згодзен! Паклікаць сюды майго новага дарадцу.

Усе *(адзін аднаму)*. Паклікаць новага дарадцу! Паклікаць новага дарадцу.

(Прыводзяць Янку)

Янка. Дзень добры, пане кароль! Якую маеш да мяне патрэбу? Ты выклікаў мяне, напэўна, для таго, каб даць абяцаную ўзнагароду?

Канцлер. Узнагарода потым. Спачатку пра больш важныя справы.

Кароль. У нашай краіне з'явіўся велікан. Дык вось мой загад: ідзі яму насустрач і спыні чым хочаш. Калі ты здолееш забіць яго, ці ўзяць у палон, я дам табе ўсё, што ты захочаш, а калі не—галаву далоў.

Янка. Спыніць велікана? *(Думае)*.

(Сямейства караля абкружыла яго з усіх бакоў. Усе просяць яго).

Каралева. О, добры і мужны юнак, на вас пазірае ўся краіна. Мы ўсе чакаем ад вас паратунку.

Першы сын. Ты павінен сам зразумець,—велікан можа нас усіх забіць.

Дочкі *(у адзін голас, малітоўна склаўшы рукі і робячы рэвеpанс)*. О, шляхетны, о, разумны юнак! Ратуйце нас ад жудаснага велікана.

Другі сын *(пачынае хныкаць)*. Я баюся...

Кароль *(сыну)*. Адчапіся... *(Да Янкі)*. Ну?

Янка. Хіба паспрабаваць? *(Усе ўзрадаваліся)*.

Канцлер. Дык ідзі хутчэй.

Астралог. Ідзі, пакуль не позна.

Янка. Дэбра, пане кароль. Дай мне сыр і хлеб на дарогу, каб падмацавацца. Больш мне нічога не трэба.

Кароль. Даць яму сыр! Даць яму хлеб!

(Усе кідаюцца па сыр і хлеб. Даюць пастуху сыр і круглы хлеб).

Янка *(кладзе сыр і хлеб у торбу)*. Іду. Цікава паглядзець, што

гэта за велікан такі? Але глядзі, кароль, каб і ты выканаў сваё слова і зрабіў усё, што я пажадаю, калі я выканаю твой загад і вызвалю краіну ад велікана.

Кароль (*важна*). Каралеўскае слова непарушна. Ідзі, малайдзец!

(Канцлер і астралог пераглядаюцца. Пастух выходзіць з пакою).

*ЗАСЛОНА.*

Карціна пятая

## СУСТРЭЧА З ВЕЛІКАНАМ

Вечар. Прыгожая мясцовасць. Лес. Узгоркі. Ідзе Янка з торбаю на спіне. Спявае.

Янка (*спявае*).
Шчасце ўсюды, дзе захочаш.
Але ведай, брат адно:
Шчасця трэба дамагчыся
І самім узяць яго.

Заспяваем пра раздолле,
Годзе смутку панаваць,
Досыць жыць нам у няволі,
Пойдзем шчасце здабываць.

(*Спыняецца*). Стаміўся нешта. Відаць ужо час адпачыць. Дый есці захацелася. (*Аглядаецца*). Якая прыгожая мясцовасць... Тут я і спынюся. Навокал нікога няма. Людзей не чуваць і не відаць. Мабыць, паўцякалі, небаракі. Велікан, мусіць, недалёка. Хутка спаткаемся. (*Уздыхае*). Але я не баюся. Што ён мне зробіць? Ён хоць і вялікі, але затое, мабыць, і дурны. (*Скідае торбу, садзіцца ля куста*). Трэба пакуль што павячэраць. (*Развязвае торбу, вымае сыр і хлеб. У гэты час за сцэнай чуваць павольны, размераны, але вельмі моцны тупат велізарных крокаў*).

Янка. Гэта, мабыць, велікан. (*Кладзе сыр і хлеб каля сябе на торбу. Прыслухоўваецца*).

(За сцэнай нізкі голас спявае)

Велікан (*за сцэнай*).
Волат я вялізны—
Пагроза для людзей,
Бо як дам па шапцы,
Не знойдзеш ты касцей.

Іду па ўсіх краінах
Я шпаркаю хадой.
Мабыць, я заўладаю
Ўсёй куляю зямной.

(З гэтымі словамі на сцэну выходзіць велікан, апрануты ў звярыную скуру, валасаты, барадаты. Ногі абкручаны кавалкамі звярынай скуры, прывязанымі да нагі рамнямі. Шырокі скураны пояс. У руках вялікая дубня. Велікан нюхае паветра, з шумам уцягваючы яго ў ноздры. Ад подыху яго варушацца лісты на дрэвах, клоніцца долу трава, развяваюцца валасы на галаве ў Янкі).

Велікан. Чым гэта тут пахне?

Янка *(смела глядзіць на яго)*. Добры вечар, дзядзька! Як маешся?

Велікан *(пахмурна глядзіць на Янку зверху ўніз)*. Што гэта тут за казюрка няшчасная? Хто гэта тут звініць, як камар над вухам?

Янка. Я кажу: добры вечар, дзядзька! Хіба ты мяне не пазнаў? Куды гэта ты спяшаешся? Сядай, пагутарым.

Велікан *(здзіўлена)*. Гэткая мурашка, казюрка нікчэмная і асмельваецца раптам са мной гаварыць і нават не ўцякае. Гм... гм... А ці ведаеш ты, слімак, што я адным махам магу разбурыць цэлы горад? Ці ведаеш ты, камар, што я магу забіць цябе адным пальцам? Што ад цябе нават мокрай плямкі не застанецца?

Янка. Эге, дзядзька, але-ж ты вялікі хвалько, як я бачу. Я-ж таксама маю сілы не мала, але вось хваліцца дарма не люблю.

Велікан *(у бок, здзіўлена)*. Можа ён і сапраўды вельмі дужы, калі не баіцца мяне?

Янка. Сядай вось тут, дзядзька, пагутарым.

Велікан *(садзіцца, недаверліва прыглядаецца да Янкі. Убачыў каля сябе камень)*. Гэй ты, жабка, глядзі на маю сілу. Вось я бяру камень і рукамі разрываю яго на дзве паловы. *(Бярэ камень, рукамі разрывае яго на дзве паловы і кідае за спіну)*. Бачыў? Ці можаш ты гэтак, слімак? Ці ў цябе хопіць на гэта сілы? Калі не, дык я цябе заб'ю.

Янка. Вось дык здзівіў? Глядзі... Вось я таксама бяру камень і разрываю яго на дзве паловы. *(Бярэ хлеб і разрывае на дзве паловы, кладзе іх за спіну)*. Бачыў? А гэты камень я сцісну так, што з яго вада пальецца. *(Бярэ сыр і выціскае з яго ваду)*. Дый раскрышу на дробныя кавалкі. *(Расціскае сыр на кавалкі і кладзе за спіну)*. Бачыў маю сілу? *(У бок)*. Загінула мая вячэра...

Велікан *(праз меру здзіўлены, пачынае з павагай, але ўсё яшчэ недаверліва, глядзець на Янку. У бок)*. Мабыць, ён сапраўды асілак. *(Да Янкі)*. Слухай, мурашка, калі ты сапраўды такі дужы, дык давай паспрачаемся інакш.

Янка. Давай! А толькі як?

Волат. Хто з нас крыкне мацней.

Янка. Ты, мабыць, звар'яцеў... Навошта нам крычаць?

Велікан *(узрадавана)*. Ага! Ты не хочаш! Ты баішся? Цяпер я цябе заб'ю.

Янка. Пачакай, дурань. Я цябе шкадаваў, бо калі я крыкну на ўвесь голас—табе не паздаровіцца.

Велікан. Дзе ты можаш! У цябе голас слабы, танклявы, звініць як у камара. Ты баішся...

Янка. Ну, калі ты такі ўпарты, дык я згодзен. Табе-ж будзе горш. Сам будзеш потым шкадаваць. Паглядзім, хто з нас крыкне мацней.

Велікан. Калі ты крыкнеш мацней, дык ты мяне заб'еш.

Янка. Згодзен.

Велікан. А калі я крыкну мацней, дык я цябе заб'ю. *(Глядзіць на Янку)*.
Янка. Таксама згодзен.
Велікан. Я буду крычаць першы.
Янка. Крычы.
Велікан *(у бок)*. Зараз гэты камар сканае ад майго крыку. *(Устае і задзірае галаву ўверх, набіраючы паветра ў грудзі)*.

(Тымчасам Янка заткнуў сабе вушы мохам, абкруціў галаву торбай і засунуў галаву ў кусты. Жудасны крык волата, моцны нібы раскаты грома. З дрэў валяцца шышкі і лісты. Волат раве з апошніх сіл. Потым азглядаецца).

Дзе-ж ён, гэты малы? Напэўна, здох! Не вытрымаў майго крыку. Гэй, казюлька, дзе ты?
Янка *(скінуў торбу з галавы)*. Ты ўжо крычаў? *(Праціраае вочы)*. А я і не заўважыў. Задрамаў тым часам крыху, дык і не дачуў.
Велікан *(здзіўлена)*. Няўжо не дачуў? *(У бок)*. Мабыць, ён сапраўдны асілак, калі не чуў такога крыку.
Янка. Цяпер чарга мая. Але мне шкада цябе, дзядзька, бо ты старэйшы за мяне. Мой голас можа табе пашкодзіць. Ты яго не вытрымаеш, на нагах не ўстаіш. Садзіся лепш на зямлю, ды абкруці галаву чым-небудзь *(дае волату торбу)*, бо інакш загінеш дарэмна. Галава можа лопнуць, аглухнуць можаш, аслепнуць.
Велікан *(спалохана)*. Няўжо? *(Садзіцца на зямлю, набівае вушы мохам і абкручвае галаву торбай)*.
Янка. Можна пачынаць?
Велікан *(моўчкі ківае галавой)*.
Янка. Дык тады трымайся! Я пачынаю зараз крычаць. *(З вялікай цяжкасцю падымае доўбню велікана, б'е яго па галаве некалькі разоў)*. Чуеш? Чуеш?
Велікан *(стогне)*. О-о-о-х!... О-ох! Даволі, даволі, не крычы! Не трэба! *(Скідае торбу, схапіўся за галаву)*. Ну, і голас, ледзь галава не лопнула!
Янка. Вось як трэба крычаць! Можа крыкнуць яшчэ разок?
Велікан *(спалохана)*. Не, не... хопіць... не трэба... даволі...
Янка. А што калі я зноў закрычу?
Велікан *(становіцца на калені)*. Злітуйся, пашкадуй... усё, што хочаш зраблю, толькі не крычы... толькі не забівай! (Пачы*нае плакаць)*.
Янка. Дык будзем біцца, ці мірыцца?
Велікан *(скрозь слёзы)*. Мі-ры-цца...
Янка. Ну, што з табой рабіць? Мог бы я цябе забіць па праву, бо ты-ж гэтак умовіўся. Але шкада мне цябе, дзядзька. Жыві сабе на здароўе, але толькі з адной умовай: пакінь нашу краіну, ідзі сабе дамоў і ніколі не крыўдзі народ. Інакш будзе табе кепска. Чуеш?
Велікан *(узрадавана)*. Ніколі не буду крыўдзіць народ. Дзякую табе, вялікі асілак, што пашкадаваў мяне. Ніколі я гэтага не забуду... Заўсёды буду табе служыць...

Янка. Ну, глядзі... *(Заўважыў за поясам у велікана дудку)*. Гэта што ў цябе?

Велікан. Гэта? *(Неахвотна)*. Дудка.

Янка. Адкуль яна ў цябе? Дай паглядзець.

Велікан *(дае дудку)*. Гэту цудоўную дудку зрабіў адзін вялікі майстар. Калі хто іграе на гэтай дудцы, дык усе людзі, усе звяры, усе жывыя стварэнні збягаюцца на яе гукі і слухаюць, як зачараваныя. А калі сказаць пры гэтым: «А ну, патанцуйце!»—дык усе пачынаюць скакаць, і ніякая сіла не зможа іх спыніць, пакуль дудка іграе. Кожны будзе скакаць пад тваю дудку. Я забраў гэтую дудку, калі разбурыў адзін горад, але нажаль, не магу ёю карыстацца, бо не ўмею іграць, дый занадта малая яна для мяне.

Янка. А мне яна можа якраз спатрэбіцца. Паспрабуем. *(Пачынае іграць на дудцы)*. А ну, патанцуй!

Велікан *(пачынае танцаваць нязграбна і павольна, потым усё хутчэй)*. Адпусці мяне, хлопча... даволі... я не магу скакаць...

Янка *(спыняе ігру)*. Паскакаў і досыць! Добрая дудка! Цудоўная дудка! Колькі марыў я аб гэтай дудцы. І вось, нарэшце, трапіла яна мне ў рукі. Дзякуй, дзядзька, за падарунак. *(Смяецца)*. Ён мне спатрэбіцца. Ідзі сабе, адкуль прышоў і памятай добра: ніколі не крыўдзі народ.

Велікан. А божа-ж мой! Ды ніколі ў жыцці! *(Кланяецца, прыціскаючы вялізныя рукі да грудзей і выходзіць)*.

Янка *(глядзіць яму ўслед, потым садзіцца і пачынае павольна іграць на дудцы. Вакол яго паступова збіраюцца з усіх бакоў звяры лясныя—мядзведзі, зайцы, жораў і інш., і моўчкі слухаюць)*. Эге, ды ў мяне шмат слухачоў набралася. А ну, патанцуйце, звярушкі дарагія.

(Звяры пачынаюць танцаваць. Балет. Пастух выходзіць, іграючы на дудцы. Звяры танцуючы, выходзяць за ім).

*ЗАСЛОНА.*

Канец другога акта.

## АКТ ТРЭЦІ

### Карціна шостая

### КАРАЛЕЎСКАЕ СЛОВА.

Спальня караля. Вялізны ложак. Канцлер, за ім астралог.

Канцлер. Ваша вялікасць!.. *(Агглядаецца)*.

Астралог. Нікога няма.

Канцлер. Дзе-ж гэта кароль?

Астралог. Толькі што ён быў тут.

Канцлер *(гучней)*. Ваша вялікасць! *(Шукае караля на ложку, паміж груды шматлікіх падушак)*. Ваша вялікасць, дазвольце паведаміць вам апошнія, радасныя навіны.

Астралог. Вельмі цікавыя навіны, ваша вялікасць.

(З-пад ложка асцярожна высоўваецца галава караля. Канцлер і астралог адскакваюць ад ложка. Яны робяць выгляд, быццам не заўважылі, у якім смешным становішчы знаходзіцца кароль).

Кароль. Дазваляю.

Канцлер. Дазвольце павіншаваць, ваша вялікасць, з бліскучай перамогай.

Кароль (вылазіць з-пад ложка напалову). Ну?

Канцлер. Велікан пакінуў нашу краіну. Насельніцтва вяртаецца ізноў у разбураныя мясцовасці. Жыццё краіны ўваходзіць у свой нармальны распарадак.

(Дапамагаюць каралю вылезці з-пад ложка. У пакой уваходзяць прыдворныя).

Астралог. Віват, наш вялікі кароль Дурымонт!

Канцлер. Віват, наш вялікі кароль Дурымонт, адважны пераможца жудаснага велікана! Віват!

Прыдворныя (разам). Віват!

Кароль (ад нечаканасці спачатку ўздрыгнуўся, але хутка ізноў аправіўся). Ага... Дык велікана прагналі... Зразумела... Інакш і быць не магло... Я быў у гэтым ўпэўнены з самага пачатку (горда выпрамляецца). Гэта я прагнаў велікана! Цяпер вы бачыце самі, панове, усю сілу маёй велічы і маёй магутнасці. (Устае).

Канцлер. О так, ваша вялікасць. Вы перамаглі жудаснага велікана і мы схіляемся перад вашай магутнасцю. (Кланяецца).

Астралог (крычыць) Віват, вялікі кароль Дурымонт!

Прыдворныя (разам). Віват!

Кароль (ганарліва аглядае прысутных, самаздаволена). Народ, мабыць, вельмі задаволены. Ён славіць, напэўна, мяне, свайго ўладара, свайго караля, свайго збавіцеля.

Паэт (становіцца ў адпаведную позу, пачынае дэкламаваць). О, наш шляхетны, разумны кароль, уладар наш магутны. Мужнасць, адвага твая зіхаціць перад цэлым сусветам. Ты наш славуты кароль...

(У гэты час за вокнамі палацу чуецца шум. Моцныя прывітальныя крыкі: Ура! Ура! Няхай жыве смелы пастух! Няхай жыве Янка, наш адважны збавіцель ад велікана!" Крыкі перапыняюць паэта, не даюць яму скончыць пачаты верш. Паэт збянтэжана змаўкае).

Кароль (прыслухоўваецца, спачатку ганарліва ўсміхаючыся, потым пачынае моршчыцца). Што яны крычаць? Канцлер, мне незразумелы сэнс гэтых крыкаў.

Канцлер (кісла). Тут бачыце, пэўнае непаразуменне, ваша вялікасць.

(За вокнамі яшчэ мацней чуецца: „Няхай жыве смелы пастух!")

Кароль (пачынае злаваць). Чорт ведае што такое!.. Нейкі пастух... Пра мяне ні слова... Канцлер, што гэта значыць?

Канцлер (неахвотна). Народ, ваша вялікасць, вядома, задаволены, але...

Кароль (падазрона). Што значыць «але»?

Канцлер. Выбайчаце, ваша вялікасць, народ вельмі задаволены вашым новым дарадцам...

Кароль (*абурана*). Як? Як вы сказалі?.. Канцлер, вы забываецеся! (*Тупае нагамі*). Як разумець вашы словы?!

Канцлер. Вельмі проста, ваша вялікасць. Народ, вядома, дурны. Ён не разбіраецца ў такіх складаных пытаннях, ваша вялікасць. Ён пераўвялічвае чамусьці ролю і значэнне (*з іранічным паклонам*)... вашага новага дарадцы.

Астралог. Якая ганьба, ваша вялікасць...

Кароль (*разгублена*). Я... я... не разумею...

Канцлер (*рашуча*). Ваша вялікасць, слава гэтага пастуха расце з кожнай хвілінай. Народ лічыць, што толькі ён адзін выратаваў краіну ад волата.

Астралог. Пра яго пачынаюць песні складаць, ваша вялікасць.

Паэт (*зняважліва*). Уяўляю сабе, якія гэта песні... Напэўна нешта зусім непісьменнае...

Кароль (*пакрыўджана*). А я? А пра мяне чаму не пяюць? Я-ж кароль! (*Крычыць ледзь не плачучы*). Нягоднікі! Дурні! Злодзеі!.. Галовы паадсякаю!

Паэт. Ваша вялікасць, не звяртайце ўвагі. Я складаю пра вас цудоўную паэму... пра вашу перамогу над веліканам.

Канцлер (*шыпіць*). Часу няма... не да вашых вершаў... не лезьце, калі не просяць. (*Каралю*). Справа не ў гэтым, ваша вялікасць, справа куды больш складаная...

Кароль. А...

Канцлер. У славе пастуха, якога вы мелі ласку (*кланяецца*) прызначыць (*іранічна*) сваім каралеўскім дарадцам, крыецца зусім рэальная небяспека для існавання дзяржавы.

Астралог. Небяспека горшая, чым нават з'яўленне веліканa, ваша вялікасць.

Канцлер. У гэтых крыках я чую пагрозу для вас, ваша вялікасць, асабіста і для каралеўскай улады наогул.

Кароль (*зазлаваў яшчэ больш*). А... нягоднік... Якая чорная няўдзячнасць за маю каралеўскую ласку... Канцлер, яго трэба кінуць у турму!

Канцлер. Пра гэта я казаў вам з самага пачатку, але вы не хацелі слухаць.

Кароль. Гм... (*хацеў супярэчыць, але стрымаўся*). Дык трэба кінуць цяпер.

Канцлер. Цяпер гэтага мала, ваша вялікасць. Яго трэба знішчыць.

Кароль. Знішчыць?

Канцлер (*жорстка*). Назаўсёды!

Кароль. А як гэта зрабіць?

Канцлер. У залежнасці ад абставін. Трэба чакаць яго прыходу.

Цікава, якія патрабаванні ён прад'явіць. Вы-ж абяцалі яму, ваша вялікасць, зрабіць усё, што ён пажадае.

Кароль. Так, я абяцаў. *(Зняважліва).* Але што можа пажадаць вясковы хлапец?

Канцлер. Ён можа пажадаць многае, ваша вялікасць, а каралеўскае слова непарушнае... Асабліва ў такіх складаных умовах...

(За вокнамі ізноў чутны крыкі: „Няхай жыве смелы пастух! Няхай жыве Янка!")

Кароль. Ах! Я не магу гэта чуць!

Астралог. Які гонар для пастуха!

Канцлер. Хутка ён будзе тут, ваша вялікасць. Супакойцеся! Вам трэба падрыхтавацца да прыёма.

(Кароль садзіцца на трон. Крыкі ўзмацняюцца. Гучаць фанфары. У пакой уваходзіць начальнік варты. За ім, адштурхоўваючы яго, убягае радасны і ўпэўнены Янка).

Нач. варты. Ваша вялікасць, прыбыў ваш новы дарадца, збавіцель краіны ад веліканa!

Кароль *(нешта бурчыць сабе пад нос).*

Канцлер *(грозна глядзіць на начальніка варты, той збянтэжана змаўкае).*

Янка *(весела).* Добры дзень, пане кароль! Добры дзень, панове! Пане кароль, я тваё даручэнне выканаў. Велікан пакінуў нашу краіну і ніколі сюды не вернецца.

Кароль *(бурчыць).* А... так... так... я чуў... гэта добра. *(Бездапаможна).* Канцлер!

Канцлер *(з ілжывай ухмылкай).* Яго вялікасць выказвае вам сваю ўдзячнасць за ўдалае выкананне каралеўскага даручэння. Праўда, лепей было-б, калі-б вы забілі веліканa, ці ўзялі яго ў палон, як вам было загадана, але тым не менш, яго вялікасць, наш славуты кароль Дурымонт, згодзен вас за гэта ўзнагародзіць. Кажыце, чаго вы жадаеце?

Янка. Дык вось, пане кароль, ты абяцаў мне за вызваленне ад велікана зрабіць усё, што я пажадаю. Я прашу нямнога. Дай мне такую паперу, каб народу не трэ' было больш працаваць на паноў, няхай кожны працуе сам на сябе. І яшчэ напішы нашаму пану, каб ён не чапаў маіх бацькоў. Больш мне нічога не трэба.

(Сярод прыдворных абурэнне, спалох, мітусня).

Прыдворныя.—Што? Што ён сказаў?
— Якая нахабнасць!
— Вызваліць ад працы мужыкоў!
— Панове, бунт!

— Хто-ж будзе на нас працаваць?
— Як мы будзем жыць?
— Ваша вялікасць, гэта немагчыма!
— Ён звар'яцеў!
— Яго трэба звязаць!

Кароль *(спачатку аслупянеў, потым бязмежнае здзіўленне змяняецца страшным гневам).* Як ты асмеліўся, нягоднік, праклятын валацуга? Як у цябе язык павярнуўся? Як... *(Задыхнуўся ад абурэння).*

Канцлер. Яго словы—дзяржаўная здрада.

Янка *(простадушна).* Мне вельмі патрэбна такая папера. Бачыш, пане кароль, занадта моташна нам ад паноў прыходзіцца. Працуем мы, простыя людзі, а паны толькі падганяюць, ды ўвесь плён нашай працы сабе цягнуць. Адвучыліся паны ад усялякай работы. Без простых людзей жыць не могуць Бач, як замітусіліся, пачуўшы мае словы. Але-ж ты не звяртай на іх увагі.

Кароль. А як-жа я буду? Хто-ж на мяне будзе працаваць, дурань?

Янка. Ах, я і забыўся, што ты таксама пан. Але-ж ты, пане кароль, абяцаў, а каралеўскае слова—непарушнае; ты абяцаў выканаць усё, што я пажадаю. Загадай, каб пісалі паперу хутчэй. У мяне няма часу. Заўтра канчаецца тэрмін, які даў мне наш пан. Заўтра я павінен быць дома. Калі спазнюся я з гэтай паперай, ён можа пакараць маіх бацькоў.

Кароль. Канцлер, што вы скажаце?

Канцлер. Яго словы—злачынны. За тое, што ён адважыўся высунуць перад вамі такое патрабаванне, ён падлягае смяротнай кары. Па законах нашай дзяржавы, той, хто спрабуе вызваліць сялян з-пад законнай улады паноў, альбо нават толькі гаварыць пра гэта, павінен быць пакараны смерцю. Загадайце яго схапіць.

Кароль *(узрадавана).* За твае злачынныя словы і намеры, усё тое, што ты для нас зрабіў, не ў лік. Мой меч—твая галава з плеч.

(Янка адступае, узрушаны)

Прыдворныя.—Скуру з жывога садраць!
— Цвікоў у цела пазаганяць!
— Павесіць за язык, каб увесь свет знаў, што пан—гэта не мужык!
— Язык адрэзаць, ды ногі перабіць, каб не мог па свеце хадзіць!
— Каб не мог гаварыць ды людзей супроць паноў вучыць!

Кароль. Эй, людзі, звязаць яго!

(Прыдворныя кідаюцца да Янкі, схапілі яго за рукі).

Повар *(старому слузе).* Глядзі, як паны прыдворныя замітусіліся. Нібы ваўкі завылі, што нашага Янку злавілі.

Стары слуга. Смяюцца, рукі паціраюць, ды якую прыдумаць кару выбіраюць.

П о в а р. Бедны хлопец! Каб дапамагчы яму...

С т а р ы  с л у г а. Чым мы яму дапаможам? Толькі пашкадаваць ды паспачуваць можам.

Я н к а *(каралю)*. Дык вось як трымаеш ты сваё каралеўскае слова? Вось якая твая каралеўская ўзнагарода за верную службу?

К а р о л ь *(сышоў з трона і падыходзіць да Янкі)*. Паклікаць ката!

К а н ц л е р. Хутчэй паклікаць ката!

(Уваходзіць кат з сякерай. У гэты час прыдворныя спрабуюць скруціць Янку рукі за спіну і звязаць, ён не даецца).

Я н к а. Адпусці мяне, пане кароль. Мяне дома чакаюць бацькі. Успомні, што я вызваліў краіну ад велікана.

К а р о л ь *(у гневе, тупае нагамі)*. Маўчы, хлоп! Маўчы, нягоднік! Гэта я вызваліў краіну, я—кароль!

Я н к а. Пані каралева! Скажы, каб мяне адпусцілі. Няўжо і ў цябе няма літасці?

Д о ч к і  к а р а л я *(у адзін голас)*. Ах! Які нахабны хлоп!

К а р а л е в а *(ганарліва)*. Да злачынца не можа быць літасці.

П е р ш ы  с ы н. Хо-хо! Трымайце яго мацней!

Д р у г і  с ы н. Глядзіце, каб ён не ўцёк!

(Янка спрабуе вызваліцца, але прыдворныя моцна трымаюць яго за рукі. У час барацьбы з-за пояса Янкі выпалілася дудка і ляжыць на падлозе. Ніхто гэтага не заўважыў. Повар падняў дудку, паказвае старому слузе).

С т а р ы  с л у г а *(уздыхае)*. Згубіў Янка сваю дудку. Мабыць, ніколі ўжо не давядзецца яму на ёй іграць... Небарака...

П о в а р. А можа яна яму спатрэбіцца? Можа ён захоча паіграць на ёй перад смерцю?

Я н к а *(каралю)*. Адпусці мяне хоць на некалькі дзён. Мяне бацькі чакаюць. Яны будуць думаць, што я на іх забыўся. Праз некалькі дзён я сам вярнуся сюды назад. Тады судзіце мяне, калі ёсць за што.

К а р о л ь. Ха-ха-ха...

П р ы д в о р н ы я. Ха-ха-ха...

— Хе-хе-хе...

— Хі-хі-хі...

К а н ц л е р *(кпліва)*. Шукай ветра ў полі.

А с т р а л о г *(таксама)*. Хлопчык засумаваў. Не давайце яму веры, ваша вялікасць.

П а э т. Ах, гэты злодзей хоча нас ашукаць.

К а р о л ь. Скончаны твае жыццёвыя справы, валацуга. Гэй, кат! Адсячы яму галаву!

П е р ш ы  с ы н  к а р а л я. Адсячы галаву!

С т а р ы  с л у г а. Цьфу! Удаўся сыночак у бацьку,—волас у волас, голас у голас.

(Кат набліжаецца да Янкі. Той вырываецца з рук прыдворных і адштурхоўвае караля, які стаіць перад ім. Кароль падае. Янка пераскаквае цераз яго і бяжыць па пакоі. Ускочыў на трон. Шукае сваю дудку. Прыдворныя кідаюцца да яго выхапіўшы зброю. Канцлер і астралог падымаюць караля).

П о в а р *(непрыкметна падае яму дудку)*. Трымай, хлопча. Дудку сваю згубіў... Можа яна табе патрэбна.

Янка (*усміхаецца*). Дзякую! (*У руках у яго з'явілася дудка*). Э, навошта так спяшацца? Чым мяне вязаць ды караць, ці не лепш вам, паны, паскакаць? (*Пачынае іграць на дудцы. Усе спыніліся, моўчкі слухаюць, як зачараваныя*).

Янка. А ну, патанцуйце, паны, не саромцеся! (*Іграе*). Глядзі, як паны пад маю дудку заскакалі.

Стары слуга (*повару*). Заскакалі, як гарох на скавარадзе.

(Усе скачуць спачатку павольна, потым усё хутчэй і хутчэй Скачуць кароль канцлер, астралог, паэт, кат з сякерай і ўсе іншыя. Выбіваюцца з апошніх сіл)

Янка (*спыняе ігру*). Слухай, кароль, можа дасі мне зараз паперу? Ды хутчэй, бо інакш прымушу скакаць да самай смерці.

Канцлер. Ваша вялікасць, трэба згадзіцца.

Кароль (*садзіцца на падлогу, слаба ківае галавою ў знак згоды*).

Канцлер (*да Янкі, пахмурна*). Кароль згодзен задаволіць вашу просьбу. Я сам напішу каралеўскі ўказ. Яго вялікасць падпіша.

Янка. Ды пішы хутчэй, у мяне часу няма. І без залішніх фокусаў, бо інакш... (*Дае некалькі тонаў з дудкі. Канцлер і ўсе іншыя падскакваюць на хвілінку, як лялькі*).

Канцлер. Зараз (*піша*).

Янка. Хутчэй!

Астралог. Жахлівае становішча.

Кароль (*схапіўся рукамі за галаву*). Ах, што рабіць, што рабіць?

Паэт. Што з намі будзе?

(Янка сочыць за кожным рухам, трымаючы дудку напагатове).

Канцлер. Ваша вялікасць, папера гатова. Вам трэба яе падпісаць.

Кароль (*уздыхаючы, падпісвае. Дапамагаючы сабе языком, старанна выводзіць кожную літару*). Д-у-р-ы-м-о-н-т-у-с р-э-к-с.

Янка. А пячатка? Дзе каралеўская пячатка?

Канцлер (*злосна глядзіць на яго*). Вось і пячатка. (*Ставіць вялізную пячатку*). Усё ў парадку, пане дарадца. Усё зроблена па форме, як след, і ўсё будзе, як належыць.

(Дае пастуху скрутак паперы. Той, стаячы на троне, асцярожна бярэ).

Янка (*радасна*). Дзякую, панове. Хацелі вы ці не, а папера ў мяне. (*Разглядае паперу з усіх бакоў, мацае пячатку*). Эх, нажаль, чытаць я не ўмею. Каб не спазніцца... Бывайце!

(Янка пакідае трон і ўскаквае на акно. Паварачваецца спіной. У гэты момант прыдворныя зноў спрабуюць кінуцца на яго. Ён іграе. Усе танцуюць супроць волі. Янка выскаквае праз акно. За акном знікаюць у далячыні гукі дудкі. Усе ляжаць знясіленыя на падлозе. Паступова ўзнімаюцца. Глядзяць сумнымі вачыма адзін на аднаго).

Кароль (*жаласна*). Ах, як дрэнна ўсё гэта атрымалася.

Канцлер (*з злоснай ухмылкай*). Не хвалюйцеся. ваша вялікасць. Нядоўга ён пагуляе з гэтай паперай. (*Шэпча каралю нешта ў вуха. Кароль, разявіўшы рот ад здзіўлення, моўчкі глядзіць на яго*).

*ЗАСЛОНА*

Карціна сёмая

## ДОМА

Бедная сялянская хата на ўскраіне вёскі. Дэкарацыі першай карціны. На узгорку стаіць МАРЫНКА і глядзіць у даль, спяваючы.

Марынка (*спявае*):

Завіліся сцежкі,
Завіліся ў полі,
А ў каго спытацца:
— Як туды прайсці?

Дзе мой любы ходзіць,
Дзе шукае долі,
Дзе шукае шчасця
У сваім жыцці?

Калі-б знала сэрца,
Што сустрэў ён гора,
Калі-б знала сэрца
Той далёкі край,—

Паляцела-б птушкай
Да яго за мора,
Паляцела-б птушкай
За сіні Дунай.

А дарожкі-сцежкі
Разыйшліся ў полі,
І каго спытацца:
— Як туды прайсці?

Дзе мой любы ходзіць,
Дзе шукае долі,
Дзе шукае шчасця
У сваім жыцці?

(З хаты выходзіць бацька, за ім маці. Слухаюць).

Бацька. Што, Марынка, засумавала?
Маці. Янкі не відаць?
Марынка (*сумна*). Не... Няма Янкі.
Маці. Пайшоў за шчасцем, сыночак, а шчасце не птушка—не зловіш.
Бацька. Годзе, старая... Забавіўся недзе сыночак. Хутка, мабыць, вернецца.
Маці. Калі гэта ён прыдзе, а сёння-ж дажынкі... тэрмін скончыўся, што даў яму пан. Як мы з панам разлічымся?
Марынка. Цётачка, усё добра будзе... Вось пабачыце. Прыдзе Янка. Пачакайце.
Маці. А калі нічога не прынясе? Калі ніякага сродку не знойдзе? Разбурыць пан нашу хацінку.
Бацька. Свайго лёсу не мінеш... Пойдзем тады па свету, старая... Жабраваць будзем.

Марынка. Чакайце... Нехта ідзе... *(Пабегла).*
Маці. Няўжо Янка, сыночак наш?.. Няўжо гэта радасць наша вярнулася?
Бацька *(прыслухоўваецца).* Гэта войт.
Марынка *(прыбегла).* Войт ідзе...
Маці. Ой, ліха! прапалі нашы галоўкі...

(Уваходзіць войт).

Войт *(да бацькі, злорадасна).* Што, не вярнулася тваё шчанё? Сёння-ж дажынкі.
Бацька. Пане войт. Сонца яшчэ высока. Дажынкі не скончаны. Вернецца наш сынок.
Войт. Тэрмін скончан, галубочкі. *(Крывадушна).* Што рабіць будзеце? Куды падзенецеся, старыя?
Маці. Пачакай, пане войт. Вернецца Янка.
Войт. Пан чакаць не захоча. Пайду, скажу яму, што няма вашага Янкі, што ашуканец ваш Янка. Не з'явіўся.
Маці. Пане войт! Злітуйся! Пачакай хоць да вечара.
Войт *(злосна і самаздаволена ўсміхаецца).* Што, галубочкі, не спадабалася? Нічога не зробіш, даражэнькія. Не магу... не ўправе... Прыдзецца разбурыць вашу хату... А вы не чакайце тут, пакуль вас бізунамі пагоняць. Ідзіце сабе з богам, пакуль час ёсць, каб потым пан не зазлаваў яшчэ больш. Гэтак лепей будзе. *(Пайшоў).*
Марынка *(абурана).* От, каб стукнуць яму па патыліцы...
Маці *(не ведае, што рабіць. Мітусіцца, ломячы рукі).* Ой, гора! Ой, ліха!
Марынка *(гукае).* Янка! Дзе ты? Адгукніся!
Бацька *(пахмурны, пахілы).* Не ўчуе...

(За сцэнай чуецца спеў. Спяваюць жаночыя галасы. Міма хаты павольна ідуць з песняй жанчыны. На галаве першай з іх вянок з каласоў, у руках вялікі сноп. Ззаду ідуць мужчыны. У спевах яны не ўдзельнічаюць. Сярод іх дзед-казачнік).

Жанчыны *(спяваюць):*

Ды ўжо сонейка над дубком, над дубком,
Добра жаці халадком, халадком.
Ужо сонейка ды над грушамі,
Пусці ты нас, пане, з душамі.
Ды ўжо сонейка за лес коціцца,
Нам, маладзенькім, дамоў хочацца,
Бо ўжо ручанькі нарабіліся,
Ды ўжо ножанькі нахадзіліся
Ды ўжо вочанькі наглядзеліся.

Бацька. Чуеш, маці? Дажынкі. Да пана ідуць.
Першая жанчына. Цётачка, чаго вы тут сядзіце? Пойдзем разам.

(Жанчыны запрашаюць маці далучыцца да іх).

Другая жанчына. Ідзі з намі, старая.
Трэцяя жанчына. Далучайся да нас.
Першая жанчына. Хадзем на дажынкі.

Мацi. Не ў галаве мне гэта, любыя. Пан хоча нас з хаты выкінуць, а Янкі нашага няма.
Бацька. Войт да нас прыходзіў. Сёння тэрмін скончыўся. Разбурыць ён хату.

(Жанчыны супакойваюць бацьку і маці).

Першая жанчына. Гэта ён толькі так, пагражае.
Другая жанчына. Палохае.
Трэцяя жанчына. Сёння-ж дажынкі.
Першая жанчына. Народ да пана з снапом ідзе.
Другая жанчына. Вядомая рэч, свята.
Марынка. Жанчыны! Дапамажыце старым! Давайце ўсе разам пана за іх прасіць. Можа ён дзеля свята даруе, а там, мабыць, Янка вернецца.
Першая жанчына. Вядома, пан-жа таксама чалавек.
Другая жанчына. Павінен і ён сэрца мець.
Бацька. Хвалі каня пасля дарогі, а пана—як выцягнуў за ногі.
Маці. Ой, жанчынкі, чуе маё сэрца ліха. Пан што захоча, то і зробіць. Не паглядзіць ён на свята.
Першая жанчына. Не бойцеся! Мы вас у крыўду не дадзім.
Другая жанчына. У бядзе не пакінем!
Марынка. Чаго пана баяцца?
Першая жанчына. Зразумела...

(Натоўп рушыў далей. Жанчыны заспявалі).

Жанчыны:

Наш пан—баран, баран—
Не пускае жнеек зарань.
Наша пані авечая—
Не пускае жнеек давечара.
А мы з поля ідзем,
Ды свайго пана клянем.
Ой, мы свайму пану
Учынілі славу.
І выжалі жыта лаву.
Здароў, пане, жыта зжаўшы,
Каб здох ты, не лепетаўшы,
Не хварэўшы, не балеўшы,
Ды нашу працу паеўшы.

Марынка. Войт ідзе з гайдукамі!

(З'яўляецца войт з гайдукамі, каб выканаць загад пана і разбурыць хату. Натоўп спыніўся).

Войт. Чаго рты параззявалі? Прэч з дарогі!
Першая жанчына. А ты не крычы... мы не глухія.
Войт *(да бацькі і маці)*. Вы яшчэ тут? Не паслухалі мяне? Дык самі на сябе наракайце. Пан загадаў вашу хату разбурыць, а вас пачаставаць бізунамі. *(Да гайдукоў)*. Выканаць панскі загад!
Марынка *(да сялян)*. Хіба гэтак можна? Людзі, вы чулі?

(У натоўпе абурэнне).

Першая жанчына *(войту)*. Не чапай старых людзей!

Другая жанчына. Пабойся бога!
Трэцяя жанчына. Сёння-ж свята!

(Жанчыны з Марынкай не пускаюць гайдукоў. Гайдукі нерашуча спыніліся).

Войт (*зазлаваў, да жанчын*). Вам чаго тут трэба? Вы тут навошта?

Першая жанчына. Сёння—дажынкі. Мы да пана ідзем, а ты тут людзей крыўдзіш.

Войт. Не твайго розуму справа. (*Да жанчын*). Ідзіце сваёй дарогай, а мне не перашкаджайце. На тое панская воля. Яго загад выконваем.

Першая жанчына. Глядзі, які спрыт на яго напаў!
Другая жанчына. Адкуль у яго толькі злосць бярэцца!
Трэцяя жанчына. Войт і кат—адзін аднаму брат.
Марынка. Людзі, не давайце старых у крыўду! Ганіце прэч войта з гайдукамі!

Войт (*зазлаваў яшчэ больш, грозна*). Што! Хто гэта сказаў? (*Глядзіць на Марынку*). Ізноў ты?

Першая жанчына (*ціха*). Марынка, хавайся!

Войт (*кінуўся да Марынкі, тая схавалася ў натоўпе*). Дзе яна?.. (*Жанчыны яго не пускаюць*). А, дык вы гэтак? Бунтавацца? Лаяцца надумалі? Войту перашкаджаць? Захацелася бізуноў пакаштаваць? Думаеце, я не чуў, што вы тут пра пана спявалі? Усё будзе пану вядома! Прэч, нягодніцы!

(За сцэнай чуецца голас пана: „Войт! Дзе войт?")

Войт (*кідаецца яму насустрач*). Я тут, паночку! (*Да жанчын узрадавана і злавесна*). Ага, сам пан ідзе! Будзе вам цяпер, дурніцы!

Жанчыны (*спыніліся ў замяшанні, устрывожана*):
— Пан!
— Пан ідзе!

(Уваходзіць пан, народ спалохана адступае).

Пан (*войту*). Чаму мой загад не выконваецца? Чаму хата не разбурана?

Войт. Я хацеў разбурыць, паночку, ды вось яны (*паказвае на жанчын*) крычаць, лаяцца, перашкаджаюць.

Пан. Што? Як гэта перашкаджаюць? Як гэта крычаць, калі пан загадаў?! (*Да жанчын*). Вам чаго тут трэба? Вы што тут робіце?

Першая жанчына. Мы-ж да вас ідзем... На панскі двор.
Другая жанчына. Даруйце, паночак!
Трэцяя жанчына. Сёння дажынкі.

Пан. На панскі двор?.. Дык чаго спыніліся? Ідзіце! Я зараз буду дома. (*Напружанае маўчанне. Ніхто не рухаецца з месца. Пан заўважыў бацьку і маці*). Вы яшчэ тут? Тэрмін скончан! Прэч адсюль!

Маці. А божа-ж ты мой! Паночак, злітуйся. Куды-ж мы пойдзем? Увесь век свой тут, у гэтай хатцы жылі, на гэтай зямельцы гаравалі.

Пан. На маёй зямлі сядзелі, з маёй ласкі жывіліся! Я—гаспадар і зямлі, і хаты. Што хачу, тое і раблю.

Войт (*да бацькі і маці*). Чулі?

Маці (*плача*). Паночак, пачакай яшчэ трошкі. Вось хутка сынок наш вернецца. Можа ён раду дасць.

Пан. Ха-ха-ха... Старая ведзьма. Дык ты сапраўды яшчэ верыш, што твой шчанюк вернецца?

Войт. Ніколі не вернецца, паночку.

Маці. Ён ніколі не маніў.

Пан. Брэшаш, старая. Твой сын—лайдак, валацуга. Швендаецца, мусіць, дзе-небудзь па свеце ды жабруе, а мо' і крадзе, зладзюга.

Войт. Уся іхняя парода гэткая, паночку. Які дуб, такі і тын, які бацька, такі і сын.

Маці (*горда выпрамляецца, не глядзячы на слёзы і безвыходнае становішча*). Няпраўда! Хлусіш, панскі падбрэхіч! Мой сын не такі. Ён лепшы за вас усіх. Ён сумленны, добры. Яго слова—цвёрдае.

Пан. Даволі балбатні. (*Войту*). Гэй, разбурыць хату! Выкінуць старыя косці бізунамі, калі самі не йдуць.

(Войт і гайдукі кідаюцца выконваць загад. Народ хвалюецца).

Маці (*плача, не пускае гайдукоў*). Не дам... не рушце, не вашае...

Бацька (*схапіў войта за руку*). Пане войт... Пане войт...

(Войт б'е старога па твару)

Бацька (*падае*). Душагубы! Літасці ў вас няма.

Маці. Ратуйце!

Марынка (*схапіла войта ззаду за каўнер*). Людзі! Чаго глядзіце? Бачыце, што робіцца? На дапамогу!

(У гэты момант за сцэнай чуецца вясёлы спеў).

Марынка (*выпусціла войта, радасна*). Янка!.. Янка вярнуўся!..

(Уваходзіць Янка)

Янка. Добры вечар, суседзі!

Маці (*кідаецца яму на шыю*). Сыночак мой, родненькі!

Янка (*спыніўся*). Што гэта тут робіцца?

Маці. Выганяюць нас.

Бацька. Хату разбураюць.

Янка (*абнімае бацьку і маці*). Не бойцеся, мае любыя. Усё ўладзіцца. Усё добра будзе.

Маці. Дзе-ж ты быў, сыночак?

Янка. На каралеўскай службе, маці.

(Зацікаўленыя сяляне пасоўваюцца бліжэй).

Пан. Што? Ха-ха-ха!.. От брэша, лайдак!

Войт. Ён заўсёды брэша, паночку.

Пан (*кпліва*). Мабыць, разлічыцца са мною спяшаешся?

Янка. Цяпер не тыя часы, каб з нас нямаведама за што спаганяць! Цяпер ты нас не будзеш няволіць!

Пан *(здзіўлена)*. Як? Што ты кажаш, лайдак?

Янка *(да сялян)*. Слухайце, людзі! Кароль загадаў, каб народ на паноў не працаваў. Няхай кожны сам на сябе працуе. Мы цяпер вольныя.

(Сярод сялян радаснае ажыўленне).

Войт. Ён брэша, паночку. Не можа таго быць!

Пан *(абурана)*. Няпраўда! Не слухайце яго! Не можна! То ёсць бунт! *(Да Янкі)*. Дык ты гэтак загаварыў, хаме?

Янка. Цішэй, пане! Вось каралеўская папера. Кароль сам яе падпісаў, каб народ на паноў не працаваў. Глядзіце, людзі!

(Янка ўрачыста дае пану скрутак паперы, паказваючы ўсім вялізную каралеўскую пячатку).

Пан *(недаверліва)*. Што гэта *(Глядзіць на пячатку. Здзіўлена паціскае плячыма)*. Нічога не разумею... *(Усе абступілі яго. Пан нахмурыўся, напружана чытае сам сабе, потым твар яго праясняецца. Глянуўшы на Янку, ён пачынае рагатаць, упёршыся рукамі ў бокі)*. Ха-ха-ха... Ха-ха-ха...

(Сярод сялян нездавальненне).

Янка *(здзіўлена глядзіць на пана)*. Чаго смяешся? У паперы напісана, што мы цяпер вольныя і што нікому не трэба працаваць на паноў, і каб ты, пан, маіх бацькоў не чапаў. *(Сур'ёзна)*. Гэта, панок, не жарты.

Пан. Ха-ха-ха... *(Ад смеху не можа гаварыць)*. От, валацуга... Ха-ха-ха... от, лайдак... от, дурань... З яго пажартавалі, а ён паверыў... Ха-ха-ха... У каралеўскай паперы сказана: «Хто прад'явіць гэтую паперу, ды будзе маніць пра тое, што нібыта сяляне не павінны працаваць на паноў, таго адразу схапіць, дзе-б ён ні знаходзіўся, і звязаць, як дзяржаўнага злачынцу і здрадніка, а калі ён будзе супраціўляцца і каламуціць народ—пакараць яго смерцю на месцы. Падпісана: «Дурымонтус рэкс». *(Сялянам)*. Чулі?

(Сяляне маўчаць. Войт глядзіць на паперу цераз плячо пана).

Войт *(зірнуўшы на Янку, злорадасна)*. Не тая папера!.. Ашукалі дурня.

Янка. Што гэта? Людзі, сяляне... Бачу я зноў на справе, чаго варты каралеўская падзяка ды каралеўскае слова.

Пан. Не слухаць! *(Гайдукам)*. Узяць яго!

(Па знаку пана гайдукі кідаюцца на Янку).

Маці. А дзіцятка-ж маё, а маё роднае! А што-ж гэта яны робяць з табою, злодзеі?..

Войт. Цыц, падла!

Пан. Звязаць яго хутчэй! Зараз мы яго навучым трохі, як маніць.

Янка. Калі так, трымайся, пан. Ёсць у мяне свой сродак. Паскачаш ты пад маю дудку. *(Адскаквае ў куток, схапіўшы дудку і пачынае іграць)*. А ну, патанцуй, пане, і ты войт, і вы, панскія сабакі, гайдукі!

(Пан, войт і гайдукі пачынаюць скакаць. Сяляне здзіўлена глядзяць на пана, потым пачынаюць смяяцца).

Першая жанчына. Глядзі, што пан нагамі вырабляе.
Другая жанчына. Войт таксама не адстае...
Трэцяя жанчына. Але-ж і дудка якая цудоўная ў Янкі...
Бацька (*да пана*). Заўсёды ты нас катаваў, а цяпер і сам заскакаў.

(Народ смяецца).

Янка. Хутчэй, весялей! Пане войт, не лянуйся! Гэй, паночку, яшчэ разок! Гоп! Гоп!
Пан. Змоўкні, лайдак! Спыніся! Я цябе павешу!
Бацька. А ну, паспрабуй...
Войт. Даволі, Янка... Пазабавіўся і досыць...
Пан. Дай адпачнуць...
Янка (*спыняе ігру, смяецца*). Ну, адпачывай...

(Знясілены пан сядзіць на зямлі і бездапаможна міргае вачыма. Жанчыны абкружылі яго. Смяюцца і кпяць з пана).

Пан (*жаласлівым голасам*). Даволі, суседзі, даволі... Пажартавалі, пазабавіліся крыху і досыць! (*Спрабуе ўзняцца, але не можа*). Адпусціце мяне, людзі добрыя, дахаты. Мы з вамі заўсёды жылі па-суседску—у добрым ладзе ды ў спагадзе. Навошта нам гэтыя сваркі? Трэба ўсё вырашаць па-сямейнаму: вы—мне, я—вам. Бо я—ваш бацька, а вы—мае дзеці. Я вас заўсёды любіў і зараз люблю. Войт гэтаму сведка.
Войт (*хныкае*). І я вас люблю, браточкі. Дальбог, люблю!

(Народ смяецца)

Дзед-казачнік (*да публікі ў зале*). Ад такой любві можна працягнуць ногі. Бачылі, які хітры? Але-ж і народ не дурны. Слухайце, што далей будзе.
Бацька. А нас за што хацеў пакараць?
Маці. З хаты выгнаць?
Марынка. Хату разбурыць?
Пан. Хату разбураць я не буду. Бог з вамі, жывіце сабе на здароўе. Хіба я перашкаджаю? Гэта я толькі так, пажартаваць хацеў. Разлічымся як-небудзь потым, па-сямейнаму... Не трэба на мяне крыўдзіцца, суседзі.
Першая жанчына. Глядзі, як заспяваў...
Марынка. Соладка, як салавейка.
Маці (*здзіўлена*). Як быццам і не наш пан.
Другая жанчына. Нібы яго падмянілі.
Трэцяя жанчына. І войт таксама...
Першая жанчына. Заўсёды як воўк на авечак кідаўся, а цяпер сам у авечку ператварыўся.
Войт (*да Янкі ліслівa*). Дзе ты гэткую цудоўную дудку здабыў? З выгляду простая, а якую сілу мае... (*Нечакана выхапіў дудку*). Цяпер ты пад нашу дудку паскачаш!
Янка (*кідаецца на войта*). Аддай дудку, злодзей!

(Войт перадае дудку пану).

П а н *(ускочыў на ногі)*. Не, любы! Цяпер ты гэтай сілы пазбаўлен! *(Высока ўзнімае дудку)*.

Д з е д-к а з а ч н і к *(падышоўшы ззаду, выхапіў дудку з рук пана)*. Не, паночку, памыліўся. З намі ты не разлічыўся. Ізноў табе шкода,—цудоўная дудка ў руках народа. *(Перадае дудку Янку)*.

(Янка зноў пачынае іграць).

Я н к а. Трэба нам не на караля спадзявацца, а самім сваёй волі дамагацца. Усіх паноў прагнаць ды сабе лепшую долю прыдбаць.

М а р ы н к а. А з ім што рабіць? *(Паказвае на пана)*.

Я н к а. Досыць яму над намі панаваць. Выкінуць трэба яго з нашай зямлі, ды так гнаць, каб ніколі сюды больш да нас не вяртаўся.

П а н. Даруйце, людзі добрыя! Пакіньце мяне! Ніколі не буду рабіць зла. З усімі буду жыць у згодзе.

М а р ы н к а *(падскаквае да пана і пад агульны рогат хлопае яго снапом па ілбу)*. Даволі маніць, нас не ашукаеш!

М а ц і. Без цябе абыйдземся.

(Жанчыны абкружылі пана, войта і гайдукоў, заспявалі).

Ж а н ч ы н ы:

Дажалі жыта,
Выгналі ліса.
У нашага пана
Галава лыса.
А ў нас сёння дажон, дажон;
Злому пану ражон, ражон!

(Пад агульны смех і спевы жанчын пана, войта і гайдукоў выкідваюць са сцэны і гоняць далёка за вёску).

Я н к а. Шчаслівай дарогі, каб паламаў сабе ногі!

Б а ц ь к а. Калі-б паноў чорт узяў, тады-б свет гора не знаў!

Д з е д-к а з а ч н і к. А каб нам гэтае ліха зламаць, трэба ўсім, як адзін чалавек стаяць. Між сабою не сварыцца ды ад ворагаў бараніцца, бо для дружнай грамады ніякі вораг не страшны.

Б а ц ь к а. Будзе сярод нас згода—будзе і выгода.

Д з е д-к а з а ч н і к. Дык вось, людзі добрыя, будзем мы адзін за аднаго стаяць ды ворагаў-паноў з зямлі праганяць, а цяпер не шкада і патанцаваць.

(Агульныя вясёлыя танцы. Народнае свята. Пад канец танцаў дзед-казачнік выходзіць на авансцэну),

Д з е д-к а з а ч н і к *(да публікі)*.

Казаў я, што Янка—разумны хлапец,
На гэтым і казцы...

У с е *(разам)*. Канец!

*ЗАСЛОНА.*

*Канец.*

*Міхась Калачынскі*

# ВЕРНАСЦЬ

Расставаліся.
Далёкая дарога
Ад заветнай брамы пацякла.
Не дарыла ты напамяць многа,
Толькі йголку з ніткай прынясла.

Прынімаю.
Будзе неабходна.
Хай на ўсякі выпадак ляжыць.
І цябе, як песню, ў час паходны
Буду помніць, буду даражыць.

Аддала.
Успыхнула вясёлкай
І яшчэ сказала на хаду:
— За табой, як нітка за іголкай,
Я па свету беламу прайду.

*Павел Хадарэнка*

# ВЕЧАР

Ты прыходзь, любімая, на ўзрэчча,
Паглядзі, які прыгожы вечар:
Росы цёплыя спусціліся на мяту,
Дзе пяюць калгасныя дзяўчаты,
Зоры-вугалькі мігаюць над ляском
І глядзяць на зрубы новых хатаў,
Пралятае вецярок крылаты,
Размаўляе штосьці з асакой.
У садах, малінавых, чубатых.
Салаўіны спеў... Шпакі сядзяць,
І сваіх маленечкіх шпачатаў
Угаварваюць лажыцца спаць.
Мы па травах пойдзем непрымятых,
А наўсцяж—чароты зашумяць...
Маладзік—вялізны спелы яблык
Нам дваім захочацца сарваць.
Пасядзім, падзелімся навінамі,
Гутарку падслухаюць галіны...
Ты прыходзь, любімая, на ўзрэчча
Паглядзі, які прыгожы вечар!

1939 г.

*Е. Зомерфельд*

# КАРОТКІЯ ВЕРШЫ

## 1. САКАВІК

Бляск паводкі, сняжок наздраваты,
шкельцы льдзінак-лапек дзе-ні-дзе,
сінь сасны, беразняк белаваты,
ды празрыстае неба ў вадзе.

Ну, каму незнаёма ўсё гэта?—
То пейзаж, да якога прывык,
калі ў край наш, вясной абагрэты,
светлым поўднем ідзе сакавік.

## 2. ХЛОПЧЫК СА ЗМЕЕМ

Застыў, не міргне, а над ім—
зазыўная высь веснавая.
Глядзіць ён туды, дзе як дым,
парывісты змей яго тае.

І я гавару: пачакай,
Захочаш, хлапчук, і над краем
уздымешся вышай за гай,
вышэй, чым твой змей узлятае.

*М. Дзядзюля*

## У САДЗЕ

Сад калгасны
Ў поўдзень ясны
Навакол абходжу я.
Па калені
Ў белай пене
Грушы, яблыні стаяць.
Слівы, вішні
Цветам пышным
Апрануў зялёны май.
Кажуць людзі:
Добры будзе
Ў садзе сёлета ўраджай.
Дуне ветрык—
З вецця кветкі
Засцілаюць снегам дол.
Завіруха
Белым пухам
Густа сыплецца вакол.
Пчолы дружна
Ў садзе кружаць,
Сабіраюць мёд яны.
З неба сонца
Лье бясконца
Жыватворчы сок вясны.

*Уладзімір Дубоўскі*

# У КУЗНІ

На прыгуменні вішнявое голле
Схіляе нізка спелыя плады,
А тут, у кузні, зыркае вуголле
Праменіць пырскі іскраў залатых.

Я з горна сталь дастану абцугамі,
І па кавадлу гахнуць малаты!
І паляціць за рэчкай над лугамі
Рытмічны звон з-пад іскраў залатых.

Мне праца сумам сэрца не агорне,
Не згасне сілы подых малады.
Ці не таму гарыць жалеза ў горне
І сыпле жмені іскраў залатых?

Ці не таму і звон ляціць наўкола
І ўторыць гулкім рэхам аб платы?
Здаецца лёгкім самы большы молат
І ззяе россып іскраў залатых.

Хай спеюць вішні там, на прыгуменні,
Няхай на лузе мора пекнаты—
У нас, у кузні тут, свае праменні—
Снапы бліскучых іскраў залатых!

Мінск, май 1938 г.

*Янка Маўр*

# ПАДАРОЖЖА АД ШКОЛЫ ДА ДОМУ

Спрадвеку людзі прывыклі лічыць, што ўсякае падарожжа перш за ўсё залежыць ад надвор'я. Кожны ведае, што і конь і чалавек у добрае надвор'е куды больш і шпарчэй пройдуць, як у дождж ці завіруху. Нават поезд у дрэннае надвор'е затрымліваецца, а самалёт дык той часта і зусім ляцець не можа.

А вось Сцёпка—наадварот: у самае дрэннае надвор'е пралятае ад школы да сваёй хаты ў трынаццаць з паловай мінут, а потым, чым больш паляпшаецца надвор'е, тым больш часу займае дарога. Напрыклад, у добры зімовы дзень, калі няма марозу і снег такі мяккі і ліпучы,—падарожжа да-хаты займае ўжо гадзіну і больш. А ў цёплы веснавы дзень, калі сонейка свеціць так ласкава, і вераб'і заўзята крычаць з кожнага дрэва, з кожнага даху,—адлегласць ад школы да Сцёпкавай хаты значна павялічваецца і, каб прайсці яе, трэба патраціць прынамсі гадзіны дзве-тры. Аб адным такім Сцёпкавым падарожжы нават варта і расказаць.

Толькі ён вышаў са школы і рушыў у дарогу, як здарылася катастрофа: машына наляцела на каменны слуп і павалілася на бок. Каб хто не падумаў, што гэта была машына, у якой ехаў Сцёпка,—мы павінны адразу сказаць, што гэта была зусім другая машына, ніякага дачынення да Сцёпкі не меўшая. Але-ж за тое Сцёпка меў да яе вялікае дачыненне. Па-першае, яна пацярпела аварыю. А хіба можа якая аварыя абысціся без Сцёпкі? Ды каб яго ўначы хто разбудзіў і сказаў, што за сем кілометраў адбылася якаясьці аварыя,—ён і тады пабег-бы глядзець на яе. А тут без ніякіх табе турбот аварыя адбываецца, можна сказаць, пад самым носам. Не кожны дзень трапляецца такая выгода. І ён павінен скарыстаць яе поўнасцю. Ён павінен бачыць, як будуць вылазіць з машыны людзі, пераканацца, ці не паранены яны, даведацца, з якой прычыны адбылася аварыя, разгледзець, што паламалася і папсавалася, пакратаць гэтыя мясціны рукамі, прасачыць, як будуць падымаць машыну, якім чынам і куды яе павязуць, дазнацца, чыя гэта была машына. Адным словам, работы для Сцёпкі было нямала, і работы нялёгкай, бо трэба было гвалтам праціскацца наперад, цярпець штуршкі дарослых, змагацца з другімі такімі самымі хлапчукамі за першае месца і ўвесь час ухіляцца міліцыянера, які ўпарта адганяў публіку ад машыны, нібы шкада было, што добрыя людзі хочуць паглядзець на яе.

Прайшло можа больш за поўгадзіны, пакуль справа была ўпарадкавана, і Сцёпка мог спакойна ісці да дому. Ідучы праз сквер, ён убачыў малога хлопчыка з кнігамі, відаць, першакласніка, які нізенька схіліўся да зямлі і калупаў там нешта трэсачкай. Быстрае Сцёпкава вока адразу заўважыла здабычу: калі гэтага хлопчыка крыху штурхануць ззаду, ён адразу ўтыркнецца носам у зямлю—і будзе вельмі смешна. Сцёпка ціханька падкраўся да хлопчыка, штурхануў яго—і той сапраўды ўтыркнуўся носам у зямлю і заплакаў. Сцёпка засмяяўся. Ён нават думаў, што і ўсім, хто бачыць гэта, будзе таксама смешна. Але вышла наадварот.

— Ты чаго крыўдзіш хлопчыка, хуліган?—узлавалася адна старая жанчына.

— Зараз я цябе самога так штурхану!—крыкнуў нейкі вялікі хлапец.

Сцёпка пастараўся хутчэй знікнуць у натоўпе.

«Не разумеюць жартаў, чапляюцца!» крыўдзіўся ён на людзей. «Пабіў я яго, ці што?..»

Але разважаць не было калі: перад ім была вітрына з усялякімі прыладамі, у тым ліку шмат рознастайных, дасканалых ножыкаў. Гэтую вітрыну Сцёпка добра ведаў: не адну гадзіну ён прастаяў тут, і ножыкі ўсе вывучыў. Але і на гэты раз ён таксама спыніўся перад ёй. Хіба можна прайсці міма такога багацця? Узяць, напрыклад, гэты моцны, крывы ножык. Каб Сцёпка яго меў, ён нікога не баяўся-б: ён-бы і ад ваўка абараніўся, і ад мядзведзя, і ад тыгра, а можа нават і ад льва; і слану можна было-б вока выкалаць. А вунь той тоўсты ножык—гэта-ж цэлая майстэрня, а не ножык! Усе інструменты ў ім ёсць. Каб яго мець, можна было-б выраблядь усё, што захочаш. Сцёпка тады гадзіннік паспрабаваў-бы сабе змайстраваць. А яшчэ лепш—стрэльбу. Але каштуе гэты ножык-майстэрня вельмі дорага. У такім разе Сцёпка быў-бы рады і гэтаму зграбнаму ножычку, які каштуе значна менш. Тады-б ён зусім выкінуў вон тую ламаку-жалязяку, што ляжыць у яго кішэні. Але і такіх грошай Сцёпка дастаць не можа...

Невядома колькі часу ён прастаяў-бы перад вітрынай, каб не пачулася ваенная музыка. А калі ўжо музыка на вуліцы, то пэўна там нехта ідзе. А калі ідзе, то як-жа-ж можа Сцёпка стаяць? І самі ногі панеслі Сцёпку да музыкі.

Аказалася трохі не тое, што ён думаў. Гэта везлі нябожчыка. А нябожчыкаў, як вядома, вязуць чамусьці вельмі марудна. І ісці ціха за імі не зусім прыемна. Таму Сцёпка правёў нябожчыка ўсяго толькі два кварталы. І зусім у працілеглы бок ад свайго дома.

Але затое ён апынуўся каля гарадскога сада. А там у кутку некалькі хлапцоў заўзята гулялі ў ямкі. Ды яшчэ на грошы. А ў Сцёпкі ў кішэні было трыццаць восем капеек уласных грошай ды яшчэ рубель, які яму дома далі, каб купіў соды. Ну, рубель, гэты, вядома, лічыць нельга было, але на трыццаць восем капеек нарызыкнуць было варта. А можа яшчэ якіх трыццаць капеек наляціць? І ён далучыўся да хлапцоў.

Іх было двое. Аднаго з іх Сцёпка нават добра ведаў. Прынамсі, яму так здавалася. А калі падумаць добра, то ведаў ён толькі яго

прозвішча, ды і то, відаць, не сапраўднае, а вулічнае—Скок. А хто ён такі, як жыве, ці вучыцца ў школе—пра гэта так і не давялося спытацца: не было часу. Бо справы ў іх заўсёды былі падобныя да сёнешняй, а ў такія мінуты не будзеш распытвацца пра розныя там дробязі.

— Будзеш гуляць?—дзелавіта спытаў Скок.

— Буду,—адказаў Сцёпка, скоса пазіраючы на другога хлапца. Нешта не падабаўся ён Сцёпку. Перш за ўсё, ён быў даўгі, чорны, гады на тры старэйшы за іх. Потым, у яго губы былі тоўстыя і нос кірпаты. І нарэшце—вочы сядзелі надта глыбока і выглядалі з-пад ілба, як з-пад страхі. Так і здавалася, што ён нешта такое сабе думае. Сцёпка-ж быў, наадварот, малы, рыжы, увесь у рабацінні, вочы светлыя, адкрытыя—і пра яго ніхто не падумаў-бы, што ён думае. Ну, а Скок быў так сабе, сярэдні.

Пачалася гульня. Сцёпка са Скокам мітусіліся, хваляваліся, крычалі, спрачаліся, а той хлапец тымчасам ціха, спакойна трапляе, ды трапляе ў ямку. Не прайшло і гадзіны, як усе грошы перайшлі ў кішэню гэтага хлапца. Перайшоў і Сцёпкаў рубель, палавіну якога ён сам прайграў, а палавіну пазычыў Скоку, які таксама прайграў.

— Гэта таму, што ён даўгі!—абурайся Сцёпка.—Яму з вышыні добра ямку відаць, а калі нагнецца, то і бліжэй да яе становіцца, як мы.

— Ну, і добра!—сказаў даўгі хлапец і пайшоў сабе прэч, пасвістваючы.

— Гэта ўсё праз цябе!—папракнуў Сцёпка свайго прыяцеля.— Што цяпер будзе з гэтым рублём?

— А ты скажы, што ў цябе ўкралі яго ў школе—вось і ўсё,— параіў Скок.—Падумаеш, якая важная рэч рубель! Я нядаўна пяць рублёў прайграў—і то нічога. На, закуры—лягчэй на сэрцы будзе.

Сцёпка адчуў павагу да Скока. Гэткая сталасць і мужнасць! А ён, Сцёпка, нібы дзіця малое перад ім. Не, трэба трымаць сябе з гонарам. Сцёпка з важным выглядам узяў папяросу і закурыў. Але зараз-жа ў горле запякло, зашчыпала, пачаўся кашаль, слёзы на вачах паказаліся. Трэба было ратаваць свой гонар.

— Гэта якія папяросы?—спытаўся ён праз кашаль.

— «Ракета».

— Не падабаюцца яны мне,—ужо не хаваючыся, скрывіўся Сцёпка.—Я больш куру «Спорт».

Цяпер ужо Скок адчуў павагу да такога сталага курыльшчыка.

А сапраўды Сцёпка яшчэ не курыў, а толькі хацеў навучыцца курыць. Ды навука аказалася не такая лёгкая, як можа каму здаецца. Гарката пячэ, муціць у роце, вочы на лоб вылазяць, а прыемнасці і следу няма. Але-ж людзі кураць. І не толькі дарослыя, а і такія, як Скок. Проста зайздрасць бярэ, як гэты Скок пушчае дым праз нос! Ды за адно гэта варта перацярпець пакуту! І Сцёпка са слязмі на вачах цярпеў гэтую пакуту.

Яны вышлі на вуліцу. Ад астаноўкі толькі што адышоў трамвай.

— Паедзем?—спытаў Скок.

— Паедзем.

Яны пагналіся за трамваем, ускочылі на падножку і павярнуліся спіною да ўвахода. Ніхто не звярнуў на іх увагі, бо ўсе ўжо прывыклі да такіх пасажыраў.

Але хутка пачуўся голас жанчыны-кандуктара.

— Эй, хлопцы! Заходзьце ў вагон і бярыце білеты. Нельга на падножках ездзіць!

Але хлопцы, здавалася, нічога не чулі, разглядаючы вуліцу.

Зноў той-жа голас:

— Чуеце вы? Заходзьце ў вагон!

Хлопцы яшчэ больш уважліва сталі прыглядацца да вулічнага руху.

Працягнулася рука кандуктара і ўзялася за плячо Скока. Той пачаў упірацца, вырывацца. Але раптам ён адчуў, як за каўнер узялася другая рука, вялікая, дужая, падняла яго, як саломінку, і паставіла на пляцоўку. Такім-жа чынам побач з ім быў пастаўлены і Сцёпка.

А затым аднекуль зверху пачуўся грозны голас:

— Вы чаго гэта не слухаецеся? Чаго парушаеце парадак?

Хлопцы нават не адважыліся глянуць на гэтага высокага і дужага дзядзьку. Не чакаючы, пакуль трамвай зусім спыніцца на астаноўцы, яныірванулія вон і выскачылі на вуліцу.

— Навошта лез сюды? Яна заўсёды чапляецца,—сказаў Сцёпка.

— Ды я не заўважыў, што тут яна. Нічога не зробіш, трэба рабіць перасадку. Ты куды хочаш?

— Дахаты.

— А я яшчэ з'езджу на Камароўку.

І хлопцы разышліся. Сцёпка дачакаўся другога трамвая, стаў ля выхада з вагона і пачаў прасіць у выходзячых білет. Некалькі чалавек буркнулі: «Ідзі прэч!», але знайшоўся і такі, які аддаў свой білет. Тады ўжо Сцёпка важна, павольна ўвайшоў у задні вагон і пачаў шукаць месца, каб сесці. Але вольнага месца не было. Прышлося чакаць.

Нарэшце ён убачыў, што наперадзе з аднаго месца ўстае чалавек. Але блізка ад таго месца стаяла старэнькая бабуля, якая таксама мерылася сесці. Доўга не думаючы, Сцёпка рынуўся наперад і выперадзіў бабулю, хоць яна была ўжо зусім блізка. Гэтая перамога дала яму вялікае задавальненне. Але настрой сапсаваў нейкі дзядзька, які сядзеў насупроць. Ён быў у плашчы, у кепцы, з сіватай падстрыжанай барадой. Па выгляду ён мог быць і старым майстрам, і доктарам, і настаўнікам. Убачыўшы Сцёпкаву «перамогу», ён пачаў сароміць яго:

— Сорамна, малады чалавек, так рабіць! А яшчэ вучань савецкай школы. Ай-яй-яй, як нядобра!

— У мяне білет, і я таксама маю права,—буркнуў са злосцю Сцёпка і падумаў:

«Сам сядзіць, як пан, а другі павінен стаяць. Усе тут роўныя. Хай-бы сам пастаяў, калі хочацца».

І ў гэтую самую мінуту чалавек падняўся, уступіў сваё месца бабулі, а сам стаў ля Сцёпкі, трымаючыся за спінку яго сядзення.

Трэба сказаць праўду, Сцёпка адчуў сябе вельмі няёмка; ён

шкадаваў, што ўвязаўся ў гэту гісторыю; ён ужо ахвотна згадзіўся-б і сам пастаяць. Але яго ахапіла злосць, і ён упарта сядзеў на сваім месцы, з нецярплівасцю чакаючы, каб хутчэй скончылася гэта непрыемная дарога. Задоўга да астаноўкі ён устаў са свайго месца і бачыў, як той дзядзька заняў яго.

Дома ён сказаў, што ў школе пасля заняткаў была сустрэча з адным вядомым прафесарам-даследчыкам, ордэнаносцам, які тры гады правёў на Камчатцы і вельмі цікава расказваў вучням аб сваім падарожжы. Таму ён, Сцёпка, і позна прышоў дадому. Ды яшчэ ў часе гэтай лекцыі (якая адбывалася ў зале), у яго з парты ўкралі рубель.

Відаць, так ужо вядзецца, што калі чалавек пачне хлусіць, то адна хлусня вядзе за сабой другую.

Але хлусня аб прафесары мела некаторае дачыненне і да сапраўднасці. У школе сапраўды вісела аб'ява, што *заўтра* адбудзецца такая сустрэча. А Сцёпка ўзяў ды сёння скарыстаў яе.

А заўтра ў школе ён пастараўся загадзя заняць месца ў першым радзе, каб бліжэй убачыць славутага даследчыка. І сапраўды ўбачыў блізка... Калі прафесар праходзіў на сцэну, то раптам прыпыніўся каля Сцёпкі, прыгледзеўся да яго і сказаў з усмешкай:

— Здароў, прыяцель! Ты тут?

Сцёпка пачырванеў, як рак: ён пазнаў дзядзьку, з якім ехаў у трамваі! Вучні і настаўнікі здзівіліся надзвычайна.

— Вы яго ведаеце?!—усклікнуў дырэктар.

— Так, мы з ім разам ехалі,—адказаў прафесар і пайшоў далей.

Вучні пачалі шаптацца і жартаваць, што Сцёпка Сідорык разам з прафесарам ездзіў на Камчатку. Многія зайздросцілі яму. А Сцёпка сядзеў засаромлены і чакаў непрыемнасці.

Пасля лекцыі не толькі вучні, але і настаўнікі абступілі Сцёпку і пачалі распытваць, якім чынам ён пазнаёміўся з прафесарам. Сцёпка не ведаў, што казаць. Ён усё чакаў, што настаўнікі самі пачнуць гаварыць аб яго паводзінах у трамваі. Але ніхто нічога аб гэтым не гаварыў.

Сцёпка пасвятлеў: значыцца, прафесар не сказаў аб гэтым! Больш ні аб чым падумаць не было часу: трэба было зараз-жа адказваць на пытанне, якім чынам ён пазнаёміўся з прафесарам. Настаўнікі чакалі адказу.

Маўчаць больш нельга. Але што сказаць?..

І ён сказаў ціхім-ціхім голасам:

— Мы з ім учора ехалі ў трамваі, і я ўступіў яму сваё месца..

---

А. Міронаў

# ЦАНА ЧАЛАВЕКА

Увечары, калі бледнае сакавіцкае сонца схавалася за гару, Мядзведзеў вяртаўся з аб'езда далёкіх пастак. Паволі брылі стомленыя сабакі, ліжучы пушысты снег. Сымон ішоў побач з нартай, углядаючыся ў далячынь—ці не выйдзе, як звычайна выходзіла, насустрач Лена. Ён мімаволі ўсміхаўся, рыхтуючы ёй вясёлае прывітанне. На вуснах і на рыжай кучаравай барадзе намерзлі ільдзінкі. Убачыўшы хату, сабакі яшчэ дружней пацягнулі нарту.

Лена не вышла і, прадчуваючы нейкае няшчасце, Сымон гнеўліва закрычаў на сабак і сам пацягнуў за скураную лямку.

Хатка здавалася пустой і таму чужой. Сымон паціху падышоў да дзвярэй і, прыадчыніўшы іх, ціха паклікаў:

— Лена!.. Лена!..

Ніхто не адказаў. Мядзведзеў вярнуўся к нартам, распрог сабак і зброю аднёс у свіран. Туды-ж склаў мёрзлыя, падобныя на абсыпаныя снегам дровы, скуркі пясцоў. Адсутнасць Лены трывожыла яго, і толькі ўспомніўшы, што не сустрэлі яго залівістым хорам сабакі, ён заўважыў, што няма ў двары лёгкай нарты.

«Кінула»—зразумеў ён. Паціху скуголячы, ляжалі на снезе стомленыя сабакі. Сымон зноў пайшоў у свіран, рассек сякерай замарожаны мядзвежы вокарак і кінуў сабакам па кавалку мяса.

След ад нарты Мядзведзеў знайшоў адразу-ж за хатай. Роўнымі каляінамі ішоў па снезе ўздоўж берага, і, абмацаўшы берагі каляін, Сымон даведаўся, што нарта прайшла тут гадзін шэсць назад. «Не дагоніш ужо»—зразумеў ён. След ішоў на поўдень, і Сымон неўзабаве павярнуў назад: на поўдні адзіным суседам на ўсім гэтым пустынным востраве быў сябра і такі-ж, як і ён, паляўнічы-прамыслоўца Васька Краскоў. Да хаты Краскова было не блізка—амаль сорак кілометраў, і Лена, відаць, даўно ўжо была там.

Пахмуры і злосны пайшоў Мядзведзеў у хату. У хаце было душна, пахла прывычна мочанай скурай, смажаным мясам і адмысловым пахам сухіх звярыных скурак. Сымон вобмацкам знайшоў лямпу, запаліў яе, агледзеўся. На сцяне, дзе звычайна вісела яго і Лены вопратка, цяпер відаць былі толькі Сымонава кашуля, маліца і нерпавая куртка.

— Значыць, да Ваські пайшла?—быццам здзівіўшыся, сказаў Мядзведзеў.—Нават адзежу сваю забрала...

Усё яшчэ не разумеючы і не верачы сваім вачам, ён стомлены прысеў да стала, паклаўшы на рукі адяжараную галаву. Ад вялікага

і цяжкага перахода балелі ногі, гарэў твар і намарожаныя на ветры рукі. Рукі былі чырвоныя, падобныя на абадраных пясцоў і пры адной думцы аб Лене і Ваську, Мядзведзеў сціскаў іх у тугія, вялізныя кулакі.

* * *

На востраў яны прыехалі ўвосень, калі неба пабялела ад надыходзячых марозаў, а ўначы на ўзбярэжным імшэўніку адліваў срэбрам першы іней. Параход хутка выгрузіў у невялічкай бухце, ля шэрага доміка, маемасць і прадукты Мядзведзевых і пад развітальны сумны брэх сабак пайшоў уздоўж берага на поўдзень. На сорак кілометраў далей ён зноў кінуў якар і гэтак-жа таропка высадзіў Ваську Краскова.

Мядзведзевы і Васька пазнаёміліся яшчэ на параходзе. Сымон ехаў на востраў з жонкай, а з ёю, ён быў упэўнены, і паляванне будзе добрае і зіма здасца карацейшай. Лена не горш за мужчыну магла кіраваць сабакамі. Сымон ведаў, якой паслухмянай становіцца ў яе руках стрэльба, як спрытна і хутка яна здзірае скуру як з вялікага, гэтак і з малога звера. Краскоў-жа прыехаў адзін, калі не лічыць зусім нядрэнную ўпражку яго ў дванаццаць найлепшых псоў. Мядзведзеў зайздросціў Ваську. Такія сабакі сустракаюцца рэдка: высокія, дужыя, шырокагрудыя, быццам падабраныя па росту і масці. З імі ніхто не мог зраўняцца: хіба толькі адзін важак Сымонавай своры, і Сымон з радасцю аддаў-бы за ўпражку Краскова усіх сваіх дзевятнаццаць сабак.

Васька першы прыехаў у госці, як толькі востраў зацярушыла пушыстым россыпам снягоў. Ён увайшоў у хату, чырвоны ад мароза, і пакуль Сымон на дварэ мірыў сваіх і яго сабак, ён ужо падрабязна расказаў Лене, як жыве на новым месцы, як парастаўляў пасткі і здабыў першых белых, пушыстых, надзвычай вялікіх пясцоў. Ён спадабаўся Лене—прысадзісты, дужы, амаль квадратны са сваім крыху задзёртым носікам-гузікам, вясёлым бляскам шэрых вачэй. Ён гаварыў бясконца, лёгка і вольна, і Лена, якая прывыкла да сымонавай маўклівасці, узрадавалася гэткаму вясёламу госцю. Васька сам распаліў камялёк, збегаў па снег на чай, падрыхтаваў цукар і расклаў на стале прывезеныя з сабою пачастункі: пачку пячэння, глазіраваныя фрукты і нават тры апельсіны.

— Ты шмат іх прывёз?—спытала Лена, падкідваючы на руцэ аранжавы мячык.—А мы вось не захапілі.

— Апельсіны?—Васька смешна чмыхнуў носам.—Поўсотні! Дзівачка, гэта-ж найлепшае лякарства ад цынгі.

Сымон увайшоў з двара, увесь зацярушаны снегам і злосны.

— Ну і звяры ў цябе,—прабасіў ён, страсаючы снег з барады.— Маіх, як шчанюкоў, паразганялі. Ледзьве ўтаймаваў!

— Сабакі, кажаш?—горда ўсміхнуўся Краскоў.—Сабакі—што ваўкі. На Дыксоне лепшыя былі. Сам выгадаваў!

Да позняе ночы яны пілі чай і гаварылі аб мінулых промыслах і зімоўках, аб паляванні, аб сустрэчах з мядзведзямі і аб сабаках. Гаварыў, галоўным чынам, Васька. Ён захапляўся пустынным

востравам, дзе ранейшыя прамыслоўцы не змаглі знайсці свайго шчасця, і тым, як багата настраляе ён розных звяроў да вясны. Ён выхваляў ім сваю хату: з прыёмнікам, з адмысловай сушняй для скур, з фіранкамі на акне і настойліва запрашаў іх прыехаць у госці. Сымон слухаў моўчкі, у захапленні нават раскрыўшы рот. Лена, спачатку не вельмі ўважлівая, паволі таксама сціхла і, абняўшы мужа за плечы, слухала Ваську

А пазней, калі ўрэшце, леглі спаць, Лена не магла заснуць. Лежачы побач з Сымонам, яна слухала свіст пургі за сценамі хаты, частую грызню сабак і думала аб вясёлым, зусім непрыгожым, але такім непадобным на яе мужа, Ваську. Заўсёды маўклівы, пахмурны Сымон нават гаварыў з ёй вельмі рэзка. Непрыемная маўклівасць яго прыгнятала Лену. Яна любіла жартаваць, смяяцца. Дачка поўначы, яна прывыкла да думкі, што на поўначы нельга быць ні сумнай, ні замкнёнай толькі ў свае адчуванні, інакш чалавека задушыць бязмежная аднастайнасць і адзіноцтва. Спачатку Лена старалася разварушыць мужа, прымушала яго спяваць, але ў Сымона нічога не выходзіла. Сымон ведаў толькі промысел, паляванне. Больш нішто яго не цікавіла, і на зімоўку ён ехаў з адзінай мэтай: мець як мага большую здабычу. Першая іхная зімоўка ў Архіпелагу Нордэншэльда прайшла аднастайна, нудна, і таму была цяжкай, хоць там з імі былі яшчэ тры сям'і. Другая зімоўка—на гэтым маленькім адзінокім востраве—палохала Лену. Лежачы ў ложку, Лена ўпершыню прызналася сама сабе, што нават рада была, калі Сымон ехаў аглядаць пасткі. Без яго яна зноў спрабавала спяваць, жартавала з сабакамі, бегала з імі па беразе.

Лена адчувала: заспявай яна пры Ваську, і Васька напэўна падхопіць песню і нават (яна ўсміхалася, уявіўшы, як гэта будзе), адбіваючы далонямі такт, пойдзе ў прысядкі. У яго быў іншы характар: і весялосць, з якой час ідзе зусім непрыкметна і ўмельства жыць, і любоў да жыцця, якая відаць ва ўсім: у фіранках на вокнах, у прыёмніку і апельсінах і ў тым, як прывёз ён пачастункі.

Нават гутарка: Сымон мог гаварыць—і то вельмі скупа, быццам нехаця—аб паляванні, аб пясцах, аб сабаках. Лене даўно ўжо нададакучылі аднастайныя, грубыя яго словы і яна амаль ніколі першая не пачынала з ім гаварыць. Бывалі дні, калі абодвы яны не гаварылі ніводнага слова. Сымон не заўважаў гэтага: здавалася, што ён нават не бачыў Лены, а Лена—наадварот, пакутвала ад гэтай абыякавасці. Ваську-ж можна было слухаць хоць усю доўгую зімовую ноч, і гутарка яго ніколі не надакучыць. Ён заўсёды гаварыў аб чым-небудзь новым: аб поўначы, дзе замест рэдкіх прамысловых хатак вырастаюць паляўнічыя станцыі, аб жыцці на далёкай Вялікай Зямлі, аб кнігах, якія ён захапіў з сабою на зімоўку і аб сваіх уласных зімоўках у самых далёкіх кутках Арктыкі, куды пасылала яго, і дзесяткі такіх, як ён, комуністаў, партыя. Тое, што Краскоў партыец—не здзівіла Лену: іменна такімі, як ён, ведала яна ўсіх комуністаў поўначы. Яны прыходзілі на поўнач упэўненыя, адважныя, быццам нарадзіліся тут, і жылі не для сябе, а для ўсіх, для таго, каб усім было лягчэй і лепей жыць. Васька гаварыў:

— Мяне паслала партыя абжываць востраў. У будучым годзе тут пабудуюць станцыю, я павінен усё падрыхтаваць для яе.

І ён сапраўды адчуваў сябе гаспадаром. Ён усюды адчуваў сябе гаспадаром—такі прадбачлівы, клапатлівы, сапраўдны чалавек. Ён патрэбен людзям і разумее гэта, і радуецца таму, што ён патрэбен іншым. А Сымон усюды госць...

Лена рэзка адвярнулася ад мужа. Яна была ўпэўнена, што Васька ніколі не паслаў-бы яе аглядваць пасткі, як гэта зрабіў аднойчы Сымон.

— Не зблудзіш, востраў малы,—сказаў тады Мядзведзеў.— Трымайся берага, сабакі давязуць.

Яна вышла на дзве-тры гадзіны, але пурга прымусіла яе блукаць двое сутак. Толькі востры нюх важака вывеў сабак к хаце. А Сымон, спаткаўшы яе, стомленую і схаладалую, пагардліва кінуў:

— Сабак заганяла. Прамысло-оў-ца!..

... Першая сустрэча вырашыла далейшае жыццё ўсіх трох. Васька прыязджаў яшчэ некалькі разоў і з кожным разам усё больш і больш падабаўся Лене. Ездзілі і яны да Ваські ў госці і па дарозе дахаты Лена да крыві кусала губы, каб не выказаць мужу глыбокае абурэнне, якое выклікалі ў ёй яго грубыя кпіны з гасціннай утульнасці хаты Краскова, і над тым, як ён, стараючыся схаваць сваю зайздрасць, пагардліва гаварыў пра Ваську: «Партыйны»!.. Лена заўважыла, як Васька змаўкаў пры ёй, як бездапаможна ружавеў смешны, кірпаты носік яго. І аднаго разу, калі Сымон вышаў на двор, каб супакоіць сабак, яна торапка, але смела спытала Ваську:

— Ты любіш мяне? Хочаш,—да цябе пераеду? На зусім?

Васька, які ў гэты час расказваў нешта смешнае, захлынуўся чаем ад нечаканасці.

Гэтак было вырашана, што Лена пакіне мужа.

* *
*

Сымон прасядзеў ля стала амаль усю ноч. Дзень за днём перабіраў ён у памяці ўсё сваё кароткае жыццё з Ленай. Ён адчуваў, што часта рабіў няправільна, але ў чым гэтая няправільнасць і як яе выправіць—не думаў ды і не хацеў раней. Можа, каб была цяпер Лена ў хаце, ён змог-бы шмат што сказаць ёй такога, аб чым ніколі і не спрабаваў гаварыць. І, зразумеўшы, яна не кінула-б яго і не пайшла к другому. Але пустая хата прыгнятала, адзіноцтва напаўняла сэрца глыбокім смуткам.

Цяжкія, невясёлыя мыслі, блытаючыся, з'яўляліся адна за адной. Насупроць акна,, дзе цёмная сцяна, ледзьве-ледзь пабялеў квадрацік: світала. Ад бяссонніцы гудзела ў галаве і балелі вочы. За другую ноч у хаце пасвяжэла. Сымон цяжка падняўся, падышоў к печы і, склаўшы сухія трэскі, падпаліў іх. Заскакалі жоўтыя вясёлыя язычкі полымя. Усунуўшы ногі ў мехавыя пімы, Сымон узяў чайнік і вышаў з хаты. Неба ляжала шэравата-сіняе і зорнае, на цёмным гарызонце крывавай ракой ззяла зарніца, таросісты лёд на моры здаваўся ружова-блакітным. Насыпаўшы чайнік кавалачкаміільда, Мядзведзеў паволі, не зважаючы на халодны вецер і

мароз, пайшоў к хаце. «Раней чай грэла»,—успомніў ён і востра адчуў страту.

Паставіўшы чайнік на агонь, Сымон набіў люльку і зноў сеў за стол. Ён ніяк не мог прымірыцца з думкай, што жонка кінула яго. Здавалася, што Лена пажартавала: няўдала, жорстка—але вось зараз заскрыпіць снег пад палазамі нарты і ў расчыненыя дзверы войдзе яна, пачырванелая ад марозу, і будзе смяяцца з Сымонавага гора. І Сымон, узрадавана скочыўшы да яе, моцна абніме яе дужымі рукамі і закружыць па маленькай, цёмнай хаце, і заскача з ёю, як медзведзь, нязграбна, і разам з ёю будуць рагатаць яны з свайго гора. А Лена, убачыўшы які шчаслівы Сымон, ніколі не кіне яго, і не пойдзе ні к Ваську, ні к каму другому. Не пойдзе нікуды...

Але мінуты ішлі, як вечнасць: бязмежныя і глухія: Сымон слухаў, як трашчыць лёд ў чайніку, як булькае, закіпаючы, вада, і калі над носікам чайніка задымілася пара, ён падняўся, выкалаціў попел з люлькі і скупа, як прывык звычайна гаварыць сам з сабою ў гадзіны доўгіх адзінокіх вандраванняў, сказаў:

— Да іх паеду. Пагаворым. Пабачым.

* * *

Раніца нараджалася марозная, звонкая, ясная. Сабакі беглі лёгка і дружна, і нарта быстра ляцела па снежнай раўніне. Сымон часта саскакваў з нарты і, пакрыкваючы на сабак, бег побач. Важак—кудлаты і востравухі Воўк азіраўся назад на чалавека, ветліва матляючы хвастом.

Бераг быў падобны на шырокую бугрыстую дарогу. Сабакі ведалі дарогу на поўдзень: не раз былі яны ля хаты Васіля. Прадчуваючы добрую ежу і грызню з чужымі сабакамі, яны нецярпліва рваліся ўперад.

Сымон вырашыў спачатку пагаварыць з Васькам. Дзень быў ціхі, бязветраны, і ў такія дні, ён ведаў, нават Лена не магла ўтрымаць Ваську дома. Пасткі Краскова расцягнуліся на беразе мора, на поўнач, кіламетраў на дзесяць і Мядзведзеў адчуваў, што іменна іх паедзе аглядаць Васька. Мысленна выбраўшы месца будучай сустрэчы, Сымон трывожна паглядаў на сонца і нецярпліва гнаў сабак: хоць-бы Васька не апярэдзіў яго. Супакоіўся Сымон толькі параўнаўшыся з першай пасткай Краскова: у пастцы снежным камяком бялеў мерзлы пясец.

Сабак Мядзведзеў кінуў ля берага, за вялізнай ільдзінай, яшчэ з восені выкінутай з мора на бераг. Ён пакрычаў на сабак і тыя ляглі, паклаўшы на лапы свае разумныя вострвухія галовы. Сабакі ляжалі ціха: дзесяткі разоў заставаліся яны гэтак ляжаць, непрыкметныя, у той час, як гаспадар з вінтоўкай падпаўзаў к нерпе.

Без гаспадара ўлада над усімі сабакамі пераходзіла к Воўку. Важак пільна сачыў за сабакамі, выскаляў зубы і глуха рычэў, калі хто-небудзь пачынаў варушыцца.

Захапіўшы вінтоўку, Сымон быстра папоўз па снезе і метраў цераз пяцьдзесят лёг за невялікім узгоркам. Ён паглядзеў навокал

сябе і, не гледзячы на хваляванне і дробнае дрыжанне кален, задаволена канстатыраваў: лепшага месца для сустрэчы няма на ўсім востраве. Яна павінна была адбыцца нечакана для Краскова, і гэта ставіла Сымона ў лепшае становішча. Адразу за ўзгоркам круты бераг спадаў да вузкай, засыпанай снегам, рэчкі. Процілеглы бераг рэчкі узвышаўся пяціметравай сцяной. Скрозь снег на ім відаць былі бурыя плямiны зямлі. Наезжаная дарога на тым беразе наблiжалася пад самы абрыў, потым паварачвала ўлева, уздоўж берага рэчкі. Метраў на дзвесце вышэй бераг адвольна сыходзіў к рэчцы, і дарога за ім зноў паварачвала к мору. Ля ўзгорка, дзе ляжаў Сымон, яна зноў паварачвала і ішла берагам мора на поўнач, к пасткам, і далей—к хаце Мядзведзева.

«Тут сустрэнемся»,—вырашыў Сымон.

Падрыхтаваўшыся чакаць у гэтым месцы, ён паглядзеў на процілеглы бераг, дзе відаць была хата Краскова. Сымон выразна бачыў і бярвенне хаты, і скуру мядзведзя, якая сушылася на страсе, і напалову засыпаны снегам свіран. Ля дзвярэй хаты ляжалі сабакі, запрэжаныя ў нарты: славутыя Васькавы сабакі. Усё было спакойна. Нават цяпер Мядзведзеў вылаяўся ў захапленні, убачыўшы высокіх, з чорнымі носікамі і кончыкамі хвастоў, сабак. І ад гэтага нават да Ваські з'явілася нейкая цяплыня. Ён паспрабаваў адагнаць гэтае пачуццё: Васька адбіў Лену, ён быў для яго амаль ворагам... Але са здзіўленнем зразумеў, што не адчувае варожасці да Краскова. Ён пагаворыць з ім, яны разам усё растлумачаць Лене і яна вырашыць, хто будзе шчасліўцам. Сымон верыў, што Лена ўсё-ж вернецца назад: як-ні-як, а яны-ж пражылі разам два годы. Ён будзе іначай адносіцца да яе, да людзей, не будзе знарок, абы толькі пазлаваць Лену, кпіць з Васькавай спрактыкаванасці будаваць жыццё. Ён і сам хацеў-бы жыць, як Васька, быць такім-жа гаспадарлівым, патрэбным для грамады і толькі дурная гордасць, замкнёнасць перашкаджалі гэта зрабіць.

Ён ужо хацеў быў устаць са снега, паклікаць Воўка і хутчэй ехаць к хаце Краскова. Але ў гэты момант з хаты вышаў Васька і ўслед за ім Лена. Сымон стаіўся. Прынікнуўшы к снегу, ён сачыў за кожным рухам і з болем у сэрцы бачыў, як Лена жартаўліва сарвала з галавы Ваські шапку і ўскудлаціла яго чорныя доўгія валасы. Лена штосьці гаварыла, ад чаго Васька са смехам замахаў рукамі. Васька падняў сабак і зноў падбег к Лене. Ён абняў яе, прыцягнуў да сябе і губы іх зліліся ў пацалунку.

Сымон апусціў галаву на рукі і сціснуў зубамі рукаў курткі, каб не закрычаць амаль ад фізічнага болю. Ён хацеў пацiху адпаўзці да сваіх сабак і імчаць дахаты, і толькі небяспека, што яго могуць заўважыць на тым беразе, стрымала яго. Лена выбрала Ваську. Сымон не здолеў зберагчы сваё шчасце і позна цяпер гараваць аб згубленым.

Паволі падняўшы галаву, Мядзведзеў паглядзеў на процілеглы бераг. Ён бачыў, як Васька, адышоўшы ад Лены, паклікаў сабак, сабакі ірванулі, і ён, упаўшы на нарту, замахаў Лене рукой.

«Застрэліць яго?»—нечакана падумаў Мядзведзеў, але адразу-ж усміхнуўся: за што? Хіба можна такім чынам вырашаць такое

складанае пытанне? Хіба гэтак зрабіў-бы Краскоў, калі-б ён быў на маім месцы? Чалавека забіць лёгка: націснуў пальцам—і няма чалавека. «А вось быць сапраўдным чалавекам—не лёгкая справа»,—успомніў Сымон словы, аднойчы сказаныя Красковым.

Ён заўважыў, што Васька вышаў з хаты нават без стрэльбы. «Да мяне едзе»,—зразумеў ён. «Сам пагаварыць хоча». Сымон нават узрадаваўся і хутчэй адкінуў у бок стрэльбу. А нарты тым часам несліся стрэлой, быццам на спаборніцтвах, пад разнагалосы брэх сабак. Сымон сачыў за гэтым імклівым бегам і раптам, калі нарты былі ля самай рэчкі, пачуў побач брэх сваіх сабак. Васька не заўважыў сабак Мядзведзева, усё яшчэ глядзеў назад у бок хаты, хоць Лены ўжо не было там. Але сабакі яго, пачуўшы гэтак задзірыста брахаўшых ворагаў, выскаліўшы воўчыя клыкі—кінуліся насустрач ім.

Сымон хацеў закрычаць, папярэдзіць Ваську аб небяспецы, але сабакі з усяго разгону разам з нартай рынуліся з абрыва на шэры лёд рэчкі.

Пачуўся глухі ўдар, трэск, спалоханае выццё сабак і раптам усё сціхла. Адштурхнуўшы нагой Воўка, Сымон па адхону скаціўся к рэчцы. Ля процілеглага берага, пад абрывам, чарнела вялікая палонка, над ёю паднімалася лёгкая пара. Нарта, сабакі зніклі ў вадзе. Лёд быў крохкі: Сымон зразумеў, што ля вусця рэчкі, асабліва ля крутога левага берага, быстрае цячэнне і марскія прылівы падтачылі лёд. Асцярожна, на жываце ён папоўз да палонкі, ля берага якой чарнела нешта кудлатае. Ён пазнаў васькаву куртку і раптам востра адчуў, як дораг яму гэты маленькі чалавечак, Васька Краскоў. Яго трэба выратаваць, абавязкова выратаваць: «Я не такі, як ты думала,—Лена»,—шаптаў Сымон.—«Я чалавек, і таксама маю сэрца».

Васька ўсё яшчэ ляжаў нерухома на лёдзе. Калі да Краскова заставалася не больш двух метраў, Сымон заўважыў скурчаную сударгай яго руку. Ён у момант адвязаў ад пояса доўгі і тонкі сырамятны рэмень, на канцы яго зрабіў пятлю. Да болю, сціснуўшы сківіцы, ён усю увагу звярнуў на скурчаную руку. Кожны рух яго быў мяккі і асцярожны. Пад ім трашчаў лёд і Сымон стараўся раскінуцца шырэй, каб зменшыць вагу.

Пятля ўзляцела і ўпала на руку. Сымон з палёгкай уздыхнуў, Паволі, амаль зусім стаіўшы дыханне, ён пацягнуў за рэмень, зацісаючы пятлю. Абвязаўшы рэмень навокал пояса, ён гэтак-жа паволі, быццам змяя, папоўз к берагу. Рэмень напяўся. Каленамі і рукамі ўпёрся ў снег і адчуў, пахаладзеўшы ад страху, як і снег і лёд асядаюць пад ім. Ён цяжка дыхаў, хрыпеў і лаяўся, і раптам, плюнуўшы густа і ліпка, з усяе сілы ірвануў уперад і папоўз, не зважаючы на страшэнную небяспеку, к берагу.

Толькі на беразе, выцягнуўшы Краскова, Сымон адчуў страшэнную смагу, гаркату ў роце, ліпкі пот па ўсім целе і ўпершыню за ўвесь гэты дзень звярнуў увагу на блакітнае, яснае, бяздоннае неба. Яму стала радасна і лёгка, быццам нехта прынёс доўгачаканы, дарагі падарунак. Падняўшы Ваську на плечы, глыбока ўгрузаючы

ў снег, ён ішоў уверх к дарозе і не чуў, як разам з буйнымі каплямі пота па стомленым твары яго цякуць слёзы.

Асцярожна паклаўшы Краскова на снег, Сымон схіліўся над ім. Васька быў як мёртвы. Па яго твары, з-пад шапкі, цякла густая бурая кроў. Сымон спалохаўся. Крыху падняўшы Краскова, ён страсянуў яго:

— Васька, ты чуеш мяне? Васька...

Дрогнулі павекі, і Краскоў мутным зрокам паглядзеў на Мядзведзева, на неба, на снег, і спакойная, удзячная ўсмешка паявілася на губах.

— Значыць, жывы, Вася?..—крыкнуў Сымон.

Сабакі былі недалёка. Калі Сымон паклікаў іх, Воўк падышоў да яго, вінавата аблізваючыся і прыціскаючы вушы. Мядзведзеў скінуў з сябе цёплую куртку. Асцярожна паклаўшы Ваську на нарту і захутаўшы вопраткай, ён крыкнуў на сабак і нарта паляцела ў бок хаты Краскова. Трымаючыся за дужку нарты, бег побач Сымон. Яму было лёгка, весела, і першы раз хацелася крычаць і спяваць ад радасці за сябе, за Ваську, за Лену.

*Л. Кацовіч*

# ДЗЯЎЧЫНА З МАЛЕНЬКАГА ГОРАДА

*(Кіно-камедыя)*

## Частка 1-я

Вакзал правінцыяльнага горада. На пероне натоўп людзей. Ля акна вагона—разгублены малады чалавек, рэпарцёр мясцовай газеты Сінічкін.

Поезд рушыў. Рэпарцёр, шагаючы за вагонам, запісвае апошнія фразы, сказаныя чалавекам, які выглядвае з акна. Поезд ідзе хутчэй за яго, і Сінічкін не заўважыў, як ён апынуўся ля другога вагона.

— А цяпер куды вы накіроўваецеся?—пытаецца ён, не заўважаючы, што ўжо гаворыць да нейкага маладога хлапца, які глядзіць з акна.

— У Ленінград!—весела адказвае хлапец.

Сінічкін запісвае і не заўважвае, што ён ужо стаіць ля акна наступнага вагона, з якога высунуў галаву хлопчык гадоў шасці. Сінічкін пытаецца:

— Чаго вы едзеце ў Ленінград?

— Да бабулі!—гаворыць хлопчык.

Сінічкін здзіўлена вытарашчыў вочы.

Мінаюць вагон за вагонам і рэпарцёр раптам заўважыў, што ён апынуўся перад пустатой. Ён замахаў рукамі ўслед адышоўшаму поезду.

Дзяжурны па станцыі абвяшчае:

— Грамадзяне! прыбывае маскоўскі поезд!

Сінічкін глядзіць у блок-нот і пераходзіць на другую платформу. Падыходзіць маскоўскі поезд. Сінічкін бяжыць міма вагонаў. Спыняе чалавека:

— Ці не вы будзеце інжынер Беленькі?

Чалавек адмоўна ківае галавой.

— Выбачайце!—гаворыць Сінічкін і бяжыць далей. Ён спыняе другога чалавека:

— Можа вы інжынер?

— Так!—гаворыць чалавек.

— Беленькі?

— Не,—усміхаецца чалавек,—Чарнаусаў...

— Выбачайце!..

— Сінічкін, нарэшце, знаходзіць Беленькага, маладога чалавека ў капялюшы і тут-жа пачынае яго інтэрв'юіраваць, запісваючы ў свой блок-нот:

*«Сёння прыехаў інжынер—будаўнік трамвая, тав. Беленькі. У гутарцы з нашым супрацоўнікам інжынер сказаў...»*

Тымчасам насільшчык нясе чамадан і Беленькі ідзе за ім. Сінічкін, не заўважаючы, што Беленькі пайшоў, піша. Да яго стаў спіной нейкі грамадзянін ў капялюшы. Рэпарцёр, палічыўшы яго за інжынера Беленькага, дакранаецца да яго пляча.

— Добра! Дык што вы сказалі? Колькі-ж часу займе будаўніцтва трамвая?

Да яго павяртаецца стары. Ён дабратліва ўсміхаецца.

— Выбачайце... Я прыехаў будаваць электрастанцыю.

Сінічкін здзіўлена глядзіць на яго і бяжыць па перону шукаць Беленькага.

Лявакзальная плошча. Некалькі рамізнікаў. Пасажыры накідваюцца з усіх бакоў. Рамізнікі перагружаюць свае брычкі людзьмі і брычкі, глыбока ўрэзаўшыся коламі ў пясок, ледзьве рушаць з месца.

Макар Бульба—стары рамізнік, уладар слабенькай канякі, перагружае брычку, і каняка, выбіваючыся з сіл, не можа ўзабрацца на ўзгорак. Пасажыры нехаця вымушаны злезці. Каняка, адчуўшы палёгку, рванула наперад. За ўзгоркам велізарная лужына. Бульба спыніў каняку пасярод яе. Пасажыры бягуць за ім.

Ля пад'езда вакзала стаіць Беленькі. Гледзячы на гэту сцэну, ён дабрадушна смяецца. Да яго падбягае Сінічкін, разгублена ўзіраецца ў твар.

— Ах, выбачайце, гэта не вы!..—і бяжыць далей.

Грап на сваёй брычцы прыязджае да вакзала са спазненнем. Заўважыўшы пасажыра, пад'язджае да яго.

— Сядайце!—гаворыць Грап.—Здароўе даражэй за грошы! Да горада чатыры кілометры...

Беленькі азіраецца:

— Па мяне павінна прыйсці машына.

Рамізнік шматзначна паглядзеў наўкола:

— Павінна...—ён ўсміхаецца,—далібог, вы мне пачынаеце падабацца...

І, не дачакаўшыся адказу, ставіць чамадан Беленькага да сябе на козлы, Беленькі сядае ў брычку.

— Ну, што-ж, папаша, паедзем!..

Па пыльных калдобінах тракта едуць рамізнікі. Пыл засцілае ўсё наўкола так, што і саміх рамізнікаў не відаць. З гэтага пыльнага туману выязджае першым, абагнаўшы ўсіх, паважны, вясёлы Іосіф Грап. Павярнуўшыся да свайго седака, ён гаворыць:

— Што вы скажаце на майго коніка? Мне такое шчасце!.. Но, Любка!..

Беленькі, відаць, заняты сваімі думкамі, не слухае яго. Мінуту Грап нешта ціха напявае, потым зноў гаворыць:

— Вы можаце мець уяўленне, як яна будзе ставіць ножкі, калі пабудуюць дарогу? Гавораць, асфальтная будзе, аж да Масквы...

Мінуту ён нешта ціха напявае закрытым ротам, потым зноў павяртаецца да свайго пасажыра.

— А вы, калі можна спытацца, надоўга прыехалі ў нашы краі?

Беленькі ўсміхаецца.

— Гэта залежыць ад таго, колькі часу займе будоўля...

Грап, радуючыся, што пасажыр, нарэшце, загаварыў, дабрадушна ўсміхаецца.

— Ага, вы па будаўнічай галіне?.. Завод значыць...

— Не...

— А, ведаю—электрастанцыю?

— Таксама не... я буду будаваць трамвай...

Грап насцярожваецца. Змервае яго позіркам.

— Трамвай?..—і раптам спыняе каня.—Тпррр!.. Злазьце!

Беленькі не разумее.

— Што здарылася?

— Кола трэба папраўляць!—суха гаворыць Грап.

Інжынер злазіць з брычкі. Грап здымае яго чамадан. Абмахнуўшы рукавом пыл з сядзення, ён узлазіць на козлы і, ад'язджаючы, крычыць:

— Паязджайце трамваем!

Беленькі глядзіць яму ўслед, зусім разгублены і ашаломлены тым, што здарылася. Міма яго праязджаюць рамізнікі перагружаныя седакамі. Ён робіць ім знакі, просіць спыніцца, але яны не слухаюць, едуць далей, абдаючы яго пылам. Успацелы, знесілеўшы, цягнецца інжынер з чамаданам. Ён увесь запылены. Выпадкова чапляецца за нешта башмаком і адрывае амаль не ўсю падмётку. Гэта замінае яму ісці. Ён спыняецца, шукае нечага ў кішэнях, адкрывае чамадан, знаходзіць кусок вяроўкі і абвязвае башмак. Раптам ён заўважае машыну, становіцца пасярод дарогі з расхінутымі рукамі. Машына спыняецца. Тоня—шофер таксі, прыадчыняе дзверцы.

— Занята!—гаворыць яна.—Спяшаюся на вакзал.

Беленькі падыходзіць да яе.

— Ці нельга вас папрасіць...

— Таварыш, я і так спазнілася...—гаворыць Тоня.

Машына рушыць уперад. Беленькі даганяе яе.

— Доўга вас прыдзецца чакаць?

Тоня нецярпліва прыадчыняе дзверцы.

— Таварыш, я, здаецца, сказала зразумелай мовай!.. Мяне чакае на вакзале інжынер-будаўнік трамвая.

Машына рушыць. Яна ўжо далёка.

— Інжынер? Беленькі?—крычыць ён наўздагон.—Я тут!..

Ён даганяе машыну.

У таксі. Выціраючы твар хусцінкай, Беленькі цяжка ўздыхае.

— М-так!.. Ветліва мяне сустракаюць у гэтым маленькім горадзе.

Тоня адчувае сябе няёмка.

— Я-ж...

— Вас я не абвінавачваю. Але вось рамізнік падлец, пакінуў мяне пасярод дарогі з чамаданам.

— Рамізнік?—не разумее Тоня.

Яна яго бачыць у люстэрцы, што вісіць насупроць яе.

— Які рамізнік?

— Чорт яго ведае!—абурана гаворыць інжынер.—Плячысты і здаровы, як яго конь... Чорныя вусы і такая бародка... Толькі я сказаў, што я інжынер і буду будаваць трамвай, як гэты дурань...

Тоня неспакойна азіраецца:

— Гэта мой бацька...

Машына праязджае па вуліцы горада, павяртае за рог і раптам спыняецца. Беленькі разгублены.

— Даруйце,—гаворыць ён,—я не ведаў, што гэта ваш бацька... Але зразумейце, што гэты ўчынак...

— Злазьце!—нягучна гаворыць Тоня.

Беленькі спалохана глядзіць на яе.

— Не злезу!—крычыць ён, усаджваючыся ямчэй.

Тоня адчыняе дзверцы і выходзіць з машыны.

З пункту зроку інжынера. Праз адчыненыя дзверцы машыны відаць пад'езд і надпіс на шыльдзе:

ГАСЦІНІЦА

Голас Тоні:

— Вы прыехалі!

Ён уздыхае з палёгкай, бярэ чамадан і вылазіць з машыны.

— Як бачыце,—усміхаецца Тоня,—у мяне крыху іншыя адносіны да будаўнікоў трамвая...

Беленькі ўглядаецца ў яе смяшлівыя вочы. Ён гатоў усміхнуцца ёй, але позірк яго падае на парваны башмак. Яму здаецца, што гэта яе смяшыць. Ён сарамліва хавае нагу, нервова перасоўваючы чамадан, і, калі ён узнімае вочы, Тоні ўжо няма ля яго.

У клубах аўтамабільнага дыму ён бачыць удалі машыну. Усміхаючыся, ён доўга глядзіць ўслед ёй.

Зацямненне.

Пад'езд дома. На дзверах таблічка:

*Доктар П. А. Судак*

Грап аглядвае брычку, ціха напяваючы нешта. Старэчай хадою, абапіраючыся на кіёк, да Грапа падыходзіць танклявы, згорблены стары,—галоўны ўрач мясцовай бальніцы Судак. Ён усміхаецца рамізніку і ўсаджваецца ў брычцы, заклаўшы нагу на нагу.

— М-так... Ну, як жыццё, Іосіф?—пытаецца Судак.

Грап завінчвае нейкую гайку.

— Ну, вось доктар,—гаворыць ён хрыпла,—трамвай-такі, будуюць... А мне што-ж, застанецца капусту вазіць...

Стары, з ціхім, клакочучым смяшком, дзівакавата адкідвае назад галаву, здзіўлена гледзячы праз пенснэ на Грапа.

— Сказаў-жа табе, Іосіф, не турбуйся. Няхай будуюць трамвай— гэта патрэбна... І ты патрэбны! М-так... Я-ж на машыне не езджу...

Грап канчае завінчваць гайку. Сядае на козлы. Судак спачувальна глядзіць на яго.

— Пятнаццаць год ты мяне возіш! М-так... Пятнаццаць. Ну, яшчэ, галубок, гадоў пятнаццаць павозіш... Згодзен?

Грап радасна смяецца.

— Хоць-бы і сто!—крычыць ён.—Но-о, Любка!

Па дарозе Судак прыспешвае Грапа:

— Хутчэй не можаш, Іосіф. Хвароба-ж чакаць не можа!

Іх абганяе машына. Рамізнік робіць заспакойваючы жэст рукой.

— Што вы, доктар, у маёй Любкі шырокі шаг... Но-о, дарагуша!

Але тут-жа іх абганяе грузавая машына.

— Галубок, глядзі!—крычыць Судак, працягваючы на доўгай цэпцы гадзіннік:—Я-ж спазнюся... М-так, бачыш—нас увесь час абганяюць...

Грап дабрадушна ўсміхаецца.

— Эт, Любка вам перагоніць каго хочаце...

Грузавая машына, што абагнала іх, спынілася ля нейкага дома. Грап спакойна ківае Судаку.

— Вось мы і абагналі... Падумаеш!

Стары азіраецца.

— М-так... Іосіф, мне здаецца, машына стаіць, а? Я дрэнна бачу?

Грап усміхаецца.

— Чым вінаваты я, што яна стаіць?.. Нно-о-о, Любачка!..

Зацямненне.

Ля кватэры Грапа стаіць Сінічкін. Чакае кагосьці. Заўважыўшы ў акне жонку Грапа, ён міла ўсміхаецца ёй.

— Тоня скора прыедзе?

— Скора, скора!—гаворыць яна.—Зайдзіце, я вас пачастую блінчыкамі.

Сінічкін накіроўваецца да дзвярэй, але, заўважыўшы машыну, якая набліжаецца, ён вяртаецца. Да дому з абодвух бакоў пад'язджаюць Грап на сваёй брычцы, Тоня на машыне. Сінічкін падбягае, і, апынуўшыся паміж канём і машынай, разгублена пачаў гразіць пальцам каню.

— Ну, ну, ты!..

Грап усміхаецца.

— Не крычыце на яе, яна яшчэ можа пакрыўдзіцца...

Ён саскоквае з брычкі. Тоня выходзіць з машыны.

— Тата,—гаворыць яна,—мне трэба з табой пагаварыць....

Сінічкін яе перапыняе.

— Тонічка, на адну мінутку...

— Пачакай!—адхіляе яна яго і, звяртаючыся да бацькі, гаворыць:—Ты сёння вазіў інжынера з вакзала?

Сінічкін зноў яе перапыняе.

— Ну, Тонічка, паслухай...

Тоня бесцэрамонна адводзіць яго да машыны, штурхае ў яе і закрывае дзверцы. Яна павяртаецца да бацькі.

— Тата, мне сорамна за цябе!..

Сінічкін прыадчыняе дзверцы і высоўвае галаву.

— Я буду афіцыйна з табой размаўляць!.. Рэдакцыя мне даручыла патрабаваць ад члена гарсовета...

Тоня захлопвае дзверцы машыны.

— Што за рамізніцкія выхадкі!—гаворыць яна бацьку.

Грап падкідае каню сена і, гладзячы яго адной рукой, гаворыць:

— Еш, Любка! Калі ён прыехаў будаваць трамвай, дык няхай раней вымерае дарогу...

І, павярнуўшыся да акна, ён крычыць:—Старая, старая, блінчыкі гатовы?

Грап ідзе ў хату. Тоня злосна глядзіць яму ўслед. З машыны, з другога боку, вылазіць Сінічкін.

— Я кажу...—гаворыць ён і раптам расплываецца ва ўсмешцы.—Тонічка, не магу такім тонам з табой размаўляць... Ты паслухай...—ён глядзіць у блок-нот.—У мяне да цябе два пытанні: па-першае, ты прымацавана гарсоветам да будаўніцтва трамвая і рэдакцыя чакае ад цябе артыкула. Па-другое...—ён камічна прабіраецца між канём і машынай і ціха гаворыць Тоні:—я быў у інжынера і, уяві сабе, за дзве мінуты ён памянуў тваё імя, бадай, пяць разоў.

Сінічкін смяецца.

— Ах, калі-б ён ведаў...—І спрабуе яе абняць.—Тонічка...

Гэта бачыць Оля, якая якраз падыходзіць. Тоня строга павяртаецца да яго.

— Сінічкін! Два пытанні: па-першае, прымі рукі...—яна насмешліва глядзіць на яго.—А па-другое, артыкула не буду пісаць—не ўмею...

Яна ідзе ў дом. Да Сінічкіна падыходзіць Оля.

— А, Оля, як дарэчы...—гаворыць ён.

— Я ўсё бачыла,—усхвалявана гаворыць яна,—не падыходзь да мяне!.. (Пауза.) Рэдактар цябе чакае.

Яна ўбягае. Мінутку Сінічкін стаіць у роздуме, потым злосна пазірае на каня і, пагразіўшы яму пальцам, ідзе за Оляй.

Кватэра Грапа. Абстаноўка старая, патрыярхальная, яна перайшла ў спадчыну ад дзеда: вялікая дубовая канапа з выгнутай спінкай, грузны камод, стол з круглымі ножкамі, крывы фікус і грамафон з шырокай трубой.

Грап сядзіць ля грамафона, слухае песню: «Вот мчится тройка удалая». Маці ставіць на стол бліны, насцярожана глядзіць на дачку і на мужа. Напружаная паўза.

Тоня ціха гаворыць:

— Я табе сур'ёзна гавару, тата...

Грап спыняе грамафон:

— А табе то што?

Жонка насцярожана глядзіць на яго, баючыся скандала, яна робіць знакі Тоні.

— Іосіф!—гаворыць яна.—Якія смачныя бліны...

Грап падыходзіць да акна. Ля пад'езда стаяць—машына Тоні і насупроць яе конь Грапа. Конь аблізвае крышку радыятара.

— Эх, дура!—крычыць ён.—Язык адкусіць!

— Тата,—гаворыць Тоня,—ты павінен папрасіць прабачэння ў інжынера...

Грап, не павяртаючыся да яе, смяецца.

— Чуеш, Любка! Яна яшчэ не ведае свайго бацькі!..

Зацямненне.

Гасцініца. Пакой Беленькага. Ён жахлівы на выгляд: жалезны ложак, старая коўдра, стул на трох ножках, стол з парваным настольнікам. Беленькі нервуецца, размаўляючы з нейкай жанчынай.

— Дзе загадчык?—раздражнена пытаецца ён.

— Нашто вам загадчык?—не разумее жанчына.—Скажыце, што вам трэба, я яго жонка...

— Мне трэба загадчыка!—рэзка гаворыць Беленькі.—Вашага мужа мне трэба!

— Скажыце мне,—гаворыць жанчына,—ён усёадно не чуе, ён глухі...

У пакой уваходзіць пажылы чалавек.

— Вось ён!

— Вы загадчык?—пытаецца Беленькі.

— Ён загадчык!—адказвае жанчына.

— Чаму ў вас так агідна ўтрымліваецца гасцініца?—пытаецца Беленькі ў старога.

Стары, запытальна глянуў на жонку, гаворыць Беленькаму:

— Так, так... у нас клапоў няма!..

Інжынер гаворыць да жанчыны:

— Перамяніце, калі ласка, коўдру і дайце людскую падушку... Я цэлую ноч не спаў...

— Дзе я вам вазьму падушку, дзе?—жахаецца жанчына.

Беленькі абураны.

— Гэта проста здзек!—Я буду скардзіцца ў гарсовет!

Узлаваны ён выходзіць.

Слова «гарсовет», відаць, уздзейнічала на жанчыну, яна зашавялілася, пачала крычаць на мужа:

— Чаго ты стаіш, як статуй?

— Га?

— Ён-жа пойдзе скардзіцца ў гарсовет!

Стары паціскае плячамі.

— Не разумею, чаго ты крычыш? Што я, глухі?..

Беленькі выходзіць з пад'езда гасцініцы. Глядзіць ва ўсе бакі. Таксі няма. На рагу стаіць рамізнік. Заўважыўшы пасажыра, ён падкатвае да яго—гэта Грап. Яны сустракаюцца позіркамі. Абодвы збянтэжаны.

— З вамі я не паеду!—гаворыць інжынер, адступаючы.

— Ну...—паціскае плячамі Грап.—Як сабе хочаце...—і, махнуўшы рукой, ён ад'язджае.

Пад'язджаюць яшчэ два рамізнікі. Беленькі іх кліча, але Грап паспеў ім падміргнуць і кожны з іх, адмоўна паківаўшы галавой, ад'язджае. Інжынер крыху разгублены. Але якраз да гасцініцы пад'язджае Тоня. Беленькі ўзрадаваўся, ён падыходзіць да машыны, сядае і ад'язджае. Грап сурова глядзіць услед машыне.

У таксі Беленькі побач з Тоняй.

— Ну, як вам падабаецца наш горад?—пытаецца яна.

— Я яшчэ не паспеў агледзецца,—гаворыць ён,—але, мяркуючы па вашай гасцініцы...

— У нас будуецца новая гасцініца!—перапыняе яна яго.

Паўза. Беленькі ўсміхаецца.

— Ці не здаецца вам, што тэлефон ваш таксама можа быць экспанатам для гістарычнага музея?

Тоня скосу пазірае на яго.

— Вам, мабыць, нічога не падабаецца ў нашым горадзе...

— Ну, што вы,—смяецца Беленькі.—Я-ж гавару аб прадметах неадухоўленых.

Тоня сустракаецца з яго позіркам. Яна хітравата, жэстам паказвае на машыну.

— У тым ліку і...

— Не, Тоня,—перапыняе яе Беленькі, усміхаючыся,—я не маю на мэце вашу машыну... Яна, бясспрэчна, шэдэўр тэхнікі і культуры...

Здаволеная Тоня дабаўляе газу і павяртае за рог вуліцы.

Беленькі гаворыць натхнёна:

— Гэта ўзор камфорта і шпаркасці на агульным фоне...

У гэты момант машына рэзка спыняецца. Інжынер глядзіць здзіўлена. Тоня стараецца пусціць у ход машыну, але дарэмна. Машына не кратаецца з месца. Тоня вылазіць з машыны, адкрывае капот матора і пачынае нешта папраўляць.

— Машына далей не пойдзе...—стрымліваючы адчай у голасе, гаворыць яна.

Беленькі ўсміхаецца.

— Ну, што-ж, не хвалюйцеся... Я даўно не хадзіў пехатою... Я буду на будоўлі да шасці гадзін. Чакаю вас да гэтага часу.

І, развітаўшыся, ён ідзе. Тоня праважае яго позіркам і зноў пачынае шукаць няспраўнасць у маторы.

Грап на сваёй брычцы павяртае за рог вуліцы. Заўважыўшы машыну і чалавека ля яе, ён зразумеў, што з машынай нешта здарылася і ўзрадваўся. Але, пад'ехаўшы бліжэй, ён бачыць Тоню, спыняе каня.

— Што здарылася, дочка? Тэхніка падкачала?—ехідна пытаецца Грап, злазячы з брычкі.

Тоня моўчкі корпаецца ў маторы і раптам кліча бацьку:

— Пасабі! ідзі сюды, падтрымай!

Грап нібы з боязню падыходзіць да матора. Ён трывожна глядзіць на машыну, на дачку і, відаць, бацькоўскія пачуцці пераважылі. Ён трымае рукой свечку матора. Тоня тымчасам стараецца запусціць матор, але дарэмна, машына не рушыць з месца. Тоня зусім у роспачы.

— Ну, што?—спачувальна пытаецца Грап,—сядай, адвязу дадому.

— А машына?..

Грап, спакойна закурваючы гаворыць:

— Ну, пасаблю, добра.... Возьмем і машыну, можа каняка як-небудзь і дацягне.

Ён дастае з-пад сядзення тоўстую вяроўку і прывязвае машыну да брычкі. Тоня сядае за руль. Грап улазіць на козлы, узмахвае пугай, дабрадушна ўсміхаючыся.

— Нно-о, Любка! Цягні тэхніку!

Конь цягне за сабой машыну. Грап павяртае за рог і выязджае на цэнтральную вуліцу. Праходжыя спыняюцца, смяюцца. Хлапчукі гуртам бягуць за машынай. Грап бачыць здзіўленне на тварах людзей, чуе іхнія насмешкі, гэта пачынае яго падзадорваць. Паступова ён прыходзіць у нейкае шалёнае захапленне ад таго, што здарылася. Па тратуару ідзе Беленькі. Грап яго заўважае. Ён прыўзнімаецца і, памахваючы пугай, як флагам над галавой, у захапленні крычыць:

— Сядайце, падвязу!

Але раптам здарылася нешта нечаканае. Машына пачала работаць. Зашумеў матор. Тоня высоўваецца, крычыць:

— Тата, пачакай! Спыні каня!

Але Грап яе не чуе. Ён размахвае пугай, імкнучыся ўсё далей і далей з трыумфам праехаць па гораду. Тоня тармозіць. Конь спыняецца. Тоня злосна выглядвае і дае задні ход. Конь Грапа адступае назад.

Зацямненне.

## Частка 2-я

Ускраіна горада. Яшчэ багата засталося ад старога правінцыяльнага гарадка, але і тут ужо ёсць новае. Сярод маленькіх домікаў— некалькі вялікіх камяніц. Адна з іх дабудоўваецца. У далечыні відаць велізарны корпус новай швейнай фабрыкі.

Будаўніцтва трамвая. Вуліца разварочана. Беленькі і дзесятнік ходзяць па ўчастку і аб чымсьці гутараць.

— Бачыце,—гаворыць дзесятнік,—вось і швейную фабрыку канчаюць будаваць... Што ні дзень—то прэм'ера. То абутковую фабрыку, то гарбарню, то швейную фабрыку...

Беленькі ўсміхаецца.

— А клуб у нас пабудавалі,—захоплена гаворыць дзесятнік,— проста любата! Грамадзіна, на пяцьсот чалавек... прыходзьце калі-небудзь... Паглядзіце, як мы іграем у драмгуртку! Убачыце мастацтва!..

У гэты час грузавік, які вязе будаўнічыя матэрыялы, спыняецца, не даязджаючы да будаўніцтва. Шофер вылазіць з кабіны.

— Песенька спета, таварыш дзесятнік!—крычыць ён.

Беленькі і дзесятнік ідуць да машыны.

— Бензіну няма!—гаворыць шофер.

Да будаўніцтва трамвая пад'язджае Тоня. Беленькі радасна яе сустракае. Пачынае з ёй гутарыць. Дзесятнік урываецца ў іхную размову.

— Дзень добры, Офелія! Вось бачыш, чорт пабяры,—гаворыць ён,—пакінулі нас без бензіну! Прыдзецца абвясціць антракт!.. Ні адной машыны заўтра не будзе.

Беленькі здзіўлена глядзіць на дзесятніка.

— Не хвалюйце яе...—усміхаецца ён,—нічога, Тоня, трамвай у вашым горадзе усё-такі будзе звінець.

Ён павяртаецца да дзесятніка і пачынае з ім аб чымсьці гутарыць. Тоня крыху разгублена, падыходзіць да дзесятніка.

— Я вас не зразумела, таварыш Глебаў,—гаворыць яна,—што значыць—няма бензіну? Чаму-ж вы аб гэтым не патурбаваліся своечасова?

Дзесятнік вінавата паціскае плячамі.

— Будаўнічы аддзел падвёў...

Беленькі здзіўлены. Яму яўна не падабаюцца паводзіны дзяўчыны.

— Выбачайце, Тоня,—гаворыць ён і павяртаецца да дзесятніка,— я сёння паведамляю ў Маскву, што будаўнічы аддзел пакінуў нас без транспарта... Праз два дні Масква нам прышле бензін.

Дзесятнік усміхаецца.

— Ох, вы мяне рассмяшылі, далібог! Вы—артыст!.. Заўтра-ж мы будзем без транспарта! Быць ці не быць, вось у чым пытанне!..

Беленькі ўсміхаецца.

— Вы не гарачыцеся... усё ўладзіцца... Гамлет...

Дзесятнік павяртаецца да Тоні:

— Чуеш, гэта сапраўдная трагікамедыя, плач і смех, далі бог! Ха-ха-ха! (Ён штучна смяецца.)

— Таварыш Глебаў!—гаворыць Тоня,—на пару дзён можна дастаць падводы... пагаварыце з рамізнікамі...

Беленькі ўглядаецца ў яе.

— Тоня... Я, відаць, тут затрымаюся... Вы свабодны...

— Добра!—гаворыць Тоня,—давайце, паедзем і дамовімся з рамізнікамі...

Пауза. Беленькі, стараючыся быць спакойным, ціха гаворыць:

— Тоня, я вас вельмі прашу... не ўмешвайцеся, калі ласка ў мае справы! Вы свабодны!

Ён павяртаецца да дзесятніка.

— Пойдзем!—і адыходзіць.

Мінуту Тоня глядзіць яму ўслед, сядае ў машыну і ад'язджае.

— Таварыш Беленькі,—гаворыць дзесятнік,—Тоня права! Рамізнікі з поспехам сыгралі-б сваю ролю...

— Рамізнікі ўсё адно не паедуць!—усхвалявана гаворыць Беленькі,—а вы, таварыш Глебаў, зусім не абавязаны перад кожным староннім рабіць справаздачу.

Дзесятнік усміхаецца.

— О, неба!.. З якой гэта пары члены горсовета, ды яшчэ прымацаваныя да будаўніцтва трамвая, зрабіліся староннімі людзьмі?..

Беленькі яўна збянтэжаны. Ён доўга глядзіць у бок адышоўшай машыны.

**Зацямненне.**

Кватэра Грапа. Ля новага радыёрупара сядзіць яго жонка. Яна прыслухоўваецца да музыкальнай перадачы, гледзячы ў гучнагаварыцель. Тоня, нахіліўшыся над сталом, рысуе нешта на лістку паперы. Яна старанна праводзіць лініі рэйсфедэрам. Музыка сціхае. Гаворыць дыктар:

— Працягваем перадачу вячэрняга выпуска апошніх паведамленняў. Сёння адбылося ўрачыстае адкрыццё новай швейнай фабрыкі. Сотні работніц запоўнілі фабрычны клуб. На мітынгу выступілі з прывітаннямі: сакратар раённага камітэта партыі таварыш Кудзімаў, старшыня гарадскога совета таварыш Лагуцін. Яркую прамову сказаў інжынер—будаўнік трамвая таварыш Беленькі. Звяртаючыся да работніц, таварыш Беленькі сказаў...

Маці выключае гучнагаварыцель.

— Чаму ты выключыла радыё?—пытаецца Тоня.

— Ай, я люблю лепш музыку!—гаворыць маці.

Тоня задумліва пачынае выводзіць асобныя літары на краю чарцяжа: Б... е... л...

У пакой убягае Оля. У кожным яе руху нестрыманая радасць.

— Добры вечар!—у яе руках пакет, яна падбягае да Тоні.—Тоня, на хвілінку!—радасна гаворыць яна, цягнучы яе ў другі пакой:—ён такі прыгожы, такі прыгожы! Ты сабе ўявіць не можаш!

— Аб кім ты гаворыш?—не разумее Тоня.

Оля весела глядзіць на яе.

— Я табе нічога не гаварыла пра інжынера, які будуе трамвай?

Тоня яўна разгублена, але ўсё-ж хутка авалодвае сабой. Маці, прыслухоўваючыся да размовы, з зайздрасцю паўтарае:

— Інжынер...—яна глыбока ўздыхае,—шчасце ў людзей.

— Тонічка, толькі ты нікому не кажы,—гаворыць Оля,—якое харство! Ведаеш, што ён сказаў? Жанчыны,—гаворыць ён,—у нас твораць цуды! Ён такі разумны!.. Чуеш, Тоня? А, ты мяне не слухаеш зусім...

— Слухаю!..—ціха гаворыць Тоня, стараючыся быць спакойнай.

— Тонічка,—жвава гаворыць Оля,—я, пэўна, паеду з ім у Маскву! Чуеш, ён глядзіць мне ў вочы і гаворыць: жанчыну трэба цаніць... Я адразу ўсё зразумела!.. Адгадай, што я рашыла зрабіць?

Тоня моўчкі глядзіць на яе.

— Я для яго вышыю шоўкавую кашулю, вось!—яна разгортвае пакет.—Гэта будзе цудоўна! Пасобіш, Тоня?

Тоня маўчыць.

— Ну, скажы, Тонічка!—яна абдымае яе, цалуе,—скажы міленькая...

— Пасаблю...—ціха гаворыць Тоня.

Оля радасна падпрыгвае, зноў цалуе яе.

— Тонічка! Я шчаслівая!.. Забягу да цябе потым!

Яна хапае пакет і шпарка выходзіць. Тоня доўга глядзіць задумліва і сумна ў адну кропку. Да яе падыходзіць маці. Дзяўчына, стараючыся быць вясёлай, абдымае яе, смяецца.

— Мама, ведаеш! Оля была ў краўчыхі і бачыла маю сукенку, яна гаворыць....

— Я чула...—перапыняе яе маці,—яе шчасце!..—яна ўздыхае,—інжынер...—і, махнуўшы рукою, гаворыць,—ну, пойдзем абедаць. Тата прыехаў...

Маці выходзіць. Тоня бярэ кніжку, пачынае гартаць яе, але, відаць, нічога не ідзе ў галаву. Яна адкладвае кніжку, заўважае падушачку, на якой прыгожа вышыта дзве літары: «Т. Г.». Яна бярэ падушачку і заканчвае вышыўку.

У другім пакоі. Маці прыбірае стол. Грап стаіць ля акна, пакурваючы, глядзіць на вуліцу.

— Ідзіце есці!—гаворыць маці,—Тоня!

Тоня ўваходзіць. Сядае да стала. Яна заўважае чарцёж і густа закрэслівае напісаныя ёю літары «Б... е... л...». Маці, ківаючы на Грапа, схіляецца да яе і шопатам гаворыць:

— Усяго двух пасажыраў меў сёння...

Паўза. Тоня глядзіць на бацьку.

— Тата,—гаворыць яна,—ёсць для цябе работа.

Грап, не гледзячы на яе адказвае:

— Хопіць! Зарабляем, славу богу...—ён павольна, цяжка ступаючы ідзе да стала,—даў бог зубы,—дасць і хлеб!...

Тоня ўважліва глядзіць на бацьку.

— Тата,—паслухай мяне хоць раз,—я-ж табе зла не жадаю!..

Грап моўчкі есць.

— Няўжо табе цяжка было-б паехаць хоць на пару дзён на будаўніцтва трамвая?—гаворыць Тоня,—там транспарта не хапае... інжынер сёння казаў...

Грап адно імгненне здзіўлена глядзіць на яе адным вокам і рэзка яе перапыняе.

— Еш! Суп прастыне!

— Тата,—умольваюча гаворыць Тоня,—прашу цябе, пагавары з рамізнікамі...

Грап, выціраючы вусы, бурчыць зларадна:

— З рамізнікамі!.. разумнікі!..

Ён рагоча ёй у твар гучна, самаздаволена. Тоня пільна глядзіць на яго. Маці трывожна назірае за імі. Грап, скосу паглядаючы на Тоню, гаворыць:

— Інжынер!.. што мне інжынер? Хто ён мне—брат, сват?.. Жаніх ён твой, ці што?

Тоня, раптам надумаўшыся, не бянтэжачыся, проста адказвае:

— Так, жаніх!

Маці вытарашчыла вочы.

— Іосіф, ты чуеш?—яна ўздыхае.—Славу богу!..

Грап, рэзка адсоваючы талерку, устае з-за стала. Наступае доўгая паўза. Тоня моўчкі есць, зрабіўшы выгляд, што нічога не заўважае. Грап узмахвае рукой і гаворыць злосна:

— Ні адзін рамізнік не паедзе! І я не паеду!

Жонка ўспляснула рукамі.

— Падумай, што ты гаворыш!—і пачынае пявуча прачытваць.— Хто гэта бачыў, хто гэта чуў, каб родны бацька быў зверам! Адзіная дачка... Інжынер яе жаніх, такое шчасце!

Грап злосна пазірае на яе.

— Ты перастанеш мяне пілаваць?..—гаворыць ён і павяртаецца да яе спіной.

Тоня ледзь не смяецца, але паспявае ўбегчы ў другі пакой. Жонка не сціхае.

— Хіба ты бацька, як след? Бачыш, расплакалася бедная. Цяжка яму схадзіць да Бульбы, да Сымона, пагаварыць з імі,—умольваючы гаворыць яна і пачынае гладзіць яго па плячу.—Дзе ты парваў пінжак? Здымі, зацырую! Выпусціць такое шчасце... жартачкі сказаць, інжынер!..

Грап, павяртаючы да яе галаву, працягла, знарок ласкавым тонам гаворыць:

— Ну, годзе ўжо табе, іржавіна! Сказаў не паеду—і ўсё!

Зацямненне.

Вуліца. Выцягнуўшыся ў рад, на рагу стаяць восем рамізніцкіх брычак. Рамізнікі напружана за чымсьці назіраюць. Галовы ўсіх павернуты да процілеглага боку вуліцы, дзе на тратуары стаяць двое і гутараць. Адзін з іх, расказваючы нешта другому, узмахнуў рукой. Рамізнікі ўсе разам ірвануліся з месц і пакацілі да іх. Субяседнікі з неўразуменнем пазіраюць на рамізнікаў, паціскаюць плячамі і адыходзяць. Рамізнікі, паныла праводзячы іх позіркам, вяртаюцца на свае месцы. Чуецца песня: «В нашем городе звенит трамвай». Рамізнікі ўздымаюць галовы, глядзяць на дах дома на рагу вуліцы на якім прымацаваны вялікі гучнагаварыцель.

— Заткні яму глотку!—крычыць нехта з рамізнікаў.

Яны заўважаюць, як Тоня набліжаецца да іх. Яна падыходзіць да сярэдняй брычкі, дзе сядзіць Бульба.

— Эй, таксаматор!—крычыць Сымон,—машынка сапсавалася ці што?

Бульба смяецца.

— На маіх-жа руках выгадавалася!..

І, працягваючы рукі да Тоні, варушачы пальцамі, з напевам гаворыць:

— Да мяне, да мяне, дзетка!..

Рамізнікі рагочуць.

— Бач, якая паненка!—смяецца Бульба,—ну, дзетка, што скажаш?

Тоня глядзіць на рамізнікаў і падыходзіць бліжэй да Бульбы.

— Дзядзя Макар,—ціха гаворыць яна.

Бульба ўважліва глядзіць на яе, нахіляе галаву.

— Вы паехалі-б на будаўніцтва трамвая?

Бульба смяецца.

— А я думаў, ты мяне на вяселле прышла клікаць!..

— Дзядзя Макар,—сумным голасам гаворыць Тоня,—хацела-б вас паклікаць, але вось тата не хоча майго жаніха.

Яна робіць выгляд, што вось-вось гатова заплакаць.
— Як гэта не хоча?—здзіўлены стары,—пачакай, я з ім пагавару!.. Чулі, а?—крычыць ён да рамізнікаў.
— Чаго?—пытаюцца яны.
Тоня ўсхвалявана глядзіць на Бульбу.
— Дзядзя Макар, я-ж толькі вам...
Бульба зразумеў.
— Нічога,—крычыць ён рамізнікам,—я гэта пра радыё кажу!..—ён паказвае на гучнагаварыцель.—А хто ён, твой жаніх?—пытаецца стары.
— Інжынер...—сарамліва гаворыць Тоня.
Бульба здзіўлена вытарашчыў вочы.
— Інжынер?.. Вось яно як!.. А каго-ж твой бацька хоча, паліцмейстара ці што?
— Я абяцала свайму жаніху дастаць падводы,—тым-жа тонам гаворыць Тоня,—а тата не хоча ехаць на будаўніцтва трамвая.
— Эх, дзетка!—уздыхае Бульба,—у кожнага папашкі свае замашкі... Вось разбойнік!..
— Дзядзя Макар, паязджайце!—упрошвае яго Тоня.—Хоць на некалькі дзён.
Стары задумваецца, уздыхае.
— Што мне з табой рабіць...—і раптам хітра на яе глядзіць:—Інжынер, гаворыш?
— Але.
— Жаніх?
Тоня сцвярджальна ківае галавой. Бульба міргае вачамі, ціха гаворыць:
— Паеду! Толькі, Тонька, глядзі!.. каб ніхто не ведаў, а то, чаго добрага, засмяюць...
— Не, дзядзя Макар,—гаворыць Тоня,—адна ваша падвода ні к чаму. Угаварыце астатніх рамізнікаў таксама...
— Як іх угаворыш, гэтых бандытаў...—уздыхае ён.
— Ну, дзядзя Макар,—гаворыць Тоня,—хіба гэта бывала, каб Бульбу не паслухалі?
— Яно то правільна,—смяецца стары,—захочу, дык паслухаюць!
— Дзякуй, дзядзя Макар,—узрадавалася Тоня,—дайце вашу руку!—яна весела саскоквае з брычкі, моцна паціскае яго руку.—Дык вы ўгаворыце?—паўтарае яна.
Бульба шырока ўсміхаецца, гаворыць ёй з напевам, як дзіцёнку.
— Угавару, угавару, мая любенькая...
Тоня смяецца.
— Тонька!—раптам крычыць ён,—а на вяселле паклічаш?
— Першым будзеце, дзядзя Макар!
Яна адыходзіць, ветліва махнуўшы рукой.

Зацямненне.

## Частка 3-я

Гасцініца. Беленькі, відаць, толькі што зайшоў. Хутка пераапранаецца. Раптам заўважае на сваім ложку тры падушкі, ды і сам ложак другі. Беленькі падыходзіць, аглядвае новую коўдру, просціны і

пацiскае плячамi. На яго твары здзiўленне. Ён пачынае ўважлiва прыглядацца да рэчаў i бачыць: стол, накрыты прыгожым настольнiкам, ля сцяны—пiсьмовы стол з чарнiльным прыборам. Над сталом партрэт Сталiна. Беленькi азiраецца i бачыць тумбачку. На ёй жбанок з жывымi кветкамi. Ён абмацвае ўсё рукамi. Усё гэта яго расчулiла. Позiрк яго падае на верхнюю падушку, на краю наўлачкi вышыты дзве лiтары «Т. Г. » Гэтыя лiтары прыцягваюць яго ўвагу. Ён пiша на паперы, разгадваючы сэнс гэтых лiтар.

— Т. Г... трамвай горад... таксi гасцiнiца...

Беленькi ўспамiнае аб чымсьцi i, узяўшы плашч i капялюш, выходзiць з пакоя. Ён праходзiць па калiдору, мiма чалавека, якi размаўляе па тэлефону.

— Што вы, аглухлi?—крычыць чалавек:—Мiця яго завуць! Мiця... Ну, слухайце па лiтарах... Масла! Iкра! т... т... зараз...

— Трамвай!..—выручае яго Беленькi.

— Дзякую вам!—узрадаваўся чалавек i пачаў яшчэ гучней крычаць у трубку.—Трамвай! Таксi! Тэлефон!

Беленькi выходзiць на вулiцу.

Летнi вечар. Цiшыня. Кошка спiць на ганку нейкага дому. Каза прабягае цераз вулiцу, за ёй ганiцца хлопчык на веласiпедзе. Гарадскi гадзiннiк на старой вежы. Цыферблат пачарнеў. Рымскiя лiчбы чаргуюцца з арабскiмi. Адна стрэлка напалову адломлена. Гадзiннiк паказвае роўна шэсць. Ён, вiдаць, даўно страцiў здольнасць званiць i цяпер маўчыць. Па вулiцы шпацыруе Сiнiчкiн. Пазiрае на гарадскi гадзiннiк i , зняраючы са сваiм кiшэнным, ставiць роўна на шэсць. Ён сустракае хлопчыка.

— Борка, ты не бачыў? Тоня тут?

— Дасцё цукерку, скажу,—гаворыць хлопчык.

Сiнiчкiн дае яму цукерку.

— Яе тут няма!—выкрыквае хлопчык i ўбягае. Ён сустракае свайго таварыша.—Лёнька! Хочаш цукерку?—пытаецца ён,—бяжы, скажы яму, што Тоня ў садзе... Я ўжо яго падмануў.

Хлопчык убягае.

Па лесвiцы ў сярэдзiне вежы павольна ўзыходзiць чалавек. Гэта стары Мiкiта—начны вартаўнiк. Ён не спяшаючыся iдзе па прыступках, трымаючы жалезны малаток у руцэ. Гадзiннiк паказвае дзесяць мiнут на сёмую. Гадзiннiк б'е шэсць разоў. Гэта Мiкiта стучыць малатком па прымацаванай да столi вежы рэйцы. Сiнiчкiн спыняецца. Лiчыць. Пазiрае на свой гадзiннiк—дзесяць мiнут на сёмую. Ён здзiўлены, але ўсё-ж перакручвае стрэлкi назад, ставячы iх роўна на шэсць. Да яго падбягае хлопчык. ,

— Дзядзенька! Борка вас падмануў, я ведаю дзе Тоня!

— Дзе?

— Дайце раней цукерку!—i, атрымаўшы яе ад Сiнiчкiна, выкрыквае:—Яна ў садзе!

Сiнiчкiн iдзе назад, праходзiць мiма гарадскога гадзiннiка, глядзiць—пятнаццаць мiнут на сёмую. Ён здзiўлена пазiрае на свой гадзiннiк, на якiм толькi пяць мiнут на сёмую.

На рагу вуліцы недалёка ад гарадскога сада стаіць рамізнік спіной да апарата. Беленькі ззаду падыходзіць да яго.

— Скажыце, калі ласка, я хацеў у вас спытацца...

Рамізнік павяртаецца да яго—гэта Грап. Беленькі не разгубіўся і звяртаецца да праходзячай міма Олі:

— Ці не скажаце вы мне, як прайсці ў сад?..

Оля крыху разгублена.

— У сад?.. Гэта вельмі далёка... не... ці-то... я лепш за ўсё вас правяду...

Яны заходзяць за рог вуліцы і перад імі сад. Беленькі ўсміхаецца.

— Так, сапраўды, далекавата... Ну, што-ж, я вельмі вам удзячны...

Тоня ў садзе. Яна бачыць, як Беленькі ветліва раскланьваўся з Оляй.

Беленькі заўважыў Тоню і накіраваўся да яе. Оля праваджае яго радасным позіркам. Да яе падыходзіць Сінічкін.

— Ты не бачыла Тоні? Яна мне патрэбна па справах рэдакцыі...

Оля пагардліва глядзіць на яго.

— Ах, адчапіся ад мяне, адчапіся...

Сінічкін паціскае плячамі і ўваходзіць у сад. Потым, калі ён заўважае Тоню з Беленькім, не адважваецца падысці і ўвесь час сочыць за імі. Беленькі і Тоня ходзяць па алеі.

— Я так рады, што сустрэў вас,—гаворыць ён,—павінен прасіць у вас прабачэння... я тады крыху пагарачыўся...

Пауза.

— Чаму вы пакінулі Олю?—гаворыць Тоня.

— Якую Олю?—не разумее інжынер.

Тоня іранічна ўсміхаецца.

— Канешне,—я яе першы раз бачу... я з ёй не знаёмы... я ёй не казаў, што жанчыну трэба цаніць...

Беленькі здзіўлены. Яны выходзяць на бераг шырокай ракі. Тоня раптам заўважае пляму на спіне інжынера.

— Дзе вы так запэцкаліся?

— Не ведаю,—гаворыць ён, інстынктыўна павяртаючыся,— Тонечка, я ўсё-такі не разумею, пра якую Олю вы гаворыце...

Тоня паварачвае яго спіной.

— Стойце спакойна! Ну, пастойце-ж!

Ён паслухмяна падначальваецца ёй. Тоня шчышчае пляму.

— Гатова!—хмурна гаворыць яна.

Ён бярэ яе за руку.

— Тоня! Я-ж акрамя вас нікога тут не ведаю...

Яны падыходзяць да лодак. Тоня вяла ўсміхаецца.

— Не прыкідайцеся...—гаворыць яна,—вы толькі што з ёй разгаварвалі...

І, заўважыўшы здзіўленне Беленькага, кпліва пытаецца:

— Ці, можа, я зноў умешваюся не ў свае справы?

— Умешвайцеся, богам прашу!—безнадзейным голасам гаворыць ён.

На беразе ракі стаіць Сінічкін. Недалёка ад яго Оля. Яны

сумна глядзяць на лодку, якая адплывае ад берага, потым глянулі адзін на другога і апускаюць вочы. У лодцы—маўклівыя Тоня і Беленькі.

Зацямненне.

Грап вязе Судака.

— Ну, галубок, хутчэй, хутчэй! Спазняюся ў больніцу!—гаворыць доктар.—Што ты, Іосіф, хутчэй не можаш?

— Ох, чаму не?—паціскае плячамі Грап,—но-о Любка!

Будаўніцтва трамвая. Вуліца на ўсю шырыню запружана падводамі. Рамізнікі, весела перагукваючыся, разгружаюць падводы. Пад'язджае Грап. Ён вязе Судака. Стараецца як-небудзь праехаць, але яму гэта не ўдаецца.

— Эй, дарогу давай!..—крычыць ён.

Рамізнікі і рабочыя смяюцца з яго. Гэта ўзлавала Грапа. Ён саскоквае з брычкі, падбягае да падвод і, схапіўшы за ўздзечку чыйгосьці каня, хоча адвесці яго ўбок. Бульба на яго накінуўся. Не дае яму адводзіць свайго каня. Закрычалі ўсе, што стаялі наўкола. Грап узлаваў:

— Прадаліся, чэрці! Чаго не прапускаеце?

— А ты што?—гаворыць Бульба.—Забыўся на бацькоўскі абавязак? Ты, разбойнік, не ведаеш, што мы для тваёй-жа дачкі гэта робім!

Да іх падыходзіць Беленькі. Ён у добрым настроі.

— Чаго вы, папаша, злуеце?—пытаецца ён у Грапа.

— Праехаць не даюць!—крычыць Грап.—Якое права маеце?

— Бачыў?..—гаворыць нехта з рамізнікаў.—Інжынер яго папашам называе, а яму хоць-бы што...

Беленькі супакойвае Грапа.

— Хутка будзе гатова лінія, тады вы, папаша, не толькі на брычцы, але і на трамваі паедзеце...

Судак падыходзіць да Грапа.. Цягне яго да брычкі.

— Чаго ты раскрычаўся,—гаворыць ён,—мяне-ж чакаюць у больніцы! Павяртай, галубок!

Грап узлазіць на козлы, злосна ўзмахваючы пугай у бок рамізнікаў і паварачвае каня. Па вуліцы імчыць пара легкавых машын. Праязджае Грап з Судаком.

— Іосіф!—гаворыць Судак, тыкаючы пальцам у спіну рамізніка.—У мяне зарадзілася цудоўная думка!

Грап, павярнуўшыся да яго, пытаецца:

— Што вы сказалі, доктар?

— Думка, кажу! План ёсць у мяне! М-так... Я цябе забяру на работу ў нас, у больніцу!—ён смяецца, радуючыся гэтай думцы.—Будзеш вазіць толькі мяне... разумееш? Толькі мяне!

Грап згодзен. Ён усміхаецца доктару, удзячна гледзячы ў вочы. Яны пад'язджаюць да больніцы. Іх сустракаюць людзі з раднаснымі тварамі. Сярод іх Сінічкін. Ён трымае напагатове блок-нот. Дырэктар больніцы падыходзіць да Судака, памагае яму сыйсці з брычкі. Людзі акружаюць Судака.

— Што здарылася?..—не разумее ён.

Дырэктар больніцы, выступаючы наперад, урачыстым тонам абвяшчае яму:

— Дарагі Павел Антонавіч, я маю гонар ад імя нашага калектыва першым вітаць вас з атрыманнем узнагароды за вашу доўгагадовую адданую работу...

Судак разгублены. Ён здзіўлена тарашчыць вочы.

— Не разумею вас, Віктар Міхайлавіч, не разумею! М-так...— паціскае ён плячамі.—Гаварыце зразумела, што вы ад мяне хочаце?..

— Вас узнагарадзілі!—стараецца растлумачыць яму дырэктар.

Судак яго перапыняе:

— Хто ўзнагарадзіў? Чым узнагарадзілі?..

— Вас узнагарадзілі аўтамашынай! — радасна выкрыквае дырэктар.

Сінічкін нешта запісвае ў блок-нот.

— Мяне?.. Машынай?.. Не хочу!

Ён па-старыкоўску дзівакавата трасе галавой.

— Не хочу! Не хочу!..

Разгубленыя твары людзей. Сінічкін глядзіць здзіўлена.

— Вы жартуеце, доктар?—гаворыць ён.—Вы адмаўляецеся ад урадавай узнагароды?

Судак разгублена глядзіць на яго.

— Урадавай?—перапытвае ён,—м-так...—ён устурбавана пазірае на Грапа, паціскае плячамі.—Ну, што ты скажаш? М-так...

Пауза. Ён горда ўзнімае галаву.

— Пакажыце мне,—гаворыць ён,—урадавую ўзнагароду!

Да яго пад'язджае машына. Шофер раскрывае для яго дзверцы. Судак трывожна аглядае машыну. Яго бяруць пад рукі, памагаюць яму ўзлезці ў машыну. Ён спалохана глядзіць на шофера і ўмольваючы гаворыць:

— Толькі, галубок, асцярожней...

Машына ад'язджае. Грап разгублена і сумна глядзіць ёй услед.

Зацямненне.

Вуліца. Заход сонца. Тоня з Оляй падыходзяць да дома.

— Зойдзеш?—пытаецца Тоня.

— Я спяшаюся,—гаворыць Оля,—я перашываю гэту кашулю, размер не падыходзіць. У Сінічкіна трыццаць сёмы нумар каўняра...

Тоня маўчыць.

— Шкада Сінічкіна,—гаворыць Оля,—ніхто яго не шкадуе.

Мінуту яны стаяць моўчкі, потым Оля ўздыхае.

— Каб ты ведала, як ён на мяне апошні раз паглядзеў...

— Хто?

— Сінічкін!—усміхаецца Оля.

Тоня падазрона глядзіць на яе.

— Але ты-ж мне расказвала пра інжынера, памятаеш, ён глядзеў на цябе і гаварыў, што жанчыну трэба цаніць...

Оля ўспамінае:

— Ах, Беленькі? Дык гэта ён гаварыў на сходзе!

Кватэра Грапа. Уваходзіць Тоня. Яна ў добрым настроі.

— Апошняга пасажыра страціў!—уздыхае маці.

— На мой век хопіць!—выкрыквае Грап,—хопіць! Не аплаквай мяне! Я яшчэ жывы!..

— Цішэй, тата, не крычы!—гаворыць Тоня.

— Буду крычаць! У сваім доме я гаспадар!

— Крычы!—выкрыквае Тоня.—Ды гучней!

Грап сціхае. Жонка, наліваючы малако ў шклянку, гаворыць:

— Паехаў-бы на трамваі, як усе людзі...

Грап загарэўся:

— Напляваць мне на гэта!.. Інжынер мяне ўсёадно прагнаў-бы!

Жонка падносіць яму малако.

— На, выпі... У цябе-ж няма сілы крычаць...

— Тата!—гаворыць Тоня.—Ты-ж разумны чалавек... няўжо ты сапраўды думаеш, што ён на цябе злуе?..

— Ён ведае, ведае...—насцярожваецца жонка,—ну, выпі, Іосіф...

Грап глянуў на Тоню і пачынае піць малако. Тоня заўважыла яго позірк.

— Тата!—гаворыць яна.—Глядзі, як работае Макар Бульба, як работаюць іншыя рамізнікі! Яны ўжо і думаць не хочуць аб другім... Мы-ж на днях атрымаем яшчэ дзесяць штук таксі! Хто з табой паедзе?..

— Маму я буду вазіць!—гаворыць Грап,—яна то са мной паедзе.

І, павяртаючыся да жонкі, ён усміхаючыся пытаецца:

— Куды загадаеце, мадам? На рынак?

Яна гучна смяецца.

— Ну, і пасажыр!

— Ты разумееш, тата,—гаворыць Тоня,—да канца будаўніцтва кожны з іх можа стаць кандуктарам або вагонаважатым...

У пакой уваходзіць Бульба. Грап, здымаючы шапку, крычыць:

— А, дзень добры, ваша прэвасхадзіцельства, пан кандуктар!

Бульба страшэнна ўгневаны. Не звяртаючы ўвагі на Грапа, ён ідзе да Тоні.

— Ну?—гаворыць ён.—Нас прасілі? Прасілі! Паехалі мы? Паехалі! А цяпер нас каленам?..

— Што здарылася?—не разумее Тоня.

Бульба злуе.

— А калі ён атрымаў бензін, дык нас ужо трэба разлічваць?

— Быць не можа!—гаворыць Тоня і выбягае з пакоя.

Грап смяецца, ківаючы жонцы.

— Ну, разумніца мая, ты чуеш? Ён ужо, слава богу, не кандуктар.—І гаворыць да Бульбы:—Годзе! Не сумуй, Макар! Хоць ты мяне тады падвёў, але нічога... конь на чатырох нагах і то спатыкаецца... Я цябе вазьму ў сваю кампанію. Можаш радавацца, у нас будзе заўсёды пасажыр.

— Гэта я,—гаворыць жонка.

Бульба з прыкрасцю махнуў рукой.

— Смех, смехам!—гаворыць ён,—мы то параборалі... Ды і здаецца не дрэнна... Хацелі да канца будаўніцтва так... А ён

значыць, паклікаў нас і гаворыць: мы ў падводах больш не маем патрэбы... Я, кажа, хочу вас перакваліфіцыраваць... У каго, кажа, ахвота ёсць, няхай, кажа, паступіць на курсы важатых... Усіх навучым...

Грап жмурыць вочы.

— Хітра прыдумана.

Тоня ў габінеце рэдактара газеты. Яна ўсхвалявана крычыць:

— Хто яму даў такое права, я пытаюся... Яны маглі быць дапаможнай сілай, ці не?

Рэдактар, відаць, заняты тэрміновай работай, нецярпліва адмахваецца рукамі.

— Карацей, Тоня! карацей, я цябе прашу!

Тоня не сціхае.

— Ён забывае, што мы стаім перад фактам перавыхавання людзей! Чаму газета замоўчвае такое пытанне?

Рэдактар разводзіць рукамі.

— Немагчыма! Карацей! Ну, чаго ты крычыш? Я не разумею!

— Я адказваю за гэта, разумееш?—гаворыць Тоня,—ён цярпець не можа рамізнікаў!.. Я ведаю...

Рэдактар на хвіліну ўзнімае галаву.

— Ну, калі ты ведаеш, дык у чым-жа справа, пішы!..

Пауза. Тоня крыху разгублена.

— Я?..

Рэдактар, не гледзячы на яе, працягвае ёй ліст паперы.

— Вазьмі вось паперу... чарніла ў нас хопіць... і, калі ласка, карацей, богам прашу...

У суседнім пакоі. Оля друкуе на машынцы. Сінічкін, дыктуючы з блок-нота, прыслухоўваецца да разгавора Тоні з рэдактарам.

— У новым радзільным доме,—ён прыслухоўваецца,—яна ўсё-такі бароніць інжынера...

Оля друкуе, машынальна паўтараючы:

— У новым радзільным доме яна ўсё-такі бароніць інжынера...

Сінічкін здзіўлена глядзіць на яе.

— Што ты там друкуеш?

Ён углядваецца ў машынку. Оля друкуе далей. Буйна: «Сінічкін, ты на мяне злуеш?» Сінічкін нешта абдумвае, адмоўна ківае галавой і, потым абняўшы яе, ён друкуе адной рукой. Буйна: «Я цябе...»

Оля яго перапыняе:

— Я цябе таксама...

Сінічкін уздыхае.

— Якое супадзенне!..

Яны застываюць у доўгім пацалунку. У гэты час уваходзіць рэдактар.

— Карацей!—усміхаецца ён,—карацей, таварыш Сінічкін!...

Рэпарцёр разгублена пачынае дыктаваць.

— Кропка! Шчаслівая маці ляжала на руках у свайго дзіцёнка...

Рэдактар падыходзіць да машынкі.

— Не блытайце, таварыш Сінічкін,—гаворыць ён,—вызваліце машынку. Карацей кажучы, зараз будзеце друкаваць артыкул для заўтрашняга нумара.

Зацямненне.

## Частка 4-я

З зацямнення. Даносіцца песня: «Ямщик, не гони лошадей». Кватэра Грапа. Трое рамізнікаў, панылa схіліўшы галовы, сядзяць у роздуме. Грап ля грамафона слухае песню. На апошнім куплеце іголка застрае на адным месцы і старая пласцінка пачынае паўтараць адно і тое-ж: «не гони, не гони, не гони, не гони»... Грап узмахвае рукой.

— Ведаем і без цябе!..

Ён здымае пласцінку. Пауза. Цішыня. Сымон, апусціўшы галаву на рукі, ціха, задумліва пяе, паўтараючы адну толькі фразу:

— Нам некуда больше спешить...

Трэці рамізнік глыбока ўздыхае:

— О-о-ой!..

— А ведаеце, што я прыдумаў!—гаворыць Сымон і тут-жа сам адказвае:—Не, не гадзіцца...

— Нічога не прыдумаеш!—гаворыць трэці.

Пауза. Сымон зноў ціха пяе:

— Мне некого больше любить...

І зноў той-жа ўздыхае.

— О-о-ой!—і раптам ён ажыўляецца:—Цішэй! Мне ўдарыла у галаву!

Рамізнікі насцеражыліся. Ён азіраецца і ціха гаворыць:

— Дзесяць такса-матораў прыбыла, а шофераў у іх няма...

— Ну?—гаворыць Грап.

— Дык можа...—ён глядзіць на рамізнікаў і, заўважыўшы іх здзіўленне, схамянуўся,—так, я нешта не тое гавару...

І зноў усе сядзяць у роздуме. Трэці рамізнік раптам устае і, безнадзейна махнуўшы рукой, гаворыць:

— Пайду!

— Пачакай!—гаворыць Грап,—не гарыць!

Сымон ускаквае.

— Ох, чорт пабяры! Ён-жа мне казаў, што яму патрэбен фурман! Ну, пайшлі!

Рамізнікі выходзяць на вуліцу. Грап сустрэўся з жонкай.

— Іосіф!—ціха гаворыць яна.—Я звар'яцею... Усе нам зайздросцяць, а ты хоць-бы што... Пагавары з ім, як бацька...

Грап маўчыць, схіліўшы галаву ў роздуме.

— Глядзі!—грозіць яна пальцам,—потым позна будзе! У Маскву за ім не пабяжыш...

— Ну, ша! Ціха!—заспакойвае яе Грап.—Усхадзілася, як спуджаны конь! Яшчэ трамвай не гатоў, не паедзе.

І ён сядае на козлы. Па вуліцы едуць трое рамізнікаў. Іх

абганяюць дзве пажарныя бочкі. Рамізнікі пад'язджаюць да варот пажарнай каманды. Сымон ім ківае на брандмайстра, які наклейвае нейкую аб'яву на варотах. Яны падыходзяць да яго.

— Таварыш брандмайстар,—гаворыць Сымон, нясмела ўсміхаючыся,—вось мы згодны паступіць да вас на работу...

Брандмайстар здзіўлена глядзіць на іх.

— На работу?.. Успомнілі... А вы гэта ўмееце?

Ён круціць рукамі, нібы трымаючыся за руль. Рамізнікі не разумеюць яго. Брандмайстар, усміхаючыся, урачыста гаворыць:

— Пажарныя машыны прышлі! Вось!—ён ім паказвае нейкія накладныя.—Адразу тры прыслалі. Зараз еду на вакзал!

Рамізнікі хмурна паглядзелі адзін на другога. Рухнулі спадзяванні. Перад імі аб'ява на варотах:

| |
|---|
| Патрабуюцца шоферы. |

Брандмайстар затрымлівае Грапа.

— Іосіф!—гаворыць ён,—вось што я табе па старой дружбе параю...

Грап узрадаваўся.

— Дзякую, Іван Іванавіч!

Яны ўваходзяць у пажарнае дэпо. За трамвайным кантролерам, спецыяльна ўладжаным на невялікай пляцоўцы, сядзіць чалавек. Яго навучае інструктар.

— Бачыш!—паказвае брандмайстар.—Вагонаважатым будзе!—і, не дачакаўшыся адказу, падыходзіць да інструктара.—Гэта мой стары прыяцель!—гаворыць брандмайстар.—Як-бы гэта яго прыладзіць да гэтай справы.

Інструктар падыходзіць да збянтэжанага Грапа.

— Вочы здаровыя?—пытаецца ён.

— Здаровыя!—адказвае брандмайстар.

— Агульны стан здароўя?

— Дай бог кожнаму!—гаворыць брандмайстар.

— Нервы?

— Адкуль у яго нервы?—смяецца брандмайстар.

— Рукі?

— Сіла незвычайная! Трамвай падыме!..

— Паглядзім!—гаворыць інструктар.—Няхай ад інжынера запіску прынясе.

— Іосіф, чуў?—гаворыць брандмайстар.—Бяжы, брат! Потым позна будзе.

Ён аб чымсьці пачынае гутарыць з інструктарам. Грап, глыбока ўздыхнуўшы, павольна і цяжка ступаючы выходзіць, ён едзе па вуліцы, задуменна, сумна, схіліўшы галаву. Міма яго праязджае машына. Спыняецца. З яе высоўваецца Судак.

— Іосіф!—крычыць ён.

Грап спыняе каня. Мільганула радасная думка. Ён саскоквае з брычкі, падбягае да машыны.

— Што, доктар, можа паедзем, га?

Судак смяецца.

— Ну, што ты, Іосіф... галубок, ведаеш? Зусім не так ужо дрэнна на машыне, мтак... прыемна нават... шпарка, ведаеш?.. Я шмат паспяваю...

Грап моўчкі слухае яго, потым, уздыхаючы, умольваючым голасам гаворыць:

— А я вас не шпарка вазіў, га? Вы ўжо забыліся? Вось сядайце, дык успомніце...

— Што ты, галубок! Што ты!—гаворыць Судак,—хіба можна параўнаць. Хацеў табе сказаць, Іосіф, мтак...,—ён паказвае на шофера,—можа і ты-б навучыўся, га?.. Падумай, галубок!..

Машына ад'язджае. Грап задумліва глядзіць ёй услед. Да яго падыходзіць бабуля.

— Рамізнік, свабодны?

Грап узрадаваўся:

— Свабодны!

Бабуля шырока ўсміхаецца.

— Сын мой, Додзя,—гаворыць яна,—атрымаў такую кватэру ў новым доме, у-ва!.. Царская кватэра!.. з ваннай і з гэтым... як гэта называецца...—яна робіць выразліва жэст рукой.

— Куды ехаць?—пытаецца Грап.

— Ды вось-жа, вось!—паказвае рукой старая.—Крыху рэчаў перавезці трэба... шафку, этажэрку...

Яна падыходзіць да свайго старога дома, ля якога стаіць велізарная шафа, канапа, ложкі. Грап пагардліва паглядзеў на старую, і, шумна паківаўшы галавой, ад'язджае.

Зацямненне.

Ля будаўніцтва трамвая. Тоня, седзячы ў машыне, рашае нейкую складаную задачу. Яна піша і закрэслівае. Відаць, у яе нічога не выходзіць. Падыходзіць Беленькі. Сядае ля яе. Машына рушыць. Ён бярэ кніжку, здзіўлена глядзіць на вокладку: «Падручнік па вышэйшай матэматыцы для вузаў і втузаў».

— Вучыцеся, Тоня?

— Рыхтуюся...

Беленькі глядзіць у сшытак.

— Вы няправільна рашаеце задачу,—гаворыць ён,—хочаце я вам пасаблю...

— Перад вамі больш складаная задача!—паказвае яна на газету, што ляжыць насупроць яе.

Беленькі бярэ газету, праглядвае.

— На трэцяй старонцы!—гаворыць Тоня, скоса пазіраючы на яго.

— Няўжо што-небудзь сенсацыённае?

Погляд яго падае на заметку. Ён шпарка чытае. Уважліва перачытвае зноў. Глядзіць на подпіс. Заметка канчаецца словамі: «... І наогул таварыш Беленькі не павінен забываць, што ў Совецкім Саюзе клопаты аб людзях стаяць на першым месцы. Т. Г.»

— Што гэта за таямнічае «Т. Г.»?—пытаецца Беленькі.

— Гэта вас больш за ўсё зацікавіла ў заметцы? Ну, што-ж, адгадаць не цяжка... «Т»—гэта, відаць, трамвай, а «Г»—мабыць, горад...

Беленькі ўсміхаецца.

— Цікава! Аўтар завельмі наіўны... Калі-б ён ведаў столькі, колькі ведаем мы з вамі, Тонічка...

Ён перачытвае ўголас асобныя фразы артыкула, іранічна каментыруючы:

— Удумлівы загаловак у гэтага артыкула «За ўважлівыя адносіны»... Можна было-б параіць аўтару і так: «Ахова працы, дзе ты?» Або: «Фабком—адгукніся». Як ваша думка?

Тоня маўчыць. Ён зноў нядбайна прабягае вачамі артыкул:

— «Вядома, што на будаўніцтве нехапае кадраў, што гэта тармозіць, што... Не дрэнны стыль... Не, я адмаўляюся дапамагчы гэтаму аўтару ў справе асваення граматыкі...

Беленькі камечыць газету і гаворыць:

— Чуў звон, ды не ведае дзе ён! Глупства! Ці-ж не так, Тонічка?—і, памаўчаўшы, гаворыць далей:—Вернемся да вашай задачы...

Тоні яўна не падабаюцца яго пагардлівыя адносіны да артыкула. Яна забірае з яго рук кніжку.

— Бадай, не варта...

Ля гасцініцы стаіць Грап. Заўважыўшы машыну Тоні, ён хаваецца за рог вуліцы. Беленькі выходзіць з машыны. Ветліва махнуўшы рукой Тоні, ён накіроўваецца да гасцініцы. Грап крадком уваходзіць за ім.

Пакой інжынера.

— Заходзьце, заходзьце, калі ласка!—гаворыць Беленькі,— сядайце! Чым-бы вас пачаставаць?

— Не трэба... навошта?..—махае рукой Грап.

Ён не ведае з чаго пачаць і, каб адцягнуць пачатак размовы, вымае папяросу. Беленькі запальвае запалку і падносіць яму.

— Вось што, папаша, я з вамі даўно хацеў пагутарыць... Вы толькі спакойна выслухайце мяне...

— Я-б хацеў...—спрабуе нешта сказаць Грап.

Беленькі яго перапыняе:

— Вы абяцаеце на мяне не злаваць? Скажыце, вы-б хацелі стаць вагонаважатым?

Грап міргае вачамі.

— Я прышоў...—хоча ён нешта сказаць.

— Ну, зразумейце, нарэшце,—умольваючым тонам гаворыць Беленькі,—я-ж не хочу, каб рамізнікі крыўдавалі на трамвай... Падумайце аб гэтым, папаша...

— Ды я-ж...—спрабуе зноў сказаць Грап.

Беленькі яго перапыняе:

— Толькі ўмова: нікому аб гэтым ні слова, асабліва Тоні нічога не кажыце...

— Ні-ні!—вырываецца ў Грапа. Ён прыглядаецца да падушачкі, круціць яе ў руках і шматзначна ківае галавой:—Прыгожа вышыла, га? Усё ўмее!

Беленькі здзіўлена:

— Гэта вы аб чым?

Грап усміхаецца. Водзіць пальцам па літарах.

— «Т»—Тоня. «Г»—Грап...

Грап выходзіць. Беленькі здзіўлены. Доўга думае над адкрыццём. Раптам, успомніўшы нешта, дастае газету, глядзіць на подпіс і на падушку.

— Вось як?—нечакана ўсміхаецца ён.—Падзеі пачынаюць набываць цікавы абарот...

Ён задумваецца, рашуча сядае да стала і піша: «Масква. Галоўнае Упраўленне»...

Грап выходзіць з гасцініцы і стыкаецца з Бульбай. Абодвы разгублены. Мінуту яны глядзяць адзін на другога.

— Падкову згубіў...—гаворыць Бульба,—ніяк знайсці не магу...

Ён шукае навокал сябе. Грап усміхаецца.

— І я, браток, збіраўся ў кузню, ды па дарозе вось...—ён хітра пазірае на Бульбу:—ты толькі глядзі, Макар, ні-ні! Асабліва Тоні...

Бульба паціскае плячамі.

— Што ты, Іосіф? Ні-ні...

Грап адыходзіць. Бульба крадком уваходзіць у гасцініцу.

Зацямненне.

## Частка 5-я

Ноч. Будаўніцтва трамвая заканчваецца. Шум і грукат на будаўніцтве. Энергічна працуюць людзі. Аўтагенная зварка рэяк. І ўсюды, на ўсіх участках, мы бачым інжынера Беленькага. Спакойна, амаль без слоў, ён дае распараджэнні. Гудок. Пад'язджае машына. З яе вылазіць Тоня. Беленькі натыкаецца на яе. Углядаецца, пазнае.

— Тоня,—злосна гаворыць інжынер,—членам горсовета таксама належыць спаць...

Тоня смяецца.

— А інжынеры, відаць, хварэюць на бяссонніцу? Другую ноч вы не спіце...

Беленькі ўсміхаецца.

— Высплюся...

Рабочы завінчвае гайку. Радасна ўскрыквае:

— Апошнія гаечкі, грамадзяне! Любуйцеся! Таварыш Глебаў, паклічце інжынера! Няхай сведкам будзе.

Дзесятнік смяецца.

— Зараз. О, друг мой! Таварыш інжынер! Фінал! Фінал! Заслона апускаецца!..

Раптам становіцца цёмна. Гаснуць вялікія электрычныя лямпы.

З усіх канцоў участка даносяцца галасы. Гучней за ўсіх крычыць перццы рабочы:

— Э, чорт пабяры! Святла давай! Апошнія гаечкі не паспеў завінціць!..

— Цішэй, дарагі, цішэй!—заспакойвае яго дзесятнік,—антракт пяць мінут! Лінію пераключаюць на новую электрастанцыю! Перамена дэкарацый...

— Не маглі пачакаць некалькі мінут!—злуе рабочы.—Грамадзяне, у каго ёсць запалкі? Пасвяціце!

— Я не куру!—гаворыць дзесятнік.

Рабочыя смяюцца. Тоня накіроўваецца да машыны.

— Куды вы, Тоня?—пытаецца Беленькі.

— За запалкамі!

Яна сядае ў машыну, пад'язджае да рабочага і запальвае фары. Рабочы падпрыгвае ад захаплення.

— Вось малайчына! Вось дзякую!—радуецца ён.—Пачакай, дружа, завінчу гайку і пацалую!

Беленькі і Тоня стоячы ў ценю, смяюцца, гледзячы адзін на другога. Ён набліжаецца да яе, хоча яе абняць, але ў гэты час запаліліся вялікія электрычныя лямпы. Стала светла. Беленькі замяшана апусціў рукі.

Дзесятнік дзелавіта заўважыў:

— Генеральная рэпетыцыя сарвана.

Зноў ажыла будаўніцтва. Шум і грукат.

Ноч. Па вуліцы едзе машына. Беленькі побач з Тоняй, прыхіліўшы галаву да сценкі машыны, спіць. Тоня пад'язджае да гасцініцы, сцішае ходу. Яна скосу глядзіць на Беленькага ласкавым позіркам. Ёй не хочацца будзіць яго. Машына павольна рушыць далей.

Ноч. Беленькі спіць. Тоня доўга глядзіць на яго, потым абхоплівае рукамі руль, кладзе галаву на рукі, не адрываючы позірка ад інжынера. Машына Тоні стаіць каля вежы гарадскога гадзінніка. На гадзінніку роўна дванаццаць. Стары Мікіта, з жалезным малатком у руцэ, сабраўся ўжо ісці званіць, але, заўважыўшы машыну, ён падыходзіць і ўважліва прыглядаецца. Тоня, пачуўшы шагі, узнімае галаву. Яна ціха адкрывае дзверцы машыны і трывожна глядзіць на Мікіту.

— Чакаеце каго?—хрыплым голасам пытаецца ён.

Тоня паглядзела на Беленькага. Пераканаўшыся, што ён спіць, прыкладвае палец да вуснаў.

— Цішэй...—гаворыць яна шопатам.

Мікіта ўздыхае.

— Пара званіць...

Ён збіраецца ісці. Тоня яго затрымлівае, умольваюча гледзячы на яго.

— Не трэба!—гаворыць яна ціха.

Мікіта глядзіць на яе неразумеючымі вачамі, паціскае плячамі і адыходзіць. Тоня асцярожна зачыняе дзверцы машыны, з глыбокім пачуццем глядзіць на Беленькага. З яго галавы звальваецца капялюш, яна падымае яго, хоча адзець яму на галаву, але не адважваецца гэта зрабіць. Беленькі прасынаецца. Тоня шпарка кладзе галаву на руль і прыкідваецца, што спіць. У яе руцэ засталася шляпа. Беленькі ўглядаецца ў яе. Пачуўшы шагі, ён насцярожваецца. Мікіта вяртаецца да машыны. Беленькі асцярожна адчыняе дзверцы, стары здзіўлена глядзіць на яго.

— Званіць трэба!—гаворыць ён.

— Ш-ш-ш!—шэпча Беленькі,—потым...

Ён трывожна паглядае на Тоню і яшчэ раз пераканаўча робіць знакі старому.

Мікіта паціскае плячамі і адыходзіць. Тоня, непрыкметна ўсміхаючыся, адкрывае вока і зараз-жа заплюшчвае яго. Беленькі знаходзіць падручнік, пазірае на Тоню і заўважае ў яе руцэ капялюш. Ён асцярожна забірае капялюш. Тоня «прасынаецца».

— Спіце, спіце!—гаворыць ён.—Я заняты... рашаю задачу.

Тоня глядзіць на яго, вочы яе смяюцца.

— Я ўжо рашыла!—ціха гаворыць яна.

Ён набліжаецца да яе. Тоня, папярэджваючы яго рух, крыху ўхіляецца ўбок. Ён кладзе руку на руль.

— Што вы рашылі?—пытаецца Беленькі, уважліва гледзячы ёй у вочы.

Тоня крыху замяшана адказвае:

— Задачу!

Беленькі ласкава глядзіць на яе.

— А я думаў... Тоня, вам халодна, накіньце плашч!..

Тоня адмоўна ківае галавой, але ўсё-ж, калі Беленькі бярэ плашч са спінкі сядзення, яна паслухмяна накідвае яго на плечы. Беленькі пасабляе ёй.

— Тонічка...—гаворыць ён ціха.

Дзяўчына знарок сур'ёзна глянула на яго.

— Куды загадаеце везці вас?

— Хоць на край света,—усміхаецца ён.

Тоня смяецца.

— Бензіну не хопіць!..

Яны весела глядзяць адзін на другога. Да машыны падыходзіць Мікіта. Ён трывожна, паўшэпатам пытаецца:

— Можна званіць?

— Можна!—радасна гаворыць Беленькі.

Машына рушыць. Гадзіннік на старой вежы паказвае дзве гадзіны. Гадзіннік б'е дванаццаць разоў.

Зацямненне.

Вуліца запружана людзьмі. Ля трамвайнай лініі трыбуна, на якой, сярод іншых, Беленькі і Тоня. Усе чакаюць з'яўлення трамвая. Даносіцца гоман натоўпу. Смех. Ля круга, які стварыўся ля тры-

буны, іграе аркестр. Некалькі пар танцуюць. Сінічкін і Оля ў натоўпе. Ён у новай вышыванай кашулі.

— Ідзі на трыбуну!—гаворыць яна.—Чуеш?

— Олічка!—умольваюча глядзіць на яе Сінічкін.—Ну як-жа я цябе пакіну?..

— Сінічкін, не хвалюй мяне,—шэпча Оля,—я хочу, каб ты быў у мяне на вышыні становішча!

— Олічка! Ну, Олічка, супакойся...

— Ідзі, табе гавораць!

Рэпарцёр паслухмяна накіроўваецца да трыбуны.

— Станавіся вось з гэтага боку,—паказвае Оля,—каб усе цябе бачылі!

У натоўпе жонка Грапа разгаварвае з бабуляй.

— Вы думаеце, мой муж хацеў ісці на абутковую фабрыку?—гаворыць бабуля.—Ні за што не хацеў... Працаваў сорак год саматужнікам, гаворыць, і буду працаваць... А цяпер—азалаціце яго, каб ён пайшоў з гэтай фабрыкі... Вы бачыце? Вось ён! На трыбуне!

Жонка Грапа ўздыхае.

— Вам добра, а мой вар'ят некуды згінуў... што з ім рабіць? Забыў не толькі пра мяне, але нават пра Любку...

Бабуля, гледзячы на трыбуну, гаворыць:

— Вось ваша дачка, можа яна ведае...

Жонка Грапа прабіраецца цераз натоўп да трыбуны.

— Тоня!—крычыць яна,—таты не бачыла? Дзе тата?

Тоня, паціскаючы плячамі, узіраецца ў натоўп.

— Не, мама, яго тут не відаць...

Маці ўздыхае.

— Шкада Любкі...—і ідзе ў натоўп.

Тоня гаворыць да інжынера.

— Што з ім магло здарыцца? Я пачынаю ўжо непакоіцца..

Беленькі ўсміхаецца.

— Ваш бацька знойдзе сабе дарогу...

— Не разумею вас,—гаворыць Тоня,—па мойму нічога смешнага няма, калі я непакоюся за майго бацьку.

Натоўп заварушыўся.

— Трамвай!.. Трамвай ідзе!..

З трыбуны гаворыць чалавек.

— Таварышы! Будаўніцтва першай лініі трамвая паспяхова закончана. Ад імя раённага камітэта партыі віншую будаўнікоў з атрыманай перамогай!

Апладысменты. Сінічкін падыходзіць да Олі. Яна вытарашчыла на яго вочы.

— Ты зноў тут?

— Олічка!—гаворыць Сінічкін,—я тут буду запісваць, там-жа няма месца!..

— Для ўсіх ёсць, а для цябе няма!

Яна ўбягае. Сінічкін разгублена глядзіць ёй услед, уздыхае і пачынае запісваць у блок-нот. Даносіцца голас: «Слова ад імя гарадскога совета мае таварыш Грап!»

Тоня гаворыць:

— Таварышы! Ад імя гарадскога совета вітаю ўсіх жыхароў нашага маленькага горада ў гэтую радасную гадзіну...

Грымяць трамвайныя колы. Па бліскучых рэйках імчыць першы, доўгачаканы трамвай. Ён упрыгожаны кветкамі і флажкамі. Усё бліжэй і бліжэй падыходзіць трамвай да трыбуны, да якой прымацавана традыцыйная істужка. Загрымеў «Інтэрнацыянал». Натоўп захоплена апладыруе. Людзі падкідваюць угору шапкі. Жонка Грапа праз галовы людзей стараецца разглядзець трамвай. А ён велічна падыходзіць да трыбуны, разрывае істужку і спыняецца. На мінуту ўсё сціхнула навакол. Людзі чагосьці чакаюць. Дзверцы пярэдняй пляцоўкі расчыняюцца і, на ўвесь свой рост, з'яўляецца падстрыжаны і адзеты ў форму вагонаважатага Грап. На секунду жонка яго замерла і, раптам, успляснуўшы рукамі, працягла, з усяе сілы, выкрыквае:

— Іосіф!—яна стала прарывацца цераз натоўп да мужа.—Любка без аўсу стаіць!..

Грап робіць заспакойваючы жэст рукой. Ласкава гаворыць ёй:

— Я ёй пакінуў поўную кармушку, мая старэнькая...

Жонка шырока ўсміхаецца яму. Горда азіраецца навакол. Грап падыходзіць да Беленькага, радасна паціскае яму руку і павяртаецца да здзіўленай Тоні, гаворыць урачыста, паказваючы на сваю форму:

— Ну, як вам падабаецца, таварыш Грап?..—ён паважна пазірае на натоўп. Выкрыквае:—Грамадзяне і грамадзянкі! Хто мае жаданне пакатацца,—калі ласка!

Натоўп кінуўся да трамвая.

— Таварыш кандуктар!—крычыць ён.—Глядзі за парадкам! Трамвай не перагружаць!..

З задняй пляцоўкі паказваецца Бульба. Ён у кандуктарскай форме, прапускае першых пасажыраў.

Да Беленькага падыходзіць яшчэ некалькі былых рамізнікаў. Усе яны апрануты ў форму трамвайных служачых. Радасна вітаюцца з ім. Тоня здзіўлена глядзіць на іх. Беленькі ўсміхаецца.

— Не дрэнны выгляд маюць будучыя стаханаўцы трамвая... Хацеў-бы я цяпер бачыць аўтара таго артыкула... памятаеце, Тоня...

Ён скосу паглядвае на Тоню, назіраючы, якое ўражанне стварылі яго словы. Тоня разгублена.

— Таварыш Беленькі, я хацела вам сказаць...

— Вы спазніліся, таварыш Грап,—перапыняе яе Беленькі, хітравата ўсміхаючыся, потым зусім сур'ёзна гаворыць:—Я меркаваў-бы, што члену гарсовета карысна было-б спачатку праверыць усю справу да канца, а потым пісаць...

Ён адыходзіць. Тоня разгублена глядзіць яму ўслед. Слёзы падступаюць да вачэй.

Аркестр іграе вясёлы марш «В нашем городе звенит трамвай».

Маці падыходзіць да Тоні.

— Я не паспела нават паглядзець на яго...

— Пра каго ты гаворыш?

Маці неўразумявае.

— Гэта-ж твой жаніх, га?

Тоня сумна ўсміхаецца.

— Табе гэта, мабыць, снілася, мама...

Зацямненне

## Частка 6-я

Кватэра Грапа. Тоня ляжыць на канапе і чытае кніжку. Маці хмурна гаворыць:

— Выпусціла з рук такое шчасце...

Тоня ўсміхаецца.

— Што тут смешнага?—не разумее маці.—Інжынер, жартачкі сказаць!..

Яна выходзіць у другі пакой.

Грап надзяе форменную фуражку.

— Іосіф!—уздыхае маці.—Ён-жа паедзе...

Грап, відаць, сам уражаны гэтай весткай, але каб суцешыць жонку, прыкідваецца, што не разумее.

— Хто паедзе?

— Інжынер...

Грап ківае галавой.

— Ай, старая мая, старая,—ласкава гаворыць ён,—табе патрэбен толькі інжынер? А разгаварваць ты з ім здолееш? Ты-ж няграматная... Няхай едзе на здароўе...

Ён адзяе ёй на галаву фуражку. Любуецца. Жонка пакрыўдзілася, яна скідвае фуражку.

— Я столькі-ж ведаю ў грамаце, колькі і ты...

— Ну?..—смяецца ён.—Колькі я?—ён спакойна скідае з фуражкі пушынку.—А што такое кантролер? Ты ведаеш?—ён цокае языком.—То-та-ж... А я ведаю!.. Прыйдзе-ж—пакажу...—Грап горда пазірае на яе.—Гэта табе не конь...—ён махае рукой,—адразу не зразумееш... Ты вось прыдзі сёння ўначы, будзе менш пасажыраў, я цябе бясплатна пакатаю—пакажу...

Ён падыходзіць да грамафона, ставіць пласцінку. Раздаецца песня «В нашем городе звенит трамвай».

Зацямненне

Вечар. Беленькі ў прыгожым пакоі новай гасцініцы. Ён складвае рэчы ў чамадан, рыхтуючыся да ад'езду. На вуліцы дождж. Інжынер пазірае на падушку з ініцыяламі «Т. Г.» Успамінае аб чымсьці задумліва круціць яе ў руках. Потым сядае да стала і піша:

«*Тоня! Дзякую вам за падушачку...*»

Закрэслівае, піша яшчэ нешта. У пакой уваходзіць жанчына. Мы пазнаем у ёй жонку загадчыка старой гасцініцы. Яна чыста апранута, носіць каптурык з карункамі і белы маленькі фартушок. Яна прыносіць падушкі. Беленькі пытаецца:

— Не было для мяне тэлеграмы?

Жанчына паціскае плячамі.

— Нашто вам тэлеграма? Я вам прынесла яшчэ дзве падушкі.

Беленькі не разумее.

— Каму гэта патрэбна?

Яна шырока ўсміхаецца.

— Вам! Цяпер, слава богу, падушак хапае! Я магу вам прынесці хоць дваццаць, калі хочаце... Вы-ж любіце падушкі...

Інжынер яе больш не слухае, ён складвае рэчы. Але жанчыне не хочацца выходзіць. Яна шукае, што-б яшчэ сказаць добрага.

— Бачыце, якая гасцініца ў нас, га?—пагляд яе падае на кнопку званка,—цяпер ужо і бегаць не трэба... Націскаюць вось гэтую кнопку,—яна націскае адзін раз,—прыдзе афіцыянт, другі раз—прыду я...

З'яўляецца прыбіральшчыца.

— Ніхто цябе не клікаў!—гаворыць жанчына,—пара ўжо ведаць, калі цябе клічуць і калі не клічуць...

— Я прынесла тэлеграму!—гаворыць прыбіральшчыца.

Беленькі ўсхвалявана бярэ тэлеграму, прачытвае, на яго твары з'яўляецца радасная ўсмешка. Жанчына і прыбіральшчыца выходзяць. Беленькі ўзрушана ходзіць па пакоі. Позірк яго падае на запіску, адрасаваную Тоні. Ён ірве запіску і наважваецца занесці ёй падушку.

На вуліцы праліўны дождж. Беленькі надзяе плашч і капялюш, загортвае падушачку ў газету і выходзіць з пакоя. Насупроць гасцініцы стаіць рад таксі. Падняўшы каўнер плашча, Беленькі падбягае да першай машыны, пільна ўглядаецца ў яе. З акна машыны выглядвае шофер—малады хлапец. Беленькі бяжыць да наступнай машыны. Там дзяўчына за рулем. Бяжыць да трэцяй машыны, да чацвертай, да пятай, да шостай... Усюды новыя твары. А дождж лье, як з вядра. Беленькі сядае ў апошнюю машыну і ад'язджае.

Кватэра Грапа. Тоня рашае нейкую задачу. Уваходзіць Беленькі. Мінуту дзяўчына здзіўлена глядзіць на яго, потым шпарка ўстае і ідзе яму насустрач. Беленькі ўсміхаецца.

— Я вам прынёс падушку...

Тоня ўсхвалявана, ціха гаворыць:

— Дождж на вуліцы...

Яна бярэ з яго рук мокрую падушку, ласкава гледзячы яму ў вочы. Яны падыходзяць да акна. Дождж сціхнуў. Пауза. Беленькі ціха гаворыць:

— Дождж сціхнуў...

Тоня, гледзячы на вуліцу, гаворыць нягучна:

— Вось і добра...

Беленькі, павольна павяртаючыся, дакранаецца да яе рукі. Настае доўгая пауза. Тоня ціха пытаецца:

— Поезд адыходзіць у гадзіну ночы?..

Беленькі сцвярджальна ківае галавой.

— У гадзіну сорак мінут...

Тоня непакойна пазірае на яго і апускае вочы.

— Шчаслівай дарогі...

Ён затрымлівае яе руку. Мінуту глядзіць на дзяўчыну, усміхаючыся працягвае ёй тэлеграму, паўтарае:

— У гадзіну сорак мінут...

У руках Тоні тэлеграма.

Буйна: «У адказ на тэлеграмы паведамляем: ваша просьба застацца на будаўніцтве другой лініі трамвая здаволена».

Зацямненне

Ноч. Грукат колаў. Трамвайны званок. Імчыцца трамвай. Грап сядзіць ля кантролера, пакручвае ручкай. Жонка стаіць каля яго, назіраючы за кожным яго рухам.

— Іосіф,—гаворыць яна,—пазвані яшчэ раз...

— Навошта?—не разумее Грап.

— Так,—усміхаецца жонка,—ты вельмі прыгожа звоніш...

Грап смяецца.

— Прыгожа—то прыгожа, а Любцы не забудзь даць аўсу... Яна-ж не пойдзе перакваліфіцыравацца...

У трамваі адзін пасажыр. Ён спіць. Кандуктар трамвая Бульба таксама дрэмле, паклаўшы руку на сваю скураную сумку. Астаноўка. Трамвай спыняецца. Пасажыр прасынаецца, гаворыць:

— Ну, на сёння хопіць...—і, вышаўшы з трамвая, усміхаецца Грапу:—Гэта-ж проста любата! Пракатаўся сёння пятнаццаць разоў.

Грап чакае мінуту, потым дабрадушна ўсміхаючыся крычыць Бульбе:

— Макар!

Бульба усхапіўся. Сонны, з заплюшчанымі вачамі, ён бярэцца за вяроўку званка, цягне пару разоў, крычыць:

— Но-о-о!

Грап смяецца.

— Яму ўсё яшчэ сніцца кабыла!..

Бульба здзіўлена міргае вачамі. Трамвай адыходзіць. Жонка ўздыхае.

— Паехаў інжынер!..

Грап маўчыць. Трамвай імчыцца. Жонка ўздыхае гучней.

— Я ўвесь час табе не давала жыць, Іосіф,—пагавары з ім, пагавары... Не хацеў, га?.. Што ты цяпер скажаш?

Грап скосу сурова паглядзеў на яе:

— З вагонаважатым разгаварваць забараняецца!..

Зацямненне

Ноч. Здалёк чутны гукі песні. Грап з жонкай праходзіць па вуліцы. Прыхіліўшыся да дрэва, стаіць хлапец з дзяўчынай, яны ціха гутараць, акацыя абсыпае іх пялёсткамі. Жонка ўздыхае, тармошыць Грапа, ківаючы ў іх бок. Яна яўна зайздросціць. Грап па свойму супакойвае яе, шагае далей. Але вось жонка зноў заўважае на лаўцы ля паркана другую парачку. Яна зноў тармошыць мужа, уздыхае, ківаючы галавой. Грап нарэшце не вытрымлівае, злосна паціскае плячамі і паскорвае хаду. Але, як на зло, прайшоўшы колькі шагоў, ён заўважае наперадзе новую парачку ля дзвярэй нейкага дома.

Стараючыся адцягнуць увагу жонкі, Грап паказвае ёй нешта на процілеглым баку вуліцы. Жонка паслухмяна глядзіць у другі бок. Яны набліжаюцца да гэтай новай парачкі не гледзячы на іх. І так яны праходзяць міма... двух бабуль, якія спакойна гутараць аб чымсьці.

Грап з жонкай падыходзяць да дому. Ён першы ўбачыў у сваім доме інжынера. У пакоі—Беленькі побач з Тоняй. Грап павесялеў. Цяпер ужо ён пачаў тармашыць жонку, якая ад нечаканасці не ведала што рабіць.

— Ш-ш-ш...—шэпча яна...

І ў гэтай цішыні раптам забрахаў сабака. Грап умольваюча глядзіць на сабаку і, прыклаўшы палец да вуснаў, ласкава гаворыць:

— Цішэй, дружок, цішэй...

Сабака пайшоў. Як зачараваныя стаяць адзін ля другога Грап з жонкай насупроць акна іхнага дома. Яны бачаць як Беленькі, гледзячы закаханымі вачамі на Тоню, абдымае яе... Грап усміхнуўся жонцы і таксама абняў яе адной рукой.

— А ты казала—паехаў...

Доўга яны так стаяць, дзве шчаслівыя пары.

*Праф. М. К. Дабрынін*

# НАРЫС ГІСТОРЫІ СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

## ПРАДМОВА

Гэты нарыс гісторыі старажытнай беларускай літаратуры з'яўляецца адным з нямногіх вопытаў у гэтай галіне. У адрозненне ад усіх папярэдніх спроб стварэння курса гісторыі старажытнай беларускай літаратуры, гэты нарыс бярэ беларускую літаратуру ў цеснай сувязі з літаратурай рускай і украінскай. Узнікнуўшы на адной старарускай культуры Кіеўскай дзяржавы, гэтыя літаратуры і мовы зноў сальюцца ў адну мову і адну літаратуру ў будучым комуністычным грамадстве. Аб гэтым яшчэ вельмі добра гаварыў таварыш Сталін у 1930 годзе у дакладзе XVI з'езду партыі.

«Можа паказацца дзіўным, што мы прыхільнікі зліцця ў будучым нацыянальных культур у адну агульную (і па форме і па зместу) культуру, з адной агульнай мовай, з'яўляемся разам з тым прыхільнікамі росквіту нацыянальных культур у сучасны момант, у перыяд дыктатуры пролетарыята. Трэба даць нацыянальным культурам развіцца і разгарнуцца, выявіўшы ўсе патэнцыі, каб стварыць умовы для зліцця іх ў адну агульную культуру з адной агульнай мовай. Росквіт нацыянальных па форме і соцыялістычных па зместу культур ва ўмовах дыктатуры пролетарыята ў адной краіне для зліцця іх у адну агульную соцыялістычную (і па форме і па зместу) культуру, з адной агульнай мовай, калі пролетарыят пераможа ва ўсім свеце і соцыялізм увойдзе ў быт,—у гэтым іменна і састаіць дыялектычнасць ленінскай пастаноўкі пытання аб нацыянальнай культуры». (*І. Сталін.* Марксізм і нацыянальна-каланіяльнае пытанне. Партвыдат, 1937 год, стар. 194—5).

За мінулыя восем год мы прайшлі далёка наперад і перад намі— задача завяршэння пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма, задача ліквідацыі перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей. (Матэрыялы XVIII з'езда ВКП(б).

Развіццё нацыянальнай беларускай літаратуры і культуры наогул справа вялікай гістарычнай важнасці, стварэнне гісторыі беларускай літаратуры—адзін з момантаў у гэтым будаўніцтве нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу культуры.

Мы далёкі ад думкі гэтым нарысам поўнасцю вырашыць задачу

стварэння курса гісторыі старажытнай беларускай літаратуры. Для гэтага няма яшчэ ўмоў, яшчэ недастаткова даследаваны і вывучаны старыя помнікі беларускай літаратуры. Многія матэрыялы яшчэ зусім не апрацоўваліся, так што ўсё гэта чакае даследчыка, чакае сваёй распрацоўкі, каб увайсці потым у гісторыю літаратуры. Перад гісторыкам беларускай літаратуры стаяць вялікія задачы.

Але час не чакае, развіццё беларускай культуры патрабуе распрацоўкі матэрыяла на гэтым участку. Адказваючы на гэтую патрэбу, мы і рашаемся прапанаваць чытачу, гэты, далёка няпоўны, нарыс гісторыі беларускай літаратуры, які мы разглядаем хутчэй як праграму далейшых работ, а не як поўнае вырашэнне задачы.

Мысль наша ўсё-ж выразная, шлях вызначаны, характар даследвання выразны і ўся наступная праца толькі павялічыць матэрыял, паглыбіць асобныя пункты, раскрые тое, што зараз дадзена толькі як намёк. Мы думаем, што ў такім выглядзе наш нарыс гісторыі беларускай літаратуры прынясе сваю карысць не толькі студэнтам вышэйшых навучальных устаноў, але і даследчыку, прысвяціўшаму сябе вывучэнню гісторыі старажытнай беларускай літаратуры.

---

## УСТУП

## ПЫТАННІ СТВАРЭННЯ КУРСА ГІСТОРЫІ СТАРАЖЫТНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Беларускі народ мае сваю багатую літаратуру, значыць ёсць гісторыя беларускай літаратуры. Стварэнне курса гісторыі справа неадкладная і маючая дзяржаўнае значэнне. Збіраючыся ствараць курс гісторыі беларускай літаратуры, мы перш за ўсё павінны звярнуцца да гістарычных даных, да матэрыялаў і вырашыць першыя асноўныя пытанні аб яе храналогіі, аб яе пачатку. З якога часу можам мы гаварыць аб гісторыі беларускай літаратуры?

Пытанне аб пачатковым перыядзе беларускай і украінскай літаратуры ўзнімалася ўжо не адзін раз і на яго былі дадзены больш ці менш аргументаваныя адказы. Напамінаем некаторыя з іх: IV том гісторыі рускай этнаграфіі акад. А. Н. Пыпін прысвяціў Беларусі і Сібіры (Гісторыя рускай этнаграфіі том IV, Беларусь і Сібір, СПБ 1892 г.). Тут ён закранае цікавячае нас пытанне. «Асновай беларускага племені (мы-б сказалі народа—*М. Д.*) і гаворкі (мы-б сказалі мовы—*М. Д.*) былі тыя старыя плямёны, якія сядзелі на паўночным захадзе старажытнай Русі, крывічы, дрыгавічы і інш.; і ў асаблівасці першыя, галоўнымі пунктамі якіх былі Полацак, Ізбарск, Смаленск, але якія разам з тым з вельмі даўняга часу распаўсюджваліся і далей на ўсход, садзейнічаючы рускай каланізацыі басейна Окі і верхняй Волгі, дзе потым заўлада племя вялікарускае. Такім чынам, з аднаго боку плямёны заходняга краю ўдзельнічалі сваімі парасткамі ў стварэнні самага племяні вялікарускага; з другога боку, застаючыся на месцы, захавалі і развівалі асобныя свае пачатковыя мясцовыя асаблівасці». (*А. Н. Пыпін* «Гісторыя рускай этнаграфіі», т. IV, стар. 7). Вось

гэтыя мясцовыя пляменныя асаблівасці, у сілу знешніх палітычных прычын, як татарскае і літоўскае нашэсце, умацоўваліся і развіваліся замест таго, каб сціраццa ў зносінах з другімі кроўнымі часткамі. «Адрозненне рускай поўначы і поўдня па мове ўзводзіць цяпер у асобных выпадках яшчэ да XI стагоддзя, і калі ўявіць сабе, што аб гэтай рускай мове XI стагоддзя мы маем толькі вельмі няпоўныя сведчанні; то можна падумаць, што дыялектычныя адзнакі былі больш абшырны, чым нам цяпер вядома». Усе пазнейшыя ўплывы ў беларускай пісьменнасці не маюць рашаючай ролі ў стварэнні беларускай мовы.

«Значыць, беларуская мова ці гаворка не паходзіць ад вялікарускай, а развіваецца адначасова з ёй з блізка кроўных, але асобных пляменных элементаў і ў вельмі рознай палітычнай і бытавой абстаноўцы». (*Пыпін*. Там-жа, стар. 6).

Значыць, развіццё беларускай мовы на аснове пляменных асаблівасцей у своеасаблівых гістарычных умовах Пыпін адносіць да сярэдняй эпохі, калі руская поўнач была аддзелена ад рускага захаду і поўдня, г. зн. да перыяду татарскага ярма XIII—XIV стагоддзяў. З-за татарскага ярма тэндэнцыя аб'яднання не магла перамагчы ў XIII стагоддзі, а прайшла доўгі шлях барацьбы збірання рускіх зямель і сіл для звяржэння ярма і далучэння кроўных частак у XVII і XVIII стагоддзях, якія жылі да гэтага часу сваім самастойным жыццём.

Работа А. М. Пыпіна вышла ў 1892 годзе, а ў 1904 годзе з'явілася першая кніга праф. Е. Ф. Карскага «Белоруссы». Раздзел III гэтай работы мае назву «Мовы рускіх плямён, якія насялялі беларускую тэрыторыю ў старажытны час. Зараджэнне беларускіх асаблівасцей. Старэйшыя слоўнікавыя запазычанні ў фінаў і іранцаў». Даследуючы развіццё гукавых асаблівасцей беларускай мовы, Е. Ф. Карскі прыходзіць да вываду: «Аказваецца, што ўсе галоўнейшыя асаблівасці сучаснай беларускай гаворкі ў большай ці меншай ступені склаліся не пазней XIII стагоддзя. Па большасці асаблівасцей беларуская гаворка з'яўляецца прамым носьбітам агульна-рускіх рысаў». (*Карскі*. «Белоруссы», том I, стар. 105. Вільна, 1904 год). Канчатковую выпрацоўку асаблівасцей беларускай мовы Карскі адносіць да часоў літоўскага ўладаравання, г. зн. да XIII (Міндоўг памёр у 1263) і ў асаблівасці да XIV стагоддзя (Гедымін памёр у 1340 годзе; Ольгерд памёр у 1377). «Пры такіх спрыяючых умовах (мірнае культурнае развіццё, свабоднае ад татарскай залежнасці, перавага рускіх над літоўцамі ў духоўных адносінах, прызнанне рускай мовы афіцыяльнай дзяржаўнай мовай—*М. Д.*) адбылося аб'яднанне ўсіх заходне-рускіх плямён і выпрацоўка адной агульнай мовы. З гэтага часу кладзецца моцны пачатак той рускай народнасці, якая вядома да гэтага часу пад імем беларускай. Сама мова яе, якая ужо ўпаўне склалася да гэтага часу ў галоўных асаблівасцях, можа быць названа беларускай». (*Е. Карскі*. Там-жа, стар. 114). І далей: «Такім чынам пачатак літоўскага ўладаравання ў заходне-рускіх вобласцях можа быць ахарактарызаваны, як перыяд утварэння беларускай народнасці і яе мовы». (Там-жа, стар. 114). Калі гэты вывад прымаць як хранала-

гічную датыроўку, дык з ім згадзіцца можна, калі-ж разумець яго ў тым сэнсе, што ўтварэнню беларускай мовы дапамагло літаўскае ўладараванне, дык гэта—няправільна. Сапраўды, робіцца незразумелым, як адсталы ў духоўных адносінах народ меў магчымасць спрыяльна ўплываць на ўтварэнне мовы і народа, больш высокага ў культурных адносінах?

Хутчэй можна дапусціць той факт, што палітычнае панаванне Літвы над Беларусіяй, выклікала тэндэнцыю да яднання, да згуртавання ў адно цэлае і такім чынам процістаяла іншаземнаму панаванню. Асаблівасці беларускай мовы ўзнікалі з плямёнаых і бытавых умоў, а палітычнае панаванне Літвы ў Беларусі абумоўлівала не збліжэнне з роднай Масквой, а самастойнае іх развіццё, хоць цяга да адзінства можа быць установлена на працягу ўсяго часу раздзельнага існавання Расіі, Украіны і Беларусі.

Да пытання аб пачатковым перыядзе рускай, украінскай і беларускай літаратуры падышоў акад. В. М. Істрын у рабоце «Даследванне ў галіне старажытна-рускай літаратуры» (1906 год) і потым у «Нарысе гісторыі старажытна-рускай літаратуры», (1922 год). Да думкі Істрына далучыўся В. Н. Перэтц у рабоце «Кароткі нарыс метадалогіі гісторыі рускай літаратуры», (Пецербург, 1922 год). Думка Істрына па гэтаму пытанню зводзіцца да наступнага: «У першы перыяд, дамаскоўскі, літаратура насіла характар агульнарускі і можа быць названа «агульнарускай» літаратурай. Такая яе назва грунтуецца перш за ўсё на геаграфічным распаўсюджанні... З адзінствам літаратуры ў сэнсе геаграфічнага распаўсюджання звязваецца яе адзінства і па адсутнасці ў перыяд XI—XIII стагоддзяў плямённага адрознення саміх носьбітаў літаратуры. У гэты перыяд няма яшчэ ні вялікарусаў, ні маларусаў, ні беларусаў, а ёсць толькі адзін «рускі» народ, які хоць і насіў у сабе зародкі пазнейшага свайго раздзялення на тры плямёны, але яшчэ зусім не ў дастатковай ступені, каб яны маглі даць падставу для поўнага падраздзялення. І з гэтага боку літаратура XI—XIII стагоддзяў не была ні вялікарускай, ні маларускай, ні беларускай, а была літаратурай «агульнарускай» ці, дакладней проста «рускай». *(В. Істрын* «Нарыс гісторыі старажытна-рускай літаратуры», Пецербург, 1922 год, стар. 5).

Такая-ж акалічнасць справы і з мовай. Асаблівасці, якія адрозніваюць мовы рускую, украінскую і беларускую, сталі прыкметнымі ўжо ў XI—XIII стагоддзях, але развіліся значна пазней. Літаратурная-ж мова была адзінай для поўдня, паўночнага ўсходу і захаду, «значыць і з гэтага боку, літаратура XI—XIII стагоддзяў была літаратурай «агульнарускай». (Там-жа, стар. 6). XIV стагоддзе В. М. Істрын лічыць пераходным, а XV—XVII стагоддзе перыядам маскоўскім. З XIV стагоддзя адбываецца раздзяленне адзінай рускай літаратуры і мовы на тры: вялікарускую, украінскую і беларускую, прычым ён лічыць, што літаратура маскоўская «з'яўляецца непасрэднай прадаўжальніцай» агульнарускай літаратуры XI—XIII ст. Ён лічыць, што традыцыі старарускай літаратуры кіеўскага перыяду прадаўжаліся толькі на паўночным усходзе, што літаратура паўднёва-руская (г. зн. украінская) заходне-руская (г. зн. беларуская) не

маюць цеснай духоўнай сувязі з літаратурай старажытнага перыяду (XI—XIII ст. ст.). З апошнім сцвярджэннем мы згадзіцца ні ў якім разе не можам, таму што яно стаіць у супярэчнасці з фактамі гісторыі.

Развіццё народа і яго духоўнае жыццё ішло беслерапынна, культура і літаратура украінскага і беларускага народаў мелі сваёй асновай культуру і літаратуру старажытнейшага перыяду, у гэтых адносінах яны нічым не адрозніваліся ад літаратуры маскоўскай.

Ідэя адзінства «зямлі рускай» была асноўнай не толькі ў XI—XIII ст., але і ў наступны час. У літаратуры маскоўскай яна выражалася як ідэя сувязі з роднымі народамі, а украінскай і беларускай,—як імкненне к роднаму рускаму народу, перамогшаму хутчэй другіх цяжкасці гістарычных выпрабаванняў і адстаяўшага сваю самастойнасць і незалежнасць. З канчатковым вывадам Істрына таксама згадзіцца нельга, бо ён сцвярджае, што літаратуры украінская і беларуская ўваходзяць у літаратуру «агульнарускую» ў XVIII—XIX стагоддзях, але як непасрэднае прадаўжанне літаратуры маскоўскай (XIV—XVII ст.). Такім чынам, для украінскай і беларускай літаратуры, як-бы прападае перыяд з XIV да XVIII ст., што безумоўна супярэчыць фактам гістарычным.

Шляхі, якія разышліся з прычыны гістарычных умоў развіцця трох народаў сапраўды сышліся зноў, але ў сям'і совецкіх народаў. Надышоў совецкі перыяд у развіцці нацыянальных літаратур, які характарызуецца зместам у нацыянальнай форме і развіццём у бок зліцця ў будучым у адзіную соцыялістычную культуру з адзінай мовай. (Гл. *І. Сталін* «Марксізм і каланіяльна-нацыянальнае пытанне».

Разважаючы ў гэтым плане, цікава прыгадаць думку тых гісторыкаў літаратуры, якія ішлі ў гэтым напрамку. Так, вельмі цікава на гэту тэму разважаў акадэмік Н. Н. Сакулін. «Мяркую, што, пакольні справа ідзе аб развіцці рускай (вялікарускай) літаратуры, ніхто не будзе адмаўляць прынцыповай важнасці, адзначаць кропкі яе датыкання з літаратурамі украінскай і беларускай. Але гутарка можа ісці аб большым.

Украіна і Беларусь маюць свае літаратуры (як і сваю мову). У наш час (пісана ў 1925 годзе—*М. Д.*) «самасційнасць» цэніцца асабліва высока. Можна не сумнявацца, што ў новых палітычных умовах украінская і беларуская літаратуры ўзмацняцца і будуць хутка развівацца. Гісторыя даўно раздзяліла тры вялікія галіны; цяпер кожная з іх рада магчымасці разгарнуць ва ўсю шырыню свае творчыя сілы. Але гісторыя-ж у нашы дні і збліжае родныя галіны цяпер, без усякай прымясі злых пачуццяў, брацкай мовай можна гаварыць аб адзіным ствале, з якога пайшлі гэтыя галіны. І не марнаслоўем з'явіцца спроба, напэўна, нават у бліжэйшым будучым сінтэтычным поглядам глянуць на літаратуры вялікарускую, украінскую і беларускую, як на адзіную вялікую літаратуру. Тады самастойнае развіццё кожнай з іх стане арганічнай часткай агульнарускага працэсу літаратурнага жыцця. Аналіз і дыферэнцыю заўсёды добра ўвенчваць сінтэзам» (*Н. Н. Сакулін.* «Сінтэтычная пабудова гісторыі літаратуры». М. 1925, стар. 41—2).

У заключенне па гэтаму пытанню ўкажам на «Проект проспекту першего тома курсу історіи украінскай литератури», надрукаванага ў часопісе «Радянське литературознавство» № 2-3, Кіеў, 1938 год, стар. 175—233.

Асноўныя лініі плана маюць наступны выгляд:

### I. Народная аснова украінскай літаратуры

1. Фальклор, яго вывучэнне і яго паходжанне.
2. Абрадавая паэзія
3. Старэйшыя формы казачнага фальклора.

### II. Літаратура XI—XIII ст. (літаратура Кіеўскай Русі)

1. Гістарычныя ўмовы развіцця.
2. Перакладная літаратура кіеўскай Русі.
3. Фальклор Кіеўскай Русі.
4. Арыгінальная літаратура Кіеўскай Русі. Свецкая літаратура на народнай аснове, з большым ці меншым уплывам перакладной літаратуры.
5. Арыгінальная літаратура Кіеўскай Русі. Царкоўная творчасць на візантыйскай аснове.

### III. Літаратура XIII—XVI ст.

1. Гістарычныя ўмовы развіцця.
2. Заміранне літаратурнай традыцыі.

### IV. Літаратура другой паловы XVI і першай паловы XVII ст.

1. Гістарычныя ўмовы развіцця.
2. Барацьба за нацыянальна-рэлігійную незалежнасць літаратуры. Палемічная літаратура XVI—XVII ст.
3. Творчасць І. Вішэнскага.
4. Зараджэнне новых літаратурных форм. Пачатак вершаскладання і першыя драматычныя вопыты XV—XVII ст.
5. Фальклор XVI—XVII ст. Думы і гістарычныя песні.

### V. Літаратура другой паловы XVII ст.

1. Гістарычныя ўмовы развіцця.
2. Перакладная апавядальная літаратура другой паловы XVII ст.
3. Арыгінальная проза другой паловы XVII ст.
4. Паэзія і школьная драма.
5. Віршовая літаратура XVII і пачатку XVIII стагоддзя.

## VI. Літаратура XVIII ст.

1. Гістарычныя ўмовы развіцця.
2. Захаванне школьнай літаратурнай традыцыі: зараджэнне рэалізма ў школьнай драме.
3. Пераход школьнай літаратурнай традыцыі ў народнае асяроддзе і яе трансфармацыя ў літаратуры XVIII ст.
4. Літаратурная паэзія XVIII ст.
5. Пераход да новай літаратуры. Творчасць Скаварады.
6. Фальклор XVII і пачатак XIX ст.

Вось асноўныя лініі праграмы і часткі гісторыі украінскай літаратуры. Другая частка закранае ўжо XIX ст. Мы не будзем уваходзіць у разгляд гэтага праспекту хоць не ва ўсім згодны з ім. Мы з радасцю канстатуем надзвычай добрае пачынанне стварэння курса гісторыі украінскай літаратуры. Мяркуючы па гэтаму праспекту, у нас няма прынцыповых разыходжанняў па раду карэнных пытанняў, якія датычуцца храналогіі і прынцыпаў пабудовы, аднолькавых для украінскай і беларускай літаратуры. Наш вывад такі: *пачатак украінскай, як і беларускай літаратуры прыпадае такім чынам на XIII і XIV стагоддзі.* Развіваюцца яны на адной аснове, на культуры і літаратуры Кіеўскай Русі, адлюстроўваюць працэс барацьбы за самастойнасць і незалежнасць гэтых народаў у самыя цяжкія вякі іх жыцця, церпяць усякія ганенні, пакуль не сыходзяцца ў дружную сям'ю народаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Справа ў тым, што перыяд дыктатуры пролетарыята і будаўніцтва соцыялізма ў СССР ёсць перыяд росквіту нацыянальных культур, соцыялістычных па зместу і нацыянальных па форме. Па гэтаму поваду ў таварыша Сталіна мы чытаем: «Яны (якія ўхіляюцца ў бок вялікадзяржаўнага шавінізма— *М. Д.*), мусіць, не разумеюць, што развіццё нацыянальных культур павінна разгарнуцца з новай сілай з увядзеннем і ўкараненнем агульна-абавязковай першапачатковай асветы на роднай мове. Яны не разумеюць, што толькі пры ўмове развіцця нацыянальных культур можна будзе далучыць па-сапраўднаму адсталыя нацыянальнасці да справы соцыялістычнага будаўніцтва. Яны не разумеюць, што ў гэтым іменна і састаіць аснова ленінскай палітыкі дапамогі і падтрымання развіцця нацыянальных культур народаў СССР.

Можа паказацца дзіўным, што мы, прыхільнікі зліцця ў будучым нацыянальных культур у адну агульную (і па форме і па зместу) культуру, з адной агульнай мовай, з'яўляемся разам з тым, прыхільнікамі росквіту нацыянальных культур у даны момант, у перыяд дыктатуры пролетарыята. Але ў гэтым няма нічога дзіўнага. Трэба даць нацыянальным культурам развіцца і разгарнуцца, выявіўшы ўсе свае патэнцыі, каб стварыць умовы для зліцця іх у адну агульную культуру з адной агульнай мовай. Росквіт нацыянальных па форме і соцыялістычных па зместу культур ва ўмовах дыктатуры пролетарыята ў адной краіне для зліцця іх у адну агульную соцыялістычную (і па форме і па зместу) культуру з адной агульнай мовай, калі пролетарыят пераможа ва ўсім свеце і со-

цыялізм увойдзе ў быт,—у гэтым іменна і састаіць дыялектычнасць ленінскай пастаноўкі пытання аб нацыянальнай культуры. (*І. Сталін*, «Марксізм і нацыянальна-каланіяльнае пытанне», М. 1937 год, стар. 194—5).

Цяпер здаецца ясным не толькі пачатак, але і шляях развіцця, перыяд росквіту украінскай, беларускай і другіх нацыянальных культур і іх зліцця ў «адну агульную соцыялістычную культуру (і ў адну агульную мову) у перыяд перамогі соцыялізма ва ўсім свеце» (*І. Сталін*, там-жа, стар. 195).

## II

Другім істотным пытаннем пры пабудове гісторыі беларускай літаратуры з'яўляецца праблема перыядызацыі. Ці варта даводзіць навуковую вартасць гэтай праблемы, гэта зразумела без доказу. З таго, што было сказана вышэй, вынікае, што перыядызацыя беларускай літаратуры павінна ў асноўных рысах супадаць з падзелам на перыяды літаратуры рускай і украінскай. Прымаючы-ж пад увагу перыядызацыю, прынятую ў той і другой, атрымаем наступны падзел беларускай літаратуры.

І. Літаратура XI—XIII стагоддзяў. Літаратура Кіеўскай Русі, г. зн. таго перыяду, калі ўсе славянскія плямёны, нягледзячы на нязначнае адрозненне, прадстаўлялі адну магутную дзяржаву на чале з Кіевам. Культура і літаратура гэтага перыяду з'яўляецца асновай для далейшага развіцця літаратуры рускай, украінскай і беларускай. Аб'ём помнікаў можа быць той-жа.

ІІ. Літаратура XIII—палова XVI ст. Літаратура перыяда барацьбы Беларусі за сваю самастойнасць, супроць улады літоўскіх і польскіх паноў. Гэта той перыяд, аб якім Ф. Энгельс у артыкуле «Знешняя палітыка рускага царызма» пісаў: «У той час, калі Вялікарусія трапіла пад мангольскае ярмо, Беларусь і Малаoрсія знайшлі сабе абарону ад азіяцкага нашэсця, далучыўшыся да так званай дзяржавы літоўскай. Гэта дзяржава пасля дабраахвотна злучылася з Польшчай (*К. Маркс* і *Ф. Энгельс*. Збор твораў, том XVI, ч. II, стар. 10). Далучыўшыся да літоўскай дзяржавы, Беларусь не страціла сваёй нацыянальнай культуры. Яна толькі жыла і развівалася ў іншых умовах, чымся Русь паўночна-усходняя. Плямённыя адрозненні, якія не ігралі ніякай ролі ў кіеўскім перыядзе, атрымоўваюць сваё развіццё і такім чынам, складаецца беларуская мова і літаратура. Гэта настолькі магутныя літаратурныя фактары, што Літва трапляе ў культурную залежнасць ад Беларусі. Беларуская мова робіцца афіцыяльнай дзяржаўнай мовай, але потым акалічнасць змяняецца, дзякуючы таму, што Літва дабраахвотна далучылася да Польшчы.

Добраахвотнае злучэнне Літвы з Польшчай адбылося ў 1386 годзе, калі літоўскі князь Ягайла, ажаніўшыся на польскай каралеўне Ядвізе, аб'яднаў Літву і Польшчу ў адну дзяржаву. Акалічнасць, аб якой гаворыць Ф. Энгельс, г. зн., што Беларусь знайшла сабе абарону ад азіяцкага нашэсця, ускладнялася новымі ўмовамі. Рускія землі цягацелі цяпер да Масквы, што было прычынамі войн паміж

Масквой і Літвой пры Іване III. І наадварот, Масква ўзмацнела настолькі, што выказвала свае права на аб'яднанне ўсіх рускіх зямель, гэта асабліва зрабілася яскрава, калі Масква склалася ў вялікую нацыянальную дзяржаву і пачала ператварацца ў дзяржаву шматнацыянальную. Гэта палова XVI стагоддзя. Тут мы і бярэм храналагічны прэдзел. З пункту гледжання ўнутранай беларускай гісторыі гэта будзе 1569 год., г. зн. час люблінскай уніі.

III. Літаратура XVI і XVIII стагоддзяў. Гэта літаратура перыяда сялянска-казацкіх войн супроць феадальнага і нацыянальнага прыгнёту, перыяду вызвалення Беларусі ад Польшчы і далучэння яе да Расіі. Негледзячы на страшэнны прыгнёт, які часам прымаў кашмарныя формы, беларускі народ захаваў сваю мову і сваю нацыянальнасць, гэта патрабавала ад яго гераічнай барацьбы, часам прымаўшай бязлітасныя формы расправы з прыгняталькамі-панамі. Зразумела, цягаценне Беларусі да Расіі, якое закончылася далучэннем яе ў XVII ст. па трох раздзелах Польшчы пры Екацерыне II. Гістарычная тэндэнцыя адзінства зямлі рускай, ідэя аб'яднання народаў атрымала ўрэшце рэальнасць.

IV. Літаратура XIX—XX стагоддзяў. Гэта літаратура дакастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. Гэты перыяд можа быць разгледжан як адно цэлае. Тут беларуская літаратура, негледзячы на афіцыяльную русізацыю, прадаўжае жыць і развівацца. Яна атрымоўвае свае прызнанне і з боку рускага грамадства, што яскрава выразілася ў звароце, надрукаваным у газеце Аксакава «Дзень».

„Мы вінаваты перад вамі—даруйце нам,—пісала рэдакцыя „Дня".—Падзеі раскрылі нам вочы, заслепленыя польскай хлуснёй, а разам з тым раскрылі ўсю бездань нашай віны. Мы, рускае грамадства, як быццам забыліся пра існаванне Беларусі; мы доўгі час каснелі ў няведанні аб той глухой, невядомай, але тым не менш пачэснай, святой барацьбе, якую вялі беларусы за сваю народнасць і веру — з магутнымі, дужымі, злоўчанымі і багатымі, з усіх бакоў акружаўшымі іх, ворагамі—польшчызнаю і лацінствам.

Сапраўды вашы подвігі бяспрыкладна вялікія, хоць тварыліся яны ў цішы і змроку, без бляску і трэску, без гучных рукаплесканняў, у якіх прыемлюць сабе земную мзду за гераічныя подвігі свайго алчнага патрыятызма вашы прыгнятальнікі-палякі. Ваша барацьба была тым цяжэй, што вы змагаліся чэснай зброяй духу, ішлі маральным хрысціянскім шляхам да чэснай мэты, у той час, як ворагі вашы па-ісзуіцкаму правілу, што мэта апраўдвае ўсякія сродкі—супроцьстаўлялі вам пякельныя падкопы і злохітраванні. Ваша барацьба была яшчэ тым цяжэй, што ўсё багатае, магутнае, уладаючае зямлёю саслоўе, ваша руская шляхта спакусіліся выгадамі ўлады, прывабілася на жыццейскія зручнасці і пашану, і прадалі за іх праваслаўе і рускую народнасць. Яны апалячыліся, акатолічыліся, яны, як гэта заўсёды бывае з адступнікамі, зрабіліся самымі злымі ворагамі народа і яго веры, — і тым не менш вы, духоўным мячом, адстаялі рускую зямлю... Хвала вам па ўсёй Расіі!

„Вялікая мудрасць божая паслала зараз Беларусі рад выпрабаванняў, якімі, як у горніле, спакушаючыся і ачышчаючыся, беларускі народ адраджаецца да новага жыцця. Ен упершыню выступіў на поле гісторыі, як гістарычны дзеяч; ён паказаў сябе свету ўпершыню, як народ,—рускі народ,—уладар і гаспадар той зямлі, якую палякі ўсюды праслаўлялі Польшчай,—і ўшто, і ніхто ад гэтага часу не адбярэ гэтай чэсці. Польскі мяцеж выкрыў ворага, якога Расія, з-за благадушнасці, прыгравала ў сябе на грудзях, выявіўшы перад цэлай Расіяй і ўсім светам каварства, дзёрзкасць і пагарду да рускага народа польскага ці апалячанага дваранства, і выклікаў законную помсту народную. Цяперашнія падзеі... гэта хрышчэнне Беларусі ў новае, агульнае з Расіяй, духоўнае і грамадскае

жыццё, хрышчэнне—у нявіннай крыві зарэзанных палякамі сялян, замучаных і павешаных палякамі свяшчэннікаў беларускіх—Пракаповіча, Конапасевіча, Рапацкага, дзячка Іозеховіча, настаўніка Смольскага і шмат іншых! Ад гэтага часу не панаваць ужо над намі ганарыстай польскай шляхце, наглым польскім афіцыялістам і дробнай польскай чыноўніцкай чэлядзі! Хай яны ідуць да сябе дамоў, у Польшчу. Ад гэтага часу руская зямля павінна стаць рускай ва ўсіх праявах свайго жыцця, каб не было польскага духу ні слыхам не чуць, ні вокам не бачыць... Спяшайцеся сцерці апошнія адзнакі польскага панавання ў вашай няшчаснай краіне, залячыць грамадскія раны, нанесеныя вам польскім прыгнётам, і так умацаваць духоўныя сілы вашай народнасці, каб і думка аб былой калісьці тут Польшчы не змагла ўзыйсці на сэрца паляку!“ (*Пыпін*. Гісторыя рускай этнаграфіі. Т. IV, стар. 89).

У XIX стагоддзі мацнеюць ніці, якія звязваюць беларускую літаратуру з літаратурай рускай, у асаблівасці па рэвалюцыйна-дэмакратычнай лініі.

VI. Літаратура XX стагоддзя. Совецкая беларуская літаратура, літаратура пасля Кастрычніка 1917 года, нацыянальная па форме і соцыялістычная па зместу.

Мэтазгоднасць іменна такога падзелу літаратурнага матэрыялу, падзелу, які грунтуецца на гістарычных фактах у жыцці народа, вынікае з матэрыялістычнага разумення гісторыі. А яно прымушае нас у літаратурных творах і ідэях шукаць зямное гістарычнае ядро. Мы дазволім сабе напомніць адно месца з «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)»:

«Значыць, крыніцу фарміравання духоўнага жыцця грамадства, крыніцу паходжання грамадскіх ідэй, грамадскіх тэорый, палітычных поглядаў, палітычных устаноў, патрэбна шукаць не ў саміх ідэях, тэорыях, поглядах, палітычных установах, а ва ўмовах матэрыяльнага жыцця грамадства, у грамадскім быцці, адбіткам якога з'яўляюцца гэтыя ідэі, тэорыі, погляды і т. п.

Значыць, калі ў розныя перыяды гісторыі грамадства назіраюцца розныя грамадскія ідэі, тэорыі, погляды, палітычныя ўстановы, калі пры рабаўласніцкім ладзе сустракаем адны грамадскія ідэі, тэорыі, погляды, палітычныя ўстановы, пры феадалізме—другія, пры капіталізме—трэція, дык гэта тлумачыцца не «прыродай», не «ўласцівасцю» саміх ідэй, тэорый, поглядаў, палітычных устаноў, а рознымі ўмовамі матэрыяльнага жыцця грамадства ў розныя перыяды грамадскага развіцця. Якое быццё грамадства, якія ўмовы матэрыяльнага жыцця грамадства,—такія яго ідэі, тэорыі, погляды, палітычныя ўстановы». (Гісторыя ВКП(б). 1938 год, стар. 110).

Мы і мяркуем, што ўвесь ідэйны змест, эстэтычныя вартасці і фармальныя асаблівасці літаратуры таксама абумоўлены ў канчатковым рахунку быццём, умовамі матэрыяльнага жыцця. Таму пры падзеле літаратуры на перыяды, трэба выходзіць з быцця, з асноўных умоў гістарычнага жыцця грамадства таго ці іншага перыяду.

### III

Трэцім павінна быць пастаўлена пытанне аб асаблівасцях вывучэння старой беларускай літаратуры. Яны такія, як і ў літаратурах рускай і украінскай.

1. Перш за ўсё ў сваёй значнай частцы гэта *літаратура рукапісная*, што з'яўляецца немалаважным фактам пры гісторыка-літаратурным аналізе. Незначная распаўсюджанасць яе, паколькі для перапіскі патрабавалася вялікая затрата часу і працы. Слабая эвалюцыя літаратурных форм і прыёмаў з-за ўказаных вышэй акалічнасцей. Страта многіх помнікаў, паколькі пры невялікай колькасці наличных экземпляраў, яны лёгка губляліся, калі непасрэдная цікавасць да адлюстраваных падзей у іх знікла. З пытаннем аб рукапісным характары старой літаратуры трэба ўпамянуць аб рэдакцыі помніка. Рэдакцыяй трэба называць літаратурную пераапрацоўку помніка з пэўнай мэтай, якая выклікалася тымі ці іншымі прычынамі. Тут-жа упамянем і аб «ізводах». Пад «ізводам», помніка трэба разумець тую рэдакцыю беларускага рукапісу, які быў пісаны з замежнага арыгінала.

2. Датыраванне твораў. Вызначэнне даты, храналагічнае прыўрочванне помнікаў, справа досыць складаная ў старой літаратуры. Гісторыкі літаратуры выпрацавалі для гэтай мэты многа прыёмаў: а) вызначэнне матэрыялаў, па якім напісан твор, можа даць штуршок да ўстанаўлення часу напісання, б) шрыфт—статут (XI—XIV ст. ст.), поўстатут (XIV—XVI ст.), скарапіс (XV—XVI ст.); в) вадзяныя знакі, якія паказваюць на час вырабу паперы; г) наяўнасць і характар мініятур, заставак, загаловачных літар (XI—XII ст.), геаметрычны арнамент XIII—XIV ст.—тэраналагічны арнамент, XV зноў геаметрычны, але інакшага тыпу, XVI—XVIII кветкавы ці траўны: д) запісы ў канцы рукапісу; е) аналіз зместу і ўстанаўленне таго, што ў ім адлюстравана.

3. Пытанне аб аўтару. У большасці сваіх помнікаў старая літаратура ананімная. Вызначэнне аўтара справа вельмі цяжкая. Тут мы ідзем па лініі вызначэння не асобы, а соцыяльнай пазіцыі аўтара, якая заўсёды можа быць раскрыта пры аналізе тэксту, ідэйнай сутнасці і эстэтычных асаблівасцей помніка.

4. Прынцыпы адбора матэрыялу. Прынцып адбора матэрыялу і вызначэнне аб'екта вывучэння—справа вельмі складаная. Умовімся прыводзіць тыя творы, якія маюць мастацкае значэнне, прымаючы пад увагу, што сама мастацкасць павінна быць зразумета гістарычна. Трэба імкнуцца да размяжоўвання помнікаў літаратуры ад помнікаў пісьменнасці наогул, ад помнікаў культуры.

5. Уплывы, запазычанні, пераробка, пера-працоўка літаратурных помнікаў. Ва ўмовах развіцця старой беларускай літаратуры гэта вельмі складанае і важнае пытанне. Гаворачы аб запазычанасцях, уплывах, пераробках і перапрацоўках помнікаў, узятых з розных бакоў, мы не павінны забываць аб народзе, аб тым, што калі што і бралася і перараблялася, то выходзячы з нейкіх патрабаванняў. У аснове ляжыць развіццё народа, яго самастойнае жыццё, а ўжо яго патрабаваннямі тлумачыцца запазычанне, пераробка помніка і яго прыстасаванне да сваіх запатрабаванняў.

6. Ступень захавання і наяўны фонд старой беларускай літаратуры. Да нас дайшло шмат помнікаў беларускай літаратуры, але яны вельмі раскіданы і нават невядома,

дзе знаходзяцца. Імперыялістычная вайна 1914—18 г.г. развеяла культурныя каштоўнасці Беларусі, паколькі яна разыгралася на яе тэрыторыі. Многае, відаць, з таго, што было вядома такім даследчыкам, як акадэмік Карскі, страчана ці недаступна ў гэты момант нашаму даследванню. Гэтым вызначаецца цяжкасць адказу на пастаўленае пытанне. Найбольш поўнае ўяўленне аб наяўным фондзе беларускай літаратуры і яго места знаходжання дае Е. Ф. Карскі ў сваім творы «Белоруссы» (уступ да вывучэння мовы і народнай славеснасці) Вільна, 1904 г. а таксама ў томе, які складаецца з трох выданняў: 1) Народная паэзія, М. 1916, 2) Старая заходне-руская пісьменнасць. П. 1921 і выд. 3 Мастацкая літаратура на роднай мове. П. 1922.

## IV.

У сувязі з пытаннем аб наяўным фондзе і ступені захавання стаіць пытанне аб *гісторыяграфіі беларускай літаратуры.* Звесткі аб асобных творах беларускай літаратуры і ў асаблівасці беларускай мовы сустракаюцца досыць рана ў рускай і украінскай літаратуры. Гісторыка-літаратурных работ на беларскай мове няма ці амаль зусім няма, калі не лічыць невялікіх артыкулаў, маючых хутчэй інфармацыйны, чымся даследчы характар. З работ старых даследчыкаў адзначым творы А. Н. Пыпіна «Нарыс літаратурнай гісторыі старадаўніх аповесцей і казак рускіх», дзе ўпамінаюцца асобныя творы Беларусі. Затым «Гісторыя рускай этнаграфіі» т. IV, якая складаецца з наступных раздзелаў: I) гістарычныя заўвагі, II) Беларусь у эпоху далучэння. Працы польскіх вучоных. III) Песенныя зборнікі Чачота, Зенкевіча; кніга гр. Еўстафія Тышкевіча—Спробы беларускай літаратуры. IV) Рускія работы па беларускай этнаграфіі. V) У шасцідзесятых годах. VI) Новыя этнаграфічныя пошукі. VII) Навейшы час. Праз 12 год пасля работы акадэміка А. Пыпіна вышла рабіта праф. Карскага «Беларуссы», т. I, якая ўключае ў сябе наступныя раздзелы: I) Тэрыторыя, занятая беларускім племенем. Граніцы і агульны характар краіны; II) Старажытнейшыя жыхары беларускай тэрыторыі ў дагістарычныя часы і пры пачатку рускай дзяржавы; III) Мова рускіх плямён, якія насялялі беларускую тэрыторыю ў старажытнайшы час. Зараджэнне беларускіх асаблівасцей. Старэйшыя слоўнікавыя запазычанні—у фінаў і іранцаў; IV) Аб'еднанне усіх беларускіх плямёнаў пад уладаю Літвы і канчатковая выпрацоўка «беларускай народнасці» і «беларускай мовы». Запазычанні з літоўскай і латышскай моў; V) Беларусы разам з літоўцамі пад уладай Польшчы. Наплыў розных замежных слоў у беларускі говар; VI) Далучэнне Беларусі да агульнарускага жыцця. Колькасць беларусаў у сучасны момант і іх народныя говары; VII) Нарыс вывучэння жывой беларускай мовы і народнай паэзіі. VIII) Нарыс паступовага азнаямлення вучоных з помнікамі старой заходне-рускай мовы. Вывучэнне самой мовы; IX) Не народныя творы на сучаснай беларускай мове.

Яшчэ праз семнаццаць год вышаў III том работы Карскага, выданне II, Старая заходне-руская пісьменнасць. Яна ўяўляе агляд

перакладной літаратуры (кнігі св. пісання, зборнікі навучанняў, жыцій, апокрыфаў, забабонных і гадальных кніг, духоўных і свецкіх аповесцей, кніг гістарычнага зместу) і самастойных твораў (летапісаў, гістарычных твораў, помнікаў юрыдычнага характару, твораў рэлігійна-багаслоўнага характару, палемічнай, рэлігійнай літаратуры і г. д.) на беларускай мове.

Работы Карскага, не гледзячы на некаторыя недахопы, да гэтага часу застаюцца асноўнымі работамі па гісторыі беларускай літаратуры і фальклора. Акрамя таго з старых работ назавем: твор А. Н. Весялоўскага «З гісторыі рамана і аповесці» (выданне II, СПБ, 1888 год), дзе дадзены разбор беларускіх аповесцей аб Трыстане, Бове, Аціле з Пазнанскага зборніка XVI стагоддзя; творы П. В. Владзімірава «Агляд паўднёва-рускіх і заходне-рускіх помнікаў пісьменнасці» ад XI да XVII стагоддзяў і «Доктар Францыск Скарына, яго пераклады, друкаваныя выданні і мова» (СПБ, 1888г.). Твор А. С. Архангельскага «Нарысы з гісторыі заходне-рускай літаратуры XVI-XVII стагоддзяў» (у «Чытаннях» Маск. Агульнай гісторыі і старажытнасці, 1888 г.).

Мы маглі-б назваць шматлікія выданні на беларускай, рускай і украінскай мовах помнікаў беларускай славеснасці і асобныя работы і артыкулы, прысвечаныя ім, але мы яшчэ не маем работ па гісторыі беларускай літаратуры, колькі небудзь здавальняюча асвятляючых яе з марксісцка-ленінска-сталінскага пункту гледжання. Стварэнне такой гісторыі літаратуры—наша чарговая задача.

## V

Асаблівае месца павінна займаць пытанне аб узаемаадносінах фальклора і старой беларускай літаратуры. Мы не маем магчымасці асвятляць гэта пытанне зараз, падкрэслім толькі наш погляд на гэты прадмет. Па нашай думцы гісторыка-літаратурны працэс адзіны, але ідзе двума напрамкамі: вуснай і пісьмовай творчасці. Не трэба сумнявацца ў тым, што фальклор са старажытнейшых часоў аж да нашых дзён спадарожнічае гісторыі народа і гісторыі літаратуры.

На гэта вельмі добра ўказаў А. М. Горкі «Сапраўдную гісторыю працоўнага народа нельга ведаць, не ведаючы вуснай народнай творчасці, якая бесперапынна і выразна ўплывала на стварэнне такіх буйнейшых твораў кніжнай літаратуры, як напрыклад «Фауст», «Прыгоды барона Мюнхгаузена», «Гарганцюа і Пантагруэль», «Тыль Уленшпігель» дэ Костэра, «Вызвалены Прамэтэй» Шэллі і шмат іншых. Ад глыбокай старажытнасці фальклор неадступна і своеасабліва спадарожнічае гісторыі. У яго свая думка аб дзейнасці Людовіка XI, Івана Грознага, і гэтая думка рэдка адрозніваецца ад ацэнак гісторыі, напісанай спецыялістамі, якія не вельмі цікавіліся пытаннем аб тым, што іменна ўнесла ў жыццё працоўнага народа барацьба манархаў з феадаламі» (А. М. Горкі. «Аб літаратуры» М. 1934).

Калі гэта верна, а гэта бясспрэчна верна, дык перад намі, задача даць гісторыю фальклора, паралельную гісторыі пісьмовай літаратуры. Гэта—цяжка, а некаторыя спецыялісты па фальклору

сцвярджаюць, што ў гэты час і зусім немагчыма (гл. твор праф. Ю. Н. Сокалава «Рускі фальклор», М. 1938, стар. 17 і далей). Затое праблема сувязі і ўзаемнага ўплыву вуснай паэзіі на літаратуру і мастацкай літаратуры на вусную паэзію не выклікала ніякіх сумненняў і прызнаецца ўсімі безумоўна. Гэтым вызначаецца і месца фалькларыстыкі ў гісторыі літаратуры, першая неад'емная частка другой.

Стварыць поўны курс гісторыі беларускай літаратуры, значыць стварыць курс гісторыі пісьмовай і вуснай творчасці ў іх непарыўнай сувязі з бесперапынным узаемадзеяннем, г. зн. раскрыць як у мастацкіх вобразах адлюстроўвалася жыццё ўсяго народа, а не толькі нязначных пластоў грамадства. Стварыць гэта без фальклора нельга, бо «найбольш глыбокія і яркія мастацкі дасканалыя тыпы герояў створаны фальклорам, вуснай творчасцю працоўнага народа» (А. Горкі). Іменна ў фальклоры найбольш ярка праяўляюцца нацыянальныя народныя асновы літаратуры, раскрываецца багатая народная беларуская мова. Ясна, што фальклор складае неад'емную частку гісторыі беларускай літаратуры.

## VI

У апошнім пункце нашага ўступу мы закранали пытанне *канструктыўнае, пытанне кампазіцыі ці архітэктонікі.* Яно прадрашона ўсімі папярэднімі рашэннямі, але ёсць адна асаблівасць, аб якой неабходна сказаць асобна. Справа ў тым, што не ўсе перыяды старажытнай беларускай літаратуры могуць быць асветлены і выкладзены з дастатковай паўнатой і перакананнем. Нават больш таго, скажам проста, што некаторыя важныя эпохі адзначаны толькі пункцірам, ды і то не зусім яскрава. Такое, напрыклад, XVIII стагоддзе ў беларускай літаратуры. А між іншым усе дадзеныя гавораць аб тым, што ў гэты перыяд Беларусь мела багатую літаратуру і што гэта літаратура развівалася на тых-жа літаратурных напрамках, як і родныя літаратуры—руская і украінская. Не будзе пераўвялічэннем, калі мы будзем гаварыць аб класіцызме, сантыменталізме, рэалізме ў беларускай літаратуры XVIII стагоддзя. Аднак, усё гэта ад нас захавана, пакуль не распрацаваны архіўныя матэрыялы. Нельга думаць, што Беларусь, якая адыгрывала вялікую ролю ў культурных зносінах Масквы і Захада, сама не мела сваёй літаратуры. Яшчэ А. М. Пыпін указваў на грамаднае значэнне, якое мелі паўднёвыя і заходнія школы і літаратуры для далучэння рускага народа да сусветнай культуры. З гэтых паўднёва-заходніх школ выходзілі барацьбіты за рускую народнасць у казацкіх паўстаннях... «Важнасць паўднёва-заходняй школы для ўсяго ходу агульнарускай асветы цяпер ацэньваецца дастаткова, але, без сумнення, ацэніцца яшчэ вышэй, калі бліжэй будзе *распрацавана гэта складаная і цікавая эпоха.* Вядома, што руская паўднёва-заходняя школа атрымала ўрэшце вялікі ўплыў у самай Маскве, не гледзячы на ўсю падазронасць маскоўскіх кіруючых людзей да ўсяго, што насіла якое-небудзь заходняе сапраўднае ці мнімае лацінскае адценне,— і ўпаследку гэты ўплыў адлюстраваўся віднаю паласою ў ходзе

нашай адукацыі ў XVIII стагоддзі, наша духоўная школа захавала амаль да нашых дзён сляды сваёй старой паўднёва-заходняй рускай крыніцы ў лацінскім духу. У канцы XVII стагоддзя напярэдадні Пятроўскай рэформы, у жыцці маскоўскай Расіі несумненна рыхтавалася і часткова адбывалася свайго роду пераўтварэнне пад уплывамі гэтай паўднёва-заходняй школы, пераўтварэнне зацёртае і заслоненае затым больш шырокай і радыкальнай рэформай Пятра, але даўшае і самому Пятру падрыхтоўку і многіх выканаўцаў яго планаў». (*А. Н. Пыпін*. Гісторыя рускай этнаграфіі, т. IV, стар. 11).

Гэты рух, па думцы А. Н. Пыпіна, узнік зусім незалежна ад Расіі Маскоўскай. Тут была свая барацьба, царкоўныя хваляванні, палітычныя сутычкі з Польшчай, унія, іезуіцкая рэакцыя і праследванні, казацкія, сялянскія і гарадскія паўстанні, свае паданні, свая культура, свая мова. Тут былі такія выдатныя дзеячы, як доктар Францыск Скарына, як Острожскія, тут друкаваў свае кнігі Іван Фёдараў, які ўцёк з Масквы, тут вёў сваю палеміку ў абарону праваслаўя А. Курбскі, тут развілася друкаваная справа раней, чымся ў Маскве.

Усё гэта паказвае на значны культурны ўзровень Беларусі, на ўзровень, які не мог знікнуць адразу і без следу. Праўда, асаблівасці палітычнага становішча Беларусі, прыгнёту і праследванняў з боку Польшчы, апалячванне і акаталічванне беларускай інтэлігенцыі і ўход яе ў стан ворагаў народа, нанеслі непапраўную шкоду справе народнай культуры і народнай літаратуры. Затое, сапраўдны носьбіт і творца культуры беларускі народ, выратаваў сваю мову, свае сілы, сваю літаратуру для далейшага развіцця.

Усё гэта мы не павінны забываць. І калі будуць вывучаны ўсе архіўныя матэрыялы і перад намі адкрыецца сапраўдная гісторыя беларускага народа, тады і наш пункцір замяніцца чоткім і ясным малюнкам гісторыі беларускай літаратуры. Многае, нават з таго, што вядома, але па назве, не вывучана і не даследвана. Таму мы даем толькі папярэдні нарыс, бо пры сучасным становішчы вывучэння старых помнікаў гісторыя старажытнай беларускай літаратуры не можа быць выкладзена з дастатковай паўнатой і перакананальнасцю.

## ЛІТАРАТУРА XI, XII, ПАЛОВА XIII СТАГОДДЗЯЎ

*(Перыяд Кіеўскай дзяржавы)*

### Асноўныя лініі грамадска-палітычнага развіцця

Руская, украінская і беларуская літаратуры маюць адну агульную аснову—стараруску культуру—культуру Кіеўскай Русі. Кіеўская дзяржава ў IX—XI стагоддзях прадстаўляла магутную дзяржаву, аб якой К. Маркс пісаў: «Старынныя карты Расіі, будучы раскрыты перад намі, выяўляюць, што гэта краіна калісьці ўладала ў Еўропе нават большымі памерамі, чымся тыя, якімі яна можа пахваліцца цяпер. Яе бесперапыннае ўзрастанне з IX па XI стагоддзе азначаюць

з трывогай. Нам указваюць на Олега, кінуўшага супроць Візантыі 88000 чалавек і прадыктаваўшага, ўмацаваўшы свой шчыт у якасці трафея на варотах гэтай сталіцы, ганебныя для годнасці Усходняй Рымскай імперыі ўмовы міра. Нам ўказваюць таксама на Ігара, зрабіўшага Візантыю сваёй данніцай, і на Святаслава, які пахваліўся: «грэкі дастаўляюць мне золата, каштоўную тканіну, фрукты і віны; Венгрыя снабжае жывёлай і коньмі, з Расіі я атрымоўваю мёд, воск, футры і людзей», і, нарэшце на Владзіміра, заваяваўшага Крым і Лівонію і прымусіўшага грэчаскага імператара аддаць яму дачку, падобна таму, як гэта зрабіў Напалеон з германскім імператарам. Апошні пры гэтым спалучаў тэакратычны дэспатызм парфірародных з вайсковым шчасцем паўночнага заваёўніка і стаў аднасова царом сваім падданым на зямлі і іх апякуном і заступнікам на небе».

К. Marx Seeret Diplomatie History of tne Eighteentn. Century London, 1899 г., Стар. 75).

Гэта характарыстыка К. Маркса дае нам усе падставы для вывада аб тым, што к X стагоддзю Кіеўская дзяржава ўжо існавала, а на рубяжы X—XI ст. яна дасягнула свайго росквіту. «Да двара кіеўскага князя імкнуцца еўрапейскія цары. Кіеўскі князь у XI стагоддзі быў звязаны сваяцкімі сувязямі шляхам шлюбаў з усімі буйнымі еўрапейскімі каралеўскімі дварамі, і невыпадкова, славуты прапаведнік старэйшы сучаснік Яраслава, мітрапаліт Іларыён, у сваім «Слове» падкрэсліў, успамінаючы князёў Ігара, Святаслава і Владзіміра, што яны «не ў дрэннай краіне і не ў невядомай зямлі былі ўладарамі, але ў рускай, якая вядома і чутна ва ўсіх канцах зямлі». (*В. Грэкаў* «Аўтар «Слова аб палку Ігаравым» і яго час». «Историк-марксист» 1938 г., № 4, стар. 15).

Гэта верна. Аднак, «вядомая і чутная ва ўсіх канцах зямлі» дзяржава не была моцна спаяна знутры. Асобныя часткі, прыцягнутыя ў цэлае вайсковай сілай, жылі самастойным жыццём і тым самым накаплялі сілы распаду. Барацьба князеў—прыхільнікаў аб'еднання ўсёй рускай зямлі супроць прыхільнікаў самастойнага існавання княстваў зацягнулася на многія годы. Апошнім князём, пры якім руская зямля была аб'яднана, быў Владзімір Всеваладавіч Манамах (1113-1125). Яшчэ да яго і ў асаблівасці пасля яго Кіеўская дзяржава распадаецца на рад самастойных поўдзяржаў.

У XI—XII стагоддзях мы маем трынаццаць княстваў: Кіеўскае, Чарнігаўскае, Ноўгарод-Северскае, Пераяслаўскае, Галіцкае, Валынскае, Турава-Пінскае, Ноўгарадскае, Цьму-Тараканскае, Полацкае, Смаленскае, Мурата-Разанскае, Владзіміра-Суздальскае. Адзінства не было, таму што сцягі рускіх князёў глядзяць у розныя бакі. У канцы XII стагоддзя Кіеўская дзяржава канчаткова распадаецца на рад самастойных поўдзяржаў, якія дзякуючы сваёй варожасці і раздробленасці, не былі ў сілах вытрымаць націску манголаў, калі тыя з'явіліся ў пачатку XIII стагоддзя. Амаль усе рускія княствы былі разгромлены татарамі і ў той ці іншай ступені пастаўлены ў залежнасць ад татар.

Але ідэя адзінства не ўмірала, сапраўдным носьбітам яе быў бяссмертны народ. Навокал Масквы і пачалі збірацца сілы рускага

народа, каб пасля раду доўгіх год не толькі разграміць татарскую арду, але і польска-літоўскіх паноў і сабраць усе рускія землі ў адзіную магутную дзяржаву. Гэта была задача, вырашэнне якой праходзіла ў наступны перыяд.

З гэтага кароткага агляду ясна, што беларускі народ, Беларусь з'яўлялася арганічнай часткай Кіеўскай дзяржавы. Калі зрабіць параўнанне карт XI—XII стагоддзяў з сучаснымі, дык убачым, што ў склад Беларусі ўвайшлі княствы: Полацкае, Турава-Пінскае, частка Смаленскага.

Калі прыняць пад увагу, што славянскія плямёны не супадаюць з тэрытарыяльным дзяленнем княстваў, дык трэба сказаць, што ў склад Беларусі ўвайшлі наступныя плямёны: дрыгавічы і вяцічы, уваходзіўшыя ў склад Турава-Пінскага; крывічы і дрыгавічы, уваходзіўшыя ў склад Полацкага; крывічы і вяцічы, уваходзіўшыя ў склад Смаленскага княства; г. зн. беларуская народнасць склалася з трох славянскіх плямёнаў: дрыгавічоў, крывічоў і вяцічаў.

Разглядаючы гэтыя плямёны і княствы ў перыяд XI, XII, XIII ст. ст., мы не можам правесці ніякага адрознення іх ад другіх рускіх княстваў, уваходзіўшых у склад магутнай кіеўскай дзяржавы. Зразумела, што беларускі народ рос і развіваўся на адзінай агульнай для рускага і украінскага народаў аснове, на аснове стараруекай культуры перыяду кіеўскай дзяржавы.

Вось чаму першы перыяд беларускай літаратуры з'яўляецца такім-жа, як і для рускай і украінскай. Да разгляду помнікаў гэтага перыяду мы і пяройдзем.

## Характар культурнага развіцця

Вырасшая ў аграмадную дзяржаву ў IX—XI ст. ст. Русь, якая з даўніх часоў знаходзілася ў палітычных і гандлёвых зносінах з Візантыяй, Балгарыяй і іншымі краінамі, уяўляла для іх вялікі інтэрас. Асабліва была зацікаўлена Візантыя, каб паставіць такога моцнага князя ў рэлігійную, а затым і палітычную залежнасць ад сябе.

Яшчэ задоўга да хрышчэння хрысціянства было вядома на Русі. Частка дружын Ігара складалася з хрысціян, кн. Ольга прымае хрышчэнне ў 954 годзе, але хрысціянства не з'яўляецца афіцыяльнай рэлігіяй. І вось у 988 ці 89 годзе Уладзімір Святаславіч і яго дружына прынялі хрысціянства і тым самым завяршылі працэс, які пачаўся год за сто да іх. Гэты факт хрышчэння Русі трэба разглядаць як прагрэсіўнае з'явішча па наступных прычынах: 1) адбылося больш цеснае зблізкэнне Русі з краінамі больш высокай культуры, 2) адбылося перанясенне на Русь граматнасці, кніжнага вучэння і г. д. 3) пры царквах і манастырах пачалі ўзнікаць першыя школы, 4) манастыры і цэрквы сталі першымі кнігахавальнікамі, што было вельмі важна, 5) манастыры арганізавалі перапіску кніг, што з'яўлялася адзіным сродкам распаўсюджваць кніжнасць пры адсутнасці кнігадрукавання, 6) цэрквы і манастыры з'явіліся першымі ачагамі, даўшымі вучоных, кніжнікаў, пісьменнікаў, прапаведнікаў.

Побач з гэтымі станоўчымі момантамі адзначым і адмоўны—

гэта барацьбу царквы з народным мастацтвам і заўсёднае імкненне замяніць усе народныя вераванні і паняцці хрысціянска-рэлігійнымі, бо многія догматы хрысціянства былі чужымі славянам. З прычыны гэтага адбылося змяшэнне паняццяў, тое, што можа быць названа двоевер'ем.

Ĭ так з паяўленнем хрысціянства на Русі з'яўляецца пісьменнасць і царкоўна-рэлігійная літаратура. Ці была ў рускіх пісьменнасць да хрышчэння? На гэта пытанне адказаць катэгарычна немагчыма, але рад фактаў прымушаюць думаць, што пісьменнасць была. Так, дагаворы Олега з грэкамі ў 907 і 911 годах, Ігара ў 945 годзе і Святаслава ў 971 годзе былі дзяржаўнымі актамі, замацаванымі не толькі на грэчаскай мове. Даследчыкі прышлі да вываду, што запісы ў летапісах аб хрышчэнні Ольгі маюць нейкую больш раннюю крыніцу пісьменнасці, якая адносіцца да часоў яе хрышчэння (954) і смерці (969). Такім чынам можна дапусціць, што пісьменнасць на Русі ўжо была ў X стагоддзі. Ад XĬ стагоддзя нам засталося 30 кніг, ад XĬĬ—65 кніг.

Не забудзем, што побач з узнікаючымі помнікамі пісьменнасці існавала вусная народная творчасць, якая мела ўжо большую гісторыю і традыцыю. З ёй уступіла ў барацьбу хрысціянства. Звычайна разгляд літаратуры і пачынаецца з перакладных помнікаў царкоўна-рэлігійнай літаратуры.

Калі дапусціць, што кнігі свяшчэннага пісання, творы апокрыфічныя, агіяграфічныя, павучанні, пасланні пачалі з'яўляцца ў нас разам з распаўсюджваннем хрысціянства, то першыя помнікі трэба аднесці на самы канец X і першую трэць XĬ стагоддзя. А ў XĬ стагоддзі мы маем старажытнейшы помнік нашай літаратуры— летапіс. З яго і трэба пачынаць.

## Летапіс

Ці з'яўляецца летапіс літаратурным помнікам? Спрэчак на гэту тэму было шмат, а нарэшце трэба згадзіцца з наступным меркаваннем акад. А. С. Орлова «Летапіс—гэта збор такой кольчасці твораў гістарычнай белетрыстыкі, якой не сустракаем ні ў якім другім зборніку. Скажам больш таго—летапіс з'яўляецца ў пераважнасці помнікам літаратурным... Для летапісца не столькі важна было запісаць самую падзею, колькі апісаць тэтую падзею. Летапісец нават спрабаваў выдумляць абы толькі паказаць гісторыю ў літаратурна-мастацкай форме і для нас гэтыя літаратурныя моманты, якіх так многа ў летапісу, надзвычайна каштоўны.

Тут ёсць і візантыйскія і скандынаўскія легенды, і рускія, ёсць гістарычныя аповесці, ёсць аповесці бытавыя, адным словам, нават не магу сказаць, каб гэта быў адзін жанр. Летапіс—зборнік узораў не аднаго жанра, хоць пераважны жанр летапісу—гістарычная белетрыстыка». (А. С. Орлоў. Гісторыя старажытнай рускай літаратуры XĬ—XVĬ ст. ст., стар. 105).

Да гэтага меркавання акад. Орлова трэба дадаць, што яна асабліва характэрна для пачатковага рускага летапісу, які і з'яўляецца многажанравым помнікам, які заключае ў сваім сінкрэтычным

адзінстве ўсе далейшыя жанры літаратуры. Праўда, падобнае меркаванне можа выклікаць дапушчэнне аб тым, ці не з'яўляецца летапіс вынікам ужо існуючых жанравых тварэнняў, але такое меркаванне будзе не абгрунтаваным, паколькі аўтару летапісу і яго сучаснікам выпала на долю не толькі асваенне перакладнага матэрыялу ў першым пакаленні, але, і галоўным чынам, напісанне арыгінальных твораў. Можна думаць, што летапісец старажытнейшага кіеўскага збору быў чалавекам, які асабіста перажыў эпоху хрышчэння Русі, эпоху далучэння да усходняй візантыйскай культуры.

Падобнае заключэнне каштоўнае для нас у тых адносінах, што дае права летапіс, як арыгінальны твор, лічыць помнікам адначасовым з перакладной літаратурай і пачаць аналіз літаратуры іменна з яго.

Кароткая гісторыя пачатковага летапісу можа быць выкладзена так: 1) у 1039 годзе Яраслаў Мудры закончыў пабудову кіеўскай царквы св. Софіі, перавёў мітраполію з Пераяслаўля ў Кіеў, забудаваў самы горад. У гэты час, як відаць, па загаду мітрапаліта Феопемптома і быў па грэчаскаму звычаю складзены летапіс,— старажытнейшы кіеўскі збор законаў. Збор законаў канчаўся 1039 годам, пахвалай кн. Яраславу.

2. Старажытнейшы кіеўскі збор законаў лёг у аснову першага Кіева-пячэрскага збору законаў. Па-першае, ён быў дапоўнены новымі апавяданнямі, па-другое прадоўжаны і даведзены да 1073 года рэдактарам манахам Кіева-пячэрскага манастыра Ніканам Вялікім.

3. Першы Кіевапячэрскі збор законаў лёг у аснову пачатковага збора законаў, або другога Кіевапячэрскага збора, даведзенага да 1095 года. Гэты збор меў агульна-рускі характар, таму што акрамя першага Кіевапячэрскага збора сюды ўвайшлі: «старажытны ноўгарадскі збор законаў», «чарнігаўскі летапіс», летапісанне другіх манастыроў і гарадоў і іншыя вусныя і пісьмовыя крыніцы. Рэдактарам гэтага збора законаў называюць ігумена Іоанна.

4. Пачатковы збор лёг у аснову новай перапрацоўкі летапісу, зроблены па даручэнню Святаполка Ізяславіча, манахам кіеўскапячэрскага манастыра Нестарам. Гэта і ёсць першая (асноўная) рэдакцыя «Повести временных лет». Увабраўшы ў сябе ўвесь папярэдні вопыт летапісання і ўскладніўшыся многімі рускімі замежнымі крыніцамі, «Повесть» даходзіць да 1113 года.

5. Пераемнік Святаполка Уладзімір Манамах даручае ігумену Міхайлава-Выдубіцкага манастыра Сільвестру перагледзець «Повесть временных лет», само сабою зразумела ў інтарэсах князя Уладзіміра. Так узнікла другая (Сільвестраўская) рэдакцыя «Повести», якая даводзіць выкладанне падзей да 1116 года.

6. Другая (Сільвестраўская) рэдакцыя «Повести» лягла ў аснову трэцяй рэдакцыі, даведзенай да 1117 года і зробленай у Кіевапячэрскім манастыры, прыхільнікам дома манамахавічаў. Гэта трэцяя (кіева-пячэрская) рэдакцыя «Повести временных лет».

Калі сюды дададзім летапісы мясцовыя, то атрымаем уяўленне аб шырыні і значэнні летапіснай справы ў летапіснай Русі.

Апрача чыста мастацкага значэння асобных частак і апавяданняў летапісу, якія бясспрэчна з'яўляецца прадметам гісторыі літара-

туры, ён з'яўляецца незамянімым матэрыялам ва многіх адносінах. Па летапісу можна меркаваць аб становішчы літаратурнай справы і ролі аўтара ў старажытна-рускім жыцці, аб палітычнай ролі летапісцаў, як літаратараў, аб характары і рознастайнасці літаратурных жанраў, аб выяўленчых і мастацкіх сродках, якія мела старая літаратура. Для вывучэння мовы летапіс з'яўляецца незамянімай крыніцай.

Якая-ж асноўная ідэя летапісу? Яна паказана ў самым першым сказе: «Се повести временных лет, откуда есть пошла русская земля, кто в Киеве нача первее княжити и откуда русская земля стала есть». Гэта *ідэя дзяржаўнасці, ідэя ўзнікнення, умацавання і існавання кіеўскай дзяржавы.*

Вось чаму летапісец уважліва сочыць за узнікненнем, ростам і развіццём рускай дзяржавы, за яе пашырэннем. Ідэя гэта значная і каштоўная, яна цесна звязвае летапіс з творамі фальклора наступнымі творамі рускай літаратуры («Слова аб палку Ігаравым», «Задоншчына», «Жыціе Ал. Неўскага» і г. д.) і з нашым часам. Застановімся зараз на некаторых апавяданнях летапісу. Перш за ўсё адзначаем, што асновай для летапісу з'явіліся: 1) пісьмовыя творы рускія і іншаземныя, 2) вусныя сказанні, 3) асабістыя гістарычныя ўспаміны і меркаванні. Такім чынам яскрава вызначаецца сувязь з фальклорам і папярэдняй пісьмовай традыцыяй. Не кранаючыся летапісных аповесцей, якія будуць прадметам далейшага аналізу, прывядзем некалькі апавяданняў—навел з летапісу.

Да ліку такіх навел адносіцца апавяданне аб Олегу, яго мудрасці, храбрасці, хітрасці, сіле. Вось апавяданне, як Олег хітрасцю ўзяў Кіеў у Аскольда і Дзіра, вось апавяданне аб смерці Олега ад любімага каня, якое з'яўляецца перапрацоўкай быліны пра багатыра Орвар-Одд і выкарыстанае пасля А. С. Пушкіным у яго баладзе «Песнь о вещем Олеге». Выдатна апавяданне аб узяцці Царграда. Олег з двума тысячамі караблёў падступіў да Царграда. Грэкі закрылі гавань і замкнуліся ў горадзе. Олег загадаў выцягнуць караблі на бераг і паставіць на калёсы. Калі ўзняўся спадарожны вецер і надзьмуў ветразі, караблі пакаціліся да сцен горада. Грэкі спалохаліся і пачалі прасіць, каб Олег не знішчаў горада, а ўзяў даніну, якую хоча. Олег спыніў воінаў, а грэкі вынеслі яму даніну—харчы, але Олег загадаў не прымаць іх, бо запасы былі атручаны. Грэкі былі пераможаны і заплацілі Олегу вялікую даніну. «И повести щит свой в вратах, показав победу и пойде от Цесараграда». Олег звярнуўся дадому з багатай здабычай, ён прынёс золата, шаўковую тканіну, агародніну, віно, прадметы раскошы. «И прозваша Олега вещным, бяху бо людие погани и невегласи».

Так прадэманстраваў Олег сілу кіеўскай дзяржавы.

Вельмі цікава апавяданне аб асадзе ў 997 годзе Белграда печанегамі. Жыхарам горада, які быў у асадзе не было чаго есці і трэба было здавацца. Тады яны вырашылі абмануць сваіх ворагаў тым, што іх немагчыма вымарыць, бо іх корміць сама зямля. Для гэтай мэты ў два калодзежы яны змясцілі кадушкі з дном і ў адной размяшалі муку, у другой—мёд. Паклікаўшы прадстаўнікоў печанегаў, яны далі паспрабаваць з калодзежаў і заявілі, што «вы не думайце, што можаце вымарыць нас голадам. У нас ёсць «кормля ў зямлі»,

Печанегі павінны былі зняць асаду і пайсці, таму што немагчыма вымарыць горад, які корміць сама зямля.

Да ліку летапісных апавяданняў, якія дэманструюць сілу і магутнасць кіеўскай дзяржавы, адносяцца ўмовы Олега і Ігара з грэкамі, узяццё Владзімірам Корсуня, выпрабаванне розных рэлігійных сістэм і г. д.

Ідэю адзінства рускай зямлі асабліва падкрэсліваюць тыя месцы «Повести», дзе летапісец з яўным асуджэннем малюе карціны міжсобных войнаў, якія губілі веліч і славу зямлі рускай і адчынялі вароты паганым на зямлю рускую. Барацьба наследнікаў Владзіміра, з якіх асабліва неўжыўчывым быў Всеслаў Полацкі, потым біліся наследнікі Яраслава, потым Ізяслава і Усевалада, потым Манамах і Ольга і г. д. Сярод карцін гэтай барацьбы многа цікавых эпізодаў, перададзеных з вялікай мастацкасцю і надзвычайнай эмацыянальнасцю.

Асноўная ідэя аўтара—абарона цэласнасці і самастойнасці, ідэя адзінства зямлі рускай праходзіць праз увесь летапіс, які ўяўляе сабой адзін з старажытнейшых помнікаў нашай арыгінальнай творчасці.

Мы ніколі не памылімся, калі дапусцім, што паралельна з летапісам існавалі помнікі пісьменнасці, якія адлюстроўвалі ў розных красачных эпізодах і замалёўках, барацьбу рускіх з хазарамі, печанегамі, полаўцамі. З аднаго боку гэтыя, як відаць, страчаныя творы, далучыліся ці нават уваходзілі ў склад летапісу ў выглядзе асобных эпізодаў і карцін, часта не развітых. З'яўляючыся творам шматжанравым, летапіс аддае вялікую ўвагу вайсковаму жанру, што ўпаўне зразумела, бо гэта была асноўная задача часу.

Адсюль лёгка зразумець, што ідэя адзінства, самастойнасці і незалежнасці найбольш ярка раскрывалася ў творах падобнага роду. У такім выпадку ў дайшоўшых да нас помніках гэтага жанра трэба бачыць не выключэнне, не адзінкавае, а тыповае, характэрнае з'явішча. Да такіх выдатных помнікаў, якія прымыкаюць к летапісу, мы адносім «Слово аб палку Ігаравым». Аналізу гэтага выдатнага помніка вайсковага жанра можна прадпаслаць агляд летапісных аповесцей аб барацьбе з печанегамі і полаўцамі да Ігаравага паходу ў 1185 годзе.

Першыя весткі аб печанегах летапіс адносіць да 6476 (968), калі яны напалі на Кіеў у час адступлення Святаслава. Красачна расказвае летапісец аб асадзе Кіева, аб барацьбе і мужнасці асаджаных і аб тым, як яны накіравалі паслоў да Святаслава са словамі: «Ты, князь, чужую зямлю шукаеш і ахоўваеш, а сваю кінуў, ледзь было не забралі нас печанегі і маці тваю і дзяцей тваіх; калі не прыдзеш і не абароніш нас, то ў другі раз нас забяруць. Няўжо табе не шкада сваёй бацькаўшчыны, маці старой, і дзяцей сваіх». Выслухаў Святаслаў, хутка сеў на каня з дружынаю, прышоў да Кіева, цалаваў маці сваю і дзяцей сваіх, шкадаваў аб зробленым печанегамі. Сабраў воінаў, прагнаў печанегаў у стэп, і надышоў мір...

Ваяваў з печанегамі і вельмі ўдала сын Святаслава Владзімір. Да 6501 (993) года летапіс адносіць цікавы эпізод барацьбы рускага князя з печанегскім багатыром. На месцы перамогі

рускага князя віцязя заклаў Владзімір горад і «назваў яго Пераяслаўль, таму што «пераял славу» тот отрок». Да 6505 (997) адносіцца эпізод аб асадзе печанегамі Белгорада.

Пасля міжсобнай вайны паміж сыноў Владзіміра, адзіным князем рускай зямлі зрабіўся Яраслаў. З імем гэтага князя звязаны важнейшыя этапы ў развіцці Русі: 1) пытанне аб адзінстве рускай зямлі, 2) аб яе магутнасці і адносінах да навакольных суседзяў, 3) аб росквіце пісьменнасці і хрысціянскай культуры ў кіеўскай дзяржаве. Яраслаў ваяваў многа. Нанёс ён рашучы ўдар і печанегам. Бітва гэта дадзена ў летапісу дастаткова ярка.

Першае з'яўленне полаўцаў летапісец адносіць да 6569 (1061) года, г. зн. да часоў княства пераемнікаў Яраслава, які памёр у 1054 годзе.

У 1067 годзе полаўцы напалі на рускую зямлю і разбілі на р. Льце старшых князёў. На працягу рада год ідуць бесперапынныя сутычкі з полаўцамі, прычым апошнія часта запрашаюцца князямі, як саюзнікі ў барацьбе з іншымі князямі. Вялікае паражэнне панеслі рускія князі **ў 1093 годзе. Гэтае апавяданне ўяўляе сабой** цэлы летапіс аб барацьбе з полаўцамі. Вельмі ярка перадае летапісец паражэнне рускіх на р. Стугне, бой, пагібель Расціслава і разважанні летапісца аб няшчасцях і напасцях на зямлю Рускую. Полаўцы ўзялі горад Торчэск і захапілі жыхароў у палон. «І павялі да сваіх шатроў, да сваіх родзічаў, многа народу хрысціянскага: пакутуючыя, сумныя, катаваныя, з пацямнелымі тварамі і пачарнеўшым целам, у незнаёмай краіне, з апухшым языком, голыя і босыя, ногі параненыя цернавіком, слязамі гаварылі адзін з другім: «Я быў такога-та горада», а другі «а я такой-та вёскі». І так пыталіся адзін у другога са слязьмі, гаворачы аб сваім паходжанні, уздыхаючы, узводзячы вочы да неба, да вышэйшага ведаючага тайну».

Далей летапіс паказвае нам узаемаадносіны з полаўцамі ў 1094 годзе, расправу Владзіміра Манамаха з палавецкімі князямі. Ітларам і Катынам і рад іншых апізодаў барацьбы з полаўцамі. Надзвычайным фактам гэтага часу з'яўляецца з'езд князёў у Любічы ў 6605 (1096) годзе, дзе князі гаварылі: «Почто губим Руськую землю, сами на ся, котору деюще? а половцы землю нашю несуть розно, и ради суть, оже межо нами рати; да ноне отселе имемься в едино сердце и блюдем Руские земли; каждо да держит отчину свою», г. зн. «навошта мы губім зямлю рускую, ствараючы нязгоды паміж сабой? А полаўцы ўзбуджаюць рознь у нашай зямлі і радуюцца, калі паміж намі вайна; ад гэтага часу будзем адзінадушнымі і будзем ахоўваць зямлю рускую, няхай кожны трымае сваю бацькаўшчыну».

Так за сто год да «Слова аб палку Ігаравым» на Любечэскім з'ездзе была выказана ідэя адзінства і захавання роднай зямлі ад полаўцаў, ідэя неабходнасці братняй згоды князёў і асуджэнне князскіх разладаў, губіўшых зямлю рускую.

У 6611 (1103) г. быў з'езд у Долабеку. «Уклаў бог мысль благую у сэрца рускім князям: Святаславу і Владзіміру і з'ехаліся яны на параду ў Долабеку і сядзелі Святаполк са сваёю дружынаю і Владзімір са сваёю у адным шатры. Пачалі думаць. Пачала гаварыць дружына Святаполкава: «Не час цяпер, вясной ісці: загубім

нашых смердаў і іхнія пахаці». І сказаў Владзімір: «Дзіўна для мяне, дружына, што вы шкадуеце коней, якімі (смерд) арэ, а аб тым не думаеце, што пачне араць смерд, прыедзе палаўчанін, заб'е смерда стралой, возьме яго каня, паедзе ў яго сяло, забярэ яго жонку, яго дзяцей і ўсё яго дабро. Каня яго шкода, а не шкода яго самога?»

І не магла адказаць дружына Святаполкава. І сказаў Святаполк: «Вось, брат, я ўжо гатоў». І ўстаў Святаполк і сказаў яму Владзімір: «То-та, брат, вялікае дабро зробіш ты рускай зямлі».

Далей летапісец паказвае карціну паходу і паражэння полаўцаў ў 1103 годзе. Аднак, гэта паражэнне не спыніла полаўцаў і іх паходы прадаўжаліся ў 1107, 1110, у 1111, у 1113 і г. д. былі сутычкі з полаўцамі, якія або самі рабілі набегі, або былі прызваны рускімі князямі на дапамогу сабе, часта рабіў гэта Всевалад Ольгавіч (1128—1146). Вялікае паражэнне рускія панеслі пры Мсціславе Владзіміравічу (1125—1132). На працягу ўсяго XII стагоддзя ідзе барацьба рускіх князёў з полаўцамі, праўда, незаўсёды выкладзеная ў летапісу поўна. У 1177, 1179, 1180, 1183 і 1184 адбываецца паходы і сутычкі рускіх з полаўцамі, а ў 1185 адбыўся няшчасны паход Ігара Святаславіча. З бліжэйшых летапісных аповесцей да «Слова аб палку Ігаравым» з'яўляюцца аповесці ў 1183 і 1184 г. г. летапісная аповесць аб паходзе Ігара на полаўцаў можа быць скарочана перададзена так:

«Улета 6693 (1185). У гэты час Ігар Святаславіч, унук Олегаў, паехаў з Ноўгарада (Северскага) месяца красавіка, у 23 дзень, у аўторак, узяў з сабою брата Всеволада з Трубчэўска, Святаслава Ольгавічава, свайго пляменніка, з Рыльска, Владзіміра, сына свайго, з Пуціўля і ў Яраслава выпрасіў дапамогу Олесціна Алексеевіча, Прахорава ўнука з чарнічаўскімі каяўямі». Калі войска наблізілася к Данцу, здарылася сонечнае зацьменне. Ігар глянуў на неба і ўбачыў сонца, якое стаяла «яко месяц» і паказаў на гэта зацьменне дружыне. Тыя панікл і галовамі і сказалі: «княже, се есть не на добро знамение». Ігар усё-ж пераправіўся праз Данец у палавецкі стэп. Першая сутычка з полаўцамі адбылася ў пятніцу ля ракі Суюрлія. Рускія перамаглі і «апаланіліся». У стэпу засталіся начаваць. На світанні ў суботу полаўцы пачалі наступаць як сасновыя лясы. Біліся дзень, ноч, у нядзелю раніцой дрогнулі ковуі, Ігар панёсся да іх, хацеў спыніць, але тыя не вярнуліся. Калі Ігар набліжаўся да сваіх палкоў, яго схапілі полаўцы. Ігар, бачачы як б'ецца брат Всевалад, прасіў сабе смерці, каб не бачыць пагібелі брата. «Так у дзень васкрэсны навёў на нас бог гнеў свой і замест радасці, навёў на нас плач і замест вяселля—смутак на рацы Каяле». Рускія былі разбіты, князі ўзяты ў палон, нямногія ўцяклі, астатнія патанулі ў возеры.

Вестку аб пагібелі Ігарава палка вялікаму князю Святаславу прынёс Белавод Прасовіч. Святаслаў заплакаў і падасадаваў на тое, што нястрыманыя ад юнасці князі сваім паражэннем «адчынілі вароты на рускую зямлю». Полаўцы хлынулі на рускую зямлю. Разбурылі Пуціўль, Рылюў, Перэяслаўль.

Ігар жыў у палоне без асаблівага сціснення. Знайшоўся сярод

полаўцаў муж Лавор, які параіў уцячы з палона. Спачатку Ігар не згаджаўся, але канюшы і сын тысяцкага пачалі ўгаварваць князя. Ігар згадзіўся і загадаў Лавору падрыхтаваць коней. Да вечара полаўцы напіліся «кумыза», канюшы паведаміў князя, дзе чакае Лавор. Узняўшы заднюю сцяну палаткі, Ігар вышаў, пераправіўся ў брод праз раку і сеў на падрыхтаванага каня. Праз адзінаццаць дзён яны дасягнулі Данца, адтуль Ігар адправіўся ў свой Ноўгарод-Северск, затым у Чарнігаў і Кіеў да вялікага князя Святаслава «и рад бысть ему Святослав также и Рюрик, сват его».

Кароткі агляд летапісных аповесцей аб барацьбе рускіх з печанегамі і полаўцамі (гл. на гэту тэму работу ак. *А. С. Орлова* «Слова аб палку Ігаравым», М-Л, 1938 г., стар. 137—175) дае нам падставу гаварыць, што такі жанр вайсковай аповесці, у якім напісана «Слова аб палку Ігаравым» быў добра вядомы і шырока распрацаваны старымі кніжнікамі. Сама ідэя—адзінства зямлі рускай, асуджэнне княскіх разладаў, заклік да барацьбы за самастойнасць і незалежнасць зямлі рускай, нарэшце, вобразы, прыёмы, імёны князёў—усё гэта мы маем у летапісу, які з'яўляецца папярэднікам «Слова». Так можам мы ўстанавіць адзінства і бесперапыннасць гэтага жанра з самых ранніх этапаў нашай пісьменнасці і нават далей, з часоў вуснай творчасці, калі яна замяняла пісьменнасць.

## „Слова аб палку Ігаравым"

Выдатны помнік старой рускай культуры—«Слова аб палку Ігаравым» было знойдзена Мусіным-Пушкіным у рукапісным зборніку, набытым ім у Яраслаўлі ў 1795 годзе. У 1800 г. Мусін-Пушкін разам з Маліноўскім і Бантыш-Каменскім выдалі гэты помнік пад загалоўкам «Ироическая песнь о походе на половцев удельного князя Новгорода-Северского Игора Святославича, писаная старинным русским языком в исходе XII столетия с переложением на ныне употребляемое наречие». У 1812 годзе ў часе пажару Масквы згарэла бібліятэка Мусіна-Пушкіна, а разам з ёй загінуў арыгінал, з якога рабілася выданне 1800 года, а таксама загінула частка экземпляраў гэтага выдання. Цікавасць да «Слова» была вельмі вялікая, адразу-ж пачалося яго вывучэнне, перакладанне.

Мусіна-Пушкінскі спіс не з'яўляецца арыгіналам XII ст., а спісам XV—XVI ст. ст., пісаным напэўна ў Псκоўскай вобласці «биць Белоруссии», што выяўляецца наяўнасцю гаворкі «луці» замест «лучи», «шизый», замест «сизый» і г. д. Не маючы магчымасцей дэтальна спыніцца на пытаннях вывучэння «Слова», адзначым толькі бясспрэчныя моманты: па-першае, «Слова» напісана ў 80-х г. XII ст., напэўна паміж 1185—1187 г. г. Па-другое, аўтар яго быў высока-адукаваным, культурным чалавекам, які валодаў усёй сучаснай яму пісьменнасцю, як рускай, так і зарубежнай. Пагэтаму крыніцамі «Слова» былі: вусная народная паэзія, старынная песня, кампеляцыйныя хранографы, у якія ўваходзілі біблія, «Гісторыя» Флавія, «Александрыя» і г. д. Аўтар добра асвядомлены ў рускай гісторыі і свабодна ўладае дадзенымі княжаскіх адносін за сто год. Па-

трэцяе, ён чалавек, які ўзняўся над вузка-групавымі інтарэсамі асобных княстваў да разумення агульна-нацыянальных, агульна-народных інтарэсаў.

Сюжэтам для аўтара «Слова» з'явіўся няўдалы паход Ноўгарад-Северскага князя Ігара з братам Всеваладам (князь Курбскі с сынам Владзімірам), (кн. Пуціўльскім), пляменнікам Святаславам Олегавічам (кн. Рыльскім) вясною 1185 годзе. У летапісу, як мы бачылі вышэй, гэта падзея запісана па 6693 г.

Цэнтральнай ідэяй «Слова» з'яўляецца ідэя адзінства ўсёй зямлі рускай, ідэя аб'яднання рускіх князёў вакол Кіева для барацьбы за самастойнасць і незалежнасць. Для раскрыцця сваёй ідэі, аўтар выбраў няўдалы паход Ігара, хоць у яго распараджэнні было многа фактаў проста процілеглага характару. Адзінае тлумачэнне гэтага моманту заключаецца ў тым, што тут ён убачыў нешта тыповае, вельмі зручнае для сцвярджэння яго асноўнай мыслі. Іменна, няўдалы паход з'яўляецца красамоўнай ілюстрацыяй таго, да чаго даводзяць княскія разлады і добрым повадам заклікаць князёў да аб'еднання і барацьбы за самастойнасць і незалежнасць Русі. Цікава, што іменна гэту ідэю адзначыў і К. Маркс, чытаўшы «Слова» і пісаўшы Энгельсу: «Сэнс паэмы—заклік рускіх князёў да еднання, як раз перад нашэсцем манголаў» (Маркс і Энгельс. Збор твораў т. XII, стар. 122). Пісьмо Маркса ад 5/III-1856 г.).

Барацьба рускіх з полаўцамі мела не толькі гераічную мэту, але і некаторыя вузкія ўтылітарныя мэты. Аўтар паказвае тое, і другое, ён услаўляе героікай паход, падкрэслівае вялікае жаданне князёў пастаяць за зямлю рускую, скласці сваю галаву ў барацьбе з яе ворагамі.

Каб зрабіць яшчэ пераканальней мысль аб неабходнасці еднання, аўтар, акрамя няўдалага паходу Ігара, успамінае княскія міжусобіцы, якія губілі «здабытак ўнука Дажбога», гэта значыць народа. Ён звяртаецца з дакорам да полацкіх князёў, якія асабліва сваімі разладамі губілі зямлю. Няўдалы паход Ігара лішні довад у абарону аб'еднання, супроць сепаратызма. Гэта ён пагрузіў сілу рускую на дно Каялы, ракі палавецкай. Лёгка зрабіць вывад, што асноўная ідэя твору найбольш ярка раскрываецца ў вешчым сне Святаслава і ў яго «залатым слове».

Святаслаў заклікае ўсіх рускіх князёў устаць на абарону радзімай зямлі. Ён выступае як прадстаўнік агульнанацыянальных інтарэсаў, як правадыр усёй зямлі, як арганізатар яе перамог над ворагамі. Аб'ектыўны сэнс яго заклiку носіць народны характар, ён шырэй, чымся заклік да арганізацыі новага паходу, ён—выражэнне гістарычных тэндэнцый развіцця.

Звяртаючыся да асобных вобразаў, мы бачым, што найбольш ярка дадзены вобразы Ігара, Яраслаўны, Святаслава, Всевалада, рускіх князёў і іх дружыны. Ігар характарызуецца, як натура страсная, беззаветна адданая справе барацьбы за зямлю рускую: «хачу з вамі рускія альбо галаву скласці, альбо напіцца шлемам з Дону». Для яго лепш смерць, чымся палон. Аўтар адносіцца да Ігара дваіста. З аднаго боку ён зачараваны ім, як смелым, адважным, беззаветным воінам, як князём, абараняючым зямлю і славу рускую, а з другога,—

асуджае Ігара за сепаратызм, за тое, што сваім паходам ён нанёс няшчасце зямлі рускай.

Пяшчотна, лірычным мяккім тонам дадзен вобраз Яраслаўны. Яна ўся—парыў, уся—імкненне да свайго мілага мужа. Яна гатова лётаць ластаўкай, каб абмачыць рукаў бабровай футры ў Каяле рацы і ўцерці князю раны на яго магутным целе. Глыбока-чулліва гучыць яе зварот да ветру, да сонца і да Дняпра. У вобразе Яраслаўны патрэбна адзначыць станоўчыя рысы: глыбокую шчырую любоў, самаадданасць, жаласць, смутак, разуменне вялікіх задач свайго часу. Гэта дзіўна-пяшчотны жаночы вобраз славянкі.

Станоўчымі рысамі намаляваны Святаслаў—вялікі, грозны, кіеўскі. Ён—граза полаўцаў, ён—арганізатар перамог рускіх над ворагамі, ён прадстаўнік агульна-рускіх нацыянальных інтарэсаў, а не толькі кіеўскага княства. Ён заклікае ўсіх князёў пастаяць за раны Ігара, буйнага Святаславіча, пастаяць за зямлю рускую, ён заклікае да еднання ўсіх князёў.

У «залатым слове» Святаслава дадзена характарыстыка ўсіх рускіх князёў. Вельмі сцісла, але глыбока і красачна характарызуе іх аўтар. Вось Яраслаў з чарнігаўскімі баярамі, вось вялікі князь Всевалад, які можа вёсламі Волгу раскрапіць і шлемамі вычарпаць Дон, вось адважныя Раман і Мсціслаў, Інвар і Всевалад, вось нарэшце магутны галіцкі князь Яраслаў Осмамысл. Дзівосна характарыстыка Всевалада і яго славутых куран.

Пасля вобразаў персанажаў асаблівай увагі заслугоўвае вобраз прыроды—пейзаж. Прырода ў аўтара—жывая, актыўна дзейнічаючая сіла гісторыі. Яна сама ўдзельнічае ў падзеях, заклікае, папярэджвае, пагражае, перашкаджае і садзейнічае людзям у іх прадпрыемствах. Вось пярэдадзень бітвы-перамогі. «Доўга цягнецца змрок начны. Зара запаліла святло. Туман пакрыў стэп. Трэль салаўёў заснула. Прачнулася гамонка галак. Рускія перагарадзілі шырокія стэпы чырвонымі шчытамі, шукаючы сабе чэсці, а князю славы». Іншы характар мае карціна прыроды напярэдадні бітвы-паражэння. «На другі дзень, рана-рана крывавыя зоры святло абвяшчаюць. Ідуць з мора чорныя хмары, хочуць прыкрыць чатыры сонцы, а ў іх трапечуць сінія маланкі. Быць грому вялікаму. Ісці дажджу стрэламі з Дона вялікага...» Прырода дапамагае Ігару, калі ён бяжыць з палону. Данец «калыхаў князя» на хвалях, слаў яму зямную траву на сваіх срэбных берагах, апранаў яго цёплымі туманамі пад засенню зямнога дрэва...»

Пейзаж сочны, ахопліваючы ўсе багацці з'явішчаў прыроды ў розныя часы дня і ночы.

Кампазіцыя «Слова» простая і стройная. Услед за зачынам ідзе першая частка, якая ахоплівае зборы ў паход, паход, сустрэчу з полаўцамі і перамогу, другую сустрэчу і паражэнне, палон Ігара. Другая частка заключае сон Святаслава і яго залатое слова. Трэцяя—плач Яраслаўны і бегства Ігара з палона. Затым ідзе канцоўка. Прастата кампазіцыі і гармонія частак, цэласнасць псіхалагічнага ўражання і лірычнасць канцэпцыі—лепш за ўсё характарызуе геніяльнага мастака.

З паэтычных прыёмаў аўтара адзначым: зварот, антытэзу, лірычнае адступленне. Апошні прыём дае магчымасць ярка, красачна, эмацыянальна адкрыць свае адносіны да адлюстраваных падзей і дзейнічаючых асоб. Сваімі пачуццямі ён афарбоўвае ўсе творы ў асобны тон грамадзянскай лірыкі. Выяўленчыя і выразныя сродкі ў «Слове» дзіўна разначынныя і living різнастайныя. Аўтар бярэ з фальклора каштоўныя выражэнні, вобразы, прыёмы і формы. Ён стварае незабыўныя узоры паэзіі: «На Немізе снапы сцелюць галавамі, малоцяць булатнымі кайданамі, на таку кладуць жыццё, веюць душу ад цела» і г. д. і г. д. Мова «Слова» каваная, сціслая, жывапісная. Адзін аналіз мовы даў-бы нам уяўленне аб цэлай гістарычнай эпосе, аб яе быце, культуры, паэзіі.

Асабліва значэнне ў «Слове» набывае пытанне аб яго музыкальнасці. Аналіз твора з гэтага боку пераконвае, што аўтар так многа ператварыў гукавых уражанняў у «Слове», што цяжка падшукаць другі твор у рускай і сусветнай літаратуры, які-б мог раўняцца з ім у гэтых адносінах.

«Слова аб палку Ігаравым» належыць да тых помнікаў старой рускай літаратуры, якія захоўваюць сваю неўвядаючую свежасць на працягу стагоддзяў. Сучаснаму чытачу «Слова» падабаецца сілай вобразнага сказу, глыбінёй і шырынёй гістарычнага абагульнення, чоткасцю і выразнасцю кампазіцыі, красачнасцю і рэльефнасцю вобразаў і карцін, здзіўляючай музыкальнасцю. Усё гэта асветлена вялікай ідэяй—ідэяй адзінства зямлі рускай, якая глыбока народна па свайму аб'ектыўнаму значэнню. Вось чаму «Слова» з'яўляецца глыбока народным творам. Ён стаіць у адным раду з былінамі, разам з імі адлюстроўвае лепшыя рысы рускага народа, яго барацьбу за сваю самастойнасць і незалежнасць.

Параўнанне «Слова аб палку Ігаравым» з «Песняю аб Раландзе», «Нібелунгамі», «Віцязям у тыгравай шкуры» прыводзіць да вывадаў, што «Слова аб палку Ігаравым» з'яўляецца велізарнейшым помнікам не толькі рускай літаратуры, але і велізарнейшым помнікам сусветнай літаратуры, сусветнага мастацтва.

## Аповесці аб барацьбе з татарамі

На змену полаўцам прышлі татары. Упершыню летапіс успамінае аб іх пад 6731 г. Татары напалі на полаўцаў, тыя звярнуліся за дапамогай да рускіх князёў. На совеце ў Кіеве было вырашана падтрымаць полаўцаў. Злучаныя сілы рускіх і полаўцаў сустрэліся з татарамі на рацэ Калке ў 1224 годзе і панеслі страшэннае паражэнне, але татары не скарысталі плады сваёй перамогі, павярнулі і пайшлі ў азіяцкія стэпы.

З'яўленне татар выклікала вялікае неразуменне летапісца, растлумачыўшага сабе справу так, што бог пакараў рускіх за грахі, паслаў на іх невядомы народ. Так склалася вайсковая аповесць аб бітве на рацэ Калке. Праз трынаццаць год пад правадырствам Батыя татары з'явіліся зноў, але ўжо з-за Волгі. У два прыёмы яны разгромілі і апустошылі рускія землі. Мы павінны бачыць рад аповесцей, якія аб'ядноўваюцца агульнай назвай: «Сказанне аб Батыевым пабоішчы»,

Тут можна вылучыць наступныя моманты: 1) Захоп разанскай зямлі, 2) Паход на Суздальскую зямлю, бітва пры Калодні; знішчэнне Владзіміра, 3) Барацьба за Казельск, 4) Уваход Батыя ў зямлю палавецкую, 5) Захоп Пераяслаўля і Чарнігава, 6) Узяцце Кіева татарамі, 7) Разгром Валынскай і Галіцкай земляў, 8) Разгром Угарскай зямлі.

Дыпламатыя і хітрасць, лютасць і сіла татар, храбрасць і барацьба рускіх за самастойнасць і незалежнасць Русі праходзіць чырвонай ніццю праз аповесці аб барацьбе з татарамі. Звычайна прыводзяць «аповесць аб прыходзе Батыя на Разань у 1237 г.», дзе красачна расказваецца, як татары разграмілі Разань, рушылі далей і потым трапілі пад нечаканы напад Еўпатыя Калаўрата. З цяжкасцямі асільваюць татары Еўпатыя Калаўрата, захапляюцца храбрасцю яго і яго дружыны і выдаюць цела правадыра. Заканчваецца аповесць зваротам сына забітага разанскага князя і аднаўленнем горада.

Да ліку вайсковых аповесцей трэба аднесці і надзвычай добры ўрывак—«Слова аб пагібелі зямлі рускай». Можна дапусціць, што гэта быў твор, у якім аўтар прыёмам кантраста хацеў паказаць пагібель ад татар зямлі рускай. Пачынаецца «Слова» так: «О святло светлае і прыгожа ўбраная зямля руская! Многімі прыгажосцямі ты выклікаеш здзіўленне»... і г. д. Аўтар ухваляе прыгажосць зямлі рускай, гаворыць аб яе велічы, аб яе сіле і пануючым становішчы сярод народаў. Ї таму адразу пераходзіць: «А ў тыя дні (здарылася) хвароба хрысціянам ад вялікага князя Яраслава і да Владзіміра і да сучаснага Яраслава і да брата яго Юрыя, князя Владзімірскага»...

Можна дапусціць, што «Слова аб пагібелі зямлі рускай» з'яўляецца адбіткам татара-мангольскага разгрому рускіх земляў, вялікіх і слаўных перад гэтым. Яно можа быць прыурочана да моманта ўстанаўлення татара-мангольскага ярма, пад якое трапілі ўсе землі рускія, за выключэннем Беларусі, якая далучылася да Літвы (гл. *К. Маркс* і *Ф. Энгельс*. Зб. тв., том XVI, стар. 10).

Гаворачы аб арыгінальных вайсковых аповесцях, неабходна прывесці і перакладзеныя. З іх найбольш распаўсюджанымі трэба лічыць «Аляксандрыю» і «Дэўгеніева дзеянне».

«Александрыя»—самы распаўсюджаны раман у «Еўропе», таму што навакол імя Аляксандра складаліся цэлыя гісторыі. «У паэзіі, у паданнях усхода і захада вобраз Македонскага заваеўніка абкружыўся аднолькава—паэтычным каларытам,—своеасаблівым, гледзячы па асяроддзі, да якога ён прыурочваўся; ў еўрапейскіх паэмах ён стаў рыцарам, у мусульман—народным героем». Так пісаў аб аповесці акадэмік А. Н Весялоўскі. У Візантыі вобраз Аляксандра прыняў некаторыя хрысціянскія рысы. Раман гэты вельмі складаны з многімі чароўна-рыцарскімі рысамі. Асноўныя моманты рамана наступныя:

1. Аб цудоўным нараджэнні Аляксандра, аб яго выхаванні, аб забойстве ім, па няведанні свайго бацькі—Волхва Нектаноба (Нектонава).

«Жыціе Феадосія Пячэрскага» дае нам яркі вобраз суровага аскета, мужнага і стойкага ў сваіх поглядах чалавека. Асоба Феадосія звязана з гісторыяй Кіева-Пячэрскага манастыра, дзе ён быў ігуменам пасля Антонія і Варлаама і дзе ўзнік «кіеўска-пячэрскі пацерык» і рабілася апрацоўка летапісу.

Асаблівы інтарэс прадстаўляе «Жыціе Аляксандра Неўскага.» Аляксандр памёр у 1263 годзе, выходзіць, жыціе магло быць напісана ў 70—80 годах XIII ст. Аўтар вобразна расказвае аб бацьках Аляксандра і аб ім самім, мінуючы яго дзяцінства. Аляксандр быў разумны, дзейны, выдатны князь. Ён разбівае ў 1240 годзе на Няве шведаў, а ў 1242 годзе на Чудскім возеры—немцаў. Ён выратоўвае рускую зямлю ад татарскіх пагромаў, уладжваючы канфлікты ў Ордзе. Калі ён памірае, то ўсім здаецца, што яны гінуць. Аўтар выдатна выразіў пачуццё смутку ў сваім плачы. «Гора табе, бедны чалавек! Як апішаш ты канчыну пана свайго? Як не выпадуць у цябе зяніцы разам са слязамі? Пакінуць бацьку чалавек можа, а добрага пана нельга пакінуць, з ім-бы ў труну лёг, калі-б можна было».

Твор з'яўляецца цікавым і ў гістарычных і мастацкіх адносінах. У мастацкіх адносінах ён дае нам яркі вобраз князя, як храбрага і няўтомнага барацьбіта за рускую зямлю, як арганізатара перамог рускіх над ворагамі, як храбрага воіна, як міласцівага пераможцы, як поўнага годнасці і самапавагі мудрага правіцеля.

Гістарычнае значэнне лёгка ўстанавіць з наступнай заўвагі К. Маркса: «1242 год. Аляксандр Неўскі выступае супроць нямецкіх рыцараў, разбівае іх на ільду Чудскага возера, так што прахвосты былі канчаткова адкінуты ад рускай граніцы» (К. Маркс. Храналагічныя заметкі).

Перад намі нават не столькі жыціе, колькі вайсковая аповесць, тут гэтыя элементы зліты. Жыціе Аляксандра Неўскага зрабілася ўзорам для многіх твораў наступнай літаратуры.

## Навучанні і пасланні

Навучанне і пасланне—старая форма царкоўна-рэлігійнай літаратуры, узнікшая на ўсходзе. У нас яна з'яўляецца разам з хрысціянствам і дыктуецца чыста практычнымі запатрабаваннямі новага грамадства, якое развіваецца, усё роўна з рэлігійнай ці палітычнай мэтаю.

З ранніх прапаведнікаў можна назваць Луку Жыдзяту (пам. 1058/59 г.), навучанні якога вельмі простыя і маюць на мэце настаўленне веруючых у новай рэлігіі. Далей можна назваць Феадосія Пячэрскага (пам. 1074 г.), які многа пісаў па самых розных пытаннях.

Самым выдатным прапаведнікам Кіеўскай Русі былі Іларыён, Кірыла, Смаляціч, двое з іх дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі.

Кіеўскі мітрапаліт Іларыён (1051—1054) быў выдатным прапаведнікам, высока вучоным чалавекам. Яму належаць некалькі твораў, самым выдатным з іх з'яўляецца «Слова аб законе і роскашы». Ён уключае ў сябе частку першую аб законе, які дадзены Маісеем,

частку другую аб раскошы і ісціне, напоўніўшых зямлю, частку трэцюю аб хрышчэнні рускага народа, частку чацвертую аб Владзіміры Св., хвала яму. «Слова» адрозніваецца вялікімі паэтычнымі якасцямі па вобразу, мове, музыкальнасці, кампазіцыі.

Кірыл, епіскап Тураўскі і многа іншых недайшоўшых да нас. Гэта быў выдатны аратар, добра ведаўшы усходнюю літаратуру, вялікі паэт, любіўшы афарызмы і разгорнутыя метафарычныя параўнанні. Найбольш паэтычным з'яўляецца «Слова на новую нядзелю пасля вялікадня».

Назавём яшчэ Клімента Смаляціча (1147—1154) быўшага спачатку ў Смаленску, а затым мітрапалітам у Кіеве. Гэта быў філосаф і аратар, вучоны і палеміст, палітык і арганізатар. Ён напісаў многа твораў, але да нас дайшоў толькі адзін «Пасланне к смаленскаму прэсвітэру Фаме». («Пасланне напісана Кліментам мітрапалітам рускім, Фаме прозоутэру, вытлумачана Афанасіем мніхам». Два чалавекі—Кірыл Тураўскі і Клімент Смаляціч паказваюць нам адзінства старарускай культуры (Кіеў, Смаленск—Тураў), адсутнасць розніцы паміж украінцамі, беларусамі і рускімі і паміж гэтымі землямі, былі рускія і адзіная зямля руская.

Да гэтага часу мы называлі прапаведнікаў з духоўнага асяроддзя. Назавем зараз з свецкага, княскага асяроддзя Владзіміра Манамаха (1113—1125 г.). Манамах адукаваны чалавек, ён многа ведаў, многа вывучыў, разам з тым ён вялікі паэт і пісьменнік. Як чалавек адукаваны многа перажыўшы, Манамах абагульняе свой вопыт, дае навучанні і не толькі дзецям, але і ўсім людзям. Навучанне можа быць раздзелена на 4 часткі: 1) Аб адносінах чалавека да бога, 2) Адносіны ўлады да падпарадкаваных, князя да людзей, 3) Адносіны чалавека да людзей і да самога сябе, 4) Аўтабіяграфія, кароткае апавяданне аб сваіх працах на карысць радзімы.

Навучанне Владзіміра Манамаха представуляе выдатнае з'явішча рускага літаратурнага жыцця. Гэта навучанне, але свецкага тыпу шырока адукаванага, які карыстаўся помнікамі пісьменнасці і асабістымі назіраннямі, вобразамі кніжнасці і зноў створанымі мовай літаратурнай і разгаворнай. Асноўным вобразам «навучання» будзе вобраз самога князя, якога летапісец называе добрым пакутнікам за рускую зямлю, аб якім «весь народ і вси люди по нем плакахуся, якоже дети по отцу или по матере».

## Паломніцкая літаратура (хаджэнні)

Наступным жанрам царкоўна-рэлігійнай літаратуры з'яўляецца літаратура паломніцкая. Старажытнарускія людзі любілі падарожнічаць да святых месц, звычайна ў Царград і Іерусалім. Адчот аб такім падарожжы представуляе асаблівы жанр царкоўна-рэлігійнай літаратуры. Мы назавём два творы: «Хаджэнне ігумена Данілы» і «Падарожжа ў Царград ноўгародскага архіепіскапа Антонія».

Хаджэнне адрознівалася па характару, па манеры выкладання. Адны представулялі прастадушныя апавяданні аб тым, што бачылі і што чулі, другія—літаратурную форму, якая ўключала мясцовыя паданні, легенды, апокрыфічныя сказы. Даніл быў ігуменам аднаго

з Чарнігаўскіх манастыроў, чалавекам самастойным, прадпрыймальным. Па некаторых дадзеных падарожнічаў ён у Іерусалім у 1106—1108 (па другіх 1112—1113), дзе прабыў шаснаццаць месяцаў, аб'ехаў ваколіцы і агледзеў святыні. На аснове сваіх назіранняў склаў свой «Паломнік» ці «Хаджэнне».

«Хаджэнне» Данііла расказвае аб Іерусаліме, Іордане, труне господняй і г. д. Усё гэта перададзена ў лірычным тоне, проста і разам з тым досыць верна, у сэнсе апісання Палестыны. У «Хаджэнні» выразна выступае вобраз самога Даніілы, чалавека цікаўнага, няўтомнага, вывучаючага ўсё выдатнае, прадпрыймальнага і рашучага, вялікага патрыёта.

Падарожнічаючы да святых месц і ўбіраючы ў сябе ўсе мясцовыя легенды і паданні, паломнікі самі па звароце на Русь, рабіліся распаўсюджавальнікамі легендарна-рэлігійных сказаў. Гэта быў адзін з шляхоў, па якому ішло распаўсюджанне апокрыфічнай літаратуры на Русі. Паломніцкая літаратура зноў-такі здавальняла рэлігійнаму паэтычнаму пачуццю, чаму можа быць прадметам гісторыі літаратуры.

### Зборнікі царкоўна-рэлігійнай літаратуры

Помнікі царкоўна-рэлігійнай літаратуры аб'едналіся ў зборнікі. Так, старазаветныя апокрыфы былі аб'ядканы ў «Талковую палею», вядомую на Русі ў XII—XIII ст. ст. Пазней з'явілася «Гістарычная палея».

Жыціі таксама былі аб'еднаны ў зборніку, з якіх назавем «Пралог»—які складаецца з кароткіх біяграфій святых «Чэцьімінеі»—збор аповесцей, легенд, апавяданняў аб святых. Такімі зборнікамі з'яўляюцца «Пацерыкі», якія былі складзены ў розных мясцах: у Егіпце (Скітскі і Лаўсаік) у Палесціне (Сінайскі) і г. д. Пацерыкі складаліся з асобных анекдотаў, эпізодаў, падзей з жыцця святых, выкарыстаных як ілюстрацыя рэлігійнага напрамку гэтага падвіжніка. Часта гэтыя пацерыковыя навелы набываюць самастойнае значэнне, трацячы сваю рэлігійную афарбоўку.

Да зборнікаў трэба аднесці «Пчалу», вядомую ў нас з XIII ст., і прадстаўляючую зборнік выказванняў і афарызмаў. У рускай літаратуры «Пчала» мела ўплыў на помнікі падобнага тыпу.

Назавем яшчэ «Фізіолаг»—зборнік апавяданняў аб жывёлах, надзеленых дзівоснымі ўласцівасцямі.

Пропаведзі былі аб'еднаны ў зборнікі «Торжественник», «Панегирик», дзе праслаўляліся святыя і «Златоструй», «Златауст», «Измарагд», «Златая цепь», дзе моцна тэндэнцыя навучання.

У сувязі са свяшчэннай гісторыяй знаходзяцца і гістарычныя творы, рана перакладзеныя на Русі. Гэта «Хроніка Амартола», «Хроніка Іоана Анціохіскага малалы», «Гісторыя іудзейскай вайны» Іосіфа Флавія і інш., меўшыя ўплыў на характар нашага літаратурнага развіцця.

## Маленне Даніілы Заточніка

Па літаратурнай манеры «Маленне Даніілы Заточніка» далучаецца да вядомых нам помнікаў літаратуры, але па жанру яно прадстаўляе самастойны і арыгінальны твор. Па сутнасці справы—гэта помнік прыдворнай літаратуры, жанра, утрымаўшага ў далейшым вялікае развіццё.

«Слова» ці «Маленне Даніілы Заточніка» маюцца ў двух рэдакцыях. Адна XII, другая—XIII ст. У рэдакцыі XII ст. «Слова» звярнута да Юрыя Владзіміравіча Далгарукага (пам. у 1157 г.), па рэдакцыі XIII ст. яно звернута да Перэяслаўскага князя Яраслава Всеваладавіча (пам. у 1247 г.). Гістарычнай асновай твора мог быць такі факт. Нехта Данііл невядома завошта быў сасланы ці на возера Лочэ ці Белавозера. Адтуль ён піша князю пасланне з просьбай, каб той яго вызваліў і ўзяў да сябе ў двор.

Імкненне зрабіцца думцам, саветнікам пры князі складае асноўную ідэю твору. Каб дасягнуць сваёй мэты, Данііл выхваляе князя, малюючы яго з станоўчага боку, як воіна, кіраўніка, правіцеля, чалавека. Затым дае станоўчую характарыстыку самому сабе, як чалавеку, які можа быць дрэнным воінам, але добрым саветнікам; далей Данііл даводзіць неабходнасць добрай парады пры князі, бо «не море потопляет корабли, но ветри; тако и ты, княже, не сам впадаеш в печаль, но ведут тя думцы». Даніілу не ўсміхаецца прапанова князя жаніцца і жыць у цесця, бо «жена бо злообразна подобно перачесу: сюде свербит, а сюде болит». Не хоча ён ісці ў манастыр, а жадае быць думцам пры князі.

Канчаецца твор выхваленнем князёў з просьбай да бога, каб ён даў князю сілу Самсона, мудрасць Саламона, ціхамірнасць Давыдаву і «умножи люди во веки по державе твоей, да тя славит вся страна и всяко дыхание человече».

Па сваёй ідэі твор прыдворнага тыпу, па манеры з'яўляецца не толькі хвалебным зваротам, але і палітычным памфлетам. У першым выпадку ён праслаўляе князя, у другім рэзка нападае на манахаў, злых жанок і ў асаблівасці на баяр. Нападаючы на іх, Данііл выступае як сатырык, злосна бічуючы заганы свайго часу, ці юмарыст, які дабрадушна смяецца над недахопамі. Пад-час у творы адчуваецца лірычны элемент. Па форме «маленне» з'яўляецца эпісталярным творам, вельмі зручным для выражэння самых рознастайных думак. А Данііл закрануў тут многа пытанняў: князь, княскі двор, баяры, халопы, жанчыны, манахі, розныя бакі старарускага быту, пытанні чэсці, ілжы, храбрасці, розуму, ролі разумных людзей, багацця і беднасці і г. д.

Па мове «Маленне» прадстаўляе збор афарызмаў, пасловіц, трапных выражэнняў, створаных самастойна і ўзятых са старыны. Без усякага сумнення, Данііл таленавіты пісьменнік, уладаючы шырокімі пазнаннямі ў сучаснай яму рускай і зарубежнай літаратуры. Не сцесняючыся, бярэ ён вобразы, параўнанні, характарыстыкі, выражэнні і выказы з самых рознастайных крыніц. (гл. кнігу Орлова «Старажытная руская літаратура«, стар. 161). Хто ён па свайму грамадскаму становішчу вырашыць цяжка, але бясспрэчна, што ён

чалавек (у тым ці іншым выглядзе), які круціўся ў княскім асяроддзі і таму прэтэндаваў на ролю думца. Вось чаму ён напісаў панегірык і адначасова палітычны памфлет, спадзяючыся такім чынам пазбавіцца свайго цяжкага становішча і адначасова дасягнуць удачы. Быў Данііл у сапраўднасці ці не, ці дасягнуў ён жаданага, калі быў, мы не можам сказаць. У адным з спісаў Ф. І. Буслаеў бачыў такую «байку»: «Сия словеса аз Даниил писах в заточении на Беле озере, и запечатав в воску, и пустих во озеро, и взем рыба пожре и ята бысть рыба рыбарем, и принесена бысть ко князю, и нача ее пороти, и узре князь сие написание, и повеле Даниила освободити от горького заточения». І ў тым і ў другім выпадку літаратурны твор нічога не траціць і застаецца гісторыка-літаратурным фактам.

## Вынікі літаратурнага развіцця ў XI, XII, XIII ст.

Наш беглы агляд літаратуры Кіеўскай Русі не з'яўляецца вычэрпным. Мы пакінулі ў баку рад помнікаў, намеціўшых толькі асноўныя вехі, асноўныя лініі гісторыка літаратурнага развіцця. Мы разглядзелі літаратурныя творы тыпу вайсковай аповесці, куды аднеслі летапісныя аповесці, аб барацьбе з печанегамі, полаўцамі і татарамі. Затым «Слова аб палку Ігаравым», «Слова аб пагібелі зямлі рускай» і іншыя арыгінальныя і перакладныя помнікі гэтага жанра. Лёгка заўважыць, што творы тыпу вайсковай аповесці маюць сваю асобную тэматыку, свае вобразы, свае апавядальныя прыёмы, сваю мову.

Далей мы характарызуем літаратуру царкоўна-рэлігійную. Яна багата і рознастайна. Апокрыфы, жыція, навучанні і пасланні, паломніцкая літаратура, зборнікі апокрыфаў, жыцій, навучанняў і г. д. Побач з перакладнымі помнікамі тут мы маем багацейшую літаратуру. Не гледзячы на багацце і разначыннасць, уся царкоўна-рэлігійная літаратура мае нешта адзінае ў падыходзе да аб'екту, у трактоўцы яго, у прыёмах выразнасці і вынаходлівасці ў мове.

Нарэшце, апошнім мы ўзялі «Маленне Данііла Заточніка», адзначыўшы, як найбольш яркую яго рысу, прыдворны характар. Тут таксама свая ўстаноўка, свая манера маляваць аб'ект і асаблівую мову. Такое адрозніванне помнікаў па жанрах не азначае іх ізаляванасці адзін ад аднаго. Наадварот, побач з адрозніваннем трэба рэзка падкрэсліць іх падабенства, адзінства, што яскрава выражаецца ў радзе помнікаў. Так, напрыклад, царкоўна-рэлігійны ўплыў выяўляецца амаль ва ўсіх творах, за вельмі рэдкім выключэннем. Вайсковы элемент пранікае ва многія помнікі царкоўна-рэлігійнай літаратуры, ставячы іх у адзін рад з вайсковай аповесцю («Жыціе Аляксандра Неўскага», «Жыціе Барыса і Глеба»). Тут рознасць і адзінства.

Аднак, наша паняцце аб гісторык-літаратурным працэсу XI—XIII ст. ст. будзе няпоўным, калі мы не дададзім сюды твораў фальклора, узнікнуўшых у гэтую і папярэднюю эпоху. Працоўныя і абрадавыя песні, быліны, казкі, пасловіцы, пагаворкі і г. д. бясспрэчна ўзніклі часткова раней, а часткова ў гэты гістарычны

перыяд. Яны ўключаюцца ў гісторыка-літаратурны працэс, як арганічная частка літаратуры XI, XII, XIII ст. ст.

Цяпер можна меркаваць аб той літаратурнай агульна-культурнай аснове, на якой развівалася беларуская культура і літаратура. Дадзеныя археологіі і літаратуры даюць падставу гаварыць аб тым, што руская культура ў X, XI, XII, XIII ст. ст. была культурай высокага тыпу, ніколькі не ўступаючай ні скандынаўскай, ні заходне еўрапейскай, а пад-час і перавышаючай іх. Руская культура і літаратура развіваліся ў кіеўскай дзяржаве, якая была нядрэннай краінай, але «вядомай і чутнай ва ўсіх канцах зямлі». На гэтай аснове і развівалася руская, беларуская і украінская культура і літаратура.

Татара-мангольскае ярмо і рад іншых прычын прывялі да таго, што асобныя часткі адзінага цэлага пачалі жыць і развівацца ў розных умовах. Так склаліся народы і мовы на адной і той-жа аснове. Але ідэя адзінства не памірала, яна жыла ў народных масах і выяўлялася ў цегаценні украінцаў і беларусаў да Расіі. Ідэя адзінства перамагла. Народы зышліся ў дружную совецкую сям'ю, прынёсшы ўсе свае нацыянальныя асаблівасці, накопленыя за годы раздзельнага існавання. Соцыялістычны змест у нацыянальнай форме зараз і адзіная культура ў будучым. Глянем-жа на мінулае, на працэс фарміравання беларускай літаратуры, якая развівалася на аснове культуры і літаратуры Кіеўскай Русі.

*(Працяг будзе).*

---

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР М. ЛЫНЬКОЎ.
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Мінск, Совецкая, 76. Дом Пісьменніка. Тэлефон 20-83**




ЗМЕСТ









Рэдактар *М. Лынькоў*

Здана ў набор 25/VII—39 г. Падпісана да друку 11/IX—39 г. Аб'ём $12^3/_4$ друк. арк.
Знакаў у друк. арк. 52.000. Папера 62×94$^1/_{16}$. Тыраж 4.000 + 250 экз.
Зак. № 800. Уп. Галоўліта БССР № 533.

Друкарня імя Сталіна. Мінск, Дом Друку.